НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІНГВІСТЫКА

ВЫПУСК 65

МІНСК «БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА» 2010

УДК 811.161.1’(082)
ББК 81.2Беи-5
Б43



Р э ц э н з е н т ы:

кандыдаты філалагічных навук Т. Я. Шэмет, С. А. Важнік

Б43 **Беларуская лінгвістыка.** Вып. 65 / НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэдкал.: А. А. Лукашанец (гал. рэд.) і [інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2010. – 165 с.

Часопіс уключае артыкулы айчынных даследчыкаў па актуальных пытаннях беларускага мовазнаўства. Праблемы моўнага функцыянавання разглядаюцца на лексічным, марфалагічным і сінтаксічным узроўнях. Пэўнае месца ў выпуску займаюць артыкулы па праблемах дыялекталогіі, этналінгвістыкі, гісторыі беларускай мовы, перакладу і супастаўлення моўных адзінак. У часопісе змешчаны матэрыялы хронікі, нататкі па культуры мовы і этымалогіі, рэцэнзіі.

Разлічаны на мовазнаўцаў, настаўнікаў, студэнтаў, журналістаў.

**УДК 811.161.1’(082)**
**ББК 81.2Беи-5**

*УДК 821.161.3:39+821.161.3’373.6*

*М. П. АНТРОПАЎ*

# ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАЯ АТРАКЦЫЯ І ЯЕ ВАРЫЯТЫЎНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ

*(Паступіў у рэдкалегію 12.03.2010 г.)*

Пад этналінгвістычнай атракцыяй прапануецца разумець адмысловы выпадак народнай этымалогіі, а менавіта ўзаемнае суаднясенне некаторых найменняў, частка якіх у выніку такога суаднясення можа пераходзіць у сферу вербальнага кода традыцыйнай народнай культуры таго ці іншага этнасу. Падобнае народнаэтымалагічнае (інакш – ілжываэтымалагічнае) прыцягненне звычайна няроднасных альбо этымалагічна непразрыстых, ізаляваных і да т. п. слоў і яго этнакультурнае напаўненне, якое вядзе далей да своеасаблівай э т ы м а л а г і ч н а й  м а г і і, на вялікім славянскім матэрыяле было разгледжана больш за два дзесяцігоддзі таму назад М. І. і С. М. Талстымі ў дакладзе на Х (Сафійскім) з’ездзе славістаў 1988 г. [1][1].

Падсумоўваючы вынікі скрупулёзнага аналізу надзвычай паказальнай фактаграфіі, аўтары канстатавалі: «Народная этымалогія, якая мае вельмі абмежаванае распаўсюджанне ў мове самой па сабе, набывае функцыю аднаго з найбольш прадуктыўных прыёмаў арганізацыі міфапаэтычнага і рытуальна-магічнага тэксту і ператвараецца ў асобны від магіі… Дзякуючы этымалагічнай магіі мова аказваецца непарыўна звязанай с іншымі кампанентамі архаічных тыпаў культуры і міфапаэтычнага разумення» [3]. Пры гэтым «этымалагічная магія прынцыпова дапускае множнасць этымалагічных вытлумачэнняў і семантычных прыцягненняў слова не толькі ў розных моўных сістэмах (дыялектах), але і ў межах адной сістэмы (культурнага дыялекта) у розных этналінгвістычных кантэкстах» [4]. Зразумела, гэта ў першую чаргу тычыцца лексем з семантычна разгалінаванымі каранямі (ці такімі, якія здольны дапускаць такую дыферэнцыраванасць) – кшталту разгледжанага ў цытаваным артыкуле кораня *благ-* пры такіх яго рэалізацыях як балг. і макед. *благ* ‘салодкі’, ‘рахманы, мяккі’, ‘сціплы’, а таксама сербск. *благо* ‘грошы, маёмасць’, ‘скот’ і інш. [5].

Уяўляецца, што да гэтага ж кола могуць быць аднесены і многія славянскія назвы вясёлкі, выключна насычаныя ў традыцыйных культурах славян (як, дарэчы, і іншых народаў) міфалагічным/міфапаэтычным зместам,

[1] Параўнальна нядаўна С. М. Талстая некалькі дапоўніла і перапрацавала гэты артыкул (і далей спасылкі падаюцца менавіта на яе публікацыю), гл. [2].

у прыватнасці, найбольш распаўсюджанае ўсходнеславянскае найменне *радуга*. Сапраўды, магчымасць яго неадназначнага этымалагічнага тлумачэння ў сувязі з магчымасцю рознага структуравання слова (*ра-дуга* // *рад-уга*) з'яўляецца тут перадумовай для дзеяння этналінгвістычнай атракцыі. Прапанаваныя (яшчэ ад пачынальніка славянскай этымалогіі Ф. Міклашыча) версіі паходжання гэтага наймення можна звесці фактычна да дзвюх раўназначных: усходнеславянскае новаўтварэнне (згодна з беларускім этымалагічным слоўнікам «усходнеславянскі лакальны тэрмін» [6]) з'яўляецца: а) суфіксальным вытворным з суфіксам *-ǫga* ад прасл. ад'ектыўнага кораня **rad-* 'радасны; вясёлы'[2]; б) працягам прасл. кораня **dǫga* (= *дуга*). У апошнім выпадку, зразумела, патрабуе тлумачэння пачатковае *ра-*, у якім бачылі ўсечаныя *ра*(*д*)-, *ра*(*й*)- (параўн. рус. дыял. і ўкр. *райдуга*), літ. *óras* 'паветра, неба', нарэшце, экспрэсіўны элемент тыпу *га*(*й*)-, *жа*(*й*)- і г. д.[3] Прычым і першая, і другая версіі ў аднолькавай ступені могуць быць другаснымі як у адносінах адна да адной, так і да магчымых іншых (аб чым ніжэй), г. зн. з пункту гледжання навуковай этымалогіі ўласна народнаэтымалагічнымі. Выглядае абсалютна натуральным, што ва ўсходнеславянскіх мовах і ў традыцыйных культурах усходніх славян рэалізуюцца абедзве атракцыйныя магчымасці.

Што тычыцца сувязі з прасл. **dǫga*, то адзначаная вышэй семантычная двухсэнсоўнасць лексемы *радуга* здымаецца, на нашу думку, перш-наперш за лік рэдуплікацыі другога элемента (параўн. вядомыя найменні тыпу рус. дыял. *рáдуга-дугá*, *дугá-рáдуга*, а таксама ўжо аднаслоўнае *дугорáдуга* і яго ўсечаную форму *дугорá*[4]) ці з'яднання/зліцця з назвамі *дугá*, якія спарадычна фіксуюцца ў гаворках усходнеславянскіх моў і ўзыходзяць да паказанай праславянскай формы з «паглынаннем» імі невыразнага па значэнні пачатковага *ра-*. Семіятычная, семантычная і ўласна фармальная залежнасць *радугі* ад *дугі* як форме матываванай і больш «старшай» (у этымалагічным сэнсе) уяўляецца відавочнай. Адпаведныя – і шматлікія – кантынуанты **dǫga* добра вядомы ў славянскіх мовах [20], што, безумоўна, не здзіўляе, паколькі, напрыклад, анамасіялагічны аналіз найменняў вясёлкі ва ўсіх мовах Еўропы і іх картаграфаванне ў «Лінгвістычным атласе Еўропы» сведчыць, што матываця 'дугі', якая рэалізуецца праз шырокае кола дэнататаў[5], займае большую частку еўрапейскага моўнага абшару [21].

---

[2] Між іншым, падаецца цікавым, што Ф. Слаўскі не ўключыў адпаведнае **radǫga* (альбо ўласна ўсходнеславянскае *⁺raduga*) у лік лексем з гэтым суфіксам [7].

[3] Апошнія па часе агляды версій [8–12]. Адмыслова аб **rajь* гл. яшчэ [13].

[4] Фактычны матэрыял выбраны з наступных крыніц: [14–19].

[5] Асноўная тэма (унутраная форма) пададзена ў іх праз сему 'пояс', якая мае наступныя рэалізацыі: «пояс», «рамень» і да т. п., «вяроўка», «лента», «полка», «(круглая) падвязка для панчох»; «німб»/«карона»; «кольца», «пярсцёнак», «кола», «круг», «абход»; «меч/шпага», «лук»; «чэпчык»; «контур», «сіта»; «дзяржанне», «ручка», «палка», «прут», «жазло» і да т. п., «каромысел», «выгнутая драўніна»; «стул»; «мост», «дзверы», «калона», «арка»; «рыса», «след», «лінія», «лінейка», «знак», «прамень»; «расліна(-ы)» [22]. Нельга не заўважыць, што абсалютна ўсе гэтыя асобныя матывы маюць выключна «матэрыяльны» характар, а таму з'яўляюцца першаснымі ў адносінах да «культурных» намінацый вясёлкі, якія ўтварыліся ўжо на гэтай базе, альбо пазней пераасэнсаваных.

«Радасныя» матывы, звязаныя з вясёлкай-*радугай*, вядомы ўсім усходнеславянскім этнакультурам і распаўсюджаны выключна шырока. Рэдка, але ўсё ж такі фіксуюцца семантычна ўзмацняльныя формулы з дзеяслоўным паўторам тыпу *радуга радуецца*, параўн. запісы з Палескага архіва Інстытута славяназнаўства РАН: «*Мы ка́жэм,* ***ра́духа ра́дуеца*** *– і со́нцэ і дож*» (Залатуха Калінкавіцкага р-на Гомельской вобл.); «***Ра́дуга*** *– лю́дэ* ***ра́дуеца****: пато́па нэ бу́дэ*» (Сварынь Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл.). Адзначаны і канатацыі такога ж кшталту, але ўжо з прыметнікам *вясёлы*, з якім у народным усведамленні ўстойліва звязваюцца найменні вясёлкі з коранем **vesel-*[6]: «[Ці можна прайсці пад вясёлкай?] *Мо́жна.* ***Вес'о́лым*** *бу́де* [той, хто пройдзе]; *Веселу́ха ста́ла, бу́де дажш. Вро́де кра́сная* ***вес'о́лая****, галуба́я, зел'о́ная…*» (Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на Гомельской вобл.).

Цікава, што ці не абсалютна пазітыўны характар уяўленняў пра вясёлку (ва ўсялякім выпадку, у вядомых нам крыніцах – асабліва па беларускай традыцыйнай культуры[7]) пацвярджаюць даныя спецыялізаваных крыніц. «Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы» А. І. Цітовай [25] падае наступныя рэакцыі на стымул *вясёлка* (іх колькаць аб'ектыўна даволі вялікая ў сілу вельмі рэпрэзентатыўнай колькасці анкетаваных – 1000 асоб), дзе яўна пераважаюць лексемы з каранямі *прыгож-* і *рад-*: *прыгожая, прыгожа, прыгажосць, краса, сонца, сонца радасці, смех, яркая, захапленне, вясёлы, сонечная, басанож па лужыне, жаданая, жвавая, лю́бая, прыемна, радавацца, радасная, узрадавацца, цудоўная, ярчэйшая.* Мінімальнай у адносінах да агульнага ліку адказаў з'яўляецца колькасць не пазітыўных – усяго 5: *невясёлы, непрыкметная, нізкая, нялоўка, расчараванасць.* Такі ж цікавы спіс адпаведных рэакцый на стымул *радуга* ўтрымліваецца ў рускім асацыятыўным слоўніку [26]. І тут прыводзяцца пераважна пазітыўна-эматыўныя рэакцыі, сярод якіх большасць лексем с коранем *крас-*: *красивая, красива, красивый, красота, красочная, прекрасна, семицветное красотище, солнце, яркая, вещь!, восторг, здорово, ура!!!* Толькі адзінкавая рэакцыя *нияркая* з агульнай колькасці 104 можа быць аднесена (і то ў дастатковай ступені ўмоўна з-за магчымай нейтральнасці) да не зусім пазітыўнай, але ўсё ж такі не адмоўнай.

Таксама вельмі паказальнымі з'яўляюцца вынікі адваротнай выбаркі – ад рэакцыі да стымула, параўн. у РАС шэраг стымулаў з падсвядомай эмацыянальнай рэакцыяй, на якія быў атрыманы адказ *радуга*: *в беде, надеяться, серость, улыбка, фантазии* [27]. Яшчэ больш пэўная ментальная сувязь паняццяў у пары *радуга – радасць* зафіксавана «Славянскім асацыятыўным слоўнікам», у якім абагульнены дадзеныя анкетавання носьбітаў рускай, беларускай, балгарскай і ўкраінскай моў: рэакцыя радуга

[6] Падрабязней аб этымалогіі гэтых назваў (з папярэдняй літаратурай) гл. [23].

[7] Існуюць, аднак, і іншыя сведчанні (паводле палявых запісаў апошняга дзесяцігоддзя з Уладзімірскай і Яраслаўскай абл. Расіі; падрабязней гл. ніжэй), якія прама паказваюць на адмоўнае ўспрыйманне вясёлкі; іх папярэдняе абагульненне гл. [24].

атрымана толькі на стымул *радость* (рус.), *вясёлка* – толькі на стымулы *вясёлы* і *радасць* (бел.), *райдуга* – толькі на стымулы *веселий* і *радість* (укр.) [28].

Усё гэта – нават па-за кантэкстам версій, высунутых у навуковай этымалогіі, – дазваляе дапусціць для ўсходнеславянскага *радуга* наяўнасць безумоўнай і першаснай сувязі з ад'ектыўным коранем **rad-*, што, у сваю чаргу, дае падставы для наступных высноў (у роўнай ступені верагодных):

1) першасным штуршком для народнаэтымалагічнага пераасэнсавання ўсходнеславянскага наватвора *радуга* з'явілася аслабленне ў шэрагу гаворак выбухнога ў суфіксе, якое праявілася спачатку ў яго «фрыкатывізацыі» і з'яўленні формы *радуγа*, а потым у натуральным пераходзе *γ* → *х*, што прывяло да магчымасці новага структуравання атрыманай лексемы *радуха* з вылучэннем у ёй суфікса *-ух-*; наяўнасць апошняга ў новай форме адназначна перавяло найменне ў матываванае і з'явілася базай для ўтварэння новых суфіксальных адад'ектыўных намінацый тыпу беларускіх і палескіх *радаўка, радовіца, радавіца, радаўніца,* рус. дыял. *ра́дух, ра́душка,* укр. дыял. *радусник* і інш.[8] Уяўляецца, што аддаленым, хаця на першы погляд і парадаксальным, вынікам новай (узнікшай) суфіксацыі магла з'явіцца таксама поўная рэдукцыя суфікса *-ух-* і ўтварэнне формы без яго, г. зн. семантычна максімальнай па выяўленні радасці – менавіта *ра́да*, якая рэдка, але ўсё ж такі фіксуецца ў гаворках усіх усходнеславянскіх моў, прычым, як вызначылі І. А. Букрынская і В. Я. Кармакова, «у рускіх гаворках яно адзначаецца на той самай тэрыторыі, дзе і складаныя найменні *рада-дуга*, *дуга-рада*» [30], што, як уяўляецца, можа быць сведчаннем другаснай матывацыі наймення[9];

2) першаснай была матываваная ад'ектыўным коранем **rad-* форма *ра́духа*, зазнаўшая фактычна адразу пасля свайго ўзнікнення моцны ўплыў ужо існаваўшых ва ўсходнеславянскіх гаворках лексем, якія працягвалі прасл. **dǫga*, што прывяло і да ўзнікнення новай матывіроўкі («дугавой»), і да размыву старой («радаснай»), а апошняе не магло не адлюстравацца на фарміраванні шматлікіх дэрывацыйных ланцужкоў.

Вытворнымі ад **rad-* М. І. Талстой лічыў таксама формы з іншымі суфіксамі, у прыватнасці, тымі, якія ўтрымліваюць *і*, а менавіта зафіксаванае ў Заходнім Палессі (Выганашчы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.) *ра́дзіха* [32][10]. Аднак якраз суфіксальнае афармленне лексемы *ра́дзіха* можа быць падставай для абгрунтавання яе сувязі з дзеясловам *радзі́ць* (< прасл. **rod-*).

---

[8] На думку М. І. Талстога, «палеск. *радавіца* ... сведчыць аб тым, што ад кораня *⁺rad-* утвараліся назвы вясёлкі непасрэдна без спалучэння з іншым коранем (**dǫga* і пад.)» [29].

[9] Інакш М. І. Талстой: «Больш верагодна можна дапусціць, што форма *ра́дуга* ўзнікла са спалучэння тыпу **дуга́, ра́да дуга́…*, якое ў скорагаворцы ці ў выніку гаплалогіі дала *дуга́-ра́дуга* і пазней проста *ра́дуга*» [31].

[10] У яго артыкуле прыводзіцца форма *рад'íха* – адпаведна з абдрукоўкай у матэрыялах «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы»; таксама *параду́ха* замест правільнага *пара́духа* [33].

Да яго ж падаецца магчымым аднесці і зафіксаванае параўнальна недалёка ад першага наймення (Хатынічы Ганцавіцкага р-на Брэсцкай вобл.) ужо згаданае *пара́духа* – «*ра́духа і пара́духа*» ў адказе інфарманта на пытанне аб назвах вясёлкі. Безумоўна, іх сувязь з **rod-* не такая відавочная і этымалагічна гіпатэтычная (у прыватнасці, *пара́духа* можа быць, бясспрэчна, звязана з дзеясловам *пара́давацца* як *ра́духа* з *ра́давацца*), аднак цалкам магчымы акцэнталагічны зрух пад уплывам вядомых там жа найменняў з націскным *а*, г. зн. *ра́дуга* і пад. (параўн. прыведзеную вышэй пару *ра́духа – пара́духа*) робіць яе не неверагоднай. Такі ход разважанняў дазваляе ўзнавіць зыходныя **рад(з)íха* і **параду́ха* (нагадаем яшчэ раз, што ў ДАБМ і артыкуле М. І. Талстога менавіта так), што, у сваю чаргу, дае магчымасць выявіць у разгледжаных назвах цалкам рэальнае (і зусім звычайнае ў славянскіх традыцыйных культурах) значэнне «параджэння» вясёлкай дажджу[11], а з улікам геаграфічнай блізкасці двух заходнепалескіх населеных пунктаў акрэсліць адпаведны мікраарэал.

Фанетычна (амафанічна) блізкія найменні вясёлкі *rodica* і яго дэмінутыў *rodičica* – першае, зразумела, з націскным *o* ў корані (у арыгінале акцэнтныя знакі адсутнічаюць) – зафіксаваны ў сярэдзіне XIX ст. у кайкаўскай гаворцы наваколля харвацкага горада Вараждзіна, г. зн. параўнальна недалёка ад цяперашней граніцы са Славеніяй. Згодна з вычарпальнай рэцэпцыяй харвацка-сербскага акадэмічнага слоўніка яны запісаны краязнаўцам М. Валяўцам (дарэчы, славенцам па нараджэнні) у шэрагу іншых (*puga, dugača, doga, božji pas, majke božje pas, božji put, zlatni mostek*), а вядомы з першай трэці XVIII ст. (1733 і 1746 гг. адпаведна паводле слоўніка У. Мажураніча) [34]. П. Скок у сваім этымалагічным слоўніку піша аб іх: «Гэта значэнне (‘вясёлка’. – *М. А.*) узнікла так, як і тое, што завецца *Majke božje pas = bogorodica*» [35], – г. зн. дапускае ўсячэнне апошняга наймення. Гэта ідэя – «дасціпная» на думку М. І. Талстога – ім жа падтрымана і працягнута: «Слова *ródica* ‘вясёлка’ трэба ўспрыймаць, верагодна, як звернуты фразеалагізм **pâs Bogorodice* ці *pâs od Bogorodice* і да т. п.» [36]. Улічваючы тыпалагічны складнік, а менавіта тое, што многія («у большасці выпадкаў», як лічыць М. Алінэі) назвы вясёлкі з'яўляюцца па паходжанні кампазітамі [37], такое этымалагічнае рашэнне трэба прызнаць цалкам магчымым.

Іншую версію выказвае М. Фурлан у славенскім этымалагічным слоўніку, узнаўляючы – аднак карэктна: «па ўсёй верагоднасці» – на падставе харв. дыял. *rodica* ‘вясёлка’ (і толькі яго) дыялектны *o*-карэлят да прасл. **rǭdъ* ‘вясёлы’, г. зн. **rodъ* з тым самым значэннем [38], што не можа не выклікаць апраўданых сумненняў з-за ўнікальнасці кантынуанта.

---

[11] Паказальна, што ў згаданых вышэй асацыятыўных слоўніках рускай і беларускай моў рэакцыя *дождь* / *дождж* на стымул *радуга* / *вясёлка* з'яўляецца адным з лідэраў па частаце ўжывання (у рускім на другім месцы пасля *дуга*; у беларускім – на трэцім (62 рэакцыі) пасля 238 *часопіс* (зразумела, маецца на ўвазе папулярнае дзіцячае выданне «Вясёлка») і 63 *markdown*).

Таму не толькі не менш верагодным, але цалкам лагічным як з фармальнага, так і з семантычнага бакоў уяўляецца таксама суаднясенне харвацкіх найменняў з асноўнымі значэннямі аддзеяслоўнага імя *rȍdica*, якія ўзыходзяць урэшце да праславянскага дзеяслоўнага кораня **rod-*. Калі прыняць такое тлумачэнне, то супастаўленне рэканструяваных вышэй заходнепалескіх **рад(з)íха* і **парадýха* з харв. *rodica* і *rodičica* дазваляе бачыць тут унікальную беларуска(заходнепалеска)-харвацкую ізалексу тыпалагічнага характару з аналагічным атракцыйным развіццём.

Яшчэ больш характэрнае дзеянне этналінгвістычнага прыцягнення выяўляецца ў белгародскім (Руская Бярозаўка Ракіцянскага р-на) *крадýха* ‘вясёлка’ [39], дзе відавочная аддзеяслоўная вытворнасць (< рус. *красть*) таксама можа быць атракцыйна спалучана з найменнямі вясёлкі-*радугі*: *крадýха* < *крáдуха* < *рáдуха* (< *рáдуга*). Зусім зразумела, што палявыя запісы аб тым, што вясёлка крадзе людзей, асабліва дзяцей (у тым ліку з мацярынскага чэрава), адбірае ў чалавека душу, сілу і здароўе, дзявочую прыгажосць, здольнасці (напрыклад, голас пры спяванні, уменне замаўляць, галасіць і да т. п.), выяўляюцца таксама ў паўднёварускіх этнакультурных зонах, у прыватнасці, на Уладзміршчыне і Яраслаўшчыне, параўн. некаторыя наратывы: *«Нас радугой пугали. Бабушка говорила: «Не ходи на улицу – радуга украдет». Мы боялись – вдруг украдет»; «Ой, радуга парней ворует, она молодых парней любит...»; «Радуга – это сейчас стали говорить, а так всё ведьмин пояс. Ведьма пояс на небе сушит. Она воду ворует с земли-то и вот когда набирает, пояс мокнет, она его на небе и сушит...»* [40]. Вясёлка, якая «крадзе», з’яўляецца, зразумела, прыватным выпадкам (семантычным звужэннем) шматлікіх і распаўсюджанных выключна шырока[12] ўяўленняў пра тое, што вясёлка «цягне»: перш-наперш, зразумела, ваду, далей тое, што знаходзіцца ў вадзе, г. зн. рыбу, насякомых і пад., нарэшце нават чалавека, з чым звязана мноства вераванняў аб забароне выходзіць на вуліцу (асабліва дзецям), калі на небе вясёлка[13].

Рагледжаныя тры сегменты ўсходнеславянскіх найменняў вясёлкі з каранямі *рад-*, *род-* і *крад-* з усёй відавочнасцю пацвярджаюць магчымасць зусім не абавязковых адназначных этымалагічных рашэнняў, калі гаворка ідзе аб лексічных элементах базавых тэрміналагічных палёў традыцыйнай народнай культуры. Больш за тое, народная этымалогія ў этналінгвістычнай атракцыйнай экстрапаляцыі пазбаўляецца сумніўнага сіноніма «ілжывая» і атрымлівае цалкам навуковы статус.

*Мінск*

---

[12] Гэтыя ўяўленні (вясёлка ў выглядзе змея высмоктвае ваду) распаўсюджаны ў пераважнай большасці традыцыйных культур чалавецтва, гл. [41].

[13] Славянскі матэрыял такога кшталту падрабязна апісаны ў [42].

## Літаратура

1. Толстой Н. И., Толстая С. М. Народная этимология и структура славянского ритуального текста // Славянское языкознание. X Международный съезд славистов: Сб. докл. / Отд-ние литературы и языка АН СССР, Сов. комитет славистов; Отв. ред. Н. И. Толстой. – М., 1988. – С. 250–264.

2. Толстая С. М. Народная этимология и этимологическая магия // Пространство слова. Лексическая семантика в общеславянской перспективе. – М., 2008. – С. 226–240. (Традиционная духовная культура славян. Современные исследования.)

3. Толстая С. М. Народная этимология и этимологическая магия. – С. 240.

4. Толстая С. М. Народная этимология и этимологическая магия. – С. 237.

5. Толстая С. М. Народная этимология и этимологическая магия. – С. 233–234.

6. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 2006. – Т. 11. – С. 31.

7. Sławski F. Zarys słowotwórstwa prasłowiańskiego // Słownik prasłowiański. – Wrocław etc., 1974. – T. 1. – S. 67–68.

8. Новое в русской этимологии. – М., 2003. – Т. 1. – С. 190–191.

9. Журавлев А. Ф. Язык и миф. Лингвистический комментарий к труду А. Н. Афанасьева «Поэтические воззрения славян на природу». – М., 2005. – С. 181–182.

10. Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. – М., 2005. – Вып. 32. – С. 157–158.

11. Етимологічний словник української мови. – Київ, 2006. – Т. 5. – С. 17.

12. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 11. – С. 31–32.

13. Страхов А. Б. Ночь перед Рождеством: народное христианство и рождественская обрядность на Западе и у славян // Palaeoslavica. International Journal for the Study of Slavic Medieval, Literature, History, Language and Ethnology. – Cambridge; Massachusets, 2003. – Vol. XI, suppl. 1. – P. 115.

14. Полесский архив Института славяноведения РАН (Москва).

15. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Мінск, 1963. – Карта № 312. Назвы вясёлкі.

16. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы, каментарыі да карт. – С. 901–902.

17. Толстой Н. И. Из географии славянских слов. 8. ‘Радуга’ // Избр. тр. – М., 1997. – Т. I: Славянская – лексикология и семасиология. – С. 168–216 (першая публікацыя ў 1976 г.).

18. Букринская И. А., Кармакова О. Е. Карта 13. Названия радуги // Восточнославянские изоглоссы. – М., 1995. – С. 93–100.

19. Страхов А. Б. Полесские фольклорно-этнографические материалы в современных записях: 1. Астрономия и метеорология // Palaeoslavica. International Journal for the Study of Slavic Medieval, Literature, History, Language and Ethnology. – Cambridge; Massachusetts, 2004. – Vol. XII, № 2. – C. 272–275.

20. Этимологический словарь славянских языков. – Вып. 5. – С. 98–99; Słownik prasłowiański. – T. 4. – S. 192–195.

21. Алинеи М. О названиях радуги в Европе (карта 17 Лингвистического атласа Европы) // Общеславянский лингвистический атлас. Материалы и исследования. 1983. – М., 1988. – С. 104–108.

22. Atlas linguarum Europea. – Assen, 1983. – Vol. I: Cartes, premier fascicule.– Carte I.7 (Arc-en-ciel). Légende.

23. Антропаў М. П. Багатка ‘вясёлка’ і багач ‘агонь’ (яшчэ пра этымалагічную «празрыстасць») // Беларуская лінгвістыка. – Мінск, 2009. – Вып. 63. – С. 114.

24. Добровольская В. Е. *Богородицыно коромысло, божий мост, ангелова дуга, николин подарочек* или *чертово коромысло, ведьмин пояс, градовая дуга, русалий подарочек:* к вопросу об амбивалентной природе радуги в Центральной России (у друку). Карыстаючыся выпадкам, дзякую аўтару за ласкавы дазвол азнаёміцца з артыкулам у рукапісе.

25. Цітова А. І. Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1981. – С. 30.

26. Русский ассоциативный словарь: В 2 т. / Ю. Н. Караулов, Г. А. Черкасова, Ю. А. Сорокин, Е. Ф. Тарасов. – М., 2002. – Т. I: От стимула к реакции: ок. 7000 стимулов. – С. 539.

27. Русский ассоциативный словарь. – Т. II: От реакции к стимулу: Более 100 000 реакций. – С. 710.

28. Славянский ассоциативный словарь: русский, белорусский, болгарский, украинский / Н. В. Уфимцева, Г. А. Черкасова, Ю. Н. Караулов, Е. Ф. Тарасов. – М., 2004. – С. 338, 390, 716.

29. Толстой Н. И. Из географии славянских слов. – С. 176.

30. Букринская И. А., Кармакова О. Е. Карта 13. Названия радуги. – С. 96.

31. Толстой Н. И. Из географии славянских слов. – С. 198.

32. Архіў «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі).

33. Толстой Н. И. Из географии славянских слов. – С. 177.

34. Rječnik hrvatskoga ili srpskoga jezika. – Zagreb, 1955. – T. XIV. – S. 92.

35. Skok P. Etimologijski rječnik hrvatskoga ili srpskoga jezika. – Zagreb, 1973. – Knj. III. – S. 152.

36. Толстой Н. И. Из географии славянских слов. – С. 185.

37. Алинеи М. О названиях радуги в Европе. – С. 105–106.

38. Bezlaj F. Etimološki slovar slovenskega jezika. – Ljubljana, 1995. – Knj. III. – S. 143.

39. Матэрыялы Архіва «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» Расійскай нацыянальнай камісіі АЛА.

40. Добровольская В. Е. *Богородицыно коромысло…*

41. Березкин Ю. Е. Тематическая классификация и распределение фольклорно-мифологических мотивов по ареалам: Аналитический каталог… I. Сверхъестественные объекты, предметы и существа… 41. Радужный змей [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: URL: http://www. ruthenia. ru/folklore/berezkin. – Дата доступу: 21.01.2010.

42. Белова О. В. Радуга // Славянские древности: Этнолингвистический словарь / Под общ. ред. Н. И. Толстого. – М., 2008. – Т. 4 (Переправа через воду – Сирота). – С. 386–387.

## Summary

The article considers the cases of folk etymology, which have sufficient variability and therefore do not have definitive etymological solutions. The study is made on the material of East-Slavic names of the rainbow with the roots *рад-*, *род-* and *крад-*. Their detailed analysis allows us to come to the conclusion about the special ethnolinguistic status of attraction related to the realities of traditional folk culture.

*УДК 808.26-087(476)*

*В. Д. АСТРЭЙКА*

# СЛАВЯНА-БАЛЦКАЕ ЛЕКСІЧНАЕ ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ Ў ГАВОРКАХ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ ЗОНЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*(Паступіў у рэдкалегію 19.03.2010 г.)*

Паўночна-заходняя дыялектная зона беларускай мовы сфарміравалася ў працэсе славяна-балцкага этна-моўнага ўзаемадзеяння, якое ў дадзеным рэгіёне мае больш за тысячагадовую гісторыю. Ахопліваючы розныя бакі структуры мясцовых гаворак, яно ў найбольшай ступені закранае іх слоўнік. Некаторыя з абазначэнняў, што ўзніклі ў выніку адпаведных кантактаў і сувязей, ужо разглядаліся намі раней [1–5 і інш.]. Паўночна-заходнюю лакалізацыю ў беларускай дыялектнай мове маюць таксама лексічныя балтызмы *курня́ўкаць (курмя́ўкаць)* ‘мяўкаць’, *ро́йст(а) (ро́йстра)* ‘мокрая сенажаць’, *кру́шня* ‘куча камення і пад.’, *стрымбу́ль* ‘сцябло; стрэлка ў цыбулі’, *ако́т(а), ако́ціна* ‘асцюк’, *бэ́рла (бярла́), бе́рала* ‘нявеянае збожжа’, *ашакі́* ‘высеўкі’, *шыпу́лі* ‘шчэпкі; спарахнелае дрэва; суквецце часнаку; худы і слабы чалавек’, *(г)арта́й* ‘араты’, *балту́шнік* ‘гарбар’, *ку́льша, кульшня́, клю́шня́* ‘сцягно’, *зя́ўкаць* ‘раскрываючы рот, хапаць паветра; пазяхаць; гаварыць абы-што; гаўкаць’, *кумпя́к* ‘шынка; вэнджанае мяса’, *бу́ртачка (бру́нтачка), бу́ртка* і пад. ‘зашпілька, драўляны гузік’, *брызгу́ль* ‘тс’, *кяту́рка* ‘прарэх (у споднікаx)’, *скара́ч* ‘ручнік; канцы асновы пасля датыкання кроснаў’, *(в)о́сілка* ‘почапка ў вядры’, *грэ́бест (дрэ́бест)* ‘латы і паплёт у страсе; кроквы’, *крэ́йка (кро́йка)* ‘вільчык на страсе’, *пры́вен (пры́мян)* ‘сенцы’, *ґо́хты* ‘галоўкі ў палазах’, *наўда́* ‘карысць; вартасць; навіна’, ‘мала’[1] (падрабязна [9–12]). Можна думаць, што паўночна-заходняя занальная лексіка балцкага паходжання на сённяшні дзень выяўлена адносна поўна. Тым не менш адпаведны спіс нельга лічыць канчатковым. Удакладнення і дадатковага разгляду патрабуюць і асобныя абазначэнні, пададзеныя ў этымалагічных слоўніках як утварэнні спрадвечныя або няясныя. Прыкладам апошніх з’яўляецца слова *ку́да́са́ (кудо́са)* ‘завея, мяцеліца’, якое ў якасці літуанізма разглядаў яшчэ Я. Ф. Карскі, супастаўляючы яго з літ. *kũdas* ‘слабы’ [13]. Хаця на знешні ўплыў указваюць і няўстойлівасць фанетычнага і акцэнтнага афармлення назвы, і наяўнасць тыповай балцкай флексіі

[1] Фактычныя даныя ў артыкуле аналізуюцца паводле картаў ДАБМ [6] і ЛАБНГ [7] і матэрыялаў «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» [8].

ў яе складзе, дадзеная версія не можа быць прызнана задавальняльнай. Хісткасць яе не столькі ў тым, што прапанаваны адпаведнік – дыялектна абмежаваны славізм у літоўскай мове: так званыя адваротныя інфільтрацыі ў зонах міжмоўных кантактаў сустракаюцца нярэдка. Адзначаная паралель мала абгрунтаваная з семантычнага боку [14]. Больш верагоднай нам здаецца сувязь з літ. *kudãšius* ‘чупрына, чуб’. Падобная ўзаемазалежнаць значэнняў добра вядома беларускай (як дыялектнай, так і літаратурнай) мове (параўн. *віхóр* ‘імклівая кругавая плынь ветру, узняты ветрам закручаны слуп пылу, снегу і пад.’ і ‘ўзнятая ўверх пасма валасоў’), прасочваецца яна і ў суседняй літоўскай (параўн. яшчэ літ. *kùduliuoti (kuduliúoti)* ‘хутка бегчы, каціцца’, ‘кудлаціць, лахмаціць’, а таксама *kudénti* ‘ісці, бегчы, рухацца’ разам з вытворным антрапонімам *Kùdas* [15; 16]). Зычны [с] адпаведна літоўскаму [š] у слове ўзнік, магчыма, ужо на беларускай глебе. Але не выключана, што крыніцай пранікнення сталі тыя літоўскія дыялекты, для якіх характэрна ўжыванне [s] замест [š] (падрабязна [17]) – у прыватнасці, гаворкі тыпу зетэльскіх (дзятлаўскіх). Такой выснове не пярэчыць і геаграфічны фактар – разгледжанае найменне занатавана якраз пераважна на тэрыторыі пашырэння так званай гродзенска-баранавіцкай групы гаворак. У сваім распаўсюджанні яно не выходзіць за межы былога яцвяжскага арэала – непасрэдны балцкі прататып, такім чынам, мог належаць і моўнай сістэме адпаведнай этнічнай супольнасці. У сувязі з апошнім адзначым, што корань, адлюстраваны ў пералічаных вышэй літоўскіх лексемах, паводле звестак, атрыманых з помнікаў прускага пісьменства, быў прадстаўлены таксама ў заходнябалцкіх мовах [18]. У гэтым выпадку зычны [с] у аснове беларускай назвы не патрабуе тлумачэння.

Да ўжо ўзгаданых адваротных пранікненняў належыць, магчыма, бел. паўн.-зах. *крýчка* ‘бручка’. Адны даследчыкі адносяць яго да літуанізмаў у беларускай мове, прызнаючы пры гэтым недастатковасць адпаведнай аргументацыі [19] (параўн. літ. дыял. (паўдн. і зах.) *krùčkas, krùčkà (krùčkė)* ‘тс’ [20]). Другія ў тоеснай літоўскай форме бачаць славянскія карані, указваючы на кантамінаваную прыроду самога ўтварэння (з бел. *брýчка* і *кáліка, кáліўка* ‘тс’) [21]. Але падобная кантамінацыя магла адбыцца і непасрэдна ў літоўскіх дыялектах (параўн. літ. паўн. *kõlis (kalỹs)*, а таксама латыш. *kālis* ‘бручка’ [22]). Не выключана, што мела месца не столькі кантамінацыя, колькі звычайная фанетычная трансфармацыя запазычанага ў гаворкі літоўскай мовы бел. *брýчка*, якое пазней – у абноўленым выглядзе – вярнулася ў славянскую моўную стыхію. Так, прынамсі, становіцца зразумелым характар і ўзаемазалежнасць пpасторавага размяшчэння літоўскага і беларускага найменняў: большая распаўсюджанасць першага і адносна вузкая лакалізацыя другога. Адпаведнае відазмяненне шырокавядомай беларускай назвы можа быць, акрамя таго, вынікам не зусім правільнага яе засваення пры пераходзе колішніх бацкіх насельнікаў рэгіёна на славянскую

мову ў працэсе іх асіміляцыі, чаму толькі спрыяла існаванне побач гаворак з іншымі абазначэннямі.

Засведчанае ў супрацьлеглай частцы зоны – на яе поўначы – найменне *(а)се́ць ((в)о́сець)* ‘ёўня’ і з геаграфічнага, і з фармальна-семантычнага боку небеспадстаўна супастаўляецца з латыш. *sę̃ta* ‘(мужыцкі) дом; двор’, *sētiena* ‘частка двара’ і інш., сувязь жа яго з рус. *осек* ‘загароджаная месца, выган, агарод, агароджа’ [23] (параўн. яшчэ бел. *засе́к* ‘адгароджаная частка ў свірне, клеці для захавання збожжа, мукі’) таксама магчыма, але яна мае хутчэй другасны характар. Пра высокую верагоднасць знешняга ў адносінах да беларускай мовы ўплыву сведчыць, акрамя іншага, няўстойлівасць гукавога афармлення слова, ды і пачатковы галосны ў адным з варыянтаў трэба ўспрымаць не як прэфікс, а як цалкам нармальную для адпаведных гаворак пратэзу (параўн. бел. паўн.-зах. *(а)све́р* ‘вага ў студні з жураўлём; вочап’ < латыш. *svèrt* ‘важыць’, *svīra, svērts* і пад. ‘вага’, літ. *sver̃ti* ‘важыць’, *svãras* ‘вага’ [24]), да якой у працэсе далейшага засваення можа далучацца дадатковы прыстаўны зычны – падобныя відазмяненні нярэдкасць пры адаптацыі балтызмаў (параўн. бел. дыял. *во́кля* ‘акенца ў дзвярах або ў шчыце хаты’ < літ. *akẽlė* ‘вочка’; бел. паўн.-зах. *(в)о́сілка* ‘початка ў вядры’ < літ. *ąsẽlė* ‘тс’ [25]). Тут мы, відаць, маем справу з цікавай і даволі натуральнай для кантактных зон з’явай, калі ў выніку перасячэння некалькіх (мінімум двух) моўных кодаў – пры ўзаемадзеяннях адстратнага тыпу альбо пры субстратызацыі асобных элементаў роднай мовы падчас яе страты і пераходу на чужую гаворку – адбываецца свайго роду збліжэнне, а часам і ўзаемапранікненне розных паводле генезісу лексічных асаблівасцей, іх ўзаемнае прыстасаванне ў плане фармальным і/ці семантычным. У адпаведных абставінах даследчык не можа і, па сутнасці, не мае права адназначна ацэньваць моўную з’яву з пазіцый толькі аднаго з кантактных бакоў. Аднак гіпотэзы адносна ролі і ўдзелу кожнага з іх ў яе фарміраванні і развіцці, безумоўна, маюць права на існаванне. У гэтым сэнсе прадстаўляюць інтарэс і аднакарэнныя абазначэнні перхаці *ко́шасць (ко́ршасць, ко́шэрсць)*, *ко́шусць (ко́шуць, ко́шусь)*, *кашута́*, *кашуя́*, зарэгістраваныя на поўдні паўночна-заходняй дыялектнай зоны (параўн. яшчэ зафіксаванае ў Ганцавіцкім р-не *кашута́* ‘вонкавы каляплоднік арэха; мяккая частка ў сярэдзіне гарбуза’). Яны разглядаюцца як вытворныя ад прасл. **česati* (падрабязна [26]). Падобныя назвы вядомы суседнім славянскім мовам: пол. дыял. *koszaść* ‘перхаць’, *košuć* ‘шкура, футра’, ‘кара’; укр. дыял. *кошу́т* ‘сцябло кукурузы разам з лісцем без качаноў’, *кошу́ля* ‘струп на галаве ў дзіцяці’, *ко́шулі* ‘дыятэз’ [27–30]. Супастаўленне са славен. *košuta*, балг. *кошу́та*, сербскахарв. *ко́шута* ‘лань, самка аленя’, мараўск. і славац. *kósut* ‘баран, казёл’ [31] здаецца небездакорным у семантычных адносінах. Т. Зданцэвіч пол. *košuć* ‘кара́’ лічыць літуанізмам (з літ. *kàškis* ‘кароста, сверб’) [32], але Ю. Лаўчутэ адносіць гэтае найменне да слоў, балцкае паходжанне якіх дастаткова не абгрунтавана [33]. Фармальная і семантычная блізкасць адпаведных

славянскіх і балцкіх лексем (параўн. яшчэ латыш. *kaškis* ‘кароста, сверб’, *kaškains* ‘шалудзівы, паршывы’ [34]), сапраўды, не можа не прыцягваць увагу. Балцкія намінацыі ўзыходзяць да спрадвечных дзеяслоўных форм: літ. *kasyti, kóškytis*, *koškurtis*, *kàišti* ‘капаць; драць, скрэбці, часаць’; латыш. *kast, kasaties* ‘рыць, капаць, разрываць; драць, скрэбці’ [35; 36], утвараючы разам з імі вялікае этымалагічнае гняздо. Славянскія ж аналагі пашыраны пераважна якраз у славяна-балцкай (resp. балта-славянскай) кантактнай зоне, прыкладна там жа сустракаюцца і бел. *кошкацца*, *кошчыць* ‘капаць, рыць, драць грады (пра курэй); вазіцца’, пол. *koszkać sie* ‘рыцца, вазіцца, капацца, нешта разграбаць’. Ёсць усе падставы меркаваць, што сувязь з балцкімі (найперш, літоўскай) мовамі ў дадзеным выпадку не абмяжоўваецца адной толькі генетычнай роднасцю. Што тычыцца ўкр. дыял. *кошýля* ‘струп на галаве ў дзіцяці’, *кóшулі* ‘дыятэз’, то яны ўзніклі хутчэй за ўсё на аснове паланізма *кошýля* ‘сарочка’ – «галоўка ў дзіцяці ці поўнасцю цела пакрываецца струпамі нібы сарочкаю» [37].

Аб’ектыўна складанай і выключна неадналінейнай можа быць трактоўка рэгіяналізмаў тыпу паўн.-зах. *пéрыць (пя́рыць, пíрыць)*, *пéрці* ‘праць бялізну (пранікам)’. Названыя дзеяслоўныя ўтварэнні разглядаюцца як рэфлексы прасл. **per(i)ti* ‘біць, ударацць’ (параўн. бел. *праць* < **pьrati*), а літ. *per̃ti* (1 ас. адз. л. – *periù*) ‘біць, сцябаць; лупіць, драць, сячы’, латыш. *pḕrt* ‘тс’, *pirêtiês* ‘праць бялізну’ прыгадваюцца як іх бліжэйшыя індаеўрапейскія адпаведнікі [38]. Знаходжанне на перыферыі славянскага моўнага свету, існаванне паралелей у паўднёваславянскіх мовах (балг. *перá*, макед. *пере*) на самай справе не дазваляюць не ўлічваць магчымасць спрадвечнага паходжання дадзеных моўных сродкаў. З другога боку, так званыя сепаратныя рэліктавыя ізаглосы складаюцца хутчэй з балцкіх і паўднёваславянскіх аналагаў, у выпадку ж з беларускімі нельга выключыць факт непасрэднага ўплыву першага з адзначаных кампанентаў – «цяжка адмаўляць наяўнасць сувязі паміж гэтымі з’явамі, у першую чаргу з-за іх арэальнай блізкасці» [39]. Указаныя дзеясловы, сустракаючыся на ўсёй тэрыторыі зоны і зрэдку за яе межамі, як адзіна актуальныя абазначэнні прыгаданага дзеяння ўжываюцца толькі ў адносна шырокай паласе гаворак уздоўж беларуска-літоўскага сумежжа. У цэлым найбольш паслядоўна яны выступаюць у заходняй і паўднёвай частках рэгёна – там, дзе ў апошнія стагоддзі актыўна праходзіла асіміляцыя балцкамоўных аўтахтонаў і значна інтэнсіфікаваліся кантакты носьбітаў беларускіх дыялектаў з суседзямі-літоўцамі. Вельмі верагодна, што інфінітыўныя формы *пéрыць (пя́рыць, пíрыць)*, *пéрці* ўзніклі ў выніку выраўноўвання асновы па мадэлі асабовых форм цяперашняга часу (*пя́ру (пéру)*, *пéрыш (пíрыш)* і г. д.), але выразная прасторавая абмежаванасць працэсу ізноў жа наўрад ці выпадковая. Балцкае ўздзеянне, хаця б частковае, пацвярджаецца варыянтамі, афармленымі згодна з вымаўленчымі асаблівасцямі літоўскай мовы (гл. [40]). Узаемадзеянне з балцкімі (найперш – літоўскай) мовамі, трэба думаць, так ці інакш адыгрывае тут сваю

ролю: пастаянная прысутнасць адпаведнага моўнага фону вядзе да павышэння ўзроўню частотнасці выкарыстання спрадвечных рыс і, зрэшты, да іх кансервацыі, а таксама спрыяе разнастайным зменам па аналогіі, стымулюючы, актывізуючы і накіроўваючы іх. У гэтым заключаецца феномен так званай моўнай падтрымкі. Істотнае месца ў дадзеным працэсе належыць, акрамя таго, субстратным моўным пластам.

Значны фрагмент слоўніка паўночна-заходніх гаворак утвараюць рознага роду калькі з балцкіх моў. Дадзены шлях узбагачэння маўлення беларускіх насельнікаў сумежнага і ў рэтраспектыве этнічна вельмі неаднароднага рэгёна таксама можна лічыць адным з найбольш прадукцыйных – «двухмоўе, будучы асяроддзем, насычаным міжмоўнымі сувязямі, спрыяе стыхійнаму аналізу слова, якое ўспрымаецца (і не можа не ўспрымацца) скрозь прызму яго іншамоўнага эквівалента. Адсюль тыповая для сітуацый двухмоўя актуалізацыя ўнутранай формы і эксплліцытнасць мадэляў словаўтварэння – свайго роду «дысперсія» слова, наўрад ці магчымая ў іншых умовах» [41]. Перыяд білінгвізму абавязкова ўзнікае і тады, калі ўзаемадзеянне моў суправаджаецца асіміляцыяй і, у далейшым, субстратызацыяй адной з іх. У адносінах да паўночна-заходняй дыялектнай зоны апошняе надзвычай актуальна. Шэраг занальных рэгіяналізмаў – магчымых «перакладаў» з балцкіх (пераважна літоўскіх) лексем аналізаваўся ў працах аб асаблівасцях мовы жыхароў паўночнага захаду Беларусі (акрамя ўказаных вышэй гл. таксама [42; 43]). Адпаведную лакалізацыю ў беларускіх гаворках маюць, акрамя таго, словы *абія́кі* ‘абутак на драўлянай падэшве’, *пpóкідзь* ‘затаўка’, *пракідáць* ‘затаўкаць’ – усе яны кваліфікуюцца менавіта як калькі з літоўскіх аналагаў (падрабязна [44]). Падобным паходжаннем вызначаецца, на нашу думку, і засведчаная ў гаворках на беларуска-літоўскім сумежжы назва *вайлакí* ‘валёнкі’, створаная на аснове вядомага тут жа назоўніка *вайлáк* ‘лямец’, але паводле пашыранай у літоўскай мове мадэлі: літ. *veltinỹs* ‘лямец’ → *veltìniai* ‘валёнкі’ [45]. Не выключана, што гэтая слоўная адзінка адносіцца да субстратнага пласта лексікі – інфарманты ЛАБНГ часам характарызуюць яе як традыцыйнае, даўнейшае ўтварэнне побач з больш новым *валёнкі (вáлінкі).* Занатаваныя ў паўднёвай частцы зоны дзеясловы *ухóджавацца, ухáджвацца, ахóджвацца, падхóджвацца, абхадзíцца* ‘ўпраўляцца з хатняй работай, гаспадаркай’ ёсць падставы параўноўваць з літ. *apývoką eĩti* ‘тс’ [46], дзе *apývoka* ‘хатняя работа, клопаты па хатняй гаспадарцы’ і *eĩti* ‘хадзіць’ – літаральна ‘хадзіць, абходжваць хатнюю работу, гаспадарку’. Вынікам складанага ўзаемадзеяння розных моўных сістэм у варунках полілінгвізму можа быць рэгіянальнае найменне абабка *чашчавíк (чашчэ́вік).* Яно зафіксавана там, дзе часам сустракаецца і бясспрэчны літуанізм *мішкíнь (мяшкíнь)* ‘тс’ (параўн. літ. *miškìnis* ‘лясны’, *mìškas* ‘лес’, дыял. ‘вялікі лес, пушча’, а таксама бел. дыял. *чáшча* ‘чысты, гонкі лес адной пароды’, *чáшчык* ‘густы асінавы лес’, *часця́к* ‘малады густы лес’ [47; 48]). Верагодным з’яўляецца супастаўленне бел. паўн.-зах. *клін*

‘прарэх (у споднiках)’ з латыш. *ķīlis* ‘клiн; прарэх (у споднiках)’ (гл. [49]). У славянскiх мовах рэфлексы прасл. **klin* пашыраны ў значэннi ‘завостраны ўнiзе i расшыраны ўверсе кусок дрэва або металу, якiм расколваюць або зацiскаюць што-н.; прышыўка на адзеннi такой жа формы’ i пад. [50]. Паколькi адзначаны семантычны рэгiяналiзм вядомы толькi на беларуска-лiтоўскiм сумежжы i не даходзiць у сваiм пашырэннi да мяжы з арэалам латышскай мовы, iнфармацыя пра наяўнасць або адсутнасць дакладных адпаведнiкаў у лiтоўскiх гаворках магла б пралiць святло на характар сувязi названай вышэй пары слоў.

У лексiчных сiстэмах генетычна роднасных моў заўсёды ёсць абазначэннi, якiя, узыходзячы да пэўнай адзiнай праформы i з’яўляючыся (амаль) iдэнтычнымi фармальна, у большай цi ў меншай ступенi адрознiваюцца паводле значэння. У сiтуацыi непасрэдных зносiн i абумоўленага ёй двухмоўя адна з лексем можа ўплываць на другую, узбагачаючы яе семантычна: (адносна) тоесны план выражэння садзейнiчае iмкненню да некаторага выраўноўвання i ў плане зместу, што ў цэлым адлюстроўвае характэрную для гаворак па абодва бакi моўнай мяжы тэндэнцыю да максiмальнай узаемнай унiфiкацыi i ўнiверсалiзацыi сваiх форм, структур i сродкаў. У такiм выпадку мэтазгодна казаць не столькi пра семантычнае калькаванне, колькi пра семантычнае запазычванне i разглядаць апошняе побач з калькамi ў якасцi разнавiднасцi запазычвання структурнага тыпу. У перспектыве можа адбыцца iстотнае разыходжанне свайго i набытага значэнняў, таму семантычнае запазычванне прадстаўляе сабой адзiн з надзейных механiзмаў развiцця ў гаворках не толькi полiсемii, але i аманiмii. Падобныя з’явы часцей назiраюцца пры ўзаемадзеяннi моў, звязаных адносiнамi блiзкай роднасцi (беларускай i польскай на паўночным захадзе i захадзе нацыянальнага моўнага абшару, беларускай i рускай – на ўсходзе), сустракаюцца яны, хаця i радзей, пры кантактах традыцыйных беларускiх гаворак з суседнiмi балцкiмi мовамi. У якасцi прыкладу ўзгадаем бел. *касíць* агульн. ‘зразаць траву (касой)’; перан. губiць, нiшчыць’ (< прасл. *kositi* ‘касiць, зразаць, галiць’ [51]), паўн.-зах. ‘разграбаць зямлю, рыць, капаць; скрэбцi’ (параўн. лiт. *kasyti*, *kaisyti*, *kàsti*, *kasioti*, *kasinė́ti* ‘рыць, капаць, разграбаць; скрэбцi, часаць’; латыш. *kast* ‘рыць, капаць, разрываць’, *kasīt* ‘часаць, скрэсцi’ [52; 53]). Уздзеяннем цi як мiнiмум падтрымкай (калi мець на ўвазе захаванне архаiчнай семантыкi, што таксама ў прынцыпе магчыма) з боку лiтоўскiх дыялектаў выклiкана ўласцiвае для адзначаных гаворак ужыванне прыметнiка *тóшчы* ў спалучэннi з субстантывамi прадметнай семантыкi: *тóшчая хáта* (*скрыня, шклянка* i пад.). Гэтае прамое i першаснае значэнне ў большасцi славянскiх моў было страчана (падрабязна [54]), а ў некаторых з iх працягвае прасочвацца толькi на ўзроўнi ўстойлiвых цi блiзкiх да ўстойлiвых словазлучэнняў накшталт рус. *тóщий желýдок, тóщая пóчва*. Яно, аднак, выступае ў якасцi асноўнага складнiка семантычнай

структуры літ. *tùščias* [55], вызначаючы разам з іншымі асаблівасцямі адметнасць літоўскай мовы.

Варта прызнаць, што многія праявы структурнага запазычвання (ад калек да апісаных вышэй пашырэнняў у галіне семантыкі) часта застаюцца нявыяўленымі. Гэта звязана з вядомымі аб'ектыўнымі цяжкасцямі ідэнтыфікацыі дадзенага сегмента слоўніка, а таксама з перадузятасцю даследчыкаў, калі любая моўная з'ява тлумачыцца толькі як вынік унутранай эвалюцыі сістэмы і ігнаруюцца прамыя ўказанні на верагоднасць (су)існавання іншых прычын. Нягледзячы на тое, што адпаведныя высновы адносна вытокаў моўных адрозненняў лексіка-семантычнага плану заўсёды маюць у большай ці ў меншай меры гіпатэтычны характар, іх адсутнасць, несумненна, значна збядніла б рэальную – неаднастайную, насычаную шматвектарнымі ўплывамі і сувязямі – карціну функцыянавання гаворак у міжмоўных кантактных зонах.

Славяна-балцкае кантактаванне на паўночным захадзе Беларусі на працягу стагоддзяў адбываецца амаль выключна на дыялектным узроўні. Выкліканыя да жыцця або так ці інакш падтрыманыя гэтым працэсам асаблівасці ў сферы лексікі і семантыкі развіваюцца і/ці існуюць у даволі складаных умовах. Іх вывучэнне можа быць паспяховым толькі пры наяўнасці панарамнага погляду на праблему і комплекснага падыходу да яе вырашэння з боку самога даследчыка. У гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускай мовы адпаведныя інавацыі ўзнікаюць самымі рознымі шляхамі. Найбольш распаўсюджаныя механізмы – інфільтрацыя і структурнае запазычванне. На аснове такога роду адзінак утвараюцца не менш характэрныя для маўлення жыхароў дадзенага рэгіёна гібрыдныя і кантамінаваныя абазначэнні. Папаўненню рэгіянальнага слоўніка спрыяюць таксама абумоўленыя знешнімі ўздзеяннямі зрухі ў галіне словаўтварэння. Апошнія маюць, як правіла, лексічна абмежаванае ўжыванне і, узятыя ў цэлым, патрабуюць асобнага разгляду. Фактар тэрытарыяльнай сумежнасці неабходна мець на ўвазе і пры аналізе моўных адрозненняў, паходжанне якіх у беларускіх паўночна-заходніх гаворках нельга вытлумачыць адназначна.

*Мінск*

## Літаратура

1. Астрэйка В. Д. Паўночна-заходнія занальныя назвы насякомых (па матэрыялах ЛАБНГ) // Беларуская лінгвістыка. – 1996. – Вып. 46.– С. 55–61.

2. Астрэйка В. Д. Паўночна-заходнія занальныя назвы дзікіх птушак // Беларуская лінгвістыка. – 1997. – Вып. 47. – С. 62–69.

3. Астрэйка В. Д. Асаблівасці намінацыйнай сістэмы гаворак паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускай мовы // Dziedzictwo przeszłości związków językowych, literackich i kulturowych polsko-bałto-wschodniosłowiańskich. – Białystok, 2000. – T. 3: Językoznawstwo. – S. 9–18.

4. Астрэйка В. Д. Балта-ўсходнеславянскае занальнае моўнае ўзаемадзеянне // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: XIII Міжнар. з'езд славістаў. Дакл. бел. дэлегацыі, Любляна, 2003 г. – Мінск, 2003. – С. 5–12.
5. Астрэйка В. Роль балтийского языкового элемента в формировании номинационной системы говоров северо-западной диалектной зоны белорусского языка // Исследования по славянской диалектологии. – М., 2006. – Вып. 12.
6. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Мінск, 1963.
7. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. – Мінск, 1993–1998.
8. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1979–1986. – Т. 1–5.
9. Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. – Мінск, 1969.
10. Непокупный А. П. Балто-севернославянские языковые связи. – Киев, 1976.
11. Лаучюте Ю. Словарь балтизмов в славянских языках. – Л., 1982.
12. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1978–...
13. Карский Е. Ф. Белорусы. – Вильна; Варшава, 1904. – Т. 1. – С. 137.
14. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 5.
15. Lyberis A. Lietuvių-rusų kalbų žodynas. – Vilnius, 2001.
16. Топоров В. Н. Прусский язык: Словарь. K–L. – М., 1984. – С. 224.
17. Zinkevičius Z. Lietuvių dialektologija. – Vilnius, 1966. – P. 147.
18. Топоров В. Н. Прусский язык. – С. 224.
19. Лаучюте Ю. Словарь балтизмов в славянских языках. – С. 143.
20. Lietuvių kalbos atlasas. – Vilnius, 1977. – T. 1: Leksika. – P. 163, ž. 89.
21. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 5.
22. Latviešu valodas dialektu atlants: Leksika. – Rīga, 1999. – Lp. 375, k. 47.
23. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 1.
24. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 1.
25. Лаучюте Ю. Словарь балтизмов в славянских языках. – С. 48, 64.
26. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 5.
27. Етимологічний словник української мови: В 3 т. – Київ, 1982–1985. – Т. 3.
28. Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. – М., 1974–1992. – Вып. 11.
29. Karłowicz J., Kryński A., Niedźwiedzki W. Słownik języka polskiego: 8 t. – Warszawa, 1900–1927. – T. 2.
30. Гуцульщина. Лінгвістичні етюды. – Київ, 1991. – С. 62.
31. Да лексіка-семантычнай дыферэнцыяцыі ў беларускіх народных гаворках / А. У. Арашонкава, А. І. Грынавецкене, І. П. Кавальчук і інш. // Вес. АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1971. – № 1. – С. 89.
32. Zdancewicz T. Litewskie elementy słownikowe w gwarach polskich okolic Sejn // Lingua Posnaniensis. – 1960. – T. VIII. – S. 342.
33. Лаучюте Ю. Словарь балтизмов в славянских языках. – С. 143.
34. Latviešu-krievu vardnica: 2 sēj. – Riga, 1979–1981.
35. Latviešu-krievu vardnica: 2 sēj.
36. Lyberis A. Lietuvių-rusų kalbų žodynas.
37. Гуцульщина. Лінгвістичні етюды. – С. 63.
38. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 9, 10.
39. Цыхун Г. Інавацыі славянскіх кантактных зон // Rozprawy Slawistyczne. – 1993. – 6. – S. 33.
40. Zinkevičius Z. Lietuvių dialektologija. – P. 54–61, 457, 458.
41. Судник Т. М. К изучению словообразовательной интерференции // Сопоставительное изучение словообразования славянских языков. – М., 1980. – С. 233.
42. Вачыма аўтараў / А. І. Грынавецкене, Ю. Ф. Мацкевіч, Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук // Slavia orientalis. – 1990. – Vol. XXXIX, № 3–4. – S. 317.

43. Мартынов В. В., Чекман В. Н. Следы белорусско-литовской языковой интерференции в белорусских говорах Гродненщины и Молодечненщины // Совещание по общим вопросам диалектологии и истории языка. Тез. докл. и сообщ. – М., 1973. – С. 114–115.
44. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 1, 9, 10.
45. Lyberis A. Lietuvių-rusų kalbų žodynas.
46. Lyberis A. Lietuvių-rusų kalbų žodynas.
47. Lietuvių kalbos atlasas. – P. 191–192, ž. 113.
48. Раслінны свет: Тэматычны слоўнік. – Мінск, 2001. – С. 253, 338, 340, 344.
49. Krievu-latviešu vardnica: 2 sēj. – Riga, 1959.
50. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 5.
51. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 4.
52. Русско-литовский словарь: В 4 т. – Вильнюс, 1982–1985.
53. Latviešu-krievu vardnica: 2 sēj.
54. Фасмер М. Этимологический словарь русского языка: В 4 т. – М., 1986–1987. – Т. 4.
55. Lyberis A. Lietuvių-rusų kalbų žodynas.

## Summary

The article analyzes a number of lexical and semantic features typical for the North-West dialect zone of the Belarusian language. These peculiarities are interpreted as a possible result of Slavic-Baltic contacts in this region. Some zonal phenomena can not be explained only by direct influence of the Baltic languages. However, the factor of areal neighborhood has to be taken into consideration too.

*УДК 811.161.3*

*Г. І. КУЛЕШ*

# СЛОЎНІКІ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ АКТАВАЙ МОВЫ, ВЫДАДЗЕНЫЯ Ў XIX ст.: БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ ЗВЕСТКІ, ПРАКТЫЧНАЕ І НАВУКОВАЕ ЗНАЧЭННЕ

*(Паступіў у рэдкалегію 9.02.2010 г.)*

У XIX ст. беларуская мова ў заканадаўчай сферы не ўжывалася. Даканала распрацаваная за папярэднія стагоддзі старабеларуская юрыдычная лексіка і фразеалогія не выкарыстоўваліся і не развіваліся. Нягледзячы на такую сітуацыю, гэтае стагоддзе адметнае тым, што яно стала падрыхтоўчым этапам для выпрацоўкі лінгвістычных сродкаў сучаснага беларускамоўнага заканадаўства. Паспрыяла гэтаму імкненне ўрада Расійскай імперыі сцвердзіць сваё бачанне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

**Апублікаванне архіўных дакументаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.** З сярэдзіны XIX ст. актыўна вывучаецца гісторыя беларускіх і ўкраінскіх зямель, уключаных у склад Расійскай імперыі. Распачынаецца выданне шматлікіх гістарычных дакументаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, адбор і падрыхтоўка якіх ажыццяўлялася некалькімі археаграфічнымі камісіямі.

Найбольшую колькасць дакументаў, якія тычацца гісторыі старажытных беларускіх зямель, выдала Віленская археаграфічная камісія, створаная пры Віленскім цэнтральным архіве. Гэтыя дакументы публікаваліся пад назвай «Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею». Усяго з 1865 по 1915 г., акрамя іншых выданняў, выйшла 39 тамоў «Актаў». Як адзначана ў Энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Ефрона, перад камісіяй была пастаўлена задача са шматлікіх матэрыялаў Віленскага цэнтральнага архіва, які змяшчаў пісьмовыя крыніцы па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага за 1387–1812 гг., для выдання адбіраць «1) Акты, якія высвятляюць элемент праваслаўя ў Заходнім краі, 2) Акты, што датычаць адміністрацыі Заходняга краю ў розныя эпохі існавання Вялікага княства (быт сялян, мяшчан, яўрэяў і інш. саслоўяў), 3) Акты юрыдычныя і этнаграфічныя» [1].

Падбор дакументаў, якія пацвярджалі пашырэнне праваслаўных цэркваў і манастыроў, меў на мэце даказаць, «што ВКЛ «спрадвечна руская зямля» [2; 3]. Матэрыялы адміністрацыйныя і юрыдычныя павінны былі

паказаць «што Заходні Край ніколі не быў шчаслівы пад польскім урадам, што, нягледзячы на мноства судовых месцаў, ніхто не мог быць упэўнены ў правах сваёй уласнасці, ні ў асабістай бяспецы, […] што толькі пад рускім урадам Заходні Край забыў свае пакуты, залячыў свае раны і пачаў сапраўднае палітычнае існаванне» [4].

У Вільні была створана і другая камісія для выдання гістарычных дакументаў. Гэта камісія, заснаваная пры Віленскай вучэбнай акрузе, з 1867 па 1874 г. выдала 10 тамоў дакументаў пад назвай «Археографический сборник документов, относящихся к историии Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа».

Дакументы, якія мелі дачыненне да гісторыі ВКЛ, выдавалі і Пецярбургская і Кіеўская археаграфічныя камісіі, хоць па колькасці такіх дакументаў было менш. Пецярбургская камісія была створана раней за іншыя – у 1834 г. З 1837 г. яе членам з'яўляўся вядомы беларускі гісторык, археограф і мовазнавец І. І. Грыгаровіч, які ў 1838 г. быў прызначаны галоўным рэдактарам актаў камісіі. Вынік яго працы – выхад на працягу 1846–1853 гг. 5-томнага выдання «Акты, относящиеся к истории Западной России…», у якіх сабраны ўнікальныя дакументы па гісторыі Беларусі, Літвы і Украіны XIV–XVII стст. [5; 6]. Серыя дакументаў пад назвай «Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном Витебском архиве» (32 т.) выдавалася ў Віцебску на працягу 1871–1906 гг. [7].

**Неабходнасць тлумачэння «неудобопонятных» слоў і выразаў з апублікаваных дакументаў.** У выдадзеных матэрыялах сустракалася нямала слоў і выразаў, у тым ліку і юрыдычнага зместу, «якія не ўсім могуць быць вядомыя, асабліва рускім» [8]. Гэта вымушала членаў камісій, якія займаліся публікацыяй старажытных дакументаў, рыхтаваць і друкаваць адпаведныя лексікаграфічныя даведнікі. Яны выдаваліся ў выглядзе алфавітных паказальнікаў да ўзноўленых старажытных дакументаў і ў выглядзе слоўнікаў актавай лексікі.

**Алфавітныя паказальнікі.** Алфавітныя паказальнікі – своеасаблівыя тлумачальныя слоўнікі малазразумелай лексікі – выходзілі як без указання аўтараў-складальнікаў, так і аўтарскія. Прыкладам першага тыпу паказальнікаў можна назваць «Алфавитный указатель к Актовой книге, изданной Виленской археографической комиссией в 1867 году: Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском Григория Богдановича Воловича, а также собрание привилегий, данных дворянам и священникам Пинского повета», дзе тлумачальны слоўнік змешчаны побач з паказальнікамі імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў [9].

Слоўнікавы артыкул для пераважнай большасці рэестравай лексікі складаўся з тэрміна (або тэрміналагічнага словазлучэння), яго тлумачэння, ілюстрацыйнага матэрыялу і ўказання старонак, на якіх гэты тэрмін сустракаецца ў названай актавай кнізе. Напр. *Материзна*, наследственное

право от матери, «на тожъ онъ предъ нами (корол. Боною) доводъ слушный вчинилъ сведецтвомъ бояръ и присегою, ижъ тыя именья есть отчизна и дедицтво и *материзна*», 273 (с. 110).

Выклікаюць цікавасць спробы патлумачыць паходжанне геаграфічных назваў, змешчаных у «Алфавитном указателе». Вось як тлумачыцца паходжанне назвы Піна: *Пина*, река, течет по Пинскому повету... Пина, по всему вероятию, имеет литов.-латыш. происхождение, от *пина*, *пинэ* – сплетенная полоса, лента, когда говорят, напр., о сплетенном, но несвязанном еще венке и т. под., *гирлянда*. Такое название вполне соответствует существу дела и могло быть дано древними литовцами известной нам ныне реке Пине по *ее сплетению из бесчисленного множества ручейков и речек*, которые она в себя принимает, проходя через большие низменности и болотные места (с. 75).

Прыкладам аўтарскага паказальніка можна назваць рукапіс «Алфавитного указателя старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных в 1853 году», падрыхтаваны І. І. Насовічам. Праца атрымала высокую ацэнку рэцэнзентаў. Ад камісіі Імператарскай акадэміі навук па прысуджэнні ўзнагарод графа Уварава рэцэнзентам паказальніка з’яўляўся акадэмік І. І. Сразнеўскі [10]. На падставе яго рэцэнзіі, прачытанай на публічным пасяджэнні акадэміі навук, праца І. І. Насовіча была прызнана вартай поўнай Увараўскай узнагароды (1500 рублёў) [11].

Рэцэнзія І. І. Сразнеўскага не была пазбаўлена заўваг, аднак прынамсі з адной з іх можна паспрачацца. У прыватнасці, падкрэсліваючы паўнату паказальніка, рэцэнзент адзначае, што абсалютна поўным паказчыкам працу Насовіча назваць нельга, тому што ў ёй месцамі ёсць пропускі. Пад пропускамі маецца на ўвазе тое, што Насовіч спасылаецца ў асобных выпадках не на ўсе акты, у якіх сустракаецца тое або іншае рэестравае слова: «…пры слове *грош* ёсць спасылка на акты 1497 года; а між тым *грош* упамянуты і ва ўкладной грамаце княгіні Ульяніі 1377 года… темьѧнщину на годъ по полъ копе грошей» [12]. Аднак думаецца, што Насовіч свядома не спасылаўся на грамату княгіні Ульяніі, паколькі адрозніваў значэнне слоў *грош* і *грошы* ‘як назву грашовай адзінкі’ і ‘сродак платы ўвогуле’.

Нягледзячы на навуковае прызнанне, рукапіс гэтага алфавітнага паказальніка не быў выдадзены. Цяпер ён захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Расійскай акадэміі навук у Пецярбургу, што ўскладняе для беларускіх даследчыкаў вывучэнне гэтага збору старабеларускай актавай лексікі.

Агульнае ўражанне пра яго можна скласці, акрамя рэцэнзіі І. І. Сразнеўскага, з публікацыі А. І. Жураўскага і І. І. Крамко «Першы слоўнік старажытнай беларускай мовы» [13]. У ёй адзначана, што юрыдычная лексіка суправаджаецца ў слоўніку спецыяльнай паметай – *юрыд.*, аўтары прыводзяць прыклады асобных слоўнікавых артыкулаў. Цікава, што ў «Слоўніку беларускай мовы» Насовіч таксама вылучае спецыяльнай паметай юрыдычную лексіку [14]. Гэта дае магчымасць параўнаць слоўнікавыя артыкулы з адным і тым жа рэестравым словам у абодвух Насовічавых лексікаграфічных працах.

*У «Алфавитном указателе»*[1]

*Апелевати* и *апеллевати*, -люю, дзеяс. юрыд. Пераносіць скаргу з ніжэйшага ў вышэйшае судовае месца. *Вольно будетъ кождому отъ лентъвойта до войта и отъ войта до насъ апеллевати.* III, 1577 г., 204-2-5. Пар. 1581 г. 262-2-4. *От декрету комисарского апелевати передъ паны поссесоры*. IV, 1594 г., 72-2-22.

*Бонда*, н. Доля, участак, асабліва зямлі, дадзенай за выслугу каму-небудзь. Выслужаная ўласнасць. *Коли паробокъ чіи украдуть што у кого, то заплатити бондою его, а не будеть бонды, ино осподаръ за него заплатитъ.* I, 1468 г., 82-2-12...

*У «Слоўніку беларускай мовы»*

*Апелеваць*, люю, гл. ср. юрид. Приносить жалобу высшему судебному мѣсту или лицу на неправильное рѣшеніе тяжебнаго дѣла въ низшемъ; подавать апеляцію. *И апелевала, а ўсе прайграла*. (Употр. шляхтами). (с. 6–7)

*Бонда*, ы, с. ж. 1) Бочка, кадь. 2) Хлѣбъ печеный. 3) Въ нѣкоторыхъ западныхъ частяхъ Бѣлой Руси. *Выслуженная доля земли. Выслужоная бонда*. (с. 30)

Можна меркаваць, што пэўная частка рэестравай лексікі «Алфавитного указателя» адлюстравана ў «Слоўніку беларускай мовы». Як вядома, І. І. Насовіч збіраць матэрыял для слоўніка пачаў у 1847 г., а скончыў у 1863 г. [15]. Значыць, праца над паказальнікам, якая працягвалася з 1853 да 1857 г. [16], вялася або паралельна, або з прыпыненнем збору матэрыялу для «Слоўніка беларускай мовы». У любым выпадку ўзаемасувязь складу гэтых даведнікаў адчуваецца, хоць і адрозненні падачы матэрыялу выразныя.

**Слоўнікі старажытнай актавай лексікі.** У ліку апублікаваных – «Справочный словарь юридических терминов древнего актового языка юго-западной России» І. П. Навіцкага і «Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского» М. І. Гарбачэўскага.

**«Справочный словарь юридических терминов древнего актового языка юго-западной России»**, складзены ўраджэнцам Кіеўскай губерні этнографам і гісторыкам, аўтарам шматлікіх публікацый па гісторыі, этнаграфіі, статыстыцы І. П. Навіцкім, быў апублікаваны ў кіеўскіх «Университетских известиях» [17]. Хоць у яго загалоўку ўказваецца на «паўднёва-заходнюю Расію», г. зн. частку Украіны, якая ў 19 ст. (калі рыхтаваўся і друкаваўся слоўнік) уваходзіла ў склад Расійскай імперыі, гэты слоўнік, па сутнасці, змяшчае старабеларускую юрыдычную лексіку. Гэта пацвярджаецца і тым, што ў прадмове ўкладальнік слоўніка ўжывае тэрміны «заходнярускае права» («дапаможнікаў для азнаямлення з заходнярускім (так званым літоўскім) і польскім правам на рускай мове вельмі мала»)

[1] Прыклады з «Алфавитного указателя» прыводзяцца паводле публікацыі А. І. Жураўскага і І. І. Крамко, у якім аўтарскі тэкст слоўнікавага артыкула падаецца ў перакладзе на беларускую мову.

і «заходнярускія акты» («заходнярускія акты пісаліся на мовах рускай (г. зн. старабеларускай мовай, паводле сучаснай тэрміналогіі. – *Г. К.),* польскай і лацінскай») ды і самім складам рэестравай часткі слоўніка.

У адрозненне ад іншых збораў лексікі з выдадзеных старажытных актаў, дзе змяшчалася не толькі юрыдычная, але і агульнаўжывальная лексіка, у слоўніку Навіцкага змешчана строга спецыяльная лексіка – каля 600 (582) рэестравых слоў, якімі абазначаліся прававыя ўстановы, службовыя асобы, прававыя адносіны. Агульнаўжывальныя словы ўключаны толькі тыя, якія набывалі ў актах спецыяльнае юрыдычнае адценне.

Прыведзены тэрміны старабеларускія, польскія і лацінскія. Размешчаны яны ў парадку кірылічнага алфавіта: *Делница* – удѣлъ, часть именія, приходящаяся на долю одного изъ участников; *Dzierżawca* – владѣлец, арендатор именіе, лицо, во владеніи котораго имѣніе находится в данное время; *Dimissio* – уступка (с. 8). Нярэдка тэрміны ўказаны на двух або трох мовах: *Оповедати*, *opowiadać* – жаловаться на кого, заносить жалобу (с. 17); *Баниція*, *banitio*, *banicya* – приговоръ къ лишенію правъ (с. 3). Гэта не ўказвае на якуюсьці заканамернасць або частату выкарыстання тэрмінаў у залежнасці ад моўнай прыналежнасці. На якой мове і якой графікай ужыты яны ў актах, гэтак жа ўзнаўляюцца і ў слоўніку. Дарэчы, І. П. Навіцкі не называе тыя дакументы, якія сталі крыніцай, змешчанай у слоўніку юрыдычнай тэрміналогіі, хоць і піша ў прадмове, што мае намер у выглядзе дапаўнення да слоўніка выдаць збор узораў юрыдычных актаў, матэрыял для якога ім паступова рыхтуецца. Укладальнік слоўніка дае толькі тлумачэнне юрыдычнага тэрміна або тэрміналагічнага словазлучэння, не ілюструючы яго прыкладамі з актавых дакументаў. Гэта, на наш погляд, з’яўляецца істотным недахопам слоўніка, бо пазбаўляе яго карыстальніка магчымасці прасачыць асаблівасці выкарыстання таго або іншага тэрміна; урэшце, ды і ўпэўніцца ў дакладнасці вытлумачэння яго сэнсу. Тым больш, што некаторыя тлумачэнні не з’яўляюцца вычарпальнымі. Напр.:

*Придать* – если судъ посылалъ своего урядника для присутствованія при какомъ-нибудь юридическомъ дѣйствіи, то урядникъ этот назывался «приданнымъ» тому, по чьей просьбѣ былъ посланъ (с. 20).

Такое тлумачэнне магло б адпавядаць тэрміну *урядникъ приданный*, а не *придать*. А дзеяслоў *придать* можна было б патлумачыць, напрыклад, так: ‘прызначыць ураднiка для прысутнасці пры якім-небудзь юрыдычным дзеянні’.

Тлумачэнні некаторых тэрмінаў вельмі сціслыя, нават аднаслоўныя: *Вывестися присягою* – оправдаться посредствомъ очистительной присяги (с. 6); *Зложити рокъ* – назначить срокъ (с. 11); *Злочинца* – преступникъ (с. 11); *Поводъ* – истецъ (с. 18).

Сустракаюцца і вельмі падрабязныя тлумачэнні, з апісаннем разнастайных юрыдычных тонкасцей: *Дѣтскій* (*дѣцкій*) – урядник, имѣвшій преимуществу власть исполнительную; онъ посылался за отвѣтчикомъ, если

тотъ не являлся на позовъ, ему поручалось иногда взысканіе нѣкоторыхъ сборовъ и наблюденіе за правильнымъ отбываніем повинностей. Вознагражденіе въ его пользу, взыскивавшееся съ виновнаго, называлось *децкованьемъ*. Дѣтскіе исчезли одновременно съ замѣною вижей возными (с. 9).

Найбольш грунтоўна і кваліфікавана створаны слоўнік – «**Словарь древнего актового языка северо-западного края и Царства Польского»**, складзены **М. І. Гарбачэўскім.** Ён уключае, паводле звестак аднаго з рэцэнзентаў гэтай лексікаграфічнай працы прафесара Варшаўскага ўніверсітэта М. П. Барсава, звыш 5000 рэестравых слоў, з якіх не больш за 380 з «уласна заходнярускай мовы» [18]. З упэўненасцю можна сцвярджаць, што колькасць старабеларускіх тэрмінаў значна большая. Можна меркаваць, што да «заходнярускіх» залічаны толькі словы, напісаныя кірыліцай. Напрыклад, такі прыведзены ў слоўніку тэрмін, як *юргельт*, хутчэй за ўсё не ўключаны ў старабеларускія: *Jurgielt*, годовая плата, назначаемая иногда королем. Vol. leg. a. 1647 v. IV f. 119. (с. 168). Аднак гэты тэрмін прыводзіць І. І. Насовіч у «Слоўніку беларускай мовы» нават без спецыяльнай паметы *юрыд.*, што гаворыць аб яго колішняй агульнаўжывальнасці: *Юргельт* (Нѣм. Gelt – деньги). Платежъ, взимаемый по условию за содержаніе какихлибо угодьевъ от Юрьева до Юрьева дня. *За прошлый годъ еще юргельту не выплацивъ.* Слово нынѣ рѣдко уже употребляемое (с. 725). Або слова *струг* ‘драўлянае рачное судна’, тым больш што Гарбачэўскім яно пазначана як пол.: р. *Strug*, *struh*, судно на рѣкѣ, род большой галеры (с. 343), якое ёсць і ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы з паметай *уст.* (т. 5, кн. 1, с. 344). Тое ж можна сказаць адносна слова *ятка*: р. *Jatki*, мясныя лавки или мясныя ряды (с. 66). У Тлумачальным слоўніку яно таксама прыводзіцца як устарэлае (т. 5, кн. 2, с. 506).

У прадмове да слоўніка М. І. Гарбачэўскі піша пра пэўныя цяжкасці ў вытлумачэнні старажытнай юрыдычнай лексікі. Часам некаторыя тэрміны тлумачыліся ў саміх актах, але «што патлумачана ў адным з іх, у некалькіх дзесятках або нават сотнях актаў пакінута без тлумачэння» [19]. І таму з мэтай найбольш дакладнага вытлумачэння ўкладальнік слоўніка палічыў неабходным звярнуцца да польска-лацінскага заканадаўства. Як вынікае з прадмовы, ён выкарыстоўваў заканадаўчыя дакументы, тэарэтычныя працы па заканадаўстве, даступныя яму лацінскія і польскія лексікаграфічныя даведнікі.

Сярод крыніц, да якіх звяртаўся для ўстанаўлення значэння старажытных слоў, самай надзейнай Гарбачэўскі называе 8-томны збор законаў «Volumina legum». Такую назву атрымаў «збор законаў, сеймавых пастаноў, прывілеяў і інш. заканадаўчых актаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы і правабярэжнай Украіны з 1347 да 1793–95 гадоў» [20]. Ён быў складзены варшаўскімі ксяндзамі-піярамі (лац. paters scholarum piarum – айцы набожных школ) – членамі каталіцкага манаскага ордэна,

мэтай якога была не палітычная ці місіянерская дзейнасць, а выхаванне і навучанне юнацтва [21]. У 1859–1860 гг. «Валюміна легум» і паказальнікі да 8 тамоў гэтага збору законаў перавыдаў у Пецярбургу ўдзельнік грамадскага руху 1860-х гадоў, выдавец і журналіст Іасафат Агрызка, ураджэнец Лепельскага павета Віцебскай губерні [22]. Вось гэта пецярбургскае выданне, відаць, і выкарыстоўваў М. І. Гарбачэўскі. Акрамя «Валюміна легум», укладальнік слоўніка звярнуўся да трох рэдакцый Статута ВКЛ. З тэарэтычных прац М. І. Гарбачэўскі вывучаў «Prawo cywilne narodu polskiego, ułożone przez T. Ostrowskiego» (Warszawa, 1787) і інш. Праца Тодара Астроўскага, правазнаўца і гісторыка, які ў сваіх працах побач з польскім правам разглядаў і права ВКЛ [23], прывабіла Гарбачэўскага, па-першае, тым, што ў ёй «відаць строгая паслядоўнасць і навуковы парадак або сістэма; па-другое, што аўтар быў сучаснікам старажытнага судаводства» [24]. Звяртаўся М. І. Гарбачэўскі і да лексікаграфічных крыніц. У прыватнасці, да слоўніка Ліндэ і Оргельбранда.

У адрозненне ад слоўніка Навіцкага, у «Словарь древнего актового языка» ўключаны і словы агульнаўжывальныя, якія не маюць у тэксце актавых кніг спецыяльнага юрыдычнага значэння. Напр.: *Цатки*, насѣчки, украшеніе лошадиной сбруи и латъ (с. 55); р. *Jazy*, *езы*, перегородки, которые дѣлали из дерева… чтобы рыба не переходила изъ одного мѣста в другое. Ихъ дѣлали на рѣкахъ, прудахъ и затокахъ. Сперва было постановлено закономъ, чтобы езы имѣли широкія ворота для свободного проѣзда судовъ; но послѣ вовсе запрещено было устроивать езы на судоходныхъ рѣкахъ. Vol. leg. I, f. 151,258. В 1564 году велѣно уничтожить езы по всѣмъ судоходнымъ рекамъ подъ оспасеніем штрафа въ 200 марокъ. Vol. leg. II, f. 640 (с. 166).

Іх увядзенне ў рэестравую частку абумоўлена задачамі, заяўленымі ў прадмове, адной з якіх з'яўлялася вытлумачэнне значэння малазразумелых і незразумелых слоў, якія цяжка зразумець з кантэксту самаго акта.

Лексіка размешчана паводле лацінскага алфавіта. Пад яго падведзены і словы, напісаныя кірыліцай.

Знайшлі адлюстраванне ў слоўніку і ўстойлівыя выразы, уласцівыя актавай мове. Напр.: *Далъ се сдать*, такъ говорили о позванномъ въ судъ, который хотя явился на срокъ, но при вызове его черезъ возного, не вышелъ, и потому добровольно осудилъ себя на потерю своего дѣла или процесса (с. 83–84).

З мэтай даць чытачу больш поўнае ўяўленне аб асаблівасцях старажытнай актавай мовы М. І. Гарбачэўскі змясціў у слоўніку фрагменты дакументаў на лацінскай мове з перакладам на рускую, якія не ілюструюць рэестравыя словы. Вытрымкі з дакументаў на старабеларускай мове кароткія і выкарыстоўваюцца толькі як ілюстрацыі да рэестравых слоў.

**Значэнне апублікаваных у XIX ст. збораў актавай лексікі.** Названыя лексікаграфічныя працы не страцілі навуковай значнасці да нашага часу.

Пацвярджэннем гэтага можа паслужыць перавыданне ў 1992 г. у Мюнхене слоўніка М. І. Гарбачэўскага з прадмовай вядомага славіста, даследчыка ўкраінскай мовы Алексы Горбача [25]. Вельмі каштоўным было б і выданне «Алфавитного указателя старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных в 1853 году», рукапіс якога быў падрыхтаваны І. І. Насовічам, іншых тагачасных рукапісных слоўнікаў.

Зборы старабеларускай лексікі, выдадзеныя ў XIX ст., з'явіліся важнай крыніцай на пачатковым этапе выпрацоўкі юрыдычнай тэрміналогіі сучаснай беларускай мовы. Аб іх актуальнасці аўтар 10-га выпуску Беларускай навуковай тэрміналогіі «Тэрміналогія права» юрыст Мікалай Гуткоўскі пісаў так: «Калі мы разгледзім толькі «Указатель» да І тома Літоўскай Метрыкі, то можам без памылкі сказаць, што 25 прац. (энтаў. – *Г. К.*) змешчаных там слоў жывуць і да гэтага часу ў народзе» [26]. Такое меркаванне падтрымліваў беларускі і ўкраінскі гісторык і правазнавец Леў Акіншэвіч. Больш за тое, ён лічыў, што не толькі ўжываныя народам старыя юрыдычныя тэрміны, але і «шэраг іншых старых слоў можна было б зноў увесці ў юрыдычную тэрміналогію, бо яны сугучныя беларускай мове і іх шмат хутчэй засвоіць народ, чым спехам прыладжаныя да беларускае мовы словы з іншых моў ці выдуманыя тэрміны» [27]. Рэцэнзуючы выпуск «Тэрміналогіі права», замест прыведзенага там слова *ўчастак* прапануе, спасылаючыся на слоўнік Гарбачэўскага (яно адзначана і ў слоўніку Навіцкага. – *Г. К.*), выкарыстаць *дзяльніца*, вядомае і народнай мове; замест *таможная пошліна* – *мытны збор*, паколькі *таможня* – тэрмін не беларускі, утвораны ад слова *тамга* 'даніна, якую ўвялі ў Маскоўскай Русі татары'; побач з тэрмінам *арэнда* «паставіць і стары беларускі» *пасэсія*.

Неаднаразова спасылаўся на слоўнік Гарбачэўскага і Уладзімір Дубоўка. У прыватнасці, ён лічыў неабгрунтаваным ужыванне ў беларускай мове слова *наследнік* у значэнні 'той, хто мае права на спадчыну, атрымлівае спадчыну', паколькі паводле «Словаря древнего актового языка» «дакладны сэнс слова «наследнік» у беларускай мове – «гончая собака, которая идет по стопам зверя» [28].

Матэрыял слоўнікаў XIX ст. дае магчымасць прасачыць, як мяняецца семантыка слова ў беларускай мове, а ў залежнасці ад гэтага – якія зрухі адбываюцца ў складзе лексікі заканадаўства. Напрыклад, у слоўніку І. П. Навіцкага *melioratio* тлумачыцца як 'поправка, исправленіе; при разбирательствѣ жалобъ и тяжбъ за основаніе къ разбирательству принимался позовъ, имѣвшій поэтому значеніе обвинительнаго акта; манифестации же и протестаціи могли быть дополняемы и исправляемы, почему въ концѣ каждой вносилась обычная формула, что жалобщикъ оставляетъ за собой право «поправеня» или «melioraticii» своей жалобы (с. 16). У наш жа час *меліярацыя* не спалучаецца са словам *скарга* і не з'яўляецца юрыдычным тэрмінам, паколькі мае значэнне 'сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне зямель шляхам асушэння або арашэння'.

Іншае значэнне ўласціва цяпер і такім словам, як *рэлаксацыя* (‘расслабленне’, ‘зняцце нервовага напружання’) і *субстанцыя* (‘тое, што ляжыць у аснове’). А ў слоўніку Навіцкага: *Relaxacya* – королевская грамота, возвращающая права лицу, приговоренному къ баниціи (аб’яўленне асобы па-за законам і выгнанне за межы краіны. – *Г. К.*) или инфаміи (судовае пазбаўленне гонару і грамадзянскіх правоў. – *Г. К.*), если это лицо предоставило доказательства, что оно удовлетворило тѣхъ, по дѣлу съ кѣмъ пали на него баниціи (с. 22); *Substantia* – имущество, собственность (с. 26).

Тапанімічныя назвы – неад’емны кампанент мовы дакументаў. Былыя юрыдычныя тэрміны дапамагаюць растлумачыць паходжанне некаторых сучасных тапонімаў. А разуменне сутнасці назвы населенага пункта або пэўнай мясцовасці, магчыма, засцеражэ гэту назву ад страты, ад не заўсёды апраўданай замены яе на больш сучасную.

У мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. адну з вуліц здаўна называюць Юрздыкай. Нязвыклая для нашага часу назва. Так маглі быць названыя і цэлыя паселішчы. Не ўсе яны захавалі сваю даўнюю назву: «Пасёлак Альберцін, што сёння ўваходзіць у гарадскую рысу Слоніма, калісьці быў невялічкай вёсачкай Юрздыка» [29]. Да 1978 г. існавала вёска Юрздыка ў Чэрвеньскім р-не Мінскай вобл. [30]. Як жа ўзнікла гэта назва? Узыходзіць яна да даўняга слова *юрысдыка* (*юрыдыка*), якое М. І. Гарбачэўскі тлумачыць так: *Jurysdyka*, *jurydyka*, заселенная мѣстность, подлежащая особому какому-нибудь вѣдомству и особому суду, напр. юрисдика какого-нибудь епископства, юрисдика городская, юрисдика шляхетская (с. 174–175). Значыць, *юрздыка* – гэта тэрыторыя, насельнікі якой падпарадкоўвалася не прыватнаму ўладальніку пэўнай мясцовасці (феадалу), а заставаліся падданымі вялікага князя літоўскага, «дзяржаўнымі людзьмі» [31].

На тэрыторыі Івацэвіцкага і Ляхавіцкага р-наў Брэсцкай вобл. ёсць населеныя пункты з назвай *Волька*. Да жаночага імя гэтая назва адносін не мае. Гэта памяншальная форма ад *Воля*. Тапонім *Воля* сустракаецца, напрыклад, у Івацэвіцкім, Камянецкім, Пружанскім р-нах [32]. А ў слоўніку Гарбачэўскага так тлумачыцца значэнне слова *воля*: *Воля*, дозволеніе или право, данное вотчинникомъ свободному человѣку пользоваться какою-нибудь частію пахотной земли на опредѣленный срокъ. И теперь еще встрѣчаются названія небольшихъ поземельныхъ владѣній под именами – воли, вольки, волицы. Въ Статутѣ. Лит., въ разд. IX, арт. 29 говорится: «Уставуемъ, коли бы чѣловекъ вольный пришолъ за котораго князя або пана и за земенина и селъ на воли, а выседевши волю, або и не высидевши до конца, хотѣлъ за се прочъ пойти; тогды первей маетъ заслужити тому пану своему только, колько на воли седелъ. А естли бы не хотѣлъ заслужити, тогды маетъ пенези заплатити за кождую недѣлю по шести грошей» (с. 387). Як бачым, назва права карыстацца зямельным уладаннем перайшла і на само зямельнае ўладанне, якім карысталіся. А ў некаторых беларускіх мясцовасцях гэта агульная назва ператварылася ва ўласную.

Ажыццёўленае ў XIX ст. перавыданне старабеларускіх юрыдычных дакументаў выклікала неабходнасць падрыхтоўкі і апублікавання алфавітных паказальнікаў і слоўнікаў малазразумелай (пераважна для рускамоўнага карыстальніка) старабеларускай лексікі. Іх практычная і навуковая вартасць, зразумела, неаднолькавая. З апублікаваных найбольш дасканалым, прафесійна складзеным з'явіўся «Словарь древнего актового языка сереро-западного края і Царства Польского» М. І. Гарбачэўскага.

Першапачаткова слоўнікам актавай мовы, выдадзеным у XIX ст., адводзілася роля быць дапаможнымі для разумення старабеларускіх дакументаў. Аднак з цягам часу іх значэнне набыло большую важкасць, пашырылася сфера іх прымянення. У 20-я гады XX ст. слоўнікі актавай мовы ўспрымаліся як важная крыніца папаўнення лексікі, служылі арыенцірам дакладнасці словаўжывання. На слоўнік Гарбачэўскага, напрыклад, неаднаразова спасылаліся тагачасныя стваральнікі беларускай юрыдычнай тэрміналогіі – як лінгвісты, так і правазнаўцы. Лексікаграфічная спадчына XIX ст., успрымалася мастаком лексічнай пераемнасці паміж старым і новым перыядамі ў развіцці літаратурнай мовы, дапамагала ў дапушчальных межах скарыстаць багатую, дасканала распрацаваную старабеларускую заканадаўчую тэрміналогію замест неапраўданага запазычвання ці выкарыстання няўдалых наватвораў. Гэта дае падставы разглядаць XIX ст. як перадгісторыю выпрацоўкі лінгвістычных сродкаў сучаснага беларускамоўнага заканадаўства.

Для гісторыкаў мовы слоўнікі актавай лексікі да нашага часу маюць навуковую вартасць, у сувязі з чым не страчвае актуальнасці неабходнасць апублікавання не выдадзенных у свой час лексікаграфічных прац, перадусім «Алфавитного указателя старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных в 1853 году», падрыхтаванага І. І. Насовічам.

*Мінск*

## Літаратура


1. Археографические комиссии // Энцикл. сл. / Под ред. И. Е. Андреевского; Издатели Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон. – Спб., 1890. – Т. 2 (3) : Араго – Аутка. – С. 223.

2. Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода / Н. Н. Улащик. – М., 1973. – С. 10.

3. Грыцкевіч А. П. Віленская археаграфічная камісія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. – Мінск, 1994. – Т. 2. – С. 278.

4. Андреев В. «Словарь древнего актового языка Северо-Западного Края и Царства Польского. Составлен Н. Горбачевским. Вильна 1874 года» // Филологические записки. Воронеж, 1874. – Вып. 5 (Библиография). – С. 9.

5. Археографические комиссии. – С. 222–223.

6. Хаўратовіч І. П. Грыгаровіч Іван Іванавіч // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік. – Мінск, 1995. – С. 399.

7. Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. – С. 170.

8. Горбачевский Н. И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. – Вильна, 1874. – С. I.

9. Алфавитный указатель к актовой книге, изданной Виленскою археографическою комиссиею в 1867 году: Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском Григория Богдановича Воловича, а также собрание привилегий, данных дворянам и священникам Пинского повета. – Вильна, 1873. – 125 с.

10. Срезневский И. И. Разбор сочинения И. Носовича «Алфавитный указатель старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных в 1853 году» // Отчет о восьмом присуждении наград графа Уварова, читанный в публичном заседании Императорской академии наук 25 сентября 1865 г. – Спб., 1866. – С. 14–16.

11. Общий отчет о тридцать четвертом и последнем присуждении Демидовских наград, читанный в публичном заседании Академии 25 июня 1865 года // Записки Императорской академии наук. – Спб., 1965. – Т. 8, кн. 1–2. – С. 6.

12. Срезневский И. И. Разбор сочинения И. Носовича… – С. 15.

13. Жураўскі А. І., Крамко І. І. Першы слоўнік старажытнай беларускай мовы // Вес. Акад. навук Беларускай ССР. Сер. грамад. навук. – 1963. – № 4. – С. 100–110.

14. Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. – факс. выд. – Мінск, 1983. – 792 с.

15. Хаўратовіч І. П. Насовіч Іван Іванавіч // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік. – Мінск, 1995. – С. 512.

16. Жураўскі А. І., Крамко І. І. Першы слоўнік старажытнай беларускай мовы. – С. 110.

17. Новицкий И. П. Справочный словарь юридических терминов древнего актового языка юго-западной России // Университетские известия. – Киев, 1871. – Вып. 8. – С. 1–12; 1872. – Вып. 3. – С. 13–31.

18. Барсов Н. П. «Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Составлен Н. Горбачевским. Вильна, 1874» // Отчет о восемнадцатом присуждении наград графа Уварова. – СПб., 1876. – С. 42.

19. Горбачевский Н. И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. – С. VI.

20. Галенчанка Г. Я. Валюміна легум // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. – Т. 2. – С. 217.

21. Самусік Андрэй. Піяры // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Т. 5. – С. 510.

22. Кісялёў Г. В. Агрызка Іасафат Пятровіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Т. 1. – С. 41.

23. Юхо І. А. Астроўскі Тодар // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Т. 1. – С. 225.

24. Горбачевский Н. И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. – С. VII.

25. Горбачевский Н. И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. – Munchen, 1992. – 397 с. (Specimina philologiae slayicae.)

26. Гуткоўскі М. Беларуская праўная тэрміналогія // Працы БДУ. – 1927. – № 14–15. – С. 85.

27. Окіншэвіч Л. Да пытання пра беларускую юрыдычную тэрміналогію // Полымя. – 1928. – № 4. – С. 187–195.

28. Дубоўка У. Натакі для сяброў // Узвышша. – 1929. – № 5. – С. 107.

29. Ануфрыева Вольга. Поступам Белай панны // Беларускі час. – 2006. – 23 чэрв.

30. Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунтаў Мінскай вобласці. – Мінск, 1981. – С. 194.

31. Петкевич Алексей, Полянский Алексей. Новый Свержень за шесть веков [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://novisverzen. narod. ru/ isver. htlm.

32. Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. – Мінск, 1980. – С. 30.

## Summary

In the article alphabetic indexes and dictionaries of the ancient Belarusian assembly language, published in the 19th century, are analyzed and their importance for the formation and research of modern Belarusian legal vocabulary is characterized.

*УДК 811.161.3´367:378.091.3*

*І. У. САВІЦКАЯ*

# ПАРЦЭЛЯВАНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ Ў ПАЭТЫЧНЫМ ТЭКСЦЕ: ДА ПРАБЛЕМЫ ФУНКЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫКАРЫСТАННЯ

*(Паступіў у рэдкалегію 17. 03. 2010 г.)*

Вершаваны тэкст, з аднаго боку, падпарадкоўваецца ўсім правілам пэўнай мовы, з другога боку, на яго накладваюцца абмежаванні, якія заключаюцца ў захаванні пэўных метра-рытмічных норм і строгай арганізаванасці на фаналагічным, рыфмавым, лексічным і ідэйна-кампазіцыйным узроўнях. Разам з тым даследчыкі адзначаюць, што такія абмежаванні прыводзяць не да памяншэння, а да павелічэння магчымасцей новых адзінак унутры тэксту. З гэтага пункту погляду цікавасць выклікае аналіз функцыянавання ў вершаванай мове парцэляваных канструкцый (ПК), якія на матэрыяле паэзіі амаль не вывучаліся.

Шырокае выкарыстанне ПК у паэзіі звязана, па-першае, з асаблівасцямі індывідуальна-аўтарскага стылю паэта, па-другое, з метрычнай арганізацыяй, павышанай эмацыянальнасцю, спецыфічнай рытмічнай і сэнсавай інтанацыяй вершаваных тэкстаў. Парцэляцыйнае чляненне дазваляе перадаць не толькі розныя сэнсавыя адносіны, але і разнастайныя эмацыянальна-экспрэсіўныя наслаенні ў семантыцы сказа, дапамагае «выдзеліць тую ці іншую частку сказа ў граматычна самастойную камунікатыўную адзінку, падкрэсліць яе асаблівую сэнсавую важнасць, актуалізаваць і павысіць яе інфармацыйную ёмістасць і выразнасць, а таксама разгрузіць сэнсавую і граматычную структуру зыходнага сказа» [1].

Парцэлявацца могуць сказы любой граматычнай структуры, але, як паказваюць моўныя факты, у вершаваных тэкстах найбольш ужывальныя ПК, пабудаваныя па мадэлі складанага сказа (часцей – складаназалежнага). У іх расчляненне адбываецца, як правіла, па лініі граматычнай сувязі галоўнай і даданай (даданых) частак або паміж даданымі часткамі: *Хлапчук у гэты міг падрос ад шчасця, / Медаль ля сэрца патрымаў – / І аддае. / У маленстве ён прымерваў славу бацькі. /* ***Каб дарасці ў справах да яе*** (А. Пысін); *А я сціскаю ў жорсткай жмені / Сухар салдацкі й рад да слёз, / Што унтэр больш не будзе біцца / І пад агонь штоночы гнаць, / Што з кацялком па чачавіцу / Ужо салдату не стаяць. //* ***Што ліхалецце ўжо мінула, / І адышла ў нябыт вайна, / На лес сухі гарматным гулам / Са свету схлынула яна*** (В. Вітка).

Чляненне выказвання можа адбывацца ўнутры адной з прэдыкатыўных адзінак. У такіх выпадках у парцэляце паўтараецца апорнае слова базавага сказа, якое структурна прымацоўвае дадзеную частку: *Пайду* ***туды****, дзе спяць прасёлкі, / Дзе грузнуць колы ў пяску, / Дзе мыюць вокны навасёлкі / І дзеці вудзяць на мастку... // **Туды**, дзе травы ў шэрым пыле, / Дзе непраходней і цвярдзей, / Дзе, можа стацца, не хадзілі / Больш далікатныя з людзей* (Е. Лось); *Не знаю, пошасць ці мода, можа, – / Знаць, усяго патрошку – / **Ставіць** усюды, дзе толькі можна, / Мемарыяльныя дошкі. // **Ставіць**, дзе хто на свет з'явіўся, / Ставіць, дзе поўзаў ракам, / Дзе хто вучыўся, дзе хто жаніўся, / Дзе што пісаў, небарака* (М. Танк).

Валодаючы ўсімі прыкметамі сказа, прэдыкатыўныя адзінкі, афармленыя асобна, атрымалі адпаведнае інтанацыйнае афармленне. Але базавая частка і парцэлят застаюцца цесна звязанымі адзін з адным паводле сэнсу і сінтаксічна, чаму садзейнічае адпаведны лексічны склад, сэнсавая суаднесенасць, наяўнасць паўтораў, паралелізм канструкцый і інш. Разрыў паміж прэдыкатыўнымі адзінкамі суправаджаецца больш працяглай паўзай у маўленні, што вядзе не толькі да асэнсавання выказанай думкі, а і рыхтуе чытача да ўспрыняцця наступнай часткі выказвання, якая набывае асобую камунікатыўную значнасць, часта нясе асноўную інфармацыйную нагрузку.

Шырокае выкарыстанне аўтарамі складаных ПК тлумачыцца большай інфармацыйнай насычанасцю паэтычных тэкстаў у параўнанні з празаічнымі, пэўнымі метрычнымі і інтанацыйнымі заканамернасцямі.

Значна радзей у паэтычных тэкстах сустракаецца парцэляванне асобных членаў сказа. У такіх выпадках адчляняюцца аднародныя галоўныя або даданыя члены сказа, аб'яднаныя злучнікамі, бо «яны лягчэй набываюць камунікатыўную самастойнасць, становяцца больш прэдыкатыўнымі» [2]: *А чым жа слаўны той, філадэльфійскі? / Ён, калі верыць даўняму паданню, / Раз толькі зазваніў, каб абвясціць / Амерыку краінай незалежнай. / **І змоўк*** (М. Лужанін).

Як адзначаюць многія даследчыкі (Г. Ф. Калашнікава, Ю. В. Ваннікаў, Н. І. Фарманоўская, І. А. Рычкова, А. П. Скавароднікаў, Ж. Я. Петрашэўская і інш.), асноўная функцыя парцэляцыі ў тэксце (як празаічным, так і паэтычным) – **экспрэсіўная**; яна заключаецца ў «сэнсавым і граматычным выдзяленні парцэлята» [3]. Выкарыстанне паэтамі ПК мае на мэце «надаваць паведамленню, заключанаму ў пэўным сказе, такую форму, якая садзейнічае большай выразнасці пры перадачы інфармацыі і дапамагае ўспрыняццю адрасатам у першую чаргу індывідуальна важнага ва ўсім паведамленні або ў якім-небудзь яго звяне» [4].

Экспрэсіўная функцыя парцэляваных канструкцый у паэзіі рэалізуецца праз расстаноўку рытма-меладычных і сэнсавых акцэнтаў.

Як вядома, у паэтычных творах існуе рытма-меладычная інтанацыя (асноўная) і сэнсавая (дадатковая). Парцэляцыя, з аднаго боку, можа быць

выкарыстана для выражэння рытмічнай інтанацыі, з другога – яна дапамагае пазбавіцца ад суб’ектывізму ў расстаноўцы сэнсавых акцэнтаў, бо неабходная сэнсавая інтанацыя дакладна закладзена аўтарам. Напр., канструкцыя *Сябры забылі – бы глухімі сталі, / Нат на лісты адказу не даюць. /* ***Таму звяртаюся ў лясныя далі / Да птушак дарагіх, што там жывуць*** (П. Прыходзька) складаецца з дзвюх частак: базавай (яна самастойная ў структурна-сінтаксічных і семантычных адносінах) і парцэлята (ён сінтаксічна і семантычна залежыць ад базавай часткі і ўяўляе сабой блок даданых). Расчляненне адбываецца на мяжы прэдыкатыўных адзінак і характарызуецца зменай рытму (працяглай паўзай), якая на пісьме перадаецца кропкай.

Такім чынам, пры парцэляцыі падкрэсліваецца рытма-інтанацыйнае чляненне выказвання і адбываецца сэнсавае выдзяленне тых адрэзкаў, якія аўтар лічыць найбольш значнымі. У залежнасці ад таго, якая частка выносіцца ў парцэлят, мяняецца актуальнае чляненне выказвання і адбываецца пераакцэнтуацыя ўсяго фрагмента тэксту. Таму невыпадкова ў мовазнаўстве парцэлят разглядаецца як рэма, бо «рэма заўсёды больш моцна выражана, а парцэлят якраз характарызуецца спецыфічнай акцэнтаванай постпазіцыяй, выдзяляючыся ў асобую інтанацыйную групу ў адносінах да базавай часткі» [5].

Экспрэсіўная функцыя ПК з’яўляецца «асноўнай, або пастаяннай, бо яна праяўляецца пры любой тэкставай рэалізацыі парцэляванага сказа» [6]. Гэтая функцыя ўключае ў сябе шэраг прыватных стылістычна-семантычных праяў. Так, досыць разнастайнымі з’яўляюцца канкрэтныя сэнсавыя функцыі ПК (іх некаторыя даследчыкі называюць факультатыўнымі, або пераменнымі), яны непасрэдна адлюстроўваюць намеры аўтара і звязаны як са структурай парцэляванай канструкцыі, яе лексічным напаўненнем, так і з рознымі ўмовамі яе рэалізацыі. Аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, што ПК у паэзіі выконваюць самыя розныя прыватныя стылістычныя функцыі, пры гэтым часта рэалізуюцца з іншымі экспрэсіўнымі прыёмамі: паўторам, структурным паралелізмам і г. д.

Адной з праяў экспрэсіўнай функцыі з’яўляецца экспрэсіўнае выдзяленне часткі выказвання, якая падкрэслівае, удакладняе дэталь, факт або рысу характару героя. У гэтай функцыі парцэлююцца цэлыя прэдыкатыўныя адзінкі, радзей – азначэнні і акалічнасці: *Вось і цяпер / На мне яшчэ зусім прызваіты касцюм / Грузчыка чалавечых надзей, / Разведчыка будучыні. //* ***Касцюм, які мог бы насіць яшчэ, / Можа, паўсотні гадоў*** (М. Танк); *Калі прайсці ад Слуцка да Нясвіжа, / Наспорваеш такіх званоў / з каплічак / Не менш за сотню.* ***І не меней звонкіх*** (М. Лужанін); *Жывеш ты ў сонцы, на прагалку, / І стаў прасторным курны дом, / А сню такой, як ведаў змалку, / На жытняй постаці.* ***З сярпом*** (М. Лужанін).

У такіх сказах парцэляты дапаўняюць, канкрэтызуюць папярэдняе выказванне, уносяць у яго папраўкі. Напр.: *Шуміць лістотаю бяроз / Дождж.*

***Памінальны дождж*** (М. Танк); *І далечы неба, і земную шыр / Мой подпіс займае. /* ***Мой подпіс за мір*** (М. Лужанін); *Вось напамінак горкі / Для прэзідэнтаў. /* ***Крышку справядлівых*** (М. Лужанін).

Парцэляваныя канструкцыі нярэдка выконваюць функцыю паяснення выказанага ў базавай частцы. Парцэлят у такім выпадку тлумачыць, раскрывае, паясняе змест папярэдняга выказвання і звязаны з ім часцей за ўсё злучнікам **бо**. Напр.: *Цяжэй за ўсё гаварыць / Не з дрэвамі і птушкамі, / Не з вадой і агнём, / Не з ветрамі і аблокамі, – / А з чалавекам. //* ***Бо*** *нават калі ён / Гаворыць тое самае, / Што і ты, / Гэта можа быць зусім / Што іншае* (М. Танк); *Баліць галава / У былога байца, / Але ён не можа / Ляжаць. /* ***Бо*** *толькі ўспомніць / Пякучасць свінца – / І ў жылах / Агні / Заімжаць* (К. Кірэенка).

Парцэляты ў вершаваных творах дапамагаюць аўтару выказаць суб'ектыўную ацэнку тых ці іншых падзей, герояў, акцэнтаваць увагу на адносінах да выказанай думкі: *Мы ўмелі трымаць сваё слова сяброўкам, / Жыць удачай адной і адною бядой. / Мы ўмелі… /* ***А многа чаго не ўмелі, / Пракладаючы першымі ўдалеч сляды*** (А. Звонак); *Я – пісьменнік. / Гэта значыць: / Спецыяльнасць мая – спецыяльнасць сапёра. /* ***Які ўсё жыццё размініравае шляхі / Да любові, / Дружбы, / Міру*** (М. Танк); *І госць, і падарожны ў нас, / Як дома. /* ***А злым і травы колюцца ў бакі*** (Р. Барадулін).

У аўтарскім аповедзе парцэляваныя канструкцыі ў такой функцыі дапамагаюць узмацніць эфект захаплення, сумнення, здзіўлення і г. д., перадаць іранічныя адносіны аўтара да свайго героя ці да пэўнай падзеі, з'явы.

Значнай выразнасцю валодаюць ПК, у якіх парцэлят выражаны параўнальным зваротам або дададанай параўнальнай часткай. У іх экспрэсіўнасць павялічваецца за кошт спалучэння сэнсавага выдзялення часткі выказвання з перадачай параўнальных адносін. Напр.: *Я люблю знаёміцца без гідаў, / Без ніякіх там праваднікоў / З новым горадам ці краявідам, / Плошчай, гмахам, засенню садоў. //* ***Быццам кнігу даўнюю чытаеш, / Сочыш ход гісторыі, падзей, / На старонках вуліц вывучаеш / Звычаі, характары людзей*** (М. Танк); *Перад табой жанчына на карціне, / Абуджаная толькі што ад сну. / У люстэрка паглядае гэтак пільна – /* ***Бы ў ім заўважыла вясну. / Нібы само люструецца каханне, / У люстры заўважаючы сябе*** (П. Прыходзька).

У многіх ПК парцэлят выражае вынік, вывад, заключэнне ці пацвярджэнне таго, аб чым гаворыцца ў базавай частцы. Так, у сказе *Я прайшоў праз кастры інквізіцый, / Праз мячы мячоў і алебардаў, / Праз руіны надзей і цямніцы, / Праз часы цемрашальства, пагарды. /* ***І хацеў свой зямны лёс праклясці*** (М. Танк) парцэлят выконвае абагульняльную функцыю ў адносінах да папярэдняга паведамлення. У канструкцыі *Юнацтва мінула / На сцежках этапных / У пошуках шчасця, / Штодзённага хлеба, / Незакратаванага сонца і песні. //* ***Таму і міма яго / Можна прайсці, не спыняцца*** (М. Танк) паміж базавай часткай і парцэлятам прычынна-выніковыя адносіны.

Выразнасцю валодаюць ПК з наслаеннем парцэлятаў, якія ідуць адзін за адным. У выніку адбываецца паслядоўнае развіццё думкі. Такія канструкцыі садзейнічаюць яшчэ большаму сэнсаваму выдзяленню парцэляваных частак выказвання, узмацненню іх эмацыянальна-экспрэсіўнага гучання. Напр.: *І ў Завыдране, і ў Рыме / Цяжка зладзіць са старымі. /* ***Бо забылі за гадамі, / Што яны рабілі самі. / Як гулялі, / Як кахалі, / Як з чужых вакон скакалі*** (Р. Барадулін); *Быў чужым-далёкім, / А зрабіўся любым / Ты – казак душою, / З гэтым чорным чубам. /* ***З гэтай выгінастасцю / Броў густых, шырокіх. / З гэтай дзікаватасцю / У позірку глыбокім*** (Е. Лось).

Выкарыстоўваючы канструкцыі з некалькімі парцэляцыйнымі разрывамі, аўтары дасягаюць інтанацыйна-зместавага нагнятання за кошт аднародных членаў сказа ці даданых частак, вынесеных у парцэляты. Для іх характэрна паўза нагнятання, калі з кожнай аддзеленай часткай ідзе нарастанне тону, а кульмінацыя дасягаецца ў апошнім парцэляце: *Брат загінуў даўно... За другога братоўка / Выйшла замуж, дзяцей нарадзіла другіх... /* ***А сястра ўсё прыходзіць; пагладзіць галоўкі / Ды ўглядаецца ў вочкі няродныя іх. // Нібы хоча ў чорненькіх тых вачанятах / Адшукаць гэткі мілы і родны блакіт... / Нібы хоча ў ручках, угору паднятых, / Хоць на момант адчуць ласку братняй рукі*** (Е. Лось).

Нярэдка, паводле нашых назіранняў, у вершаваных творах ужываюцца парцэляваныя сказы з паўторам. У парцэлят выносіцца не толькі паўторанае слова ці словазлучэнне, але і члены сказа, якія не ўвайшлі ў базавую частку: *Паўночы сон не хмарыць маці. / На шыбах пачынае днець, / Чырвонай ніткаю* ***закляцце*** */ Тчэ на кужэльным палатне. /* ***Закляцце*** *ад варожай кулі, / Ад лютай смерці, ад пятлі, / Ад груганоў, каб праз кашулю / Дастаць да сэрца не маглі* (М. Танк); *Усе мае* ***думкі з табою****, Айчына, / Усе мае* ***думкі з табою****, зямля, – / Звонкая між мурагу ручаіна, / Чорная пад лемяхамі ралля! /* ***Думкі з табою****, багатая хлебам, / Простаю ежай, мядовым пітвом* (Е. Лось).

Парцэлят з паўторам не проста выдзяляе нейкае слова, але і канкрэтызуе яго, служыць як бы азначэннем да базавай часткі ці да якога-небудзь яе члена. У ім – дадатковыя, часам вельмі істотныя і неабходныя, з пункту погляду аўтара, звесткі, што павышае агульную экспрэсіўнасць выказвання: *Старонкі пісьменнікі разгарнулі – / Паэты* ***паэтава сэрца*** *пачулі.../* ***Паэтава сэрца****, што кніжкі гартала, / Што ў крылцах малых жаўрука трапятала, / Што чорнай гадзінай збірала ў дарогу, / Што верыла ў перамогу* (Е. Лось); *Апоўнач з воблакаў туманных / Цікаўны месяц зазірне, / Ля хаты ўбачыць закаханых /* ***Цень*** *на сцяне. / Той* ***цень****, што ў час спякоты пыльнай / Нас ахалодай ахіне* (С. Гаўрусёў).

Экспрэсіўная функцыя парцэляваных канструкцый у вершаваных творах, як ужо адзначалася, асноўная, аднак яна не адзіная. Ужываюцца ў паэтычных тэкстах і ПК з функцыяй **палягчэння ўспрыняцця** (некаторыя вучоныя (Е. А. Скарабагатава, Г. Ф. Калашнікава і інш.) вызначаюць яе як функцыю «зняцця глыбіні»).

З аднаго боку, парцэляцыя павышае інфармацыйнасць паведамлення, бо да інфармацыі, якая змяшчаецца ў кожнай з фраз, даецца дадатковая інфармацыя аб тым, што аўтар лічыць асабліва важным змест другой фразы – камунікатыўна самастойнага постпазіцыйнага парцэлята, з другога – успрыманне канструкцыі, дзякуючы групаванню яе кампанентаў, становіцца больш лёгкім, бо кожная фраза валодае інтанацыяй заканчэння і ўспрымаецца самастойна, а сэнсавыя адносіны паміж часткамі захоўваюцца. Напр.: *Я згодзен з Ірвінгам, / Што ўся Іспанія – зачараваны край. /* ***Бо дзе наяве / Ты сустрэнеш столькі / Жывых Калумбаў, Дон Кіхотаў, / Матак боскіх, / Махаў Гоі, / Эльгрэкаўскіх манахаў і галубоў Пікаса! / Дзе ўбачыш столькі / Сувенірных пік, кінжалаў, / Алебардаў, ружаў і крыжоў, / Нібыта ўся Іспанія / Падрыхтавалася / Ісці супроць няверных / Ці толькі што / Вярнулася з паходу*** (М. Танк).

Выкарыстанне ў паэзіі прыёму парцэляцыі, як ужо адзначалася, звязана з характэрнай асаблівасцю паэтычнага тэксту – яго лаканічнасцю і адначасова інфармацыйнай насычанасцю. Паэтычны рытм, мнагазначнасць паэтычнага вобраза, строгая арганізаванасць надае вершаванаму тэксту дадатковыя сэнсавыя адценні. Адсюль функцыя палягчэння ўспрыняцця становіцца досыць важнай у выказваннях вялікай працягласці, пабудаваных па мадэлях многакампанентных складаных сказаў.

Разгледзім наступную ПК: *Мы адступалі, падпаліўшы / Свае сядзібы і зямлю. //* ***Каб там, дзе завітае вораг / Або праскоча яго конь, – / Бурлілі рэкі і азёры / І помстай палымнеў агонь. // Каб на шляхах, палях, у акопах / Спакою вораг не зазнаў, / Каб жвір сыры, гарачы попел / Яго магілы засыпаў*** (М. Танк). Канструкцыя пабудавана па мадэлі складаназалежнага сказа з некалькімі даданымі са змешаным падпарадкаваннем (усяго сем прэдыкатыўных адзінак). Выказванне разбіваецца на тры фразы (базавую частку і два парцэляты), што палягчае яго ўспрыняцце, не парушаючы пры гэтым лагічнай сувязі паміж фразамі.

Такім чынам, мы прыйшлі да высновы, што парцэляцыя ў паэтычных тэкстах выконвае дзве функцыі: экспрэсіўную (сэнсавае выдзяленне элементаў маўлення) і функцыю палягчэння ўспрыняцця, прычым першая функцыя – асноўная, пастаянная, а другая рэалізуецца пераважна ў складаных структурах вялікай працягласці.

Прааналізаваныя выпадкі функцыянавання парцэляцыі ў паэзіі не вычэрпваюць усёй разнастайнасці рэалізацыі тых стылістычных магчымасцей, якімі валодае гэты прыём. Акрамя таго, для стварэння асобай экспрэсіі верша ПК часта выкарыстоўваюцца ў спалучэнні з разнастайнымі лексічнымі сродкамі і экспрэсіўнымі сінтаксічнымі прыёмамі. Ужыванне парцэляваных канструкцый – спецыфічная асаблівасць паэтычнага сінтаксісу; іх шырокае функцыянаванне ў паэзіі звязана са структурна-кампазіцыйнай і рытма-меладычнай пабудовай вершаванага твора і залежыць ад творчай манеры паэта.

*Мінск*

## Літаратура

1. Артюшков И. В. Прерванные предложения (На материале поэзии А. Блока) // Русский язык в школе. – 1984. – № 4. – С. 84.

2. Артюшков И. В. Прерванные предложения (На материале поэзии А. Блока). – С. 84.

3. Петрашевская Ж. Е. К вопросу о парцелляции как приеме экспрессивного синтаксиса // Проблемы грамматики и стилистики английского языка. – М., 1973. – С. 159.

4. Зельцер В. И. Парцелляция как прием актуализации основных синтагм сложноподчиненного предложения // Принципы и методы лексико-грамматических исследований. – Л., 1973. – С. 178.

5. Петрашевская Ж. Е. К вопросу о парцелляции как приеме экспрессивного синтаксиса. – С. 158–159.

6. Сковородников А. П. О функциях парцелляции в современном русском литературном языке // Русский язык в школе. – 1980. – № 5. – С. 86.

## Summary

This article deals with the research of parceling sentences in Belarusian poetic texts. Their structure, peculiarities of their usage as well as functions of parceling dividing in poetry are analyzed.

*УДК 821.161.3.09-1=030.161.3=161.1+821.161.3(092) Танк*

*А. М. АСТАПЧУК*

# ТРАНСФАРМАЦЫІ ВОБРАЗНАГА ЗМЕСТУ ВЕРШАЎ МАКСІМА ТАНКА ПРЫ ПЕРАКЛАДЗЕ НА РУСКУЮ МОВУ

*(Паступіў у рэдкалегію 25.01.2010 г.)*

Для паэзіі Максіма Танка характэрна стрыманасць, памяркоўнасць, «імкненне да падкрэсленай строгасці і прастаты верша. Яна заўважаецца ў той свабодзе і ўяўнай лёгкасці, з якімі аўтар піша пра самыя разнастайныя жыццёвыя з'явы» [1]. Гэтыя індывідуальныя аўтарскія асаблівасці вершаў важна захаваць пры перадачы сродкамі іншай мовы, бо «ў мастацкім перакладзе ўзнаўляецца (перакладаецца) не слова само па сабе, а аўтарскае бачанне акаляючага свету, выражанае ў слове» [2]. Пераклады вершаў Максіма Танка на рускую мову, выкананыя Н. Кіслікам, Я. Хелемскім, А. Пракоф'евым, Г. Кураневым, не заўсёды перадаюць спецыфіку арыгінальных тэкстаў.

Так, у вершы «З вяселля» аўтар піша: *Вяртаюцца госці з вяселля. / Відаць, хмель яшчэ не прайшоў, / Бо ўсё, што не раз перапелі, / Спяваюць заўзята ізноў* [3, 145]. – ***Средь ночи*** *со свадьбы под хмелем /* ***Уносятся*** *гости: –* ***Гони!***.. */ И все, что сто раз перепели, / Опять запевают они* [5, 138]. У перакладзе госці чамусьці вельмі хутка з'язджаюць, нібыта збягаюць: *уноситься* – 'быстро двигаясь, перемещаясь, удаляться // *разг*. быстро убегать'[1] ды яшчэ просяць вазніцу, каб той гнаў, быццам бы зрабілі нешта дрэннае, ці напалохала іх штосьці, але пры гэтым спяваюць.

Апісанне падзей адрозніваецца ў арыгінальных і перакладных радках верша «У чыстым полі»: *У чыстым полі сваты блудзілі, / Блудзілі, скрыпку сваю згубілі. // А каля яра, дзе коней гналі, / У сумётах кінулі і цымбалы* [3, 210]. – *Средь чистого поля сваты плутали, /* ***С похмелья*** *скрипку свою потеряли. // А возле яра коней* ***шатало*** *– / И полетели в сугроб цимбалы* [5, 145]. У аўтарскім тэксце размова пра пахмелле не ідзе: сваты блудзілі, а потым *гналі коней,* таму згубілі *скрыпку* і *цымбалы*; у перакладным варыянце прычына іншая: і сваты былі *с похмелья,* і нават *коней шатало.* У арыгінале завея на гэтых інструментах грае ўмеючы: *Цяпер завея на скрыпцы грае, / Цымбалаў струны перабірае, // Дзьме у гармонік, б'е ў бубен глуха, / Аж часам спынішся, каб паслухаць. // Куды нясецца шы-*

[1] Словарь русского языка: В 4 т. – 2-е изд., испр. и доп. – М., 1981–1984 (далей СРЯ).

*рокім светам / Завея гэта – вяселле гэта?* [3, 210]. У перакладзе завея ***Терзает*** *скрипку, бьет в бубен глухо... / Никак не уловит чуткое ухо, // Куда несёт их по белу свету – / Метелицу-сваху, всю свадьбу эту?* [5, 145]. Дзеяслоў *терзать* мае значэнне ‘рвать, раздирать на части’ (СРЯ). Трэба таксама заўважыць, што ў аўтарскім тэксце завея ёсць вяселле, і яна з’яўляецца актыўным суб’ектам (*нясецца шырокім светам*), у перакладным жа тэксце завея – сваха, а вяселле – асобны вобраз, і іх нешта *несёт по белу свету* (залежны стан).

У вершы «Перад дарогай» аўтар параўноўвае пачуцці, выкліканыя ад’ездам у заморскія краіны, з тымі, што ўзнікалі падчас мінулых падзей (хвалюючых паездак у дзяцінстве з дзедам па сена, па дровы, на кірмаш): *... І хоць не з такім хваляваннем сягоння / За свет, у краіны заморскія еду, / Як некалі ехаў праз родныя гоні / Па дровы, па сена, кірмашаваць з дзедам; // І хоць, пакідаючы дом свой, краіну, / Даўжэй, як тады, не адводжу я зроку / Ад белай ў імгле развітальнай хусціны, / Ад родных прычалаў, зямлі і аблокаў, // – І зноў я ў дарозе...* [3, 64–65]. Перакладчык жа праводзіць паралелі з цяперашнім наведваннем родных мясцін: …*Не с тем бесконечно знакомым волненьем / Сегодня в заморские страны я еду, / С каким* ***уезжаю порою весенней*** / ***В полесскую пущу, на озеро, к деду****. // Но, в путь отправляясь далекий, пожалуй, / Обычного дольше в раздумье гляжу я / На белый платочек в толпе у причала, / На* ***стройные краны****, на землю родную. // Я снова в дороге* [5, 123]. Выбіваецца з простага аповеду мудрагелісты выраз *Обычного дольше в раздумье гляжу*; аб’екты назірання ў перакладным тэксце не адпавядаюць арыгінальным (аўтар не адводзіць вачэй ад *родных прычалаў, зямлі і аблокаў;* у поле зроку перакладчыка трапляюць *стройные краны*).

Розныя пачуцці выражаны ў аўтарскім і перакладным тэкстах верша «Ла-Манш»: …*На ганку маці, выйшаўшы, стаіць / І ўдаль, куды паехаў сын, глядзіць, / І гэту даль рукой дрыжачай хрысціць. / А з поля вее ацяжэлым дымам, / Тым дымам непаўторным ад агнёў, / Ў якім – пах свежай бульбы, верасоў... / Як блізка і далёка ты, радзіма!* [3, 71–72]. – *Мать на крыльце стоит в проеме двери / И* ***смотрит*** *вдаль, куда уехал сын… / А с поля веет чуть прогорклым дымом, / Костры в тумане средь жнивья горят, /* ***Струится кулеша знакомый аромат****… / Как близок, как далек тот край неповторимый!* [5, 125]. Экспрэсіўная напоўненасць арыгінальных радкоў пра пачуцці маці, якая *рукой дрыжачай хрысціць* тую даль, куды паехаў яе сын, у рускім тэксце страчваецца, бо маці тут усяго толькі *смотрит вдаль*. Для аўтара пах роднай старонкі – гэта пах *ацяжэлага, непаўторнага дыму,* і ў гэтым дыме – *пах свежай бульбы, верасоў*; у перакладным тэксце гэты дым зусім іншы: *чуть прогорклый,* гэта *кулеша знакомый аромат* (кулеш – *обл.* ‘жидкая кашица, размазня, похлебка, сваренная из пшена, какой-л. другой крупы или муки с салом’ (СРЯ); лексема са значнай сэнсавай нагрузкай *радзіма* перадаецца словазлучэннем *край неповторимый.* Такое абыякавае,

неашчаднае стаўленне перакладчыка да інфармацыі, якая мае канцэптуальнае значэнне і адлюстроўвае нацыянальную спецыфіку твора, недапушчальнае, бо ўшчэнт разбурае вобразную структуру верша.

У вершы «Печ» апісваюцца традыцыйныя для беларуса стравы: *... А бачылі, як у гаршках закіпае / Бацвінне ці бульба – і пена шугае? // Як пражыцца боб і гарох на патэльні, / Пякуцца бліны з караваем вясельным?// Як сушацца ягады, зёлкі з грыбамі – / Тугімі, паджарымі баравікамі?.. // Я мог бы, сябры, звонкай одаю нават / Ці нейкай паэмай печ хатнюю ўславіць* [3, 124]. У рускай версіі бульбу *жарят*, а боб і гарох, якія ў аўтарскай версіі пражацца, у перакладчыка тушацца з мясам, акрамя таго, згодна з уяўленнем перакладчыка пра беларускія стравы, у рускім тэксце з'яўляецца шкварка: *Следили вы, как в чугуне постепенно / Ботвинья, вскипая, пузырится пеной, // Как* ***жарят картошку*** *на пламени жарком, / Как* ***жиром стреляет шипящая шкварка****, / Как* ***тушится мясо с горохом, с бобами****, Как сушатся ягоды рядом с грибами? // А ежели свежим пахнет караваем, / То запах поистине незабываем! /* ***Я мог бы, «печную» использовав тему, / Создать диссертацию или поэму*** [5, 134]. Трэба таксама звярнуць увагу на тое, што ў арыгінальным тэксце аўтар гаворыць пра ўслаўленне печы ў одзе ці паэме, у перакладным жа размова ідзе пра магчымасць напісаць пра яе дысертацыю, і фраза *«печную» использовав тему* з афарбоўкай афіцыйна-справавога стылю выглядае тут недарэчнай.

Стылістычна адрозныя арыгінальныя і перакладныя радкі верша «Мне цяжка сказаць...»: *Мне цяжка сказаць, што прыгожая ты / Пакуль не прайшла праз дажджы і вятры, / Сустрэчы з няшчасцямі, горам-бядой, / Растанні на станцыі прыфрантавой, / Чаканні з вячэрняй да ранняй зары, – / Мне цяжка сказаць, што прыгожая ты* [4, 137]. – *Красива ли ты? /* ***Затрудняюсь ответить****, / Пока не прошла ты сквозь ливень и ветер, / Сквозь холод прощанья в степи снеговой, / На маленькой станции прифронтовой, / Сквозь боль ожиданья –* ***всю ночь, до рассвета – / И снова – до сумерек, до темноты****... / Прости, но пока не прошла ты сквозь это, / Мне трудно ответить – красива ли ты* [5, 181]. У перакладзе зусім недарэчным з'яўляецца канцылярызм *затрудняюсь ответить*, а таксама залішняе шматслоўе.

Трансфармацыі вобразнага зместу назіраюцца і ў рускай версіі верша «Над возерам Марское вока»: *Горы, даліны, горы, даліны... / Быццам на ўсю тут старану / Гармонік гучны пад небам сінім / Нейкі музыка расцягнуў. / Расцягнуў велізарны гармонік – / Загаманілі на ўсе галасы / І верхавіны, і прадонні, / І вадаспады, і лясы* [3, 108]. – *Горы, долины, горы, долины... / Кажется, будто на всю страну / Кто-то баян* ***бесконечно длинный*** */ Под небом праздничным растянул. / Мехи развернул, излучая веселье, / И зазвенели на все голоса / Все верховины, и ущелья, / И водопады, и леса* [5, 131]. У арыгінале апісваюцца слыхавыя ассацыяцыі (*гармонік гучны*), у перакладзе – зрокавыя: тут гармонік *бесконечно длинный* і расцягнуўся *на всю страну.* Можна гаварыць тут таксама пра няўважлівасць перакладчыка,

які перадаў беларускую лексему *старана* рускай *страна*, якая не адпавядае кантэксту.

У вершы «Роздум» аўтар прызнаецца, што ў яго *Ад рыфмаў дакучных баліць галава, / Да раніцы мучыць бяссонніца. / Прывык да дыэты, да цёплых галёш, / Да лазні з бярозавым венікам. / Пісаць пачынаю ўсё горш я і горш – / Пара выбіраць акадэмікам* [3, 127–128], перакладчык – што *«**Трещит** от докучной рифмовки **башка**, / И мучит до света бессонница. / **Диету жую, никуда не спешу**, / Лишь в баню с березовым веником. / Все хуже, **ленивей, беззубей** пишу – / Пора выбирать академиком* [5, 135]. Па-першае, рускі выраз *трещит башка* стылістычна зніжаны; па-другое, сэнсавыя акцэнты змешчаны: у беларускім тэксце пералічваюцца тыя рэчы, якія сталі звыклымі для аўтара: дыета, цёплыя галёшы, лазня. Перакладныя радкі *Диету жую, никуда не спешу, Лишь в баню с березовым веником* не адпавядаюць сэнсу аўтарскага тэксту. Падаецца неапраўданай і пэўная канкрэтызацыя якасці пісьма аўтара (*ленивей, беззубей*), пра якія ў арыгінале гаворка не ідзе.

Рознае сэнсавае напаўненне і ў наступных радках арыгінала і перакладу: *Так захацелася пагаварыць з сасной – / Даўнейшаю сяброўкаю маёй, / Якая недзе на сваіх галінах / Калыша сонца з клёкатам бусліным / І ценем стромага свайго ствала / Час адзначае жыхарам сяла* [4, 50]. – *Так захотелось мне поговорить с сосной, / Подругой давнею, почти сестрой! / Она в своей зеленой пышной кроне / **Колышет звезды, и пичуг укроет**, / И тенью корабельного ствола / **Век отмеряет** жителям села* [5, 166]. Незразумелая пазіцыя перакладчыка, які вырашыў замяніць вобразы: сонца ператвараецца ў зоркі, а бусліны клёкат – у пічуг. Прыцягвае ўвагу і граматычна няправільная пабудова рускага сказа, дзе не супадае дзеяслоўны час (*колышет звезды, и пичуг укроет*). Аўтарскія словы пра тое, што цень ствала *час адзначае жыхарам сяла,* носяць будзённы характар, у перакладзе выраз *век отмеряет* мае лёсавызначальны сэнс.

У вершы «Хлеб мой надзённы» аўтар дзеліцца сваімі штодзённымі турботамі: *Непакой за цябе, зямля мая, / За твой ураджай, спакойны сон, / За дрэва кожнае ў гаях, / За весніх песень перазвон, / Непакой за цябе, зямля мая, – / Мой хлеб надзённы* [3, 92]. – *О вас я забочусь, родные края, / Об урожае, о мирном сне, / О том, **чтоб хватило людям жилья**, / О том, чтоб деревья цвели по весне. / И эта земная забота моя – / Хлеб мой насущный* [5, 129]. У беларускім тэксце аўтарскі непакой – за родную зямлю, яе ўраджай, спакойны сон, за дрэвы і песні. У рускім варыянце мяняецца сэнсавая дамінанта выказвання; клопат ахоплівае іншыя бакі жыцця, і канкрэтызацыя *чтоб хватило людям жилья* мае прагматычную накіраванасць, якая тут зусім недарэчная, паколькі «выпадае» з семантычнага поля і не адпавядае пачуццям, выражаным аўтарам.

Такога ж тыпу сэнсавыя трансфармацыі назіраюцца і ў перакладзе верша «Растуць нашы словы, як дрэвы…»: *Растуць нашы словы, як дрэвы. /*

*Вазьмі хоць бы слова «Любоў» / І прасачы ўсе напевы / Галінак яго і лістоў. // Любоў мая, Любачка, Любка. / А Любчаў, Любаней – больш ста. / Прылюбчыкаў, Любчыкаў – лубка. / Ну проста – адна любата!* [3, 265]. *– Слова, как деревья, ветвисты, / Возьми хоть бы слово «любовь». / Войди в этот мир многолистый / И в музыку вслушайся вновь. // Любовь моя. Любонька. Люба. / Любляна, Любань. Люблино. /* ***К губам прижимаются губы, / И все на земле влюблено*** [5, 152]. Перакладчык зводзіць усеабдымнае пачуццё да яго фізічнага праяўлення і разбурае аўтарскі вобраз вышэйшай любові. Паказальным з'яўляецца і тое, што ў аўтарскім тэксце слова *«Любоў»* падаецца з вялікай літары, у перакладным – з малой. Далейшыя танкаўскія радкі гучаць наступным чынам: *Як дрэвы, растуць усе словы, / Ўздымаючы кроны свае, / Дзе вецер гуляе вясновы, / Птушынае племя пяе. // Абвіты ліствою стазвоннай, / І я стаў падобны зусім / Да цёмна-зялёнага клёна / На беразе Нёмна крутым* [3, 266]. У рускім варыянце – *Слова разрослись, как деревья, / Вершины вздымая свои. /* ***К ним тянутся птичьи кочевья****, / И в кронах свистят соловьи. // Обвитый листвою стозвонной, / На* ***круче, на самом краю****, / Я, схожий с наднеманским кленом, / Светло и влюбленно пою* [5, 152]. Аўтар гаворыць пра тое, што стаў зусім падобны да клёна, як бы ператварыўся ў яго; у перакладным тэксце лірычны герой бачыцца ў чалавечай постаці, пры гэтым ён *светло и влюбленно* спявае.

Вобразны змест адрозны ў арыгінальных і перакладных радках верша «Выкуп нявесты»: …*У натоўп наш / Цукеркі / лятуць вераб'ямі. / Покуль шапкамі ловім іх, / Віхрам праносяцца коні, / Смех баярак, / сватоў / і нявеста ў слязах* [4, 138]. *– И в нашу гурьбу с размахом летят / Конфеты, конфеты, конфеты, / А мы их* ***шапками ловим, / Как воробьев****. / Вихрем проносится / Смех подружек, / Раскатистый хохот сватов, / Невеста в слезах* [5, 182]. Аўтарская метафара передаецца ў рускім тэксце параўнаннем, якое пераносіць акцэнты з вобраза *цукерак-вераб'ёў* на лоўлю шапкамі птушак-вераб'ёў; неапраўданым з'яўляецца паўтор лексемы *конфеты*, а таксама ўдакладненне-характарыстыка смеху сватоў (*раскатистый хохот*).

Трансфармацыі падлягаюць і радкі верша «За Палярным кругам» *...Адчуваю, што трапіў / За рубеж нейкіх сноў / Неразгаданых, дзе / Тундра ўсіх абдымае / Мядзвежаю лапай...* [4, 30], якія перадаюцца наступным чынам: *Но и так ощущаю, / Что перешагнул* ***порубежье /*** *Неких снов, / Переполненных тайною* ***всклень****, – / Здесь* ***ускраек*** *тайги / Обнимает вас лапой медвежьей...* [5, 163]. Назоўнік порубежье ўтвораны перакладчыкам ад прыметніка порубежный, зафіксаванага ў СРЯ з паметай *устар.* у значэнні 'расположенный у границы, рубежа, находящийся на границе, рубеже; пограничный'; аказіяналізм *всклень* выглядае даволі няўклюдным. Беларусізм *ускраек* таксама не на карысць чытацкаму ўспрыняццю перакладнога тэксту.

У вершы «Паэзія» выражана аўтарскае канцэптуальнае бачанне паэзіі: *Я ведаў, што ты – бліскавіца, / Што хмары рассекла; / Я ведаў, што ты – вызваленне / З няволі і пекла, // (...) І без чаго, як без маці / Або без радзімы, /*

*Ні нараджацца, ні жыць / На зямлі немагчыма!* [3, 39–40]; перакладчык жа лічыць магчымым расставіць акцэнты па-свойму*: Я знал, что ты – яркая молния, / Рассекшая тучи; / Я знал, что ты* ***– счастье и доля, / Дух волн могучий,*** *// <…>* ***И без чего – утверждаю, / И это закон непреложный –*** */* ***Любить, и работать, и жить*** */* ***На земле невозможно!*** [5, 116].

Размова пра паэзію ідзе і ў вершы «Перапіска з зямлёй», дзе аўтар даводзіць: *...Пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак, / Якія смяюцца і плачуць; / Пісаў спіцамі дрогкіх калёс, / Якарамі і мачтамі караблёў, / Штыком / і сапёрнай лапатай; / Пісаў кубкамі, з якіх п'юць / За здароўе і вечную памяць, – / Але пакуль што / Адказ атрымаў я / Толькі на ліст мой, / Напісаны плугам* [4, 6]. – *Писал я скрипок чуткими смычками, / Умеющими плакать и смеяться. / Есть* ***письма, что начертаны*** *в бою / Штыком или саперною лопатой. / Бывали и* ***посланья, что писались /*** *Не ручкой вечной, а* ***звенящим кубком, / Который поднимал я на пиру, / Провозглашая здравицу живым / Или героев павших поминая****. / Все, что пишу, земле я адресую. /* ***А получил пока что / Один-единственный ответ на то письмо, / Которое весною начертал / Надежным плугом на страницах пашни*** [5, 158]. Увядзенне аўтарам такой фігуры стылістычнага сінтаксісу, як паўтор, перакладчык палічыў неапраўданым, і пабудаваў тэкст згодна са сваім уласным уяўленнем пра структуру вершаванага радка, уводзячы выразы *письма, что начертаны; посланья, что писались.* Пры гэтым «прылады працы» падлягаюць трансфармацыі: не знаходзіць адлюстравання ў перакладзе пісанне *спіцамі дрогкіх калёс, Якарамі і мачтамі караблёў,* на месцы гэтых вобразаў з'яўляюцца лішнія эпітэты. Радкі пра кубкі, *з якіх п'юць За здароўе і вечную памяць* у рускім тэксце набываюць непатрэбную ўрачыстасць, якой няма ў арыгінале. Шматслоўе ў апошніх радках перакладнога тэксту таксама яму не на карысць, бо стварае недарэчную празмерную ўзнёсласць, якая не адпавядае аўтарскай простай манеры аповеду.

Значныя семантычныя і стылістычныя разыходжанні назіраюцца і пры перакладзе верша «Я рад, што лёс нам стрэцца выпаў...»: *...Я не хачу быць прагавітым – / На час другі прэтэндаваць, / Падлеску, маладому жыту, / Юнацтву нечаму займаць* [4, 139]. – *Нет, я не жаден. / То, что было, / Не мыслю повторить опять / И вашей свежести и силы /* ***Не тщусь на время призанять*** [5, 182]. Аўтар не хоча перашкаджаць маладому пакаленню, ён жыве тут і цяпер, не прэтэндуе на другі час; перакладчык жа звяртаецца да мінулага (*То, что было, Не мыслю повторить опять*). Да таго ж у рускім тэксце парушаюцца стылістычныя нормы праз увядзенне словазлучэння *тщусь призанять* (дзеяслоў *тщиться* фіксуецца ў СРЯ з паметай *книжн.* –‘прилагать большие усилия к чему-л. (часто напрасные, бесплодные); стараться, стремиться’, а *призанять* – з паметай *разг.* – ‘занять немного или ненадолго’). Далей у аўтарскім тэксце: *Там* [на тым свеце] *месца падбяру такое, / Адкуль бы кожнаю парой / Відаць былі шляхі і хвоі, /*

*Прасторы ніў, край родны мой* [4, 139]. – *Такое место подберу я, / Откуда всё охватит взор* – / ***Поля, и хвою боровую, / И отчий дом у двух озер*** [5, 183]. Аўтар хоча бачыць *шляхі, хвоі, нівы* – увесь родны край, перакладчык жа «звужае» кола яго бачання да палёў, баравой хвоі і бацькоўскай хаты каля двух азёр.

Як відаць з прыкладаў, вобразны змест вершаў Максіма Танка ў многіх выпадках не знаходзіць адэкватнага адлюстравання ў перакладзе на рускую мову. Неапраўданыя трансфармацыі аўтарскага тэксту вядуць да значных страт у перадачы семантычных, стылістычных, нацыянальных, экспрэсіўных асаблівасцей арыгінала. Пераклад не заўсёды захоўвае глыбіню і шчырасць пачуццяў, закладзеных ва ўзнёслых, дакладных і сакавітых аўтарскіх мастацкіх вобразах.

*Мінск*

## Літаратура

1. Бугаёў, Д. Паэзія Максіма Танка / Д. Бугаёў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1964. – С. 142.

2. Рагойша, В. П. Проблемы перевода с близкородственных языков: Белорусско-русско-украинский поэтический взаимоперевод / В. П. Рагойша. – Минск: Изд-во БГУ, 1980. – С. 35.

3. Танк, М. Збор твораў: у 13 т. / М. Танк. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – Т. 3: Вершы (1954–1964). – 447 с.

4. Танк, М. Збор твораў: у 13 т. – Т. 4: Вершы (1964–1972). – 384 с.

5. Танк, М. Избранное / сост., вступ. ст. В. Рагойши; пер. с бел. яз. / М. Танк. – Минск: Мастацкая літаратура, 1999. – 398 с.

## Summary

Poems by Maxim Tank translated into Russian with essential transformations of the original text are considered in the article. Some of these transformations are inevitable and can be explained by requirements of rhythm, rhyme and divergence in Russian and Belarusian lexical systems. Nevertheless in some cases the transformations are subjective, they don’t reflex individual peculiarities of the author’s text, its figurativeness, stylistic colouring and emotional characteristics. Such unjustified modifications lead to misrepresentation of original texts.

*УДК 811.161.3'42+821.161.3.09*

*В. У. РУСАК*

# ЭКСПРЭСІЎНАЕ ФУНКЦЫЯНАВАННЕ СКЛАДАНЫХ СКАЗАЎ У ПРОЗЕ ЯНКІ СІПАКОВА

*(Паступіў у рэдкалегію 12.03.2010 г.)*

Вобразна-выяўленчы і эмацыянальны характар мастацкага паведамлення непасрэдна залежыць ад таго, з якіх сказаў гэта паведамленне складаецца: нанізванне простых сказаў сведчыць пра тэндэнцыю да адасаблення і выразнага выдзялення кожнай думкі, а вялікая колькасць складаных сказаў, наадварот, дазваляе аб'яднаць вобразы і думкі, паказаўшы іх цесную ўзаемазалежнасць. Разнастайныя спосабы спалучэння простых і складаных сказаў, а таксама іх чаргаванне ў мастацкім кантэксце могуць станавіцца крыніцай пэўных стылістычных эфектаў, выступаць у якасці адгерэнтных сродкаў экспрэсіўнага сінтаксісу.

Аналіз сінтаксічнай арганізацыі твораў Янкі Сіпакова дае магчымасць пагадзіцца з думкай А. Я. Міхневіча і І. У. Саламевіча, што гэты пісьменнік «па-майстэрску валодае магчымасцямі ўскладненага сінтаксісу» [1]. Для творчай манеры Янкі Сіпакова характэрна імкненне змясціць у сказе ўсё багацце, усю складанасць, усе адценні думкі ці перажывання, даць думку ў яе дынаміцы, развіцці. Адсюль тэндэнцыя да пашырэння межаў асобнага сказа, да ўжывання складаных многакампанентных сінтаксічных канструкцый.

Складаныя сказы рознага тыпу ў творах Янкі Сіпакова, набываючы дадатковыя сэнсавыя прырашчэнні, становяцца экспрэсіўнымі адзінкамі і ўдзельнічаюць у стварэнні стылістычных эфектаў. У сістэме складаных сінтаксічных канструкцый у аўтарскім празаічным кантэксце заслугоўваюць увагі сказы, якія будуюцца больш чым з дзвюх прэдыкатыўных адзінак і набываюць экспрэсіўнасць дзякуючы выкарыстанню аднародных прэдыкатыўных частак.

Пра з'яву сінтаксічнай аднароднасці звычайна гавораць у дачыненні да простага ўскладненага сказа, аднак яна ўласціва і складаным канструкцыям. Пры гэтым аднароднымі адносінамі могуць звязвацца не толькі аднародна сузалежныя даданыя часткі складаназалежных мнагачленаў, але і часткі складаназлучаных, складаных бяззлучнікавых і камбінаваных сказаў. У такім выпадку, як адзначыў Т. П. Ломцеў, «адзін аб'яднаны сказ уяўляе сабой рад сказаў, ***аднародных*** у адносінах да катэгорыі часу і ма-

дальнасці» [2]. Такім чынам, гаворачы пра аднароднасць частак складанага сказа, перш за ўсё маецца на ўвазе адзінства мэтанакіраванасці (пытальнасці/непытальнасці), мадальнага і часавага планаў частак, аб'яднаных на аснове агульнай граматычнай семантыкі. Разгледзім гэта на канкрэтных прыкладах: *А затым сівы, падцягнуты* ***дзед*** *з ордэнамі і медалямі на пінжаку* ***распытвае*** *пра Проню, якую ён вызваляў; актрыса* ***Мар'ям Ісаева ўспамінае*** *беларускі лес, у якім яна была ў Дні дэкады таджыкскай літаратуры і мастацтва,* ***і журыцца*** *на нашых спаленых вёсках;* ***Курбаналі Раджаб****, знаны выканаўца народнага эпасу «Гуруглі» – «Чалавек, які нарадзіўся ў магіле», кажуць, гучыць у яго выкананні як найлепей, –* ***задумваецца*** *раптам і, гледзячы на горы, трывожна* ***пытаецца****: «Дык што ж гэта ЯНЫ робяць?!»* («Варзоб»). Да прымет аднароднасці трох прэдыкатыўных частак у гэтым сказе адносяцца іх непытальнасць, рэальная мадальнасць, аднолькавы часавы план, выражаны формай цяперашняга часу ўсіх дзеясловаў-выказнікаў.

Як і аднародныя члены простага ўскладненага сказа, аднародныя прэдыкатыўныя часткі дазваляюць разгортваць дзеянне ў паслядоўнасці, пералічваць падзеі, аб'ядноўваць аб'екты апісання. Структура з аднароднымі часткамі, пабудаваная як адкрыты пералічальны рад, дазваляе яго істотна падаўжаць, пры гэтым чым больш доўгі рад, тым больш падкрэсленымі ў ім становяцца прыметы аднароднасці. У празаічным кантэксце Янкі Сіпакова гэта дае магчымасць вырашаць розныя мастацкія задачы. Па-першае, дазваляе аб'ядноўваць разнастайныя падзеі ў сказ-мікраапавяданне. Вось як расказвае пісьменнік пра сустрэчу Новага года ў вагоне цягніка: *[Нават калі спаражнілі ўсе бутэлькі, паелі ўсю закусь, усё роўна ніхто і не думаў уставаць – сядзелі і дружна гаварылі, жартавалі].* ***Падсмейваліся з дзядзькі*** *ў зімовай шапцы – ён так і не зняў яе, – які прынёс бутэльку самагонкі: «Ідзі пашукай у сваёй торбе – там у цябе яшчэ адна пляшка павінна быць», на што дзядзька бажыўся: «Яй жа богу, няма»;* ***пацвельваліся з жанчыны****, якая беражна загортвала ў паперу свае абноўленыя чаркі, на якіх і пасля абнаўлення засталіся фабрычныя наклейкі: «Пачакай, што ты робіш? А раптам зноў спатрэбяцца? Яны ж дужа хораша звіняць!»;* ***нехта нават падаў*** *дзіўную* ***думку****: «А давайце кожны Новы год так сустракаць», але* ***на яго замахалі рукамі****: «Што ты! Што ты!»,* ***і нават сам тамада запярэчыў****: «Не, кожны год так не атрымаецца»* («Жыві як хочацца»). Аб'яднанне простых сказаў, якія называюць шэраг падзей, у адной складанай канструкцыі тлумачыцца мастацкай задачай – паказаўшы дынаміку дзеянняў, падкрэсліць насычанасць паездкі: за досыць кароткі час, праведзены ў дарозе, усе пасажыры паспелі і пазнаёміцца, і сумесна сустрэць Новы год.

Ужыванне сказаў-апавяданняў пры апісанні падзей, якія працякаюць адначасова, можа пазбаўляць паведамленне дынамізму, надаючы яму статычны, «знешні» характар. Такімі канструкцыямі пісьменнік карыстаецца,

калі неабходна паказаць падзеі вачамі героя, які ў іх не ўдзельнічае, а толькі назірае за імі: *Ля яго* (танка. – *В. Р.*) *ужо круціліся хлапчукі:* ***Шчыпі залез*** *у звернутую набок вежу і ўсё намагаўся зачыніць за сабою скасабочаны люк; на паслабленых гусеніцах* ***зыбаўся Мюд*** *і нешта яму раіў;* ***Кузьмей*** *па хобаце* ***спрабаваў узысці*** *на танк, але гэта яму ніяк не ўдавалася – хлапчук саслізгваў на зямлю, не даходзячы яшчэ і да палавіны ствала* («Пыл пад нагамі»); ***Адны*** (людзі. – *В. Р.*), *задыхаючыся, захлынаючыся вадою,* ***стараліся****, як маглі,* ***трымацца*** *на плаву,* ***другія*** *– высока* ***падскоквалі,*** *прагнучы зусім выскачыць з вады, хоць пасля танулі яшчэ глыбей,* ***трэція пускалі ўжо бурбалкі*** («Выратавальны круг»).

Мнагачлены з аднароднымі часткамі пісьменнік уключае ў кантэксты з апісаннем пейзажу. У такім выпадку ў цэнтры ўвагі аўтара знаходзіцца гарманічная ўзаемасувязь усіх дэталей навакольнага асяроддзя, пейзаж становіцца самастойным мастацкім вобразам: *[... навокал было так ціха і спакойна, што ён* (Мікалай. – *В. Р.*) <...> *стаў і міжволі залюбаваўся і гэтым спакоем, і гэтай травою, і гэтым лужком]. Купкамі, як сумысля сабраная кім у букеты, ярка* ***чырванела*** *вялікімі, круглымі, нібы мячыкамі, краскамі-папкамі* ***канюшына****; якраз пасярод лужка* <...> *як усё роўна хто са жмені сыпануў іх у траву,* ***зіхцелі****, кідаліся ў вочы зыркія, ярка-чырвоныя, нават малінавыя, дробненькія і прыгожыя* ***агеньчыкі****, ці, як тут, у Жаравельках кажуць, пажарыкі; у левым кутку рэдка, па адным* ***стаялі*** *белыя-белыя* ***рамонкі*** <...>*; беленькія, зграбненькія, нібы нейкае сяйво,* ***зорачкі****, рассыпаныя па ўсім лужку, дзе болей, дзе меней; жоўтыя, смелыя* ***вочы святаянніку*** *і ружовыя, тонкія, махрыстыя, як павыразаныя кім* ***смолкі****; а над усім лужком, крыху вытыркаючыся з травы, мройліва, як мярэжа,* ***трымцяць слёзкі*** <...> («Свята»). Аб’яднанне падрабязных апісанняў мноства кветак у адным складаным сказе стварае цэласны малюнак, у якім кожная дэталь важная не сама па сабе, а ў сукупнасці з астатнімі.

Апісанні прыроды, афармленыя пры дапамозе складаных канструкцый, у значнай меры адрозніваюцца ад малюнкаў, створаных кантэкстуальна аб’яднанымі простымі сказамі. Простыя сінтаксемы называюць дэталі агульнай карціны, пакідаючы ў цяні сувязі паміж імі, падаюць апісанне асобнымі штрыхамі, таму такія замалёўкі ў кантэксце звычайна набываюць ролю фону, на якім разгортваюцца падзеі: *Ранні снег ужо растае. Ад зямлі ідзе густая пара. З-пад снегу паказваецца цёмна-зялёная, прамерзлая і таму ядраная трава. [Я вяртаюся ў Мінск. Поўдзень]* («Даверлівая зямля»); *[І тады ён* (Сямаш. – *В. Р.*) *увачавідкі ўбачыў дзяцей, нібыта сам быў там, ішоў поплеч з імі]. Палявая дарога. Злева рэчка. Справа лес. Наперадзе драўляны масток. А па дарозе, узяўшыся за рукі, стомлена тэпаюць двое малых – хлопчык і дзяўчынка* («Адзін з нас»). Складаныя ж сказы вылучаюць на першы план менавіта сувязі, узаемаадносіны ўсіх дэталей: асобныя аб’екты наваколля выступаюць як элементы больш складанага цэлага: *Каля сонца* ***круціцца*** *невялікая, але дастатковая для таго, каб не было горача,*

***хмарка**, вільготныя **барханы дыхаюць** прахалодаю, **павявае ветрык**, **ён** хораша **асвяжае** – няма ніякай патрэбы шукаць цянёк, – **а навокал**, на ўсю разлегласць, **зялёныя**, як пагоркі, **барханы, зялёныя краявіды**, і я паволі, нехаця <...> развітваюся са створанай мною яшчэ ў Мінску сваёю пустыняю: голыя жоўтыя барханы <...>; сляпучае спякотнае сонца <...>; а над барханамі спёка <...>* («Аазісы»). Прыведзены сказ – гэта фактычна макракантэкст, які знітоўвае апісанне праз уключэнне разнастайных фактаў і з'яў рэчаіснасці, робіць яго больш рэльефным, змястоўным, што, такім чынам, дазваляе стварыць цэласны малюнак.

Іншы раз Янка Сіпакоў размяшчае сказы з аднароднымі прэдыкатыўнымі часткамі на пачатку твора. Іх інфармацыйная насычанасць і зместавая напоўненасць дазваляюць дакладна і поўна апісаць час і/ці месца, дзе будуць адбывацца падзеі: *Гэта быў і сапраўды сучасны горад з высокімі цаглянымі дамамі, з пprасторнымі <...> магазінамі, і ў той жа час спакой і ціхамірнасць, нетаропкасць жыццёвага рытму, немітуслівасць рэдкіх прахожых рабілі яго дужа падобным на вёску: пад самымі вокнамі аднапавярховых і двухпавярховых дамоў задумліва, як і тады, у дзяцінстве, **шумелі сосны**, невялікія **крамы**, што месціліся ў фінскіх доміках, **стаялі** між старых тоўстых елак, пад імі, як і ў звычайным лесе, **было нацярушана шмат іголак**, **цвілі суніцы**, **зелянелі кусты** чарнічніку <...>; **машын** тут **ездзіць** дужа **мала**, **міліцыянераў няма**, а таму людзі, не зважаючы на тратуары, не баючыся штрафаў, ходзяць, дзе ім захочацца, – нават пасярод вуліцы* («Сіротка»).

Складаныя сказы з аднароднымі часткамі даюць магчымасць пісьменніку аб'ядноўваць, пералічваць і супастаўляць з'явы, якія не выяўляюць лагічных сувязей, а звязваюцца паміж сабой аўтарскімі асацыяцыямі і ўспамінамі. Такія разгалінаваныя канструкцыі перадаюць плынь свядомасці пісьменніка, а таму ўжываюцца ў яго разважаннях, лірычных адступленнях: *[І ўспаміны жывым гоманам напоўнілі тыя летнія дні, зноў перанеслі ў Мурманск і зноў паказалі <...> захад сонца <...>]. Захад быў без захаду, вечар без вечара і ноч без ночы – над Кольскім паўвостравам стаялі ў той час белыя ночы, і сонца, дакрануўшыся да пахаладалага небасхілу, зноў пачынала набіраць вышыню, цеплыню і сілу; затым* (успаміны. – *В. Р.*) *беражна **апусцілі ля самага падножжа Хібін**, у горадзе Кіраўску, дзе ў багатым мінералагічным музеі зусім неспадзявана асляпіў вочы ружова-чырвоны, з яркімі крапінкамі камень эўдыяліт, які тут спрадвеку называюць саамскай крывёю і пра які народ склаў нават легенды <...>; **і тут жа ўспомніўся другі экспанат** з другога Кольскага музея: «Государю царю и великому князю Фёдору Ивановичу всея Руси бьют челом, плачютца сирота твоя государева, Пазрецкие волости лопаришка Фомка Кондратьев сын во всех лопарей место», – у 1595 годзе плакаўся цару ад імя ўсіх лапароў абраны скарджальнік <...>; **пасля ўспаміны вярнулі тугі**, **з марскімі пырскамі вецер**, калі «Камета» імчала нас да бухты Кіслая <...>* («У сабакі

на хвасце»). Разгалінаваны сказ перадае форму самога працэсу мыслення, выражаючы складанасць чалавечай памяці, свядомасці.

Складаныя поліпрэдыкатыўныя сказы з аднароднымі часткамі ў творах Янкі Сіпакова становяцца больш эфектыўнымі сродкамі ўздзеяння на чытача, калі аўтар уключае ў іх разнастайныя стылістычныя фігуры. Так, экспрэсіўнасць сказа павялічваецца пры ўжыванні ***градацыі*** – такога размяшчэння частак выказвання, пры якім «наступная частка мае большае сэнсавае і эмацыянальна-экспрэсіўнае значэнне» [3]: *За гады застою, **калі** **заахвочвалася** пагардлівае **стаўленне** да беларускай мовы, **калі** з лёгкасцю неймавернай **закрываліся** беларускія **школы**, **калі** беларускіх **дзяцей** «па жаданні бацькоў» **вызвалялі** ад вывучэння беларускай мовы, **а** беларускую **літаратуру** ім **выкладалі** на рускай мове, мы выхавалі не адно пакаленне маладых людзей, якія не ўмеюць ні пісаць, ні чытаць па-беларуску* («Наталенне смагі»). Сказы з градацыяй больш яскрава ілюструюць нарастанне ўражання, пачуцця, перажывання.

Даволі часта (у 20% зафіксаваных прыкладаў) у поліпрэдыкатыўных сказах Янка Сіпакоў ужывае ***полісіндэтон*** (шматзлучнікавасць). Шматразовы паўтор злучніка ва ўмовах, калі ён можа быць апушчаны, надае выказванню рытмічнасць, спрыяе нарастанню інтанацыі, узмацняе экспрэсіўнасць сінтаксічнай адзінкі. Напр.: *Па гэтых вершах можна вывучыць усё тагачаснае жыццё панскай турмы: **і** як душна і цесна на нарах; **і** якою бывае цёмная камера <...>; **і** як мінае астрожны дзень <...>; **і** што такое «конь» – сродак нелегальнай сувязі ў астрозе...*(«Народжанае змаганнем»); *Ён* (Якуб Колас. – *В. Р.*)*, здаецца, нічога не абмінуў: **і** чым беларус араў, скародзіў сваю палоску; **і** якія стравы ўпрыгожвалі небагаты сялянскі стол у святочныя дні, **і** што ставілася на кожны дзень; **і** якая світка грэла халоднай зімой лепей* («Свята на кожны дзень»). Спалучальны злучнік ***і*** ў прыведзеных сказах звязвае ўсе аднародныя часткі ў сінтаксічнае адзінства, пастунова ўзмацняючы сэнсавае і эмацыянальнае напружанне.

Яшчэ прыклад: ***То*** *яна* (думка. – *В. Р.*)*, як ужо гаварылася вышэй, раптам пераадолее зямное прыцягненне і вырвецца ў адкрыты космас; **то** апусціцца вельмі нізка на самае дно мора <...>; **то** раптам з далечы сівых вякоў яна выхапіць, нібы асветлены пражэктарам, нечаканы малюнак, і мы ўжо разам з паэтам ласкава дабрэем, убачыўшы паказанае буйным планам буянне зародка чалавечага жыцця* («Вершаруб з доўгай выспы»). Неаднаразовае ўжыванне злучніка ***то*** ў гэтым сказе замаруджвае тэмп маўлення, робіць яго разважлівым, узнёслым. Полісіндэтон надае ўрыўку плаўнасць, напеўнасць і робіць пералічэнне больш шырокім, абагульняльным.

З пэўнымі стылістычнымі задачамі ў творах Янкі Сіпакова можа ўжывацца і паўтор падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў. Такі паўтор перш за ўсё засяроджвае ўвагу чытача на змесце кожнай з аднародных частак, паказваючы іх аднолькавую значнасць: *Сёе-тое пабачыўшы*

*ў незнаёмым мне краі, я ўсё ж шкадую,* ***што*** *не пабываў у Бадхызскім стэпе <...>,* ***што*** *не пахадзіў па густых тугайных лясах <...>,* ***што*** *не пабачыў на свае вочы пагты <...>* («Аазісы»); *Вось прайшло столькі часу, а я і зараз, успамінаючы, не бачу нічога дрэннага ў тым,* ***што*** *многія з маіх равеснікаў маглі гадзінамі хадзіць ля Саюза пісьменнікаў, не адважваючыся туды зайсці;* ***што*** *яны лічылі непрыгожым прасіцца і патрабаваць паслаць іх на семінары;* ***што*** *ўступленне ў Саюз для іх было ўрачыстасцю;* ***што*** *мы з захапленнем глядзелі некалі на жывога пісьменніка* («Глядзець на свет сэрцам»). Шматразовы паўтор злучніка ***што*** ў прыведзеных сказах экспрэсівізуе маўленне, надаючы яму пафаснае гучанне.

Сінтаксічная аднароднасць прэдыкатыўных частак – перадумова аднатыпнасці іх лексічнага напаўнення і ўзнікнення ў іх лексічных паўтораў. Падкрэсліваючы знешнюю сіметрычнасць і рытмічнасць выказвання, паўторы ўносяць дадатковыя сэнсава-эмацыянальныя значэнні і пашыраюць экспрэсіўныя магчымасці складаных сказаў. У лінгвістычнай літаратуры адзначаецца, што лексічны паўтор – гэта не толькі элемент лексічнага напаўнення фразы, перш за ўсё гэта «экспрэсіўны прыём стварэння сінтаксічнай фігуры» [4].

Аналіз мастацкіх твораў Янкі Сіпакова дазволіў вылучыць складаныя сказы з паўторам разнастайных кампанентаў:

– **дзейнікаў**: *Мехток пабудаваў* ***ён*** (былы старшыня. – *В. Р.*)*, майстэрню –* ***ён****, гараж –* ***ён****, кантору –* ***ён*** («Даверлівая зямля»); ***Яно*** (сэрца. – *В. Р.*) – *пачатак усялякай творчасці,* ***яно*** *– пачатак хвалявання, без якога не можа нарадзіцца ніводзін сапраўдны твор* («Наталенне смагі»);

– **выказнікаў**: *Ёй* (Моці. – *В. Р.*) *здавалася, што ўжо ў ваколіцы няма ніводнага чалавека, які не ведае, ад каго яна чакае пісямко. У Млынарах –* ***ведаюць****, у Аўдзейкаве –* ***ведаюць****, у Весялёўках –* ***ведаюць****, а ён* (Кагадзей. – *В. Р.*)*, бачыце яго, у Жыцькаве пытаецца* («Усе мы з хат»); *І з кожным годам – цяжэй шукаць сваю сцежку, бо харошых паэтаў усё дабаўляецца –* ***было*** *ў Караткевіча,* ***было*** *ў Гаўрусёва,* ***было*** *ў Барадуліна,* ***было*** *ў Вярцінскага*...(«Як птушкі ў лёце»);

– **дапаўненняў**: *Тут наогул куды ні ідзеш, усюды сустракаеш* ***зямлянкі****: ідзеш па грыбы –* ***зямлянкі****, па ягады –* ***зямлянкі****, па ваду –* ***зямлянкі****, у дровы –* ***зямлянкі****, у рыбу – таксама* ***зямлянкі*** («Усе мы з хат»);

– **азначэнняў**: *Недзе далёка над пяскамі ўспыхваюць сполахі. Спяваюць* ***туркменскія*** *пеўні, бляюць* ***туркменскія*** *авечкі, сакочуць* ***туркменскія*** *куры, а мне здаецца, што я <...> сплю ў сваіх родных Зубрэвічах* («Аазісы»); *Міжвольна думаеш пра Беларусь, дзе яшчэ і сёння* ***кожны*** *партызан наступае на патэнцыяльную міну,* ***кожны*** *баец радуецца, што яго абмінулі кулі,* ***кожная*** *маці хавае недзе на дне куфэрка сынаву сарочку – вернецца, і яна спатрэбіцца*... («Ціхая Акіянія»);

– **акалічнасцей**: *Значыць, думалася само сабою, хоць і паляцелі так рана ў вырай журавы, нічога асаблівага не здарылася:* ***зноў*** *вярнулася лета,*

***зноў** ласкава грэе сонца, **зноў** жыцькаўскія госці паскідаюць зараз старыя світкі ды падопранкі і падставяць пад шчодрыя сонечныя прамяні свае карычневыя, як жалуды, спіны* («Усе мы з хат»);

**– пабочных слоў**: *І **праўда**, ён* (Мікалай. – *В. Р.*) *ужо ўскасіўся на ўзлоб'е – самую высокую мясціну на гародзе; і **праўда**, там была невялікая, але дужа густая і роўная, амаль як на тым лужку ў кустах, трава; і **праўда**, каса рэзала так, што здавалася, сама ходзіць па лузе і за ёю адно толькі трэба паспяваць і яму* («Свята»).

Іншы раз у прэдыкатыўных частках паўтараецца адразу група кампанентаў: *Творы, якія абапіраюцца **толькі на вопыт аднаго пакалення** <...>, якія выражаюць **толькі вопыт аднаго пакалення,** часцей за ўсё недаўгавечныя* («Як птушкі ў лёце»); *Вы не заўважалі, што, чытаючы творы, створаныя да нашай эры, любуючыся шэдэўрамі мастацтва, што нарадзіліся тады ж, і **самі вы** хвалюецеся **гэтак жа сама**, **і самі вы**, трапіўшы ў падобнае становішча, дзейнічалі б **гэтак жа сама**,* і ***самі вы**, аказаўшыся б, да прыкладу, на месцы таго невядомага старажытнага скульптара, менавіта так бы жадалі тварыць сваю Венеру* («Як птушкі ў лёце»).

Лексічны паўтор у кантэксце складанага сказа ўжываецца з разнастайнымі стылістычнымі мэтамі, яго функцыя залежыць ад будовы і сэнсавага напаўнення прэдыкатыўных частак.

У мове лірычных нарысаў і мініяцюр Янкі Сіпакова складаныя сказы з аднароднымі часткамі і лексічнымі паўторамі – прыём экспрэсіўнага сінтаксісу, які дазваляе перадаць эмацыянальнае («узрушанае») разважанне і апавяданне. Вылучаючы тыя кампаненты, якім надаецца асаблівае значэнне, аўтар узмацняе сэнсавае і эмацыянальнае напружанне сказа, надае яму экспрэсіўную афарбоўку: *Разбурыць старажытны храм – **калі ласка**, атруціць зямлю – **калі ласка**, асушыць балоты і забіць рэкі – **калі ласка**, вырачыся сваёй роднай мовы – мы першыя, мы з радасцю, **калі ласка**...* («Узятак з маўчання»). Тут паўтор слоў *калі ласка* ў спалучэнні з градацыяй і паралелізмам перадае эмацыянальныя адносіны пісьменніка да сказанага і высвечвае яго абурэнне абыякавасцю беларусаў да гісторыі і лёсу сваёй краіны і свайго народа.

Выкарыстаннем лексічных паўтораў пісьменнік можа пашыраць выяўленчыя магчымасці складаных сказаў, паколькі паўторы вылучаюць на першы план камунікацыйны цэнтр выказвання, што дазваляе актуалізаваць, канкрэтызаваць істотныя, цэнтральныя для мастацкага вобраза дэталі: *Па другі бок мяжы свяціла **гэткае ж**, **як і ў нас**, летняе сонца, красавалі **гэткія ж**, **як і нашы**, лугі, шумелі лясы, блішчалі азёры, праставалі палявыя дарогі, а над пажаўцелымі, угрэтымі спёкаю, нівамі па-жніўнаму ўжо чуваць быў пах спелага коласа* («Дуона»); *Ён* (брыгадзір прыдняпроўскай брыгады. – *В. Р.*) *стаяў паміж садам і лёнішчам – якраз там, дзе яшчэ летам мы пакінулі яго, упэўнішыся, што льнокамбайн працуе добра <...> **Усё***

***той жа** доўгі вайсковы кіцель, які аж закрывае кішэні шырокіх штаноў, **усё тое ж** галіфэ, якое абвісае на кірзавыя боты, **усё той жа** картуз, насунуты як не на самыя вочы* («Даверлівая зямля»). Паўтор у першым сказе засяроджвае ўвагу на падабенстве прыроды ў Беларусі і Літве; у другім – падкрэслівае, што герой твора (шчыры працаўнік і чалавек, адданы зямлі) за многія гады ніколькі не змяніўся ні ўнутрана, ні знешне.

У творах Янкі Сіпакова лексічны паўтор можа ўжывацца з рытміка-інтанацыйнай функцыяй: ён арганізуе структуру скаладанага сказа, уплывае на рытміку, набліжаючы празаічны тэкст да паэтычнага: *Здавалася, што на гэтым свеце ніхто не памірае, што **няма** нідзе на зямлі ні брудных, у крыві і копаці, войнаў, ні чыстай, нават стэрыльнай, радыяцыі, **няма** і заваду ўсяго таго, ад чаго людзі плачуць і маркоцяцца, **няма** нічога ніякага, **апрача** вось гэтага зарослага <...> падворка, **апрача** <...> цішыні ды <...> вось гэтых пярэсцяненькіх кацянятак <...>* («Стафета»); *Але ж сярэднявечча – **гэта** яшчэ унікальная, разняволеная любоўная лірыка. **Гэта** менестрэлі, **гэта** ваганты, **гэта** галіарды, паэзія бесклапотных шкаляроў* («Як птушкі ў лёце»); *Свая, родная мова. **Гэта мова маіх** маці і бацькі, якую я разумею ад першага пачутага мною слова, **гэта мова маіх** бабулі і дзядулі, якіх я ведаю, **гэта мова маіх** прадзедаў і прапрадзедаў, якіх я не ведаю, але заўсёды адчуваю за сабою* («Наталенне смагі»).

Адзначым, што ў складаных сказах надзвычай разгалінаванай будовы лексічныя паўторы, акрамя экспрэсіўнай, выконваюць яшчэ і граматычную функцыю: яны адначасова звязваюць доўгія, развітыя прэдыкатыўныя часткі паміж сабой і аддзяляюць адну частку ад другой, чым садзейнічаюць іх паўнацэннаму ўспрыняццю: *Але, нягледзячы на ўсе гэтыя «толькі», у Максіма Багдановіча, у гэтага знанага і славутага юнака вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў не саромеюцца вучыцца **і тыя**, **хто**, выжаўшы па некалькі дзесяткаў паэтычных кніжак, знаходзяцца ў добрай пары сталага і мудрага вопыту; **і тыя**, **хто**, як скажам, маё пакаленне, набыўшы ясную і светлую разважлівасць, упарта набліжаецца да філасофскага асэнсавання жыцця; **і тыя**, **хто**, часцей за ўсё пераросшы паэта па гадах, нясмела і сарамліва збірае ў далейшую дарогу свой неслухмяны вырай – першую кніжку паэзіі* («У родным краі ёсць крыніца»).

У пашыраным выкарыстанні складаных поліпрэдыкатыўных сказаў з аднароднымі часткамі выяўляецца схільнасць Янкі Сіпакова да аналітычнага маўлення. Многакампанентныя сказы ў творах пісьменніка – той моўны сродак, які дазваляе дакладна выразіць думку, сфарміраваную ў выніку адлюстравання сукупнасці фактаў і з'яў рэчаіснасці. Пры дапамозе складаных сказаў пісьменнік стварае і эмацыянальна насычаны кантэкст, які не толькі перадае аўтарскую ацэнку, але і ўплывае на эмоцыі чытача.

*Мінск*

## Літаратура

1. Міхневіч, А. Я. Сіпакоў Янка / А. Я. Міхневіч, І. У. Саламевіч // Беларуская мова : энцыкл. / рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1994. – С. 490.
2. Ломтев, Т. П. Очерки по историческому синтаксису русского языка: учеб. пособие / Т. П. Ломтев. – М., 1956. – С. 485.
3. Цікоцкі, М. Я. Стылістыка беларускай мовы: вучэб. дапам. / М. Я. Цікоцкі. – 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск, 1995. – С. 214.
4. Цікоцкі, М. Я. Стылістыка беларускай мовы. – С. 208.

## Summary

This paper presents a study of complex polypredicative sentences as one of the means of expressiveness and figurativeness of the literary language. The author describes structural peculiarities, the method of usage, functions and the stylistic effect of application of complex polypredicative sentences with homogeneous parts in the prose of modern belarusian writer Yanka Sipakov.

*УДК 811.161.3'373'366.542*

*К. Д. ШЧАСНАЯ*

# ПРАБЛЕМА ЎНІФІКАЦЫІ КАНЧАТКАЎ НОВЫХ СЛОЎ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ Ў РОДНЫМ СКЛОНЕ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ

*(Паступіў у рэдкалегію 11.03.2010 г.)*

У канцы XX ст. праблемы нормы беларускай мовы набылі асаблівую актуальнасць. Мова значна папоўнілася новымі пластамі лексікі, што абумоўлена зменамі ва ўсіх сферах жыцця краіны на рубяжы стагоддзяў, і ў першую чаргу глабальнымі працэсамі развіцця ў галіне тэхнікі, эканомікі, культуры, грамадскага будаўніцтва. Новая лексіка патрабуе засваення сістэмай мовы, упарадкавання паводле існуючых крытэрыяў, а таксама ўдакладнення ў напісанні ўжо існуючых лексіка-семантычных груп. Асаблівую актуальнасць сказанае набывае ў год, калі ўступаюць у сілу «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Хаця, як вядома, яны непасрэдна не закранаюць напісання склонавых канчаткаў назоўнікаў. Але ўлічваючы істотна абноўлены слоўнікавы склад мовы, папаўненне шматлікімі лексічнымі запазычаннямі, надзённым стала не толькі арфаграфічнае, але і граматычнае афармленне норм пісьмовай мовы. У сучасных сродках масавай інфармацыі, літаратуры апошнім часам павялічваецца колькасць варыянтаў словаформ, што прыводзіць да «істотнага расхіствання сістэмы норм беларускай літаратурнай мовы», перашкаджае мове выконваць свае камунікатыўныя функцыі, асабліва ў сферы адукацыі, якая застаецца важнейшым інстытутам засваення беларускай граматыкі і фарміравання пісьменнасці [1]. Прычыны: уплыў замежных моў, найперш, рускай, калі, як слушна адзначаў акадэмік А. І. Падлужны, двухмоўнаму носьбіту цяжка размежаваць асаблівасці семантыкі, граматыкі, фанетыкі блізкароднасных моў [2], рост індывідуальнай ролі аўтара пры выбары моўных сродкаў і пранікненне лексікі гутарковай сферы ўжывання.

Адным са складаных і спрэчных правіл граматыкі беларускай мовы заўсёды лічылася напісанне склонавых канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку. І сёння пытанне застаецца такім жа актуальным, патрабуе найбольш пільнага разгляду ў сувязі з фіксацыяй новых слоў у лексікаграфічных крыніцах і неабходнасцю аднастайнага выкарыстання іх на старонках сродкаў масавай інфармацыі, у вучэбным працэсе, мастацкай літаратуры.

Папаўненне сучаснай беларускай літаратурнай мовы новымі словамі адбываецца за кошт узнікнення ў рэчаіснасці новых з'яў і прадметаў, асабліва ў галіне інфармацыйных тэхналогій, навукі і эканомікі: *сайт*, *роўмінг*, *лазер, чып, кансалтынг*, *дысконт*; культурнай і спартыўнай сферы: *майстар-клас*, *спецэфект, экстрым, стрытбол*; новых прафесій, у тым ліку палітычных пасад: *стыліст, букмекер*, *мэр, прэм'ер-міністр, супервайзер*; а таксама ўжывання слоў, якія абазначаюць паняцці, што даўно існавалі за мяжой, аднак не былі вядомы жыхарам Беларусі па прычынах ідэалагічнага адасаблення: *фэн-шуй*, *шоў (шоу)*, *віндсёрфінг*, *чызбургер, дывідэнд* і інш.

У апошні час у мове значна ўзрасла колькасць іншамоўных лексем, найперш, англіцызмаў: *супермаркет, брэнд, рымейк*, *кастынг, лізінг.* Пашырылася таксама замена запазычаннямі ўласнабеларускіх слоў: *кіраўнік → каардынатар*, *творчасць → крэатыў*, *наклейка → стыкер.* Часам аўтары артыкулаў усхвалявана пішуць пра тое, што амерыканскі варыянт англійскай мовы, «стаў сусветнай мовай забаў, бізнесу, навукі» і «заклаў фундамент для далейшай экспансіі амерыканскай культуры», калі ўжо можна гаварыць пра «глабальную камунікацыю на адной мове» [3]. Так сёння, акрамя навукі, палітыкі і культуры англійская мова з'яўляецца прыярытэтнай у сферы камп'ютарных тэхналогій, у інтэрнэт-зносінах людзей ва ўсім свеце, больш за тое, валоданне міжнароднай англійскай – цяпер сінонім адукаванасці. Свой уплыў тут аказвае і рэклама, якая выкарыстоўвае англіцызмы як сінонімы высокай якасці тавараў і паслуг, што прапануюцца. Псіхалагічная ўстаноўка прэстыжнасці англіцызмаў, як адзначаюць лінгвісты, тлумачыцца і характэрнай для ўсіх краін постсавецкай прасторы на рубяжы стагоддзяў ідэалогіяй супрацоўніцтва з заходнімі краінамі, а таксама своеасаблівай «модай» на замежныя словы [4].

Разам з тым у беларускі лексікон вяртаюцца словы, якія былі па грамадска-палітычных прычынах страчаны ў 1930–1980-я гады, а сёння набылі сучасны сэнс і афармленне: *ліцэй, прадпрымальнік, кадэт, мітынг*; актыўна ўваходзяць ва ўжытак рэлігійныя лексемы: *ігумен, католік, малебен*. Колькасць новых лексем павялічваецца таксама за кошт пашырэння значэнняў ужо вядомых слоў. Так, *пілот* – не толькі 'лётчык', а і 'пробны, эксперыментальны выпуск (кнігі, тэлесерыяла, тэлеперадачы) з мэтай прадставіць прадукт на рынак і вывучыць узровень цікаўнасці да яго'; *гастралёр* – гэта і 'крымінальны злачынец, які ўчыняе супрацьпраўныя дзеянні ў розных населеных пунктах', а не толькі 'артыст; лятун'; сучаснае *лікбез* вядома і як 'пашырэнне кола ведаў пра малазнаёмыя рэчы, найперш пра сучасныя тэндэнцыі ў адпачынку і спорце', а не толькі як 'ліквідацыя непісьменнасці; лікпункт'.

Актыўнай крыніцай папаўнення новых слоў па-ранейшаму з'яўляецца руская мова, праз якую ідзе засваенне замежных лексем *(дывелапер, скетчком, прамоўшн, трылер)* і слоў, якія маюць стылістычную афарбоўку (*квзшнік, прыкол, халяўшчык, камок).* Увогуле, сучасныя беларуская і ру-

ская мовы ў апошнія 20 гадоў значна дэмакратызуюцца, у шырокае ўжыванне ў літаратуры і СМІ ўваходзяць словы, якія раней выкарыстоўваліся толькі ў бытавой сферы і спецыфічных колах (студэнцкае асяроддзе, армія, крымінальны свет): *сістэмнік, смайлік*, *глюк, прыкід, панты, дзялок*. Стваральніцы слоўніка рускага жаргону тлумачаць такую акалічнасць грамадска-палітычнымі пераўтварэннямі: так званай галоснасцю, калі ў грамадстве і мастацтве былі зняты «табу» на многія раней забароненыя тэмы, уплывам англамоўнага слэнгу, а таксама, на жаль, нарастаючай «крыміналізацыяй грамадства» [5].

Новыя паняцці ўзнікаюць і ў спецыфічна беларускай рэальнасці: *аграгарадок*, *флікер, чаргавік*, *ліквідатар.* Таксама пашыраецца колькасць уласнабеларускіх наватвораў, якія выступаюць аналагам рускамоўных запазычанняў і калек: *заўзятар* замест *балельшчык*, *летнік* замест *летні лагер, досвед* замест *вопыт*. Часам папаўненне лексікі адбываецца за кошт ужывання розных словаформ адной і той жа лексічнай адзінкі: *музеец* і *музейшчык*, *тэлевізійнік* і *тэлевізіёншчык*, *атэль* і *гатэль;* пашырэння форм назоўнікаў мужчынскага роду на -*ца: уладаатрымца*, *кіроўца*; выкарыстання лексем 1920-х гадоў з новым значэннем: *квіток* 'запіска, квітанцыя' зараз ужываецца ў значэнні 'білет', *станік* – замест 'бюстгальтар', *атрамант* – замест 'чарнілы, фарбы'. Разам з тым ідзе актыўнае засваенне лексікі з украінскай і польскай моў, якая замяняе рускія адпаведнікі: *закладнік* (пол. *zakładnik*) замест 'заложнік', *вітальня* (укр. *вітальня*) замест 'гасцінная; пярэдні пакой', *печыва* (укр. *печиво*) замест *пячэнне, шараговец* (пол. *szeregowiec*) замест 'звычайны чалавек; абывацель'.

Часам навукоўцы тлумачаць вышэйапісаныя з'явы «пурыстычнай тэндэнцыяй» – наўмысным ачышчэннем беларускай мовы ад запазычванняў з рускай і неславянскіх моў, што дазваляе зменшыць колькасць «неўласцівых лексем» і «чужых словаўтваральных сродкаў» [6]. З другога боку, дэмакратызацыя ў грамадстве, «татальная эстэтычная разняволенасць» [7], павышэнне індывідуальнай ролі аўтара ў літаратуры, публіцыстыцы (асабліва ў інтэрнэт-дзённіках, блогах, «жывых часопісах») негатыўна адбілася і на граматыцы беларускай мовы, што праявілася ва ўзнікненні варыяцый у напісанні словаформ, а гэта, на думку І. Р. Шкрабы, разбурае граматычную сістэмнасць мовы [8]. Сёння ў сферы беларускіх СМІ кожнае выданне самастойна вызначае не толькі свой ідэйна-тэматычны змест, але і лексіка-граматычнае афармленне. Так, напр., «Наша ніва» да 2009 г. карысталася так званай тарашкевіцай, а карэспандэнты «Звязды» ўжо са жніўня 2008 г. пішуць згодна з новымі «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», часопіс «Дзеяслоў» сумяшчае ў сваіх тэкстах граматычныя прынцыпы сучаснага беларускага правапісу з граматыкай 1920-х гадоў.

Аналізуючы падобныя лінгвістычныя з'явы, мовазнаўцы адзначаюць існаванне некалькіх варыянтаў беларускай літаратурнай мовы, але ацэньваюць іх па-рознаму. Адны гавораць аб «інавацыйным варыянце» сучаснай

літаратурнай мовы, які арыентуецца на традыцыі беларускай граматыкі 1920–1930-х гадоў, і разам з тым з'яўляецца «элітарным», «цалкам адпавядае дынаміцы сучаснай маладзёжнай субкультуры» [9]. Другія лічаць гэты варыянт мовы з пункту гледжання сферы выкарыстання і кола карыстальнікаў хутчэй «спецыфічным маладзёжным слэнгам» [10].

Ад забеспячэння стабільнасці, аднастайнасці выкарыстання літаратурных норм залежыць замацаванне беларускай мовы ў якасці рэальнага, поўнафункцыянальнага сродку камунікацыі, часткі нацыянальнай культуры.

Найбольшую цяжкасць у аднастайным выкарыстанні заўсёды выклікалі канчаткі роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку. У сучаснай беларускай літаратурнай мове размежаванне канчаткаў *-а* (*-я*) або *-у* (*-ю*) у назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку залежыць у асноўным ад семантыкі. Важна адзначыць, што ў апошні час у беларускай мове ўжыванне назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку з канчаткам *-у* павялічваецца [11]. Гэту тэндэнцыю, з аднаго боку, можна растлумачыць імкненнем асобных аўтараў адштурхнуцца ад канчатка *-а*, які з'яўляецца асноўным (за выключэннем адзінкавых лексем) у рускай мове, і наблізіцца да польскай і ўкраінскай моў, дзе канчатак *-у* дамінуе ў многіх катэгорыях неадушаўлёных назоўнікаў, у запазычаных словах і нават у назвах устаноў і месцаў прасторы (аднак, усё ж такі не з'яўляецца асноўным). Колькасць назоўнікаў, якія маюць канчатак *-а* ў родным склоне адзіночнага ліку застаецца прэваліруючай ва ўсіх чатырох названых славянскіх мовах найперш за кошт слоў, якія абазначаюць жывых істот, мастацкіх персанажаў, чалавека паводле яго роду дзейнасці, сацыяльнага статусу і інш. Напр., каля 2000 прааналізаваных новых беларускіх слоў такіх лексічных адзінак адзначана больш за 500. У свой час акадэмік А. А. Шахматаў тлумачыў з'яўленне ў назоўнікаў з былымі старажытнымі асновамі на *-ŏ* і *-й*, якія абазначаюць жывых істот, канчатка *-а* ўзнікненнем катэгорыі адушаўлённасці, калі па аналогіі з вінавальным склонам канчатак *-а* як канчатак адушаўлённых назоўнікаў перайшоў у аналагічную групу роднага склону [12].

Варта ўзгадаць тое, што ў беларускай мове ў 1920-я гады іншамоўныя словы ўжываліся з канчаткам *-у* незалежна ад іх лексічнага значэння (граматыкі Б. Тарашкевіча, Я. Лёсіка). Трэба адзначыць таксама паступовую ўніфікацыю канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў родным, давальным і месным склонах, што адбывалася яшчэ са старажытнасці. Асабліва праявілася гэта ў канцы XX ст., найперш, па прычыне развіцця інтэрнэттэхналогій і сістэмы хуткіх паведамленняў, калі для іх аўтараў важна як мага хутчэй данесці пэўную інфармацыю, а не граматна аформіць яе.

Сярод новых назоўнікаў мужчынскага роду канчатак *-а* ў родным склоне адзіночнага ліку маюць 11 лексіка-семантычных груп назоўнікаў: 1) назоўнікі, якія абазначаюць чалавека паводле: а) прафесійнага занятку: *рыэлтар*, *прэс-сакратар, візажыст, рэпетытар, піар-менеджар (піяр-менеджэр)*;

б) прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай катэгорыі: *інтэрнэт-карыстальнік, платнік*, *аўтаўладальнік*, *алігарх, перасяленец;* в) фізічных і разумовых якасцей: *працаголік, экстрасэнс, суіцыдэнт, арыгінал, максімаліст;* г) непрафесійнай дзейнасці, прыхільнасці да пэўнага ладу жыцця, ідэй, прыналежнасці да нефармальных груп грамадства: *дыгер*, *рокер*, *мажор, аўтастопшчык, глабаліст;* д) дачынення да іншых асоб, падзей: *мітынгант, заяўнік, суперфіналіст, рэспандэнт*, *праваўладальнік;* е) назоўнікі, якія абазначаюць жывых істот, міфічных або мастацкіх персанажаў: *тойтэр'ер, клон, гуманоід, пакемон, орк*; 2) назоўнікі, якія абазначаюць канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, што паддаюцца лічэнню: а) паняцці, звязаныя з тэхнічнымі прыстасаваннямі і іх часткамі: *банкамат*, *тостар*, *кандыцыянер*, *ксеракс*, *пажарны апавяшчальнік, цюнер*, *працэсар*; б) сродкі руху і іх часткі, а таксама месца руху: *мікрааўтобус, пікап*, *квадрацыкл*, *антырадар*, *седан*, *сабвэй*, *аўтабан, трафік;* в) ежа, якая мае выгляд адзінкавага прадмета: *крэкер*, *стэйк*, *чупа-чупс*, *дайкон*, *нектарын*; г) прадметы адзення: *смокінг, кардыган*, *джуд, камбідрэс, топ*; д) іншыя адзінкавыя прадметы і ўстройствы, функцыянальныя аб'екты: *біяпратэз, глюкометр, маркер, спонж, салярый;* 3) спосабы сувязі, інфармацыйныя праграмы і прадукты: *факс*, *інтэрнэт (інтэрнет)*, *чат*, *софт*, *партал*, *антыспам*; 4) аб'екты візуальнай інфармацыі, дакументы, у тым ліку сукупнасць дакументаў, а таксама знак, адзінка інфармацыі: *файл, постар, сертыфікат, чарт*, *пакет* 'набор афіцыйных папер', *ярлык* 'дадатковая піктаграма аб'екта', *лагатып, нік;* 5) адзінкі вымярэння: а) якасці, майстэрства, кошту: *піксель, дан, лот, мегабайт*; б) адрэзкаў часу: *міленіум, прайм-тайм, тайм-аўт;* 6) інтэлектуальныя заданні, гульні, даследаванні: *сканворд, пазл, брэйн-рынг, краш-тэст*; 7) арганізацыі і ўстановы, будынкі, функцыянальныя аб'екты, службовыя падраздзяленні: *парламент, асабняк, тату-салон*, *каледж*, *паркінг, прэс-цэнтр, шапік* 'кіёск', *канцэрн;* 8) назвы калектываў, аб'яднанняў, слаёў грамадства: *фан-клуб, бізнэс-клас, клан*, *поп-гурт, фрык-кабарэ бэнд;* 9) назвы відаў спорту: *велатрыял, страйкбол, футбэг, скелетон, фрыстайл*; 10) прадукт творчай дзейнасці, а таксама дзейнасці СМІ: *кліп, сітком, трэк, таблоід, тызер,* а таксама назвы культурных мерапрыемстваў, відовішч: *гала-канцэрт*, *мюзікл*, *джэм-сэйшн;* 11) кірункі музыкі, танцы: *джангл, хард-кор, фрыджаз*, *брэйк-данс*, *бэліданс, тэктонік.*

Канчатак *-у (-ю)* маюць 9 лексіка-семантычных груп назоўнікаў, якія абазначаюць: 1) абстрактныя паняцці, дзеянні: а) эканамічныя працэсы, меры, паслугі, віды камерцыйнай дзейнасці: *дэфолт, шоў-бізнэс (шоу-бізнес), сэйл*, *факторынг*, *дысконт, мэрчандайзінг*, *маркетынг*, *дэпазіт;* б) інфармацыйныя працэсы, спосабы працы электроннай сістэмы: *клік*, *вэб-кантэнт*, *дамп*, *пейджынг*, *онлайн-рэжым*, *роўмінг*; в) творчыя заняткі: *дызайн*, *блогінг, ды-джэінг, капірайтынг, піяр (піар)*; г) дзейнасць, звязаную са спортам, турызмам: *кіберспорт*, *агратурызм, пілáтэс;* д) іншыя дзеянні, накіраваныя на прадмет, асобу, грамадскія працэсы, аналітычныя

працэсы і іх вынікі: *дэмбель*, *кардынг*, *флірт*, *бэбі-бум*, *маніторынг*, *хэпі-энд*, *астрапрагноз*; е) касметычныя працэдуры: *ваксінг*, *пілінг*, *татуаж, стайлінг, педыкюр;* 2) разумовыя працэсы, асаблівасці псіхічнага і фізічнага стану чалавека: *наіў*, *дыскамфорт, інсайт*, *драйв*, *стрэс*, *цэлюліт;* 3) арганізаваныя мерапрыемствы, акцыі, спаборніцтвы: *тэлефорум*, *прома-тур*, *флэш-моб*, *страйк, мундзіяль*, *супер-фінал;* 4) зборнасць, сукупнасць прадметаў у адным: а) назвы прасторы, знешняга свету, прадукцыі: *спарткомплекс*, *фотасервіс*, *відэарынак, лістынг*, *кібэрсвет*, *FM-дыяпазон, кантрафакт;* б) групы людзей, якія аб'яднаны агульнай дзейнасцю: *бамонд*, *рок-калектыў*, *крыміналітэт, бэк-вакал;* в) сукупнасць пэўных правіл, сістэма: *дрэскод, рэйтынг*, *сэрвіс, мадэлінг, фармат;* 5) матэрыялы, хімічныя рэчывы, назвы касметычных сродаў, наркотыкаў: *эластан, спандэкс, ламінат, спрэй*, *крэм-скраб, мус, крэк*, *спайс*; 6) прадукты харчавання, напоі, якія маюць выгляд аднароднай масы: *пап-корн, джын-тонік, жульен*, *лонгдрынк, ёгурт;* 7) тэорыі, погляды на грамадскае жыццё, рэлігійныя вучэнні, стылі ў мастацтве, адзенні: *постсацыялізм, сінергізм*, *крышнаізм*, *нэйл-арт, вінтаж*, *мэйнстрым;* 8) метады, прыёмы, спосабы дзеяння, працы: *тэст-экзамен*, *пікап* (як спосаб знаёмства), *мастэрынг*, *фотатрэнінг, фрылансеры;* 9) абстрактныя паняцці, якія абазначаюць пэўныя знешнія з'явы: *дэфіцыт, форс-мажор, стэрэатып*, *суверэнітэт, інцыдэнт*.

Аднак не ўсе словы ўкладваюцца ў пэўныя правілы, і нярэдка ў СМІ сустракаецца вар'іраванне словаформ, аб'яднанне або раздзяленне слоў адной лексіка-граматычнай групы: *фрыстайла*, але *картынгу* (як від спорту). Так, адны аўтары падаюць *інтэрнэт-у* (БАС), а іншыя *інтэрнэт-а* (СНС), відаць, тут уплывае зборнае значэнне назоўніка 'інфармацыйная сетка сусветнага маштабу'. Падобнае назіраецца ў словазлучэнні *праграмны прадукт* 'камп'ютарная праграма', якое мае кадыфікаваны канчатак *-у* адпаведна першапачатковаму значэнню *прадукт* 'тое, што атрымліваецца ў выніку працы чалавека' (ТСБМ). Аднак амаль усе астатнія назоўнікі камп'ютарнай тэматыкі ўжываюцца з канчаткам *-а*: *Да таго ж паслугамі **інтэрнета** часта карыстаюцца людзі, якія па нейкіх прычынах не могуць знайсці сабе сяброў (сяброwак) у рэальным жыцці* (Б. 2006. № 7. С. 36), але *Што краіна знаходзіцца не так далёка ад сусветна вядомых Ірана, Ірака і Сірыі – успомніла ўвогуле пасля таго, як вылезла з **нэту** і зазірнула ў атлас* (Б. 2006. № 8. С. 18); *Трэба ствараць спецыялізаваны партал, дзе ўся патрэбная педагогам і бацькам інфармацыя будзе знаходзіцца ў свабодным доступе, і дзе можна будзе наладзіць прамы дыялог паміж аўтарамі **праграмнага прадукту**, педагогамі і бацькоўскай грамадскасцю* (Зв. 2010. № 6. С. 5).

Неўнармаванасць назіраецца і ў канчатках назоўнікаў, што абазначаюць назвы прадпрыемстваў, функцыянальных аб'ектаў: *агракамбінат-а* і *аграпрамысловага комплекс-у*, *хоспіс-а, прыёмніка-размеркавальнік-а* і *бамжатнік-у*. Тут відавочнае наследаванне замацаваных форм: *камбі-*

*нат-а* – ‘вялікае прамысловае прадпрыемства, якое аб’ядноўвае некалькі прадпрыемстваў, звязаных паміж сабой тэхналагічным працэсам або адміністрацыйна’, *комплекс-у* – ‘сукупнасць прадметаў, з’яў, уласцівасцей, якія складаюць адно цэлае’ (ТСБМ), *канцэрн-а* – ‘манапалістычнае аб’яднанне, якое ўключае прадпрыемствы прамысловасці, транспарту і банкаўскай сферы’. Гэтыя лексемы сінанімічныя, таму варта прывесці іх, нягледзячы на значэнне зборнасці, да афікса *-а*, які з’яўляецца дамінуючым і нарматыўным для назваў грамадскіх арганізацый, устаноў, вайсковых падраздзяленняў паводле «Кароткай граматыкі беларускай мовы» і інш.: *Працэдурны камітэт* ***парламента*** *Грузіі плануе правесці рэвізію зарплаты тых кіраўнікоў дзяржаўных устаноў, у каго яна перавышае зарплату прэзідэнта краіны* (Зв. 2006. № 53. С. 1)*; Яно (каханне) здарылася толькі на першым курсе* ***каледжа*** (Б. 2006. № 11. С. 20). *Дзякуючы гэтай падтрымцы супрацоўнікі* ***хоспіса*** *маюць магчымасць дапамагаць хворым дзецям і іх сем’ям, падтрымліваць іх у гэтай складанай сітуацыі* (Зв. 2009. № 200. С. 3). *І ўжо такі факт: цяпер на адной з сучасных фермаў* ***агракамбіната*** *«Сноў» надойваюць за год па 10,6 тысячы кілаграмаў* (Зв. 2010. № 5. С. 6), але *Забеспячэнню* ***аграпрамысловага комплексу*** *высокапрафесійнымі кадрамі апраўдана надаецца вялікая ўвага* (ЧЗ. 2006. № 16. С. 4).

Раздзеленасць слоў адной лексіка-семантычнай групы назіраецца і ў назвах калектываў, аб’яднанняў, слаёў грамадства. Напр., *фан-клуб*, *бізнэс-клас*, *клан*, *поп-гурт* ужываюцца з канчаткам *-а* ў родным склоне, другія – *крыміналітэт*, *бамонд, рок-калектыў* – з *-у*. Частка новых слоў утворана на базе ўжо існуючых, за якімі замацаваліся пэўныя канчаткі: *клас-а* ‘вялікая група людзей, аб’яднаных аднолькавымі адносінамі да сродкаў вытворчасці, размеркавання грамадскага багацця і агульнасцю інтарэсаў’, *клуб-а* як ‘арганізацыя, якая аб’ядноўвае людзей пэўнай сацыяльнай групы для сумеснага адпачынку, забаў і г. д.’, *гурт-у* ‘натоўп, група людзей’, *калектыв-у* ‘група людзей, аб’яднаных агульнымі інтарэсамі, агульнай дзейнасцю’ (ТБСМ). П. У. Сцяцко прапануе ва ўсіх назоўніках, якія маюць значэнне зборнасці (*флот, калектыў* і інш.) ужываць канчатак *-у*, аднак у граматыках роднасныя лексемы знаходзяцца ў розных лексіка-граматычных групах: *актыву,* але *кааператыва*. Большасць з іх маюць значэнне афіцыйнай арганізацыі і кадыфікаваны канчатак *-а*, таму варта яго замацаваць за групай гэтых назоўнікаў*: Пакажыце, на што здольныя, і магчыма, менавіта вы станеце ўдзельнікам* ***шоў-балета*** *якой-небудзь эстраднай зоркі* (Б. 2006. № 8. С. 10); *Своеасаблівым бонусам фестывалю стала выступленне рускага* ***поп-гурта*** *«Динамит»* (Б. 2006. № 7. С. 24). Але на практыцы сустракаюцца і формы з *-у*: *Каб потым не высветлілася, што ты зусім не фанацееш ад* ***гурту*** *Ramstein, а тваё хобі не зусім узломы камп’ютарных праграм…* (Б. 2006. № 3. С. 29); *Гэтая сустрэча выклікала цікавасць не толькі ў кіраўніцтва Гомельскай кандытарскай фабрыкі «Спартак», але і ў сталічнага спартыўна-артыстычнага* ***бамонду*** (Зв. 2009. № 244. С. 11).

Дакладна неакрэслена ўжыванне ў родным склоне назоўнікаў спартыўнай тэматыкі: *кайтынг-а*, *цыгун-а*, *скейтбордынг-а*, *сокс-а, страйкбол-а,* але *спінінг-у*, *картынг-у*, *піла́тэс-у, кіберспорт-у.* Усе гэтыя лексемы маюць значэнне зборнасці, да таго ж у аснове асобных маецца элемент *-інг*, які ў англійскай мове-донары з'яўляецца паказчыкам неасабовай формы дзеяслова герундзій, якому ў беларускай мове блізкія аддзеяслоўныя назоўнікі тыпу *чытанне (reading)*, *вязанне (knitting)*, *катанне на лыжах (skiing)* [13], што падштурхоўвае да афармлення гэтай катэгорыі з афіксам *-у* ў родным склоне адзіночнага ліку, нягледзячы на тое, што сучасныя граматыкі прапануюць ужываць назвы ўсіх спартыўных гульняў, прыёмаў, практыкаванняў з *-а*. *Якому вынаходніку-вар'яту прыйшла ў галаву канцэпцыя* ***сокса*** *– невядома* (Б. 2006. № 7. С. 26); *Прыйшоўшы дадому, ён пераапрануўся ў камуфляж і, прыхапіўшы з сабой копію пісталета «SIG SAUER» і аўтамата «АКМ-74», прызначаныя для* ***страйкбола,*** *вярнуўся назад у двор* (Зв. 2009. № 156. С. 1), але *Усе пераможцы атрымалі ўзнагароды з рук старшыні федэрацыі* ***картынгу*** *Віктара Цвірко* (Р. 2006. № 43. С. 43); *Вы можаце аддаць перавагу ёзе, плаванню,* ***пілатэсу*** *і пешым прагулкам* (Зв. 2009. № 47. С.6).

Прапануецца аб'яднаць у адну лексіка-граматычную групу з канчаткам *-у* і назвы ўсіх арганізаваных мерапрыемстваў, відовішч, акцый, спаборніцтваў: *гала-канцэрт-а*, *мюзікл-а*, *джэм-сэйшн-а* з блізкімі па значэнні: *бенефіс-у, сэйшн*-у, *форум-у*, *флэш-моб-у*: *А міністрам культуры Індыі нават выказвалася надзея на далейшы сумесны праект — нашых музыкантаў і індыйскіх: штосьці накшталт* ***«джэм-сэйшна»*** (К. 2009 № 4. С. 8); *Удзельнікаў* ***мюзікла*** *«Тот самый слонёнок» я застала на занятку харэаграфіі* (Б. 2006. № 12. С. 17); *Сам конкурс традыцыйна адбудзецца ў тры этапы: адборачны тур <...>, паўфінал <...>, фінал у форме* ***гала-канцэрта****...* (Зв. 2010. № 27. С. 1) і *Каманда Босніі і Герцэгавіны папсавала нервы ў адборы да* ***мундзіялю****-2010, абышоўшы ў групе туркаў, бельгійцаў, эстонцаў і армян* (Зв. 2010. № 25. С. 7). *У першай палове вечара ўсім прысутным прадставілі прэм'ерны спектакль «Васа» паводле класічнай п'есы Максіма Горкага, якую вядомы беларускі рэжысёр Рыд Таліпаў паставіў для народнай артысткі, прычым адмыслова да яе* ***бенефісу*** (К. 2007. № 46. С. 14).

Аб'яднання ў адну лексіка-граматычную групу з канчаткам *-у* ў родным склоне патрабуюць і назвы танцаў, стыляў музыкі, кірункаў мастацтва і філасофскіх поглядаў. Папярэднія граматыкі і аўтары раяць ужываць назвы танцаў, музычных кірункаў з канчаткам *-а*, а назвы мастацкіх напрамкаў (відаць, на узор філасофскіх тэорый) – з канчаткам *-у*. Але ў ТСБМ зафіксаваныя адзінкавыя назвы гэтай катэгорыі з канчаткам *-а*: *джаз, рок-н-рол*, *твіст*, *вальс* (але *стрыптыз-у*), калі ў сучаснасці колькасць музычных стыляў увесь час павялічваецца. Да таго ж многія віды музычных напрамкаў супадаюць з назвамі іншых напрамкаў мастацтва *(андэграунд, поп, трэш),* стыляў адзення *(глэм-рок, неа-панк)*, што гаворыць на карысць іх уніфікацыі

з канчаткам *-у*: *Першым мерапрыемствам фестывалю стала так званае ШТАМparty <...> – конкурс B-boys, або лепшых танцораў* ***брэйка,*** *і лепшага танцавальнага шоу* (ЧЗ. 2006. № 16. С. 1); *На працягу сямі гадзін са сцэны комплекса «Лагойск» гучала жывая непапсовая музыка – ад* ***хард-кора*** *да* ***поп-рока*** (Б. 2006. № 7. С. 24), але *Так што фанаты* ***брэйк-дансу*** *маглі бачыць выступленне прафесіяналаў у нашай краіне* (Б. 2006. № 12. С. 41); *Жыве ў адным горадзе хлопчык, які ну вельмі любіць быць, як кажуць музычныя крытыкі, на хвалі* ***мэйнстрыму****...* (Б. 2009. № 9. С. 59)*; Тут ёсць невялікі ўплыў* ***неа-панку*** *80-х, але занадта металічнай фурнітуры быць не павінна* (Зв. 2010. № 22. С. 8).

Патрабуюць упарадкавання ў групу з канчаткам *-у* і блізкія значэннем сістэмнасці лексемы *хіт-парад*, *чарт* і *рэйтынг*: *І найлепшае таму сведчанне – 58-я пазіцыя Беларусі ў сусветным* ***рэйтынгу*** *па ўмовах вядзення бізнэсу* (Зв. 2009. № 240. С. 2); *Праграма ў эфіры існуе тры гады, натуральна, што і ўдзельнікі* ***хіт-параду,*** *і яго вядучыя падраслі* (Зв. 2009. № 39. С. 8), але *Узнагароды* ***хіт-парада*** *«Чартавы тузін», якія выходзіць на хвалях рок-радыёстанцыі «Наша радыё» амаль 10 гадоў, будуць уручаны ўпершыню* (ЧЗ. 2009. № 3. С. 2).

Такім чынам, відавочна, што ўжыванне і напісанне новых слоў у лексікаграфічных крыніцах, сродках масавай інфармацыі, літаратуры патрабуе ўнармавання, прывядзення ў аднастайную сістэму, а таксама перагляду былых норм напісання, бо ўзросшая колькасць новых слоў выходзіць за межы ўсталяваных лексіка-граматычных катэгорый, па якіх ідзе размежаванне ў напісанні склонавых канчаткаў.

*Мінск*

## Спіс скарачэнняў

**СНС** – Уласевіч В. І., Даўгулевіч Н. М. Слоўнік новых слоў беларускай мовы. – Мінск, 2009; **БАС** – Беларускі арфаграфічны слоўнік. – Мінск, 2009; **ТСБМ** – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. – Мінск, 1977 – 1984; газеты: **Зв.** – «Звязда» і яе дадаткі: **ЧЗ.** – «Чырвоная змена», **МС.** – «Местное самоуправление»; **Р.** – «Раніца»; **К.** – «Культура»; часопіс **Б.** – «Бярозка».

## Літаратура

1. Лукашанец А. А. Беларуская літаратурная мова (праблемы сучаснай нормы) // Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: Матэрыялы міжнар. навук. канф., 24–25 кастр. 2006 г. – Мінск: Права і эканоміка, 2006. – С. 4–5.

2. Падлужны А. І. Мова і грамадства: Зб. арт. – Мінск: Беларус. кнігазбор, 1997. – С. 8.

3. Какуридис Т., Манян М. Глобальный английский: взгляд европейца [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http//www. e_novosti. info/blog.

4. Забелина Н. А. Русско-английское двуязычие [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http//www. tl-ic. kursksu. ru.

5. Сцяцко П. У. Праблемы нормы, культуры мовы: Навуч. дапам. – Гродна: ГрДУ, 1998. – С. 19.
6. Акудовіч В. В. Разбурыць Парыж: Эсэ. – Мінск: Логвінаў, 2004. – С. 224.
7. Шкраба І. Р. Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове: – Мінск: Асар, 2004. – 239 с.
8. Важнік С. Тры стыхіі байнэта, або праява нацыянальнай моўнай самаідэнтыфікацыі. – Мінск: Права і эканоміка, 2007. – С. 21.
9. Лукашанец А. А. Беларуская мова на сучасным этапе: сістэма, статус, функцыянаванне// Вес. НАН Беларусі. – 2009. – № 1. – С. 111.
10. Ермакова О. П., Земская Е. А., Розина Р. И. Слова, с которыми мы встречались. Толковый словарь русского общего жаргона. – М.: Азбуковник, 1999. – 320 с.
11. Кароткая граматыка беларускай мовы. Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 351 с.
12. Шахматов А. А. Очерк современного русского литературного языка– М.: Учпедгиз, 1941. – 288 с.
13. Хведченя Л. В., Хорень Р. В. Английский для поступающих в вузы. – Минск: Высш. шк., 2000. – 431 с.

## Summary

This article touches up the problem of normalization of ending (masculine gender Genitive case in the singular number) in new nouns which have appeared in the Belorussian language recently.

*УДК 821.161.1-26’367.625 + 821.161.3-26’367.625*

*А. Г. ВАНКЕВІЧ*

# СУПАСТАЎЛЯЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ТЫПАЎ АДЫМЕННЫХ ДЗЕЯСЛОВАЎ РУСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНЫХ МОЎ

*(Паступіў у рэдкалегію 3.03. 2010 г.)*

Праблема супастаўляльнага даследавання моў – як блізкароднасных, так і з розных моўных сем’яў – становіцца асабліва актуальнай у сучаснай лінгвістыцы ў сувязі з пашырэннем моўных кантактаў і неабходнасцю тэарэтычнага абгрунтавання і практычнага прымянення ў сумежных навуках вынікаў гэтага даследавання. Вывучэнне моўных фактаў у супастаўляльным аспекце забяспечвае выяўленне агульных і спецыфічных рыс, садзейнічае больш глыбокаму і аб’ектыўнаму разуменню з’яў кожнай з лінгвістычных сістэм, якія параўноўваюцца, выкрывае тэндэнцыі і перспектывы іх далейшага развіцця.

Аб’ектам дадзенага даследавання з’яўляюцца адыменныя дзеясловы дзвюх блізкароднасных моў – рускай і беларускай, а непасрэдная задача заключаецца ў параўнанні характарыстык розных тыпаў гэтых дэрыватаў.

Руская і беларуская мовы як «нашчадкі» праславянскай мовы выяўляюць найбольш цесную блізкасць у параўнанні з іншымі славянскімі мовамі. На фоне вялікага лексічнага падабенства (амаль 90%) рускай і беларускай моў асабліва выразна праяўляюцца іх адметныя асаблівасці [1]; гэтыя асаблівасці тычацца і словаўтварэння.

Ва ўмовах білінгвізму функцыянаванне лінгвістычных сістэм мае сваю спецыфіку: з аднаго боку, адбываецца іх узаемнае абагачэнне і асіміляцыя, з другога – імкненне да адрознення. Генеалагічная, тыпалагічная і арэальная блізкасць рускай і беларускай моў дэтэрмінуюць значны агульны фонд лексем, які пастаянна папаўняецца за кошт запазычання і словаўтварэння [2]. Дынаміка развіцця лексічных сістэм дзвюх моў звязана з наступнымі фактарамі: перамяшчэннем слоў з актыўнага слоўніка ў пасіўны або развіццём у ўстарэлага слова новага актуальнага значэння; «міграцыйнымі» працэсамі лексічных адзінак паміж рознымі стылямі і варыянтамі ўнутры мовы; пранікненнем і паступовай асіміляцыяй іншамоўных лексем; мадэліраваннем новых слоў на падставе ўласнага лексічнага матэрыялу.

Адна з найважнейшых функцый мовы – функцыя намінацыі. Працэсы называння заўсёды звязаны са словаўтварэннем: яно з’яўляецца асноўным

відам намінацыі [3]. Працэс вытворчасці слова, г. зн. стварэнне на базе зместу лексемы новага зместу і выражэнне яго ў новым слове, складае сутнасць анамасіялогіі. Такім чынам, намінацыя, словаўтварэнне і анамасіялогія збліжаюцца на падставе паняцця «абазначэнне» і займаюцца вывучэннем праблем утварэння моўных адзінак, якія характарызуюцца намінатыўнай функцыяй і служаць для вычлянення і называння фрагментаў рэчаіснасці, а таксама для фарміравання адпаведных паняццяў пра іх у форме слоў.

Намінацыя дзеяння можа ажыццяўляцца двума спосабамі – называннем невытворным і вытворным словамі, параўн., напр.: рус. *кушать* і *трапезничать*, *ужинать*; бел. *ленавацца* і *гультаяваць*, *лодарнічаць*. Вытворныя адзінкі ўяўляюць сабой вынікі другаснай намінацыі, у працэсе якой фанетычны воблік ужо існуючай адзінкі выкарыстоўваецца ў якасці імені для новага абазначаемага [4]. Другасныя намінацыі ствараюцца на падставе прынцыпаў аналогіі і асацыяцыі. Колькасць вытворных адзінак у некалькі разоў перавышае колькасць невытворных, і ў гэтым сутнасць мовы як мабільнай знакавай сістэмы, якая актуалізуе і наміміруе аб’екты рэчаіснасці.

Словаўтварэнне ўяўляе сабой механізм, які забяспечвае бясконцасць слоўніка [5]; іншымі словамі, гэта сістэма схем утварэння назваў для новых аб’ектаў рэчаіснасці або новых найменняў ужо існуючых рэалій. Як вядома, вытворнае слова мае дуалістычную сутнасць: яно звязана са светам субстанцый і з утваральным словам і таму неадназначна ацэньваецца ў лінгвістыцы. У сувязі з гэтым А. С. Кубракова адзначае, што правільнае разуменне вытворнага слова павінна грунтавацца на трактоўцы яго як другаснай намінацыі, якая, з’яўляючыся па форме ўніvербам, па змесце выяўляе складана-структурыраванае, комплекснае значэнне [6]. Падобнае стаўленне да вытворнай адзінкі знаходзім і ў Р. Манучарана: «Вытворнае ўвасабляе намінацыю скрозь прызму матывацыі, і ў аналізе яго зместу можна вылучыць матывацыйны і намінацыйны аспекты» [7]. Менавіта такі падыход да вытворнага слова здаецца нам найбольш рацыянальным і мэтазгодным.

Дзеясловы, утвораныя ад назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў, з’яўляюцца адным са сродкаў намінацыі дзеяння і складаюць значны па колькасці і семантычна разнастайны клас дэрыватаў як у рускай, так і ў беларускай літаратурных мовах (звыш 3500 і каля 2500 адзінак адпаведна). Акрамя таго, працэс згортвання дзеяслоўна-іменных спалучэнняў у цэласнааформленую дзеяслоўную намінацыю асабліва актыўна адбываецца на ўзроўні маўлення, што сведчыць аб прадуктыўнасці адыменнага словаўтварэння і неабходнасці ў новых сродках выражэння дзеяслоўнай семантыкі, параўн., напр.: рус. *намазывать майонезом – майонезить*; бел. *пасылаць паведамленні па e-mail – емэйлаць*. Такім чынам, сістэмы адыменнага дзеяслоўнага словаўтварэння абедзвюх моў развіваюцца пад уздзеяннем агульных тэндэнцый – аналогіі, тэндэнцыі да эканоміі моўных сродкаў, тэндэнцыі

да варыятыўнасці, а таксама тэндэнцыі да сістэмнасці і стандартнасці ў мове.

Руская і беларуская словаўтваральныя сістэмы аб’ядноўваюцца на падставе выкарыстання для вытворчасці дзеясловаў самых розных па форме, паходжанні, ступені ўжывальнасці і стылістычнай афарбоўцы іменных намінацый. Як у рускай, так і ў беларускай мовах у якасці ўтваральных баз выступаюць: 1) простыя лексемы (рус. *щенок* → *щениться*, *узкий* → *узить*; бел. *пясок* → *пясочыць*, *трухлявы* → *трухлець*) і кампазіты (рус. *водовоз* → *водовозничать*, *косоглазый* → *косоглазить*; бел. *дабрадзей* → *дабрадзейнічаць*, *велікадушны* → *велікадушнічаць*); 2) спрадвечныя словы (рус. *рука* → *вручить*; бел. *барана* → *баранаваць*) і запазычанні (рус. *пломба* → *пломбировать*, *шторм* → *штормить*, *дисконт* → *дисконтировать*, *система* → *систематизировать*, *герметический* → *герметизировать*; бел. *сімвал* → *сімвалізаваць*, *праект* → *праектаваць*, *радыё* → *радыёфікаваць*, *танец* → *танцаваць*, *інтэнсіўны* → *інтэнсіфікаваць*); 3) намінацыі з актыўнага слоўніка (рус. *дочь* → *удочерить*, *мотив* → *мотивировать*, *зеленый* → *зеленеть*, *водный* → *наводнить*, *второй* → *вторить*; бел. *садоўнік* → *садоўнічаць*, *вецер* → *ветрыць*, *духмяны* → *духмяніць*, *чысты* → *чысціць*, *трое* → *патроіць*) і словы з пасіўнага лексікона – устарэлыя (рус. *ямщик* → *ямщичить*, *злато* → *златить*; бел. *рэкрут* → *рэкрутаваць*) і неалагізмы (рус. *кибернетика* → *кибернетизировать*; бел. *зумер* → *зумерыць*); 4) стылістычна нейтральная лексіка (рус. *пила* → *пилить*, *опасный* → *обезопасить*; бел. *футра* → *футраваць*, *жоўты* → *жоўкнуць*) і стылістычна маркіраваная (рус. *лоботряс* → *лоботрясничать*; бел. *басяк* → *басячыць*).

З пункту погляду марфалогіі ў якасці ўтваральных выступаюць аднатыпныя разрады рускіх і беларускіх іменных слоў, а словаўтваральныя сістэмы абедзвюх моў у цэлым характарызуюцца аднастайнасцю спосабаў і сродкаў утварэння дзеясловаў ад іменных часцін мовы, а таксама марфаналагічных працэсаў на марфемных швах.

Корпус матывавальных назоўнікаў рускай і беларускай моў выяўляе лексіка-граматычную і семантычную разнастайнасць; у ім вылучаюцца: а) агульныя (рус. *плод* → *плодить*; бел. *склад* → *складаваць*) і ўласныя (рус. *Линч* → *линчевать*; бел. *Хрыстос* → *хрыстосавацца*); б) адушаўлёныя (рус. *комик* → *комиковать*; бел. *брат* → *братацца*) і неадушаўлёныя (рус. *холм* → *всхолмить*; бел. *вясло* → *веславаць*); в) абстрактныя (рус. *мораль* → *морализовать*; бел. *гандаль* → *гандляваць*), рэчыўныя (рус. *сахар* → *сахарить*; бел. *вапна* → *вапнаваць*) і зборныя (рус. *мебель* → *меблировать*; бел. *насенне* → *абнасеніць*). Што тычыцца катэгорый роду, ліку і скланення, у абедзвюх мовах назоўнікі ўсіх без выключэння разрадаў здольны ўтвараць дзеясловы, напр., рус. *струна* (ж. р., адз. л., 2 скл.) → *струнить*, *шампанское* (н. р., адз. л., ад’ект. скл.) → *шампанизировать*, *время* (н. р., адз. л., рознаскл.) → *временить*, *соло* (н. р., нескл.) → *солировать*; бел. *герой* (м. р., адз. л., 1 скл.) → *гераізаваць*, *кансервы* (plur. tantum) → *кансерваваць*, *дэфіле* (н. р., нескл.) → *дэфіліраваць* і інш.

Спецыфіка катэгарыяльнага значэння прыметнікаў абумоўлівае магчымасць ці немагчымасць іх трансфармацыі ў дзеясловы. Як у рускай, так і ў беларускай мовах дзеясловы рэгулярна ўтвараюцца ад якасных (рус. *алый* → *алеть*; бел. *гарачы* → *гарачыць*) і адносных прыметнікаў (рус. *хромой* → *хромать*; бел. *сучасны* → *асучасніць*) і не могуць быць утвораны ад прыналежных.

Утварэнне аднумератыўных дзеясловаў амаль не адрозніваецца ў блізкароднасных мовах: у якасці зыходных слоў выступаюць зборныя лічэбнікі (рус. *пятеро* → *упятерить*; бел. *двое* → *здваіць*). Адметнай асаблівасцю гэтых словаўтваральных сістэм з'яўляецца тое, што ў рускай мове ўсе зборныя лічэбнікі, утвораныя ад колькасных, акрамя *восьмеро*, рэалізавалі свае словаўтваральныя патэнцыі ў дзеяслоўных дэрыватах, у той час як у беларускіх слоўніках не зафіксаваны эквіваленты рускіх аднумератыўных дзеясловаў *упятерить*, *ушестерить*, *усемерить*, хоць патэнцыяльна яны магчымыя. Неаднолькавым у сучасных рускай і беларускай мовах з'яўляецца стаўленне да словаўтваральнага статусу дзеяслова *осточертеть*//*астачарцець*: у рускай мове *осточертеть* успрымаецца як адзіночнае невытворнае слова, якое страціла матывацыйную сувязь з зыходным словазлучэннем *сто чертей* [8], у беларускай жа словаўтваральная залежнасць дзеяслова *астачарцець* ад спалучэння лічэбніка з назоўнікам яшчэ захоўваецца і замацавана ў слоўніку [9].

Супастаўляльнае даследаванне сферы ўтваральных асноў дазволіла выявіць агульную для гэтых блізкароднасных моў заканамернасць: частата выкарыстання той ці іншай іменнай часціны мовы ў якасці матэрыяльнай базы для ўтварэння дзеяслова прама прапарцыянальна колькасці слоў гэтых лексіка-граматычных разрадаў. Так, па нашых падліках, сярод усіх іменных намінацый, якія ўдзельнічаюць ва ўтварэнні дзеясловаў, вядучая роля належыць назоўнікам (80,3% у рускай мове і 76,7% у беларускай), прыметнікі складаюць 19,3% у рускай мове і 22,9% у беларускай, а на лічэбнікі прыходзіцца па 0,4% у кожнай мове.

Што тычыцца словаўтваральных патэнцыялаў асобных іменных слоў, то ў сучасных блізкароднасных мовах яны неаднолькавыя: па-першае, адны і тыя ж рускія і беларускія імёны ўтвараюць розную колькасць дзеясловаў, напр., рус. *колос* утварае толькі адзін дзеяслоў *колоситься*, а бел. *колас* – два (*каласаваць*, *каласіцца*), і наадварот, рус. *паразит* з'яўляецца ўтваральнай базай для трох дзеясловаў (*паразитировать*, *паразитничать*, *паразитствовать*), а бел. *паразіт* – толькі для *паразітаваць*; па-другое, некаторыя адыменныя дзеясловы не маюць такіх жа адпаведнікаў у другой мове (рус. *покорный* → ***покорствовать*** – бел. *быць пакорлівым* або бел. *бойкі* → ***пабайчэць*** – рус. *стать более бойким*); па-трэцяе, рускія іменныя словы валодаюць большымі словаўтваральнымі магчымасцямі ў параўнанні з беларускімі, таму што здольны ўтвараць дзеясловы 4-й (*упереть* → *упор* → *упорный* → *упорство* → ***упорствовать***) і 5-й (*мутный* →

*мутить* → *смутить* → *смута* → *смутьян* → ***смутьянить***) ступеней матывавальнасці. Гэтыя факты сведчаць аб наяўнасці міжмоўных словаўтваральных лакун, а, значыць, і аб асіметрычнай карэляцыі паміж рускай і беларускай сістэмамі адыменнага дзеяслоўнага словаўтварэння.

Вытворны дзеяслоў з’яўляецца складанай у дачыненні да структуры словаўтваральнай адзінкай, паколькі ўключае два кампаненты – утваральную іменную аснову і фармант. Паміж членамі словаўтваральных пар назіраюцца два тыпы суадносін: 1) утваральная і вытворная асновы матэрыяльна тоесныя (рус. *риск* → *рисковать*; бел. *карусель* → *каруселіць*); 2) утваральная аснова часткова адпавядае вытворнай у выніку марфаналагічных пераўтварэнняў першай – усячэння (рус. *шир**ок**ий* → *ширить*, *драж**е*** → *дражировать*; бел. *цыт**ат**а* → *цытаваць*, *украін**скі*** → *украінізаваць*), нарашчэння (рус. *время* → *врем**ен**ить*, *жест* → *жест**икул**ировать*; бел. *душа* → *адуш**ав**іць*, *фіск* → *фіск**ал**іць*), налажэння марфем (рус. *жу**ир*** → *жу**ировать***; бел. *наіўны* → *наіў**нічаць***) і чаргавання фанем (рус. *буг**о**р* → *бугрить*, *жесто**к**ий* → *ожесто**ч**ить*; бел. *ш**э**ры* → *ш**а**рэць*, *пу**х*** → *распу**ш**ыць*). Адрозненні адыменнага дзеяслоўнага словаўтварэння рускай і беларускай моў праяўляюцца галоўным чынам у фанетычных асаблівасцях, колькасці і якасці адсякаемых фіналей і інтэрфіксаў, а таксама ў акцэнтных характарыстыках.

Адыменныя дзеясловы ў абедзвюх мовах утвараюцца наступнымі спосабамі: суфіксальным (рус. *грипп* → *грипп-ова-ть*; бел. *дзяшовы* → *дзешав-е-ць*); прыставачна-суфіксальным (рус. *прочный* → *у-прочн-и-ть*; бел. *звычай* → *пры-звыча-і-ць*); суфіксальна-постфіксальным (рус. *невеста* → *невест-и-ть-ся*; бел. *сінявы* → *сіняв-і-ц-ца*); прыставачна-суфіксальна-постфіксальным (рус. *бок* → *под-бочен-и-ть-ся*; бел. *хітры* → *у-хітр-ы-ц-ца*); словаскладаннем (рус. *вид* і *изменить* → *вид-о-изменить*; бел. *плод* і *насіць* → *плод-а-насіць*); складаннем з суфіксацыяй (рус. *разный* і *речь* → *разн-о-реч-и-ть*; бел. *пусты* і *слова* → *пуст-а-слов-і-ць*). Адрозненні паміж сістэмамі блізкароднасных моў заключаюцца ў рознай прадуктыўнасці гэтых спосабаў, выбіральнасці ўтваральных асноў і дэрывацыйных афіксаў, ваганні ў частаце выкарыстання тых ці іншых фармантаў.

Характар дзеяслоўнай семантыкі вызначаецца тыпам семантычнай арганізацыі матывавальнага іменнага слова. У сувязі з гэтым рускія і беларускія адыменныя дзеясловы дзеляцца на дзве групы: 1) дзеясловы актыўнага дзеяння, матываваныя назоўнікамі з канкрэтнай семантыкай, якаснымі ці адноснымі прыметнікамі і лічэбнікамі (рус. *сверлить*, *бодрить*, *усемерить*; бел. *перчыць*, *ружовіць*, *раздвоіць*); 2) дзеясловы, якія абазначаюць неактыўныя працэсы і паходзяць, як правіла, ад абстрактных назоўнікаў і розных па значэнні прыметнікаў (рус. *грустить*, *лениться*, *дорожать*; бел. *прывілеяваць*, *хварэць*, *млявець*).

Адсубстантыўныя дзеясловы выражаюць адносіны паміж прадметамі, і ў іх семантычнай структуры, акрамя значэння працэсуальнасці, вылуча-

юцца субстантыўныя семы. Матывавальнае імя можа ўключацца ў склад дзеяслова ў якасці паказчыка суб'екта дзеяння (рус. *плотничать* '*быть плотником*'; бел. *настаўнічаць* '*працаваць настаўнікам*'), аб'екта дзеяння (рус. *шуметь* '*производить шум*'; бел. *пляміць* '*пакідаць плямы*'), інструмента (рус. *зондировать* '*исследовать при помощи зонда*'; бел. *шуфляваць* '*зграбаць, ссыпаць шуфлем*'), сродку (рус. *маслить* '*намазывать маслом*'; бел. *васкаваць* '*націраць, насычаць воскам*'), выніку (рус. *калечить* '*делать калекой*'; бел. *накаўтаваць* '*прыводзіць у стан накаўта*'), месца (рус. *складировать* '*помещать в склад*'; бел. *шпіталізаваць* '*змяшчаць у шпіталь*'), часу (рус. *ночевать* '*проводить где-либо ночь*'; бел. *вечарэць* '*блізіцца к вечару*').

Агульная для прыметнікаў і дзеясловаў здольнасць выражаць прыметы забяспечвае магчымасць устанаўлення паміж імі адносін непасрэднай дэрывацыйнай трансфарміруемасці [10]. У залежнасці ад таго, які кампанент катэгарыяльнай семантыкі прыметнікаў удзельнічае ў арганізацыі прапазіцыянальнай структуры, фарміруюцца наступныя семантычныя тыпы дзеясловаў: 1) інхаатывы, якія выражаюць ступень змянення прыметы (рус. *легчать*, *пьянеть*; бел. *дабрэць*, *сохнуць*); 2) экспазітывы, якія выяўляюць знешнюю прымету прадмета (рус. *круглеть*, *светлеть*; бел. *чырванець*, *цямнець*); 3) эссівы, якія ўказваюць на рэалізацыю ўласцівасці асобы ў адносінах да другой асобы (рус. *жадничать*, *скупиться*; бел. *хітрыць*, *далікатнічаць*); 4) каузатывы, якія абазначаюць надзяленне прыметай (рус. *сердить*, *обезопасить*; бел. *брудніць*, *сушыць*).

Дэрывацыйныя значэнні рускіх і беларускіх адыменных дзеясловаў, што з'яўляюцца аб'ектам нашага вывучэння, укладваюцца ў семантычную класіфікацыю З. М. Валоцкай, якая распрацавала яе для дзеясловаў рускай мовы [11]:

1) быць кім (рус. *актерствовать*, *бузотерить*; бел. *гарэзнічаць*, *халасцякаваць*);

2) быць якім (рус. *хитрить*, *гениальничать*; бел. *сівець*, *важнічаць*);

3) ператвараць / ператварацца ў каго (што) (рус. *калечить*, *звереть*; бел. *сіраціць*, *слупянець*);

4) рабіць / рабіцца якім (рус. *густить* / *густеть*; бел. *сляпіць* / *слепнуць*);

5) рабіць што (рус. *конспектировать*, *ранить*; бел. *пляміць*, *рапартаваць*);

6) адчуваць што (рус. *нуждаться*, *тосковать*; бел. *верыць*, *панікаваць*);

7) даваць што (рус. *советовать*, *вакцинировать*; бел. *тытулаваць*, *пашпартызаваць*);

8) прымяняць што (рус. *прессовать*, *критиковать*; бел. *касіць*, *штрафаваць*);

9) пазбавіць / пазбавіцца чаго (рус. *обеззаразить*, *обезденежеть*; бел. *абяскрыліць*, *абяспамяцець*).

Гэта самая агульная семантычная класіфікацыя адыменных дзеясловаў, якая, на наш погляд, патрабуе ўдакладнення і дапаўнення ў дачыненні да семантыкі аднумератыўных дзеясловаў. Адзначым, што дзеясловы, утвораныя ад лічэбнікаў, можна аб'яднаць у два семантычныя класы: 1) павялічыць у колькі разоў (рус. *упятерить*; бел. *патроіць*); 2) дзяліць на колькі (рус. *двоить*; бел. *дваіць*).

Агульнай рысай рускага і беларускага дзеяслоўнага словаўтварэння з'яўляецца наяўнасць усіх відаў матывацыі. Пераважная большасць адыменных дзеясловаў утворана ад першаснага, нематываванага, моўнага знака і адносіцца да зыходнай матывацыі (75,1% у рускай і 82,6% у беларускай мове): рус. *секрет* → *секретничать*, *милый* → *умилить*; бел. *атрута* → *атруціць*, *вульгарны* → *вульгарызаваць*. Частка дэнамінатыўных дзеясловаў (17,4% рускіх і 15,2% беларускіх) характарызуецца незыходнай матывацыяй, г. зн. дэрываты валодаюць больш складанай фармальна-семантычнай арганізацыяй за кошт сукупнасці паслядоўна далучаемых да невытворнай асновы фармантаў і іх значэнняў і знаходзяцца на 2, 3, 4 ступенях матывацыі. Такія вытворныя дзеясловы, акрамя непасрэднай матывацыі іменнымі словамі, апасродкавана матывуюцца рознымі – як знамянальнымі, так і незнамянальнымі – часцінамі мовы, якія таксама ўдзельнічаюць у фарміраванні семантыкі дэрыватаў: назоўнікамі (рус. ***кожа*** → *кожевник* → ***кожевничать***; бел. ***вада*** → *водны* → ***навадніць***), прыметнікамі (рус. ***хищный*** → *хищник* → ***хищничать***; бел. ***ёлкі*** → *ялкавы* → ***ялкавіць***), лічэбнікамі (рус. ***Первый*** → *первенство* → ***первенствовать***; бел. ***два*** → *двое* → ***дваіць***), дзеясловамі (рус. ***воевать*** → *воин* → ***воинствовать***; бел. ***рухацца*** → *рухавы* → ***парухавець***), прыслоў'ямі (рус. ***даром*** → *дармоед* → ***дармоедничать***; бел. ***усюды*** → *паўсюдны* → ***распаўсюдзіць***), выклічнікамі (рус. ***цок*** → *цокать* → *цокот* → ***цокотать***; бел. ***шорх*** → *шорхаць* → *шорхат* → ***шархацець***).

Сярод апасродкаваных матывацый і ў рускай, і ў беларускай мовах ёсць прыклады квазітыпавых (рус. *немой* → ***о****неме****ть***, *сладкий* → ***у****слад****ить***; бел. *прытомны* → ***а****прытомн****е****ць*, *ясны* → ***па****яснець*) і пазатыпавых матывацый (рус. *горб* → *горб****ате****ть*, *гусли* → *гусл****яри****ть*, *влага* → *влаж****не****ть*; бел. *валасы* → *валас****аце****ць*, *разьба* → *разьб****ары****ць*, *груз* → *груз****не****ць*). У абедзвюх блізкароднасных мовах пазатыпавыя матывацыі больш разнастайныя ў параўнанні з квазітыпавымі; усе непасрэдныя матывацыі дзеясловаў іменнымі словамі з'яўляюцца рэгулярнымі (рус. *равнодушный* → *равнодушничать*, *гениальный* → *гениальничать*, *жадный* → *жадничать*; бел. *востры* → *вастрэць*, *багаты* → *багацець*, *вузкі* → *вузець*).

Характэрная з'ява адыменнага дзеяслоўнага словаўтварэння абедзвюх моў – наяўнасць неадзіных матывацый. Аднак словаўтваральныя сістэмы рускай і беларускай моў маюць свае асаблівасці ў дачыненні да полімматывацыі: па-першае, у рускай мове дзеясловаў, матываваных некалькімі словамі, значна больш (7,4%), чым у беларускай (2,2%), па-другое, некато-

рыя рускія дзеясловы матывуюцца адначасова трыма словамі, а іх беларускія адпаведнікі – двума, што адлюстроўваецца на семантыцы вытворных (рус. *модничать* ← *мода*, *модный*, *модник*; бел. *модніча*ць ← *модны*, *моднік*).

Адносна фармальна-семантычнай матывацыі адыменных дзеясловаў можна адзначыць, што аб'ёмы значэнняў матывавальнага імені і матываванага дзеяслова могуць адрозніваца як у рускай, так і ў беларускай мовах. Супастаўляльны аналіз семантычных адносін паміж членамі матывацыі ў абедзвюх мовах дае падставу вылучыць 4 іх тыпы: 1) поўнае ўключэнне (рус. *мошенник* → *мошенничать*; бел. *шплінт* → *шплінтаваць*); 2) звужэнне семантычнага аб'ёму матываванага дзеяслова, калі дэрыват рэалізуе толькі некатрыя са значэнняў утваральнай базы (рус. *жадный* → *жадничать*; бел. *анкета* → *анкетаваць*); 3) пашырэнне аб'ёму значэнняў матываванага дзеяслова, калі ён набывае дадатковы семантычны кампанент (рус. *врач* → *врачевать*; бел. *інтэлігент* → *абінтэлігенцііца*); 4) семантычная неадпаведнасць, калі вытворныя дзеясловы страчваюць семантычную сувязь з зыходнымі словамі і паміж імі назіраецца толькі фармальная блізкасць (рус. *колпак* → *колпачить*; бел. *шляпа* → *прашляпіць*). Парушэнне семантычнай карэляцыі паміж іменем і дзеясловам выклікана працэсам метафарызацыі; пры метафарычнай матывацыі значэнні іх не знаходзяцца ў адносінах адпаведнасці, таму што вытворны дзеяслоў ужываецца ў пераносным сэнсе (рус. *карман* → *прикарманить*, *юла* → *юлить*; бел. *сава* → *савець*, *камень* → *камянець*). Такім чынам, як у рускай, так і ў беларускай мовах семантычныя адносіны паміж членамі матывацыі могуць цалкам супадаць, часткова перасякацца або не супадаць увогуле.

На міжмоўным узроўні лексіка-семантычная карэляцыя ў сістэме адыменнага дзеяслоўнага словаўтварэння бывае трох відаў: 1) поўныя эквіваленты (рус. *район* → *районировать*; бел. *раён* → *раяніраваць*); 2) лексемы пераходнага тыпу (рус. *бродяга* → *бродяжничать*; бел. *брадзяга* → *брадзяжыць*); 3) няпоўныя эквіваленты (рус. *лесть* → *льстить*; бел. *лісліва* → *лісліві*ць).

У выніку супастаўляльнага даследавання адыменнага дзеяслоўнага словаўтварэння рускай і беларускай моў выяўлены зоны супадзення і падабенства, а таксама невялікія зоны адрознення катэгарыяльных прымет і словаўтваральных патэнцыялаў базавых слоў, структурна-семантычнай арганізацыі вытворных дзеяслоўных намінацый, відаў і ўзроўняў іх матывацыі. У цэлым адзначым, што пры падабенстве механізмаў і спосабаў утварэння дзеясловаў ад іменных слоў, а таксама тыпаў матываванай семантыкі руская і беларуская словаўтваральныя сістэмы характарызуюцца своеасаблівымі сродкамі выражэння аднаго і таго ж значэння, рознымі ўзроўнямі матывацыі дзеясловаў-карэлятаў, неаднолькавым дэрывацыйным патэнцыялам асобных іменных намінацый, і, як вынік, наяўнасцю міжмоўных лакун. Іншымі словамі, спецыфіка адыменнага дзеяслоўнага

словаўтварэння кожнай з блізкароднасных моў выяўляецца не на ўзроўні словаўтваральных тыпаў і відаў матывацыі, а непасрэдна на ўзроўні міжмоўнай карэляцыі канкрэтных лексем.

*Мінск*

## Літаратура


1. Роўда І. С. Рознаўзроўневая намінатыўная адпаведнасць беларускай і рускай моў (у сувязі з праблемай лексічных лакун). – Мінск, 1999. – С. 13.

2. Барковіч А. А. Лексічны патэнцыял беларускай мовы ў кантэксце корпуснай лінгвістыкі (на матэрыяле новай дзеяслоўнай лексікі): Аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук. – Мінск, 2008. – С. 15.

3 Улуханов И. С. Мотивированное слово в синонимическом ряду // Słowotwórstwo a inne sposoby nominacji. – Katowice, 2000. – С. 9.

4. Лингвистический энциклопедический словарь / Под ред. В. Н. Ярцевой. – М., 1990. – С. 336.

5. Лыков А. Г. Современная русская лексикология (русское окказиональное слово). – М., 1976. – С. 57.

6. Кубрякова Е. С. Производное слово в лексике и грамматике // Слово в грамматике и словаре. – М., 1984. – С. 63.

7. Манучарян Р. С. К соотношению мотивации и номинации в словообразовании // Słowotwórstwo a inne sposoby nominacji. – Katowice, 2000. – С. 106.

8. Тихонов А. Н. Словообразовательный словарь русского языка: В 2 т. – М., 1990. – С. 879.

9. Бардовіч А. М., Круталевіч М. М., Лукашанец А. А. Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 2000. – С. 43.

10. Семантические вопросы словообразования. Производящее слово / Под ред. М. Н. Янценецкой. – Томск, 1991. – С. 246.

11. Волоцкая З. М. Семантическая классификация и способы образования отыменных глаголов // Структурная типология языков. – М., 1966. – С. 165–180.


## Summary

In the given article the author presents the results of comparative research of Russian and Belarusian nominative verbal word-formation: categories of productive names, ways and means of verbs formation, their derivative classes, as well as types and levels of motivation.

*УДК 821.161.3'28+821.161.1'28*

*В. В. ГЕРАСІМОВІЧ*

# АДЛЮСТРАВАННЕ НАЙМЕННЯЎ ДУХОЎНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ У БЕЛАРУСКІХ І РУСКІХ ГАВОРКАХ

*(Паступіў у рэдкалегію 12.03.2010 г.)*

Духоўнае ўспрыманне свету і чалавечых узаемаадносін у ім не ў апошнюю чаргу звязана з усведамленнем асноўных хрысціянскіх дабрачыннасцей, якімі, на думку апостала Паўла, з'яўляюцца «вера», «надзея», «любоў» (1 Кар. 13:13).

У сучасных слоўніках усходнеславянскіх літаратурных моў гэтыя найменні тлумачацца як абстрактныя, прычым іх сувязь з рэлігійнай семантыкай адзначаецца выключна ў апошніх лексіка-семантычных варыянтах (ЛСВ). Падаецца цікавым прааналізаваць семантычныя асаблівасці адзначаных лексічных адзінак і паўнату іх адлюстравання ў дыялектных слоўніках беларускай і рускай моў.

У выніку праведзенай суцэльнай выбаркі са слоўнікаў беларускіх і рускіх народных гаворак былі адабраны 6 беларускіх («Тураўскі слоўнік», «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», «Дыялектны слоўнік (з гаворак Мсціслаўшчыны)», «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны», «Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны», слоўнік «Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры») і 24 рускія лексікаграфічныя крыніцы, лексіка якіх ахоплівае перыяд з канца XIX – першае дзесяцігоддзе XXI ст. Варыятыўнасць прадстаўленага матэрыялу звязана ў тым ліку з гэтым вялікім (і значным) адрэзкам часу.

Неабходна адзначыць, што ў сувязі з пераважным дыферэнцыяльным характарам беларускіх і рускіх дыялектных слоўнікаў абстрактныя лексемы (абстрэмы), якія рэпрэзентуюць аксіялагічныя паняцці «вера», «надзея», «любоў», не знайшлі ў іх свайго рэгулярнага адлюстравання: усе яны прысутнічаюць толькі ў 2 з 6 беларускіх слоўнікаў («Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны», «Тураўскім слоўніку») і ў 5 з 24 рускіх («Словаре русских народных говоров», «Словаре русских говоров Карелии и сопредельных областей», «Словаре русских говоров Сибири», «Словаре русских говоров Низовой Печоры», «Словаре пермских говоров»), што складае адпаведна 33,3% і 20,8%. У некаторых лексікаграфічных крыніцах зафіксаваны толькі іх вытворныя.

Лексемы *вера* і *любоў* прадстаўлены толькі ў 2 з 6 указаных слоўнікаў беларускіх гаворак – акадэмічным «Тураўскім слоўніку» і «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча. У «Тураўскім слоўніку» лексема *вера* зафіксавана як з традыцыйнай семантыкай (‘веравызнанне, вера’ – *У бога веры цяпер няма*), так і з не зусім звычайнай – ‘ліра’[1] (*У веру грае старэц і Лазара пое*) [2]. «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча адлюстраваў лексему *вера* ў значэнні ‘вера, давер’е’ (*Я яму нізашто ні няў веры*) [3].

У беларускіх гаворках абстрактнае найменне *любоў* выкарыстоўваецца толькі ў значэнні ‘любоў’, што занатавана ў «Тураўскім слоўніку» (*І памру не ў любові*) [4] і слоўніку І. К. Бялькевіча (*У етый кніжкі пры любоў хлопца і дзеўкі, якея любіліся* <…> [5]. Для абазначэння пачуццёвай «любві» ў беларускай мове ўжываецца лексема *каханне*.

Неабходна адзначыць, што ва ўсходнеславянскіх мовах захаваліся два варыянты прадстаўлення паняцця «надзея» – спрадвечнае *надежа* (з праславянскага **naděja*) і стараславянскае запазычанне *надежда* (з праславянскага **nadedja*). У літаратурнай беларускай мове замацаваўся варыянт *надзея*. Лексемы, якія абазначаюць паняцце «надзея», зафіксаваны ўсімі адабранымі слоўнікамі беларускіх гаворак: у «Тураўскім слоўніку» абстрэма *надзея* ўжываецца ў класічным разуменні – як ‘надзея, спадзяванне’ (*У мене е надзея, шо вон поправіцца*) [6], а ў «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» адзначаны два сінанімічныя словы з ідэнтычнай семантыкай ‘надзея’: *надзея* (*Няма надзеі, што ён паправіцца*) і *надзёжа* (*Надзёжы няма на памідоры*) [7].

«Дыялектны слоўнік (з гаворак Мсціслаўшчыны)» фіксуе лексему *надзёжа* са значэннем ‘надзея’ (*Ох Сярёжа, ты Сярёжа, ны цябé уся надзёжа*) [8], а ў «Матэрыялах да абласнога слоўніка Магілёўшчыны» слова занатавана са значэннем ‘адзенне’ (*Надзёжа мая нізавісная*) [9]. У гомельскіх гаворках ужываецца лексема *надзёжа* ў значэнні ‘надзея’ (*Ты едь, мая надёжа, не загуливайся*) [10]. «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» зафіксаваў найменне *надзёжа* з двума ЛСВ: ‘уласнае імя Надзея’ (*Надзёжа, схадзі зы вадой*) і ‘надзея, спадзяванне’ (*Німа надзёжы, каб ён астаўся жывэй*) [11].

Прааналізаваны матэрыял дазваляе гаварыць аб тым, што ў гаворках беларускай мовы рэдка выкарыстоўваецца літаратурны варыянт *надзея*, найбольш ужывальная лексема *надзёжа*, якая разумеецца як у абстрактным значэнні ‘надзея’, так і ў канкрэтным ‘адзенне’ (на Магілёўшчыне).

Зварот да акадэмічнага «Словаря русских народных говоров» паказаў, што слова *вера* ўжываецца ў значэннях, якія не вядомы сучасным і гістарычным слоўнікам рускай мовы: параўн. 1. ‘жаданне, ахвота, намер’ (*Ему не вера пойти, не вера вставать с постели. У него есть вера к ученью*);

[1] Падрабязны аналіз гэтага значэння прадстаўлены ў нашым артыкуле [1].

2. ‘паняцце, умельства’ (*На это вера-то есть!*); 3. ‘звычайны, традыцыйны парадак’ (*У них вера такая, чтоб непременно потчевать*) [12]. Выключэнне складае значэнне ‘павер’е, прымета, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне’ (*У нас вера такая, что каким ветром пошёл ты из становища, таким и на место придёшь*), раней зафіксаванае ў «Материалах для словаря древнерусского языка» І. І. Сразнеўскага [13].

«Словарь русских говоров Карелии и сопредельных областей» адлюстроўвае лексему *вéра* з падобнымі значэннямі: 1. ‘звычай, традыцыя’ (*Во всяком городе своя вéра, говорят разное, обычаи разные*); 2. ‘жаданне, намер’ (*Ей вéра, чтобы сделать тонкую верёвку*); 3. *у безас.-прэдык. знач.* ‘пара, час чаго-небудзь’ (*Время задумалось – дождику вéра пойти*) [14].

«Словарь русских говоров Сибири» занатаваў дзве аманімічныя лексемы *вéра*[1] ў значэнні ‘прывычка, звычай, традыцыя’ (*У них такая вера, чтоб непременно потчевать*) і *вéра*[2], якая ўжывалася ва ўстарэлых фразеалагічных зваротах *дýнькина вéра* ‘рэлігійны толк сямейскіх, вядомы ў літаратуры пад назвай «самачынцы», якім кіравала Аўдоцця Цуруканава’ (*По имени Авдотьи и толк прозвали «Дунькина вера». Другими словами, хочешь не хочешь, а молись*) і *окýлькина вéра* з двума ЛСВ: 1. ‘невялікая раскольніцкая секта, якая з’явілася сярод забайкальскіх старавераў у другой палове XIX стагоддзя, члены якой не прызнавалі шлюб’; 2. ‘непрыстойны выраз, які ўжываўся пры асуджэнні разводу і пакідання сям’і’ (*Ты что, из окулькиной веры? То к одной ходишь, то к другой!*) [15]. Гэтыя ўнікальныя фразеалагічныя звароты з’яўляюцца, натуральна, аказіянальнымі.

«Словарь русских говоров Низовой Печоры» фіксуе абстрэму *вéра* толькі ў складзе выразу *по своéй вéре* са значэннем ‘па сваіх магчымасцях, умельству’ (*Дéфка у меня́ фсё робóтала, настирáла по своéй-то вéры*) [16]. «Словарь пермских говоров» указвае на ўжыванне лексемы *вéра* ў словазлучэннях *красная вера* з семантыкай ‘стараверства’ (*Она богомолка, в красной вере, дак нет чтоб в церковь ходить, в доме соберутся и тут молитвы орут)* і *Вера иванна* з паметай *жартаўлівае* ‘назва таннага краснага віна тыпу вермут’ (*В магазин зашел, деньги-те маленько были, да Веру иванну взял, бутылочку*) [17]. Развіццё апошняга эндэмічнага значэння, магчыма, звязана з імем рэальнай асобы, якая мела дачыненне да месца знаходжання і набыцця гэтага тавару; потым шляхам метафарычных пераносаў яе ўласнае імя стала асацыіравацца з алкагольным напоем.

«Словарь русской народно-диалектной речи в Сибири XVII – первой половины XVIII века» адлюстраваў лексему *вера* ў трох ЛСВ, прычым толькі ў ЛСВ ‘прысяга, клятва’ яна ўжываецца самастойна (*В Пясиде, на Хатанге, на Есее-озере за зерновые судные пошлины собрано на вере 23 собол [...], цена 10 рублев*). У астатніх выпадках абстрэма зафіксавана ў словазлучэннях: *для веры* ‘для таго, каб было надзейна, у залог’ (*А товарищев его, толмача Ганьку да охочего человека Ваську Власова, оставил для веры у себя*) і *по вере кого, чьей* ‘які адпавядае вераванням, рытуальным абрадам

каго-небудзь’ (*В Ермолаеве волости грань вверх по Нице-реке над ключом, и их татарские мольбища и съезды по их вере тут были*), – і ў безасабовым значэнні ў складзе выказніка ‘хочацца каму-небудзь што-небудзь зрабіць, хто-небудзь спадзяецца што-небудзь зрабіць’ (*Ему вера поборотися есть У царя в каменной Москве, Хочет царя потешити Со царицею благоверною Марьею Темрюковною*) [18]. Пры тлумачэнні словазлучэння *для веры* выкарыстоўваецца прыслоўе *надзейна*, што сведчыць пра сінанімічнае разуменне гэтых слоў.

«Псковский областной словарь с историческими данными» таксама пацвярджае вышэйзгаданы факт, бо падае ў якасці другога значэння полісеманта *ве́ра* наступнае: ‘надзея на ажыццяўленне чаго-небудзь’ (*Да́жэ ве́ры нет*). Першым у слоўніку прадстаўлены лексіка-семантычны варыянт ‘давер’е’ (*У тебѣ нет ве́ры да менѣ*); трэцім – ‘рэлігійнае пачуцце’ (*С ве́ры збі́лись наро́т*). У якасці дадатковага сэнсавага адцення падаецца ‘веравызнанне, від рэлігіі’ (*Ве́ра на́ша стараве́рская, правильная, стари́нная*). Апошнім зафіксавана значэнне ‘прысяга, клятва’ (*И сверхъ вѣры, истецъ Любятова монастыря, стряпчий, слался словесно на писцовыя книги, письма и мѣры Ивана Вельяминова съ товарищи*) [19].

«Словарь русских говоров Башкирии» адзначае ўжыванне лексемы *ве́ра* толькі ў складзе ўстойлівага словазлучэння *в ве́ру да́ться* ‘трапіць пад моцны ўплыў рэлігіі’ (*Ф такуйу веру далас*) [20]; «Словарь современного русского народного говора (д. Деулино Рязанского района Рязанской области)» таксама не вылучае самастойнага выкарыстання дадзенага слова: *из ве́ры вы́йдить* ‘выйсці з даверу’ (*Ана́ хва́стаит’, хвасту́шка, ана́ из ве́ры вы́шла*) [21].

«Словарь русских народных говоров» змяшчае лексему *надея* з двума ЛСВ: ‘надзея’ (*На тебя вся моя надея*) і ‘зварот да блізкага, роднага чалавека (у галашэнні)’ [22]. Сходныя значэнні прысутнічаюць у лексем *надёжа* ў «Словаре русских говоров Низовой Печоры» – ‘ласкавы зварот да любімага чалавека’ (*Здравствуй, душечка моя, надежа, миленький сердечный друг*) [23], *на́дій* у «Опыте областного великорусского словаря» – ‘чалавек, на якога можна спадзявацца, надзея’ (*Ой ты, на́дій мой!*) [24] і «Словаре областного олонецкого наречия...» (*Надія ты наша!* – гавораць чалавеку, ад якога спадзяюцца што-небудзь атрымаць, чакаюць міласці) [25]. Неабходна адзначыць, што з іранічным значэннем ‘пра чалавека, які не выклікае даверу’ лексема *надёжда* занатавана ў «Словаре русских говоров Сибири» (*Надёжда, как на ве́шний лёд*) [26].

З адмоўным адценнем выкарыстоўваецца словазлучэнне *наде́я плоха́я (худа́я)* ‘аб тым, хто (што) можа падвесці, не апраўдаць надзеі’ (*Оди́н вертолёт в рабо́те, на него́ наде́я плоха́я*), якое адлюстравана ў «Словаре вологодских говоров» [27].

Вялікая колькасць прааналізаваных слоўнікаў характарызуецца тым, што лексемы, якія абазначаюць паняцце «надзея», маюць толькі значэнне ‘надзея’:

«Словарь говоров Соликамского района Пермской области»: *надéя*, *надёжа* [28];

«Словарь русских говоров Белоруссии» [29], «Словарь русских говоров на территории Мордовской АССР» [30], «Словарь русских говоров Кузбасса» [31], «Словарь русских говоров Забайкалья» [32]: *надёжа*;

«Словарь русских говоров Среднего Урала»: *надёжа*, *надéя*, *надúя* [33];

«Словарь пермских говоров»: *надёжа*, *надéя* [34];

«Словарь русской народно-диалектной речи в Сибири XVII – первой половины XVIII века»: *надежа* [35];

«Словарь областного олонецкого наречия»: *надi(ѣ)я*;

«Словарь современного русского народного говора (д. Деулино Рязанского района Рязанской области) «: *надéжа* [36];

«Словарь вологодских говоров»: *надёжа*, *надéя/надúя*;

«Словарь русских говоров Приамурья»: *надзёжа* [37];

«Словарь русских говоров Карелии и сопредельных областей»: *надёга*, *надéя*, *надúя* [38].

Некаторыя лексікаграфічныя крыніцы адзначаюць мнагазначнае або больш разгорнутае тлумачэнне даследаваных лексем. Напрыклад, «Словарь диалектного просторечия Среднего Приобья» змяшчае лексему *надёжа* са значэннем ‘чаканне чаго-небудзь жаданага; надзея’ (*Надёжи нету, как весенний лёд дряхлый: тает скоро*) [39]; «Словарь орловских говоров» адзначае лексемы *надéя*, *надёжа* і *надя́жа* з семантыкай ‘чаканне, упэўненасць у ажыццяўленні чаго-небудзь жаданага; надзея’ [40]; «Словарь областного вологодского наречия» зафіксаваў сінанімічныя абстрэмы *надёжа* ‘надзея, упэўненне’ і *надія* ‘надзея’ з ідэнтычным прыкладам (*Худая надежа на него*) [41]. «Словарь русских говоров Низовой Печоры» адлюстроўвае ўжыванне полісеманта *надéжа* ў двух ЛСВ: ‘надзежа’ (*Фся надéжа-то на неё, вон кака́ рабóтница*) і адзначаны вышэй ‘ласкавы зварот да любімага чалавека’, а таксама сінанімічную яму лексему *надéя* са значэннем ‘тое ж, што і *надéжа*’ [42].

У «Большом толковом словаре донского казачества» знаходзім, што *надёжа* ўжываецца толькі ў складзе выразу *быть не в надёже* са значэннем ‘быць няўпэўненым у чым-небудзь’ (*Ни в надежы и брасать чувал*) [43]. Толькі ў складзе ўстойлівага словазлучэння *держáть надёжу* ‘мець давер’ (*У тебя глаз омансливый, над ним надёжи не держú*) ужываецца таксама амонім *надёжа*[1], які адзначаны ў «Словаре русских говоров Карелии и сопредельных областей». Асаблівай увагі патрабуе разгляд лексемы *надёжа*[2], якая надзелена канкрэтнай семантыкай ‘адзенне’ (*Вот надёжу какую раньше носили*) [38]. Варта адзначыць, што ў «Смоленском областном словаре» У. М. Дабравольскага лексема *надёжа* адзначана выключна з семантыкай

‘адзенне’ (*Возьми съ сабою надёжу чистую, да и ступай у баню*) [44], а ў «Словаре русских говоров Башкирии» зафіксаваны два амонімы: *надé(ё)жа*[1] ‘надзея’ і *надёжа*[2], у значэнні якога ўказваецца дакладны від адзення – ‘паліто’ (*Адёжу мы надёжжъй нъзывам; Зимой надевали надёжу. Чичяс так пал’то называйут*) [45].

Праведзены намі раней этымалагічны аналіз[2] дазваляе сцвярджаць, што першапачатковым значэннем праславянскага **nadedja* выступае ‘адзенне, тое, што надзяваецца’. Як бачым, гэта першаснае значэнне захавалася ў некаторых беларускіх і рускіх гаворках.

Прааналізаваны дыялектны матэрыял паказвае, што ў рускіх гаворках слова *любовь* не ўжываецца асобна, самастойна, яно ўваходзіць у склад устойлівых словазлучэнняў. Напрыклад, у «Словаре русских народных говоров» зафіксавана: *в любóвь* (каму-небудзь) ‘падабацца каму-небудзь’ (пск.), *в любóвь брать (взять)* ‘пакахаць, зрабіць каханым’ (алан., цвяр., арх.) і інш., а таксама паказана выкарыстанне наймення *любóвь*-трава для абазначэння расліны незабудкі [47].

«Смоленский областной словарь» У. М. Дабравольскага адзначае лексему *любовь* асобна, але без тлумачэння і прыводзіць у якасці ілюстрацыйнага прыкладу толькі прыказку (*Любовь зла – полюбиш и козла*) і радок з жорсткага рамансу (*Кто съ любовью незнакомый, тотъ страдаетъ весь свой вѣкъ*), што, падаецца, сведчыць пра адсутнасць ужывання гэтай лексемы ў жывой народнай мове. Таксама ў гэтым слоўніку падаецца лексема *любь* у значэнні ‘любовь’ (*А мы съ табою, друхъ любьезный, въ любѣ наживёмся*) [48]. Назоўнік *любь* узыходзіць да праславянскага прыметніка **l’ubъ*, ад якога пры дапамозе суфікса ўтварылася агульнаславянская абстрэма *любовь*. На думку Ю. Покарнага, **l’ubъ* з’яўляецца працягам індаеўрапейскага кораня **leubh-* ‘любіць, жадаць; мілы, дарагі, любімы’ [49]. Такім чынам, рускія гаворкі захавалі найбольш старажытныя варыянты паняцця «любоў».

У «Словаре русских говоров Сибири» зафіксавана лексема *любá* ў значэнні ‘любоў’ (*Не по любе если идет, сразу отказывается, поп не венчает*) [50]. «Словарь русских говоров Низовой Печоры» таксама адлюстроўвае *лю́ба* ў складзе выразу *в лю́бе (жить)* (але з традыцыйнага былiннага тэксту) з семантыкай ‘у любові, згодзе’ (*Ты ой есь, Владымир стольнокиевской! Али ты с княгиной не в любе живешь?*) [51].

У слоўнікавым артыкуле *любовь* «Словаря русских говоров Карелии и сопредельных областей» указваюцца толькі словазлучэнні *за любóвь* ‘па любові’ (*Я не за любóвь вышла*), ‘з задавальненнем, з радасцю’ (*Ой, а чулки-то твои я за любóвь ношу*); *разби́ть любóвь* ‘расстацца’ (*Ты как с Алей гулял, так и думали, что ты с ей разобьёшь любóвь*); *своди́ть любóвь* ‘прыварожваць’ *(Волхвунья, колдунья жила у нас на Горке. Любóвь своди́ла, колдо-*

[2] Падрабязны аналіз прадстаўлены ў нашым артыкуле «Аб вытоках абстрактнай семантыкі праславянскага **nadedja*» [46].

*вала, призаветывала*); *сошла́сь любо́вь* ‘пра ўзаемнае каханне’ (*Ты беседуешь-то, как маленькая. Любо́вь сошла́сь, раз парень берет, дак чего не идти?*); *суха́я любо́вь* ‘платанічнае каханне’ (*Целый год мы с ним дружили сухо́й любо́вью*), ‘нераздзеленае каханне’ (*Суха́я любо́вь: если ты любишь, а он нет*) [52].

«Словарь пермских говоров» адлюстроўвае ўжыванне *люб* у складзе словазлучэнняў *в любе, по любе* з семантыкай ‘у любові, па любві’ (*Если какой уж вовсе не в любе, дак не идёт замуж; Ко мне тоже много сваталось. По любе за десятого вышла*), а таксама *любо́вь* у выразе *сухая любовь* ‘платанічнае каханне’ (*Сухой любовью четыре года ходили*) [53]. «Словарь вологодских говоров» зафіксаваў лексему *люб* як кампанент прыназоўнікавага словазлучэння *по (об) одно́м лю́бе* ‘пра нераздзеленае каханне’ (*Вот я тебе́ и говорю́, Колькя, что ны́нце при одно́м лю́бе не же́нишьсё*) [54]. У «Словаре орловских говоров» занатавана *любь* у значэнні ‘пачуцце сардэчнай схільнасці, цяга да асобы іншага полу; каханне’ (*Пъ люби зъ ниво пашла*), а таксама *любо́ва* з паметай *фальк.*[*лорнае*] і ілюстрацыйным прыкладам *Дъвила миня любовъ дъ сасновъвъ да гроба* [55].

Адсутнасць самастойнага ўжывання ў рускіх гаворках абстрэмы *любовь* тлумачыцца шырокім выкарыстаннем лексемы *жа́лость* у значэнні ‘любоў/каханне; прыхільнасць’. Параўн. таксама шматлікія вытворныя з падобнай семантыкай: *жале́нный/жалёный* ‘любімы, мілы’, *жале́ть* ‘любіць’, *жале́ться* ‘любіць, мілаваць адзін аднаго’, *жали́нье* ‘любоў’, *жа́личка* ‘каханая, дарагая жанчына’, *жа́лко* каго-небудзь ‘хто-небудзь кахае каго-небудзь’, *жалобну́ша* ‘каханы, мілы’, *жа́лочка* ‘мілая, каханая жанчына’ [56].

Што тычыцца паўнаты адлюстравання слоўнікамі аналізуемых абстрэм, варта адзначыць, што лексемы, якія рэпрэзентуюць паняцце «вера», адлюстраваны ў 2 беларускіх слоўніках з 6 (33,3%) і 9 рускіх слоўніках з 24 (37,5%), «любовь» – у 2 беларускіх слоўніках з 6 (33,3%) і 8 рускіх слоўніках з 24 (33,3%), «надзея» прысутнічае ва ўсіх слоўніках (100%)[3], што служыць пацвярджэннем значнасці ўказанай духоўнай дабрачыннасці для беларускага і рускага моўных усведамленняў. Пры гэтым нельга не заўважыць і таго, што амаль усе працэнтныя паказчыкі ў дзвюх мовах супадаюць.

Нельга выключыць, што колькасная перавага «надзеі» можа быць растлумачана таксама прадметнай (аб’ектнай) накіраванасцю даследаваных кампанентаў трыады «вера, надзея, любоў»: прадметам «веры» можа быць і дрэннае (благое), і добрае; любіць можна як добрае, так і дрэннае (благое), «спадзявацца ж можна толькі на добрае, толькі на будучае» [57], – таму лексемы са значэннем ‘надзея’ ўжываюцца часцей носьбітамі беларускіх і рускіх гаворак.

*Мінск*

---

[3] Несумненна, што яшчэ не да канца выдадзены шматтомны «Псковский областной словарь с историческими данными» таксама будзе змяшчаць лексемы, якія абазначаюць паняцце «надзея» ў рускіх гаворках.

## Літаратура

1. Гладчанка В. В. Вера ‘ліра’ (да праблемы тыпалогіі семантычных зрухаў) // Беларус. лінгвістыка. – 2008. – Вып. 62. – С. 158–160.

2. Тураўскі слоўнік: У 5 т. – Мінск, 1982. – Т. 1. – С. 112.

3. Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – Мінск, 1970. – С. 106.

4. Тураўскі слоўнік. – Т. 3. – С. 54.

5. Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – С. 255.

6. Тураўскі слоўнік. – Т. 3. – С. 123.

7. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. – Мінск, 1979–1986. – Т. 3 – С. 138.

8. Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік: З гаворак Мсціслаўшчыны. – Мінск, 1966. – С. 138.

9. Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. – Магілёў, 2005. – Вып. 2. – С. 37.

10. Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік. – Мінск, 1983. – С. 90.

11. Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – С. 274.

12. Словарь русских народных говоров. – М.; Л., 1965–2007. – Вып. 4. – С. 119–120.

13. Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка: В 3 т. – М., 1989. – Т. 1. – С. 490–491.

14. Словарь русских говоров Карелии и сопредельных областей. – СПб., 1994. – Вып. 1. – С. 172.

15. Словарь русских говоров Сибири: В 5 т. – Новосибирск, 1999–2006. – Т. 1, ч. 1. – С. 124–125.

16. Словарь русских говоров Низовой Печоры: В 2 т. – СПб., 2003. – Т. 1. – С. 58.

17. Словарь пермских говоров. – Пермь, 2000. – Вып. 1. – С. 117.

18. Словарь русской народно-диалектной речи в Сибири XVII – первой половины XVIII в. – Новосибирск, 1991. – С. 17.

19. Псковский областной словарь с историческими данными. – Л., 1967. – Вып. 3. – С. 77–78.

20. Словарь русских говоров Башкирии. – Уфа, 1997–2006. – Т. 1. – С. 65.

21. Словарь современного русского народного говора (д. Деулино Рязанского района Рязанской области). – М., 1969. – С. 77, 101.

22. Словарь русских народных говоров. – Вып. 19. – С. 233.

23. Словарь русских говоров Низовой Печоры. – Т. 1. – С. 442.

24. Опыт областного великорусского словаря, изданный вторым отделением Императорской Академии наук. – СПб., 1852. – С. 121.

25. Куликовский Г. И. Словарь областного олонецкого наречия в его бытовом и этнографическом применении. – СПб., 1898. – С. 60.

26. Словарь русских говоров Сибири. – Т. 2. – С. 327.

27. Словарь вологодских говоров: Учеб. пособие по рус. диалектологии. – Вологда, 1983–2007. – Вып. 5. – С. 34.

28. Словарь говоров Соликамского района Пермской области. – Пермь, 1973. – С. 329.

29. Манаенкова А. Ф. Словарь русских говоров Белоруссии: [Ветковский и Добрушский районы Гомельской области]. – Минск, 1989. – С. 125.

30. Словарь русских говоров на территории Мордовской АССР: [Вып. 4] М–Н: Учеб. пособие по рус. диалектологии. – Саранск, 1986. – С. 65.

31. Словарь русских говоров Кузбасса.– Новосибирск, 1976. – С. 124.

32. Элиасов Л. Е. Словарь русских говоров Забайкалья. – М., 1980. – С. 224.

33. Словарь русских говоров Среднего Урала: Учеб. пособие: В 7 т. – Свердловск, 1964–1988. – Т. 2. – С. 163–164.

34. Словарь пермских говоров. – Вып. 1. – С. 750.
35. Словарь русской народно-диалектной речи в Сибири XVII – первой половины XVIII в. – С. 79.
36. Словарь современного русского народного говора (д. Деулино Рязанского района Рязанской области). – С. 314.
37. Словарь русских говоров Приамурья. – М., 1983. – С. 163.
38. Словарь русских говоров Карелии и сопредельных областей. – Вып. 3. – С. 312–313.
39. Словарь диалектного просторечия Среднего Приобья. – Томск, 2003. – С. 169.
40. Словарь орловских говоров: Учеб. пособие по рус. диалектологии. – Орёл, 1994. – Вып. 7. – С. 27.
41. Словарь областного вологодского наречия: по рукоп. П. А. Дилакторского 1902 г. – СПб., 2006. – С. 272.
42. Словарь русских говоров Низовой Печоры. – Т. 1. – С. 442–443.
43. Большой толковый словарь донского казачества. – М., 2003. – С. 300, 65.
44. Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. – Смоленск, 1914. – С. 436.
45. Словарь русских говоров Башкирии. – Т. 2. – С. 87.
46. Гладчанка В. В. Аб вытоках абстрактнай семантыкі праславянскага **nadedja* // Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы: Матэрыялы міжнар. навук. канф., Мінск, 15–16 крас. 2008 г. – Мінск, 2008. – С. 249–252.
47. Словарь русских народных говоров. – Вып. 17. – С. 238–239.
48. Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. – С. 390.
49. Pokorny J. Indogermanisches etymologisches Wörterbuch: In 2 bd. – Bern; München, 1959–1969. – Bd. 1. – S. 683–684.
50. Словарь русских говоров Сибири. – Т. 2. – С. 242.
51. Словарь русских говоров Низовой Печоры. – Т. 1. – С. 399.
52. Словарь русских говоров Карелии и сопредельных областей. – Вып. 3. – С. 168.
53. Словарь пермских говоров. – Вып. 1. – С. 681–682.
54. Словарь вологодских говоров. – Вып. 4. – С. 59.
55. Словарь орловских говоров. – Вып. 6. – С. 89, 87.
56. Словарь русских народных говоров. – Вып. 9. – С. 63–67.
57. Августин. Энхиридион или О вере, надежде и любви. – Киев, 1996. – С. 292–293.

## Summary

The article proposes definitional and semantic analysis of the abstract lexemes *vera* ‘faith’, *nadezhda* ‘belief’, *l’ubov’* ‘love’ which serve to name the most important Christian virtues. The lexemes were extracted from dialect dictionaries of the Belarussian and Russian language by using the method of total selection.

*УДК 811.161.3’373.42+811.161.3’373.611*

*Т. П. КУГЕЙКА*

# АСАБЛІВАСЦІ ДАСЛЕДАВАННЯ АМАНІМІІ І ПОЛІСЕМІІ СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫХ ФАРМАНТАЎ У МНАГАЗНАЧНЫХ ВЫТВОРНЫХ НАЗОЎНІКАХ

*(Паступіў у рэдкалегію 19.03.2010 г.)*

Словаўтваральная аманімія і полісемія ўключае такія з’явы, як аманімія і полісемія словаўтваральных фармантаў, аманімія і полісемія асноў і фармантаў, аманімія словаўтваральных структур, а таксама аманімію, якая ўзнікае ў выніку супадзення розных асноў у працэсе словаўтварэння. Пры гэтым толькі аманімія і полісемія словаўтваральных фармантаў характэрна і для адназначных, і для мнагазначных вытворных. Усе астатнія праяўленні неадназначнасці на словаўтваральным узроўні рэалізуюцца ў полісемантычных вытворных адзінках, што паказана на схеме 1. Такім чынам, словаўтваральная аманімія і полісемія мнагазначных лексем прадстаўлена больш шырокім колам з’яў. Разам з тым пераважная большасць выпадкаў (94,5%) прыходзіцца на аманімію і полісемію словаўтваральных фармантаў.

У навуковай літаратуры існуюць розныя трактоўкі словаўтваральнай аманіміі і полісеміі ў мнагазначных вытворных. Л. Р. Яцкевіч бачыць размежаванне полісеміі лексічнай і словаўтваральнай у аднесенасці іх да розных тыпалагічных відаў мнагазначнасці. Даследчыца сцвярджае, што ў выпадку радыяльнай і ланцужковай полісеміі «мы маем справу з лексічнай мнагазначнасцю слова, таму што яго семантычнае вар’іраванне адбываецца на лексічным узроўні і не звязана са словаўтваральнай структурай. Паралельная ж полісемія – гэта словаўтваральная мнагазначнасць слова, таму што яна абумоўлена семантычным вар’іраваннем элементаў словаўтваральнага ўзору ці яго прымянення…» [1]. Такія выпадкі Л. Р. Яцкевіч кваліфікуе як словаўтваральную полісемію, што яна звязвае з «семантычнай тоеснасцю, якая грунтуецца на семантычнай тоеснасці ўтваральнай асновы (нават у выпадку яе шматзначнасці, таму што гэта не супярэчыць яе семантычнаму адзінству), і структурнай тоеснасці словаўтваральнага ўзору» [2]. Выказаную думку падтрымліваюць таксама В. А. Булгакава, В. Д. Старычонак і Л. Ф. Каравай, аднак апошняя разумее пад паняццем «паралельная полісемія» толькі «…паслядоўную дэрывацыйную сувязь значэнняў вытворнага з адпаведнымі значэннямі ўтвараль-

нага» [3]. Зыходзячы з вышэйсказанага, Л. Р. Яцкевіч прапануе вылучаць «словаўтваральна-семантычныя варыянты аднаго слова» для слоў тыпу *времянка* і да т. п. Такое абазначэнне не здымае, на жаль, галоўнага пытання: ці могуць розныя значэнні мнагазначнай лексемы (словаўтваральна-семантычныя варыянты) афармляцца аманімічнымі фармантамі і адпаведна ўваходзіць у розныя словаўтваральныя тыпы. Р. З. Мурасаў, напрыклад, робіць выснову, што «канструяванне поля павінна здзяйсняцца на ўзроўні лексіка-семантычных варыянтаў» для слоў, якія «сумяшчаюць у сваёй семантычнай структуры некалькі абагульненых значэнняў» [4].

Аналізуючы сутнасць словаўтваральнай полісеміі ў мнагазначных вытворных, В. П. Ермакова сцвярджае, што «ідыяматычныя па семантыцы вытворныя ўяўляюць сабой адкрытыя семантычныя структуры: яны змяшчаюць у сабе неабмежаваную колькасць намінатыўных значэнняў як вынік неаднаразовага выкарыстання спалучэння данай утваральнай асновы з гэтым афіксам» пры ўмове адназначнасці ўтваральнай асновы [5]. Такой жа думкі на прыроду словаўтваральнай мнагазначнасці прытрымліваюцца З. І. Рэзанава, В. Р. Рэўзіна, Л. І. Злобін і інш. Апошняя, у сваю чаргу, зазначае: «Аднолькавыя найменні розных прадметаў узнікаюць з прычыны высоўвання на першы план аднолькавай прыметы…» [6]. Пра дэрывацыю па адной і той жа словаўтваральнай мадэлі гаворыць і В. Д. Старычонак, звяртаючы ўвагу на тое, што « адзінай умовай існавання такіх ЛСВ у межах сэнсавай структуры полісеманта з'яўляецца агульнасць утваральнай асновы…» [7]. З. І. Рэзанава вылучае той факт, што «аспект семантыкі, які суадносіцца з матывавальным значэннем (значэннем, якое мае фармальнае выражэнне), займае рознае становішча ў семантычнай структуры лексіка-семантычнага варыянта» [8]. Аналізуючы «спосабы ўдзелу матывавальнай семантыкі ў фарміраванні вытворнага значэння», даследчыца робіць выснову: «…у вытворных са значэннем асобы, імёнах прадметна-ідэнтыфікуючага тыпу арганізацыі семантыкі, матывавальнае значэнне супадае з сігніфікатам лексічнага значэння. Пры гэтым дэнататыўны слой імені, яго аб'ём вызначаны, абмежаваны сігніфікатам – уключае прадметнае прадстаўленне функцыі, вызначанай сігніфікатам» [9]. У выпадку ідыяматычнасці значэння вытворнага, дзе матывавальнае значэнне складае перыферыю і суадносіцца з дэнататам, а не сігніфікатам, існуе, па словах З. І. Рэзанавай, магчымасць утварэння вялікай колькасці назваў, якія маюць разнастайную прадметную аднесенасць.

В. А. Булгакава лічыць полісеманты, утвораныя «ў выніку неаднаразовай рэалізацыі словаўтваральнай мадэлі, г. зн. у выніку міжслоўных метанімічных і метафарычных пераносаў ад аднаго ці некалькіх ЛСВ матывавальнага слова» мнагазначнымі, таму што «тоеснасць слова ў дадзеным выпадку забяспечваецца пастаянствам гукавой абалонкі і апасродкаванай сувяззю яго ЛСВ праз утваральнае» [10]. Такім чынам, даследчыца разглядае працэс неаднаразовай рэалізацыі словаўтваральнай мадэлі як семан-

тычны спосаб утварэння слоў, значыць адносіць такія выпадкі да лексічнай мнагазначнасці. «ЛСВ полісемантаў, што ўзніклі ў выніку неаднаразовай рэалізацыі словаўтваральнай мадэлі, не звязаны паміж сабой дэрывацыйнымі адносінамі, у іх семантычных структурах немагчыма выдзеліць асноўнае і неасноўнае, прамое і пераноснае значэнні» [11]. Выснова, зробленая В. А. Булгакавай, падаецца нам вельмі важнай у тым плане, што дазваляе паралельна са словаўтваральнай матывацыяй разглядаць матывацыю семантычную, на аснове якой развіваецца значная колькасць значэнняў полісемантычных вытворных адзінак. Безумоўна, пры адсутнасці словаўтваральнай матывацыі немагчыма гаварыць і пра словаўтваральную аманімію або полісемію.

Л. І. Злобін зазначае, што «немалаважную ролю ў семантычным разыходжанні вытворнага назоўніка адыгрывае мнагазначнасць утваральнай асновы» [12]. Н. С. Дзмітрыева апісвае варыянты матывацыйных адносін, вылучаючы наступныя тыпы: а) кожнае значэнне вытворнага ўтвараецца ад адпаведнага значэння ўтваральнай асновы; б) усе значэнні вытворнага ўтвараюцца ад аднаго значэння ўтваральнай асновы; в) спалучэнне першых двух тыпаў [13]. Дарэчы, В. Д. Старычонак вылучае пяць тыпаў развіцця значэння вытворнай адзінкі [14]. Вельмі абгрунтаваным пры гэтым падаецца вылучэнне Н. С. Дзмітрыевай двух ярусаў утварэння значэнняў мнагазначнага вытворнага слова: «першыя ярус – гэта … дэрываты суфіксальнага тыпу, а другі – гэта семантычныя дэрываты, якія развіваюцца шляхам пераносу абазначэнняў на новыя аб’екты» [15]. Такім чынам, значэнні другога яруса ўтвараюцца семантычным спосабам шляхам спецыялізацыі, метафарычнага або метанімічнага пераносу.

Зразумела, што аманімію і полісемію словаўтваральных фармантаў у мнагазначных вытворных назоўніках нельга разглядаць асобна, а толькі ва ўзаемасувязі з лексічнай мнагазначнасцю. Гэта дае магчымасць размежаваць, якія з’явы адносяцца непасрэдна да сферы словаўтварэння, а якія звязаны з мнагазначнасцю ўтваральнай асновы.

Даследуючы аманімію і полісемію словаўтваральных фармантаў у мнагазначных вытворных, прапануем у якасці асноўных пазіцый для аналізу ўлічваць тры крытэрыі: 1) характар сувязі з утваральнай асновай, які дае падставы вызначыць, якія вытворныя з’яўляюцца адлюстраваннем мнагазначнасці ўтваральнай асновы, а дзе мнагазначнасць развіваецца непасрэдна на базе вытворнай адзінкі за кошт словаўтваральнага фарманта; 2) спосаб матывацыі вытворных значэнняў, які дазваляе прааналізаваць спосаб утварэння новых значэнняў (словаўтваральны або семантычны), з тым каб зразумець, з мнагазначнасцю словаўтваральнай ці лексічнай мы маем справу; 3) дыферэнцыяцыя значэнняў ЛСВ у семантычнай структуры мнагазначнага слова. Названыя крытэрыі ў комплексе дадуць магчымасць вызначыць характар суадносін лексічнай і словаўтваральнай неадназначнасці ў мнагазначных вытворных.

Намі вылучаюцца наступныя магчымыя спосабы ўтварэння значэнняў у вытворных мнагазначных назоўніках: 1) ад аднаго значэння ўтваральнай асновы (аснова можа быць як адназначнай, так і мнагазначнай); 2) ад розных значэнняў адной мнагазначнай утваральнай асновы; 3) ад аманімічных асноў; 4) камбінаваны спосаб утварэння (спалучэнне некалькіх прыведзеных вышэй спосабаў). Таксама назіраюцца выпадкі семантычнай тоеснасці вытворнага і ўтваральнага слоў, значэнні ЛСВ матываванага часткова або поўнасцю паўтараюць значэнні ЛСВ матывавальнага. Прынцыповым момантам для даследавання з'яўляецца той факт, што «ў матываваных слоў усіх тыпаў суаднесенасць устанаўліваецца, як правіла, толькі з часткай лексіка-семантычных варыянтаў» [16]. Спосабы суадносін значэнняў (асобных ЛСВ у структуры адной мнагазначнай адзінкі, а таксама значэнняў матававальнага і матываванага) дазваляюць вызначыць фактары, што ўплываюць на развіццё лексічнай мнагазначнасці, звязанай з полісеміяй асновы, і словаўтваральнай мнагазначнасці, якая абумоўлена, перш за ўсё, семантыкай словаўтваральнага фарманта. Так, аманімія і полісемія словаўтваральных суфіксаў можа назірацца толькі пры ўтварэнні ад аднаго значэння базавай асновы, а таксама ў выпадках утварэння ад аманімічных асноў. Усе астатнія выпадкі так ці інакш абумоўлены лексічнай мнагазначнасцю.

Істотнае значэнне маюць шляхі развіцця мнагазначнасці: 1) прамое непасрэднае ўтварэнне ад ЛСВ матывавальнай асновы; 2) спецыялізацыя; 3) метафарычны перанос; 4) метанімічны перанос. Два апошнія выпадкі могуць быць як вынік утварэння ад ЛСВ матывавальнай асновы, так і ад папярэдніх значэнняў вытворнай адзінкі. В. А. Булгакава зазначае: «Семантычныя мадэлі, па якіх будуюцца рэгулярныя тыпы полісеміі, адзіныя для вытворных і невытворных лексем, паколькі ў аснове іх ляжаць універсальныя законы семантычнага развіцця: метафара і метанімія» [17]. Аднак да выпадкаў пераноснага ўтварэння таксама нельга падыходзіць адназначна з прычыны таго, што некаторыя ЛСВ, як зазначае даследчыца, «знаходзяцца ў адносінах двайной матываванасці: з аднаго боку, яны матываваны адпаведнымі ЛСВ утваральных слоў, з другога – першым ЛСВ вытворнай лексемы» [18].

Аналізуючы аманімію і полісемію словаўтваральных фармантаў у полісемантычных вытворных, мэтазгодна адрозніваць унутрыслоўную і міжслоўную аманімію і полісемію словаўтваральных фармантаў (схема 2). Сутнасць унутрыслоўнай аманіміі/полісеміі словаўтваральных фармантаў заключаецца ў тым, што семантычная дыферэнцыяцыя адбываецца паміж ЛСВ аднаго мнагазначнага назоўніка. У сваю чаргу, міжслоўная аманімія/полісемія словаўтваральных фармантаў праяўляецца паміж асобнымі лексічнымі адзінкамі і магчыма для тых полісемантаў, ЛСВ якіх блізкія па значэнні.

Варта адзначыць, што для мнагазначных вытворных назоўнікаў з'яўляюцца рэлевантнымі прынцыпы ўзроўневага падыходу, апісанага намі

для адназначных вытворных (схема 1), паводле якога на першай ступені вылучаюцца аманімічныя словаўтваральныя значэнні адпаведна сферы дэрывацыі (сінтаксічная і лексічная) і функцыі фарманта (транспазіцыйны **FI**, мадыфікацыйны **FII1** і мутацыйны **FII2**, дзе F – любы фармант), на другой ступені – аманімічныя сістэмныя (агульныя) словаўтваральныя значэнні, на трэцяй ступені – полісемічныя нарматыўныя (прыватныя) лексіка-словаўтваральныя значэнні. Прычым дыферэнцыяцыя значэнняў у семантыцы словаўтваральнага фарманта можа адбывацца, пачынаючы кожным з трох апісаных узроўняў.

Напрыклад, усе мнагазначныя вытворныя з фармантам *-нік* знаходзяцца ў сферы лексічнай дэрывацыі (***-нікII***) і адпавядаюць мутацыйным словаўтваральным значэнням (***-нікII2***). Такім чынам, першы ўзровень аманіміі прадстаўлены адзіным фармантам ***-нікII2***. Вылучэнне аманімічных і полісемічных значэнняў адбываецца толькі на другім і трэцім узроўнях адпаведна.

На другім узроўні мнагазначныя вытворныя назоўнікі падзяляюцца на: 1) лексемы з рознымі ЛСВ, якія афармляюцца аманімічнымі афіксамі ***-нікII2***$_1$ са значэннем жывой істоты і ***-нікII2***$_2$ са значэннем прадмета і рэпрэзентуюць унутрыслоўную словаўтваральную аманімію (схема 2, п. 1); 2) лексемы з блізкімі ЛСВ, якія афармляюцца адным афіксам ***-нікII2***$_1$ або ***-нікII2***$_2$. Лексемы другой групы падзяляюцца на назоўнікі са значэннем жывой істоты з фармантам ***-нікII2***$_1$ і назоўнікі з прадметным значэннем з фармантам ***-нікII2***$_2$, якія і ўтвараюць міжслоўную словаўтваральную аманімію (схема 2, п. 2.2). Варта звярнуць увагу, што ў абазначаных групах слоў са значэннямі жывой істоты і прадмета можа быць вылучана ўнутрыслоўная (схема 2, п. 4) і міжслоўная (схема 2, п. 3.3) полісемія словаўтваральных фармантаў.

Як ужо адзначалася вышэй, міжслоўную словаўтваральную аманімію (схема 2, п. 2.2) утвараюць рады слоў, дзе фарманты маюць значэнні жывой істоты і прадмета. Мнагазначныя вытворныя са значэннем жывой істоты ўтвараюцца па наступных мадэлях: N+-*нікII2*$_1$=N (*шкурнік, фокуснік, саначнік, песеннік, разбойнік, балалаечнік, сонечнік, асветнік, іменіннік, келейнік, скурнік, раскольнік, начлежнік*), V+-*нікII2*$_1$=N (*настаўнік, вознік, угоднік, разлучнік, шкоднік, прапаведнік, працаўнік, памочнік, прыслужнік, паклоннік, наследнік, будаўнік, ахоўнік*), A+-*нікII2*$_1$=N (*пасланнік, абраннік*), Q+-*нікII2*$_1$=N (*тысячнік*), прычым першыя дзве мадэлі з'яўляюцца прадуктыўнымі, а па дзвюх апошніх утвараюцца адзінкавыя лексемы. Утварэнне мнагазначных назоўнікаў са значэннем прадмета адбываецца па наступных мадэлях: N+-*нікII2*$_2$=N (*пыльнік, асіннік, алешнік, бярэзнік, эцюднік, слоўнік, расаднік, крупнік*), V+-*нікII2*$_2$=N (*зборнік, падважнік, прыёмнік, хаднік, ходнік*), A+-*нікII2*$_2$=N (*макоўнік, тутаўнік, сагаўнік, залатнік*). Высокая прадуктыўнасць характэрна толькі для адсубстантыўных вытворных.

Разглядаемыя лексемы, якія ўтвараюць аманімічныя словаўтваральныя рады, вызначаюцца тым, што іх ЛСВ з'яўляюцца семантычна блізкімі, што абумоўлена матывацыяй адной утваральнай асновай. Аднак у кожным наступным выпадку словаўтварэння ад адной і той жа асновы закранаюцца розныя аспекты назвы, таму значэнні такіх вытворных з'яўляюцца, як правіла, лексікалізаванымі, радзей – фразеалагізаванымі. Напрыклад, *частушачнік* '1. Выканаўца частушак. 2. Аўтар частушак' (ТСБМ); *упадачнік* '1. Выразнік эпохі ўпадку ў якой-н. галіне грамадскага жыцця. 2. Той, хто паддаўся ўпадніцкім настроям' (ТСБМ); *балалаечнік* '1. Музыкант, які іграе на балалайцы. 2. Майстар, які робіць або рамантуе балалайкі' (ТСБМ); *чашнік* '1. У старажытнасці – прыдворны, які ведаў, распараджаўся віннымі скляпамі і падносіў віно і іншыя напіткі да царскага стала. 2. Манах, які ведаў манастырскімі віннымі скляпамі і раздачай напіткаў у час трапезы' (ТСБМ); *кніжнік* '1. Знавец і любіцель кніг. // Пра адарванага ад жыцця чалавека, які кіруецца ў сваёй дзейнасці ведамі, набытымі з кніг. 2. Перапісчык або друкар; выдавец кніг' (ТСБМ). Усе словы такога тыпу прадстаўляюць сабой лексічную мнагазначнасць і міжслоўную аманімію словаўтваральных фармантаў.

Міжслоўная словаўтваральная полісемія (схема 2, п. 3.3) вытворных з суфіксам ***-нікІІ2***$_1$ праяўляецца ў размежаванні полісемантаў са значэннем асобы (*настаўнік, келейнік, тысячнік, разлучнік, працаўнік, вознік, царкоўнік, песеннік, законнік, фізкультурнік, сетачнік*) і са значэннем жывёлы (*сонечнік*). Назоўнікі з фармантам ***-нікІІ2***$_2$ выражаюць наступныя полісемічныя значэнні: канкрэтны прадмет (*сашнік, вугольнік, гурочнік, каласнік, кізільнік, каснік, ракітнік, эцюднік, светнік*), прыстасаванне (*галаснік*), рэчыва (*крупнік*) і месца, памяшканне (*расаднік, могільнік, магільнік*).

Разам з тым у прадстаўленых мнагазначных вытворных назоўніках, усе ЛСВ якіх утвораны ад аднаго значэння, існуе патэнцыяльная магчымасць развіцця ўнутрыслоўнай аманіміі і полісеміі словаўтваральных фармантаў, аднак гэта магчымасць, як паказваюць прыведзеныя вышэй прыклады, не заўсёды рэалізуецца. Пры гэтым унутрыслоўная полісемія словаўтваральных афіксаў (схема 2, п. 4) праяўляецца ў тых выпадках, калі значэнні ЛСВ адной лексемы ў значнай ступені дыферэнцыраваны і адносяцца да розных семантычных падтыпаў: *перапёлачнік* '1. Невялікі ястраб, які корміцца перапёлкамі і іншымі дробнымі птушкамі. 2. Паляўнічы, які палюе на перапёлак' (ТСБМ). Значэнні асобы і жывёлы абумоўлены не толькі семантыкай суфікса, але таксама неаднаразовым актам дэрывацыі, у выніку якога і ўзнікаюць новыя лексічныя значэнні слова. Прыведзены назоўнік з'яўляецца лексічным полісемантам і характарызуецца ўнутрыслоўнай полісеміяй словаўтваральнага фарманта.

Такія ж узаемаадносіны лексічнай і словаўтваральнай неадназначнасці (схема 2, п. 4) уласцівы вытворным назоўнікам з суфіксам ***-нікІІ2***$_2$, якія спалучаюць значэнні канкрэтны прадмет і месца (*зборнік* '1. Кніга, у якой

сабраны якія-н. літаратурныя творы, матэрыялы, дакументы і пад. // Вучэбны дапаможнік, у якім сабраны задачы і практыкаванні па якім-н. прадмеце. 2. Рэзервуар для збору якой-н. вадкасці або газу' (ТСБМ), *пясочнік, ходнік, галечнік*), месца і прыстасаванне (*вілачнік* '1. Тое, што і качарэжнік. 2. Дзяржанне вілаў, вілак' (ТСБМ)), прыстасаванне і канкрэтны прадмет (*падважнік* '1. Прыстасаванне ў паравых і інш. машынах у выглядзе стрыжня з дзяржаннем для рэгуліроўкі сілы або хуткасці руху чаго-н.; *рычаг.* 2. Тоўстая жэрдка, пры дапамозе якой прыпадымаюць цяжары' (ТСБМ)).

У тых выпадках, калі ЛСВ вытворнай лексемы матываваны празнымі ЛСВ утваральнай асновы, мнагазначнасць з'яўляецца не словаўтваральнай, а выключна лексічнай, г. зн. не ствараецца фармантам, а адлюстроўвае мнагазначнасць утваральнай асновы. Пры такім спосабе ўтварэння пэўнае ЛСВ матывавальнага слова абсалютна суадносіцца з адпаведным ЛСВ матываванага, набываючы толькі прадметнае значэнне, якое і надае словаўтваральны фармант (*саначнік, ахоўнік, саюзнік, ахвотнік, абраннік, скурнік, паклоннік, прапаведнік, раскольнік; макоўнік*). Так, *шкура* '1. Скура з поўсцю, знешняе покрыва цела жывёлы. // Скура з поўсцю, знятая з забітай жывёлы. 3. Пра подлага, нізкага чалавека, які вызначаецца адмоўнымі якасцямі' → *шкурнік* '1. Гандляр шкурамі. 2. Пра чалавека, які жыве толькі ўласнымі інтарэсамі, клапоціцца толькі пра асабістую выгаду' (ТСБМ); *начлег* '1. Прыпынак нанач для сну, адпачынку; начны адпачынак. // Месца для начнога сну, адпачынку (не ў сваім доме). 2. Пасьба коней ноччу' → *начлежнік* '1. Чалавек, які часова начуе дзе-н. 2. Той, хто пасе коней ноччу' (ТСБМ); *прыслужваць* '1. Выконваць абавязкі слугі, служанкі. 2. Рабіць паслугі, дагаджаць каму-н.' → *прыслужнік* '1. Той, хто прыслужвае; слуга, служыцель. 2. Той, хто прыслужваецца перад кім-н.; прыхільнік, памочнік у якой-н. дрэннай справе' (ТСБМ). Такія вытворныя мэтазгодна разглядаць толькі як лексічныя полісеманты і як прыклады міжслоўнай словаўтваральнай аманіміі.

Разам з тым некаторыя мнагазначныя назоўнікі, матываваныя рознымі значэннямі ўтваральнай асновы, характарызуюцца тым, што іх ЛСВ уласціва значнае семантычнае разыходжанне. Напрыклад, *пыл* '1. Найдрабнейшыя цвёрдыя часцінкі, часцей паднятыя з паверхні зямлі, якія лятаюць у паветры або аселі на паверхню рэчаў. // Найдрабнейшыя часцінкі вады, снегу і пад. 2. Тое, што і пылок (у 2 знач.)' → *пыльнік*[1] 'верхняя частка тычынкі кветкі, у якой утвараецца пылок' і *пыльнік*[2] 'плашч, які засцерагае ад пылу' (ТСБМ). Пра вытворныя лексемы такога тыпу Л. І. Злобін адзначае наступнае: «Магчыма, тут варта гаварыць аб адносінах аманіміі, а не полісеміі, таму што вельмі розная прадметна-лагічная аднесенасць гэтых значэнняў…» [19]. Выказаная даследчыцай думка, справядліва, на наш погляд, для лексічнага ўзроўню дыферэнцыяцыі значэнняў, што і пацвярджаецца наяўнасцю слоў-амонімаў, аднак семантычныя размежаванні на словаўтваральным узроўні абумоўлены не столькі фармантам, колькі ўтварэннем ад розных ЛСВ матывавальнай асновы.

Некаторым мнагазначным лексемам (*асіннік, бярэзнік; фокуснік, будаўнік, наследнік*), утвораным ад розных значэнняў аднаго слова, уласціва двайная матывацыя: адпаведнымі ЛСВ утваральнай асновы і першым значэннем вытворнай адзінкі (*алешына* ‘1. Лісцевае дрэва сямейства бярозавых; вольха. 2. Драўніна, матэрыял гэтага дрэва’ → *алешнік* ‘1. Альховы лес, зараснік альховых кустоў. 2. Альховыя дровы, будаўнічы матэрыял з вольхі і пад.’ (ТСБМ)). У сваю чаргу, ЛСВ назоўнікаў *ельнік, тутаўнік, сагаўнік* утвораны ад аднаго значэння матывавальнай асновы, аднак іх другое значэнне ўтвараецца ад першага значэння вытворнага слова шляхам пераносу па семантычных мадэлях, якія характэрны для рэгулярных тыпаў полісеміі: *ельнік* ‘1. Яловы лес. 2. Насечаныя яловыя лапкі або дровы’ (ТСБМ).

Толькі пра лексічную мнагазначнасць можна гаварыць, калі другі (або трэці) ЛСВ матываванага слова ўтвараецца не ад значэнняў матывавальнай асновы, а ад першага ЛСВ гэтай жа матываванай адзінкі семантычным спосабам шляхам метафарызацыі: *шкоднік* ‘1. Жывёла, насякомае, якое прыносіць шкоду ў лясной, сельскай, складской, а таксама хатняй гаспадарцы. 2. Небяспечны чалавек, вораг; ненавіснік. // Шкадлівы, шкодны чалавек’ (ТСБМ); *імяніннік* ‘1. Чалавек у дзень сваіх імянін або ў дзень свайго нараджэння. 2. Герой дня’ (ТСБМ); *каснік* ‘1. Вузкая палоска тканіны, істужка, якая ўплятаецца ў касу. 2. Тое, што мае форму вузкай палоскі, істужкі, нагадвае істужку’ (ТСБМ); *маркоўнік* ‘1. Націнне морквы. 2. Травяністая расліна з лісцямі, падобнымі да лісцяў морквы’ (ТСБМ); *прыёмнік, рамеснік*. У такіх выпадках страчваецца роля словаўтваральнага фарманта ў стварэнні мнагазначнасці.

Афікс таксама не прымае ўдзел у развіцці мнагазначнасці вытворных назоўнікаў, калі адно са значэнняў матываванага полісеманта ўтворана семантычным спосабам шляхам спецыялізацыі ад значэння вытворнага назоўніка, а не матывавальнай асновы (*ратнік, пасланнік, памочнік, саветнік, мучанік; слоўнік, матачнік, ахвярнік*). Такія ЛСВ, як правіла, удакладняюць адно са значэнняў, адносяць яго да пэўнай сферы дзейнасці, пэўнага гістарычнага перыяду: *асветнік* ‘1. Той, хто пашырае веды, асвету. 2. Прадстаўнік заходнееўрапейскай прагрэсіўнай ідэалогіі 17–18 стст. // Прадстаўнік рускай і славянскай перадавой грамадскай думкі 18–19 стст.’ (ТСБМ); *угоднік* ‘1. Той, хто імкнецца дагадзіць каму-н.; угодлівы чалавек. 2. У рэлігійным уяўленні – святы, які дагадзіў богу сваім бязгрэшным жыццём’ (ТСБМ); *хаднік* ‘1. Вузкая доўгая паласа грубай тканіны, якая рассцілаецца на падлозе. 2. Тое, што і тратуар. 3. Падземная вырабатка, прызначаная для пешага перамяшчэння людзей’ (ТСБМ).

Што тычыцца мнагазначных вытворных, ЛСВ якіх маюць аманімічныя значэнні, то такія выпадкі кваліфікуюцца намі як лексічныя полісеманты з унутрыслоўнай аманіміяй словаўтваральных фармантаў (схема 2, п. 1). Назоўнікі разглядаемай групы ўтвараюцца толькі па адной словаўтваральнай мадэлі N+-*нікII2*$_1$=N (*балацянік, арабіннік, раёшнік*) ад адназначнай асновы або аднаго значэння мнагазначнага слова. Зафіксаваны адзіны прыклад

утварэння ад асновы дзеяслова V+-*нікII2*$_1$=N (*прадстаўнік*). Абсалютная перавага адсубстантыўных вытворных абумоўлена, на наш погляд, спецыфікай назоўніка як прадметнай часціны мовы, вытворныя ад якой могуць закранаць асобныя аспекты назвы і абазначаць пры гэтым разнастайныя з'явы рэчаіснасці. В. А. Булгакава называе такі шлях утварэння значэнняў «міжслоўнай семантычнай матывацыяй», якая назіраецца «пры неаднаразовай матывацыі ў адным аспекце» [20]. Пры такім семантычным разыходжанні значэнняў не могуць быць аформлены адным суфіксам, што і стварае ўмовы для ўзнікнення і развіцця аманіміі. «Значыць, матывавальная прымета ў гэтых абазначэнняў адна, а прадметная дыферэнцыроўка (г. зн. аднесенасць гукавога комплексу да розных аб'ектаў рэчаіснасці) адбываецца на ўзроўні сітуацыйнага сінтэзу» [21].

Унутрыслоўная аманімія словаўтваральных фармантаў праяўляецца ў тым, што ЛСВ аднаго мнагазначнага вытворнага назоўніка афармляюцца аманімічнымі суфіксамі ***-нікII2***$_1$ са значэннем жывой істоты і ***-нікII2***$_2$, які выступае ў адным са сваіх значэнняў: месца, памяшканне (*цялятнік, сабачнік, пасуднік, птушнік, мядзведнік, карэтнік*), абстрактнае паняцце (*суботнік, раёшнік*), канкрэтны прадмет (*папяроснік, малочнік, смятаннік*). Дадатковым паказчыкам аманімічнасці фармантаў у мнагазначных назоўніках выступае суаднесенасць іх з назвамі асоб жаночага полу. Большасць такіх лексем мае вытворныя найменні жаночага роду з суфіксам *-ніц-а*, якія адпавядаюць толькі ЛСВ са значэннем асобы (*цялятніца* 'жан. да цялятнік (у 2 знач.)' (ТСБМ), *сабачніца, пасудніца, птушніца, смятанніца*), што дае падставы размяжоўваць названыя вышэй значэнні. Варта адзначыць, што некаторыя вытворныя жаночага роду з суфіксам *-ніц-а* з'яўляюцца мнагазначнымі, набываюць новыя значэнні, якія таксама аманімізуюцца (*малочніца* '1. Прадаўшчыца малака і малочных прадуктаў. 2. Захворванне слізістай абалонкі рота (пераважна ў грудных дзяцей)' (ТСБМ), *папяросніца* '1. Жан. да папяроснік (у 1 знач.). 2. Скрынка для папярос' (ТСБМ)). У якасці выключэнняў можна разглядаць лексемы *мядзведнік, карэтнік, суботнік, раёшнік*, якія не маюць адпаведных жаночых назваў, што абумоўлена асаблівасцямі грамадскай свядомасці, дзе захавалася пэўная гендэрная дыферэнцыяцыя прафесій і заняткаў. На нашу думку, варта разглядаць ЛСВ такіх вытворных лексем у якасці асобных аманімічных слоў, таму што адна лексема ў розных сваіх ЛСВ не можа ўваходзіць у розныя словаўтваральныя тыпы і адпаведна афармляцца аманімічнымі афіксамі.

Немэтазгодна адносіць, на наш погляд, да ўнутрыслоўнай аманіміі словаўтваральных фармантаў вытворныя, другое значэнне якіх утвараецца семантычным шляхам ад першага значэння вытворнай адзінкі. Так, у назоўніках *рабіннік, арабіннік, крапіўнік, мурашнік* значэнні адпавядаюць рэгулярнай мадэлі развіцця лексічнай мнагазначнасці: 'жывая істота і месца, дзе яна жыве, водзіцца' (*крапіўнік* '1. Стракаты матылёк, вусені якога жывуць на крапіве. 2. Зараснік крапівы' (ТСБМ)). Другое значэнне назоў-

нікаў *дворнік* і *прадстаўнік* узнікла шляхам метафарычнага пераносу па функцыі (*дворнік* ‘1. Работнік, які падтрымлівае чысціню і парадак на двары і на вуліцы каля дома. 2. Прыстасаванне ў выглядзе стрэлкі, якое служыць для ачышчэння ветравога шкла аўтамашыны ад снегу, вільгаці, пылу’ (ТСБМ)). У слове *балацянік* спалучаюцца два віды матывацыі – семантычная і словаўтваральная: першае і другое значэнні ўтвораны ад адной матывавальнай асновы, а трэцяе – шляхам пераносу ад першага значэння матываванага назоўніка (*балацянік* ‘1. Уласцівы балоту пах. 2. Прэснаводны малюск класа бруханогіх, які жыве ў спіральна закручаных ракавінах. 3. Міфічная істота, якая быццам жыве на балоце’ (ТСБМ)).

У назоўніках, ЛСВ якіх утвораны ад розных значэнняў мнагазначнага слова, назіраецца супадзенне адлюстраванай лексічнай мнагазначнасці і словаўтваральнай аманіміі, таму што розныя значэнні афармляюцца аманімічнымі словаўтваральнымі фармантамі (*шпалернік* ‘1. Майстар, спецыяліст па вырабу шпалераў (у 1 знач.). 2. Тое, што і шпалера (у 3 знач.)’ (ТСБМ), *сальнік, дольнік*). Толькі ў выпадку з лексемай *канвойнік* можна гаварыць выключна пра адлюстраванне вытворным назоўнікам мнагазначнасці ўтваральнай асновы, таму што размежаванне асобы і прадмета закладзена ў саміх матывавальных значэннях утваральнай асновы: *канвой* ‘1. Група ўзброеных людзей, якая суправаджае каго-, што-н. для аховы або прадухілення ўцёкаў. 2. Атрад баявых караблёў, які суправаджае і ахоўвае транспартныя і гандлёвыя судны ў час марскіх пераходаў’ → *канвойнік* ‘тое, што і канваір’ (‘1. Чалавек, які суправаджае каго-, што-н. для аховы або прадухілення ўцёкаў. 2. Баявое судна, якое суправаджае для аховы асобны карабель ці групу караблёў’ (ТСБМ)).

Такім чынам, у мнагазначных вытворных назоўніках мэтазгодна размяжоўваць унутраслоўную і міжслоўную словаўтваральную аманімію/полісемію. Утварэнне асобных ЛСВ семантычным спосабам варта разглядаць як лексічную, а не словаўтваральную мнагазначнасць. Аманімія словаўтваральных фармантаў, як правіла, назіраецца пры матывацыі адным значэннем утваральнай асновы і патрабуе, на наш погляд, вызначэння розных ЛСВ адной мнагазначнай адзінкі ў якасці асобных аманімічных слоў. Прапанаваныя прынцыпы аналізу выкарыстоўваюцца і пры даследаванні прыкладаў, дзе спалучаюцца словаўтваральная аманімія асноў і фармантаў. У гэтым выпадку важным з’яўляецца дакладнае вызначэнне таго, што абумоўлена аманіміяй асновы, а што непасрэдна адпавядае семантыцы афікса.

*Мінск*

Схема 1

**Словаўтваральная аманімія і полісемія**



Схема 2

**Аманімія і полісемія словаўтваральных фармантаў у мнагазначных вытворных**



## Літаратура

1. Яцкевич, Л. Г. О разграничении лексической и словообразовательной многозначности слова / Л. Г. Яцкевич // Вес. БДУ. Сер. IV, Філалогія, журналістыка. – 1983. – № 1. – С. 39.

2. Яцкевич, Л. Г. О разграничении лексической и словообразовательной многозначности слова. – С. 40.

3. Каравай, Л. Ф. Развитие полисемии префиксальных глаголов современного немецкого языка: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.04 / Л. Ф. Каравай; Минский гос. пед. ин-т иностранных языков. – Минск, 1989. – С. 19.

4. Мурясов, Р. З. Структура словообразовательных полей лица и инструмента в современном немецком языке / Р. З. Мурясов // ВЯ. – 1972. – № 4. – С. 99.

5. Ермакова, О. П. Противопоставленность разных типов производных по признаку открытости-закрытости семантической структуры / О. П. Ермакова // Актуальные вопросы лексики и грамматики современного русского языка / Мин-во просвещения РСФСР, Тульский гос. пед. ин-т им. Л. Н. Толстого; отв. ред. А. Н. Карпов. – Тула, 1976. – С. 3.

6. Злобин, Л. И. Лексическая полисемия и омонимия существительных в белорусском языке: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Л. И. Злобин; АН БССР, Ин-т языкознания им. Я. Коласа. – Минск, 1984. – С. 167.

7. Старычонак, В. Д. Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў): автореф. дыс. ... д-ра філал. навук: 10.02.01 / В. Д. Старычонак. – Мінск, 1997. – С. 177.

8. Резанова, З. И. О способах участия мотивирующей семантики в формировании производного значения / З. И. Резанова // Проблемы лексической и словообразовательной мотивации в русском языке: межвуз. сб. науч. ст. – Барнаул, 1986. – С. 62.

9. Резанова, З. И. О способах участия мотивирующей семантики в формировании производного значения. – С. 63–64.

10. Булгакова, О. А. Полисемия суффиксальных субстантивов (на материале кемеровских говоров): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / О. А. Булгакова; Томский ордена Октябрьской революции и Труд. Красн. знамени гос. ун-т. – Томск, 1994. – С. 8.

11. Булгакова, О. А. Полисемия суффиксальных субстантивов (на материале кемеровских говоров). – С. 11.

12. Злобін, Л. І. Развіццё семантыкі вытворнага мнагазначнага назоўніка / Л. І. Злобін // Беларуская мова / Мін-ва вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР, Гомельскі дзярж. ун-т; рэдкал.: У. В. Анічэнка [і інш.]. – Мінск, 1982. – Вып. 10. – С. 25.

13. Дмитриева, Н. С. Формирование семантики многозначного существительного, мотивированного глаголом / Н. С. Дмитриева // Исследования по семантике: межвуз. науч. сб. – Уфа, 1975. – Вып. 1. – С. 33–43.

14. Старычонак, В. Д. Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў). – С. 159–160.

15. Дмитриева, Н. С. Формирование семантики многозначного существительного, мотивированного глаголом. – С. 36.

16. Янценецкая, М. Н. Семантические вопросы теории словообразования / М. Н. Янценецкая; под ред. О. И. Блиновой. – Томск: Изд-во Томского ун-та, 1979. – С. 129.

17. Булгакова, О. А. Полисемия суффиксальных субстантивов (на материале кемеровских говоров). – С. 12.

18. Булгакова, О. А. Полисемия суффиксальных субстантивов (на материале кемеровских говоров). – С. 9–10.

19. Злобін, Л. І. Развіццё семантыкі вытворнага мнагазначнага назоўніка. – С. 25.

20. Булгакова, О. А. Полисемия суффиксальных субстантивов (на материале кемеровских говоров). – С. 15.

21. Дмитриева, Н. С. Формирование семантики многозначного существительного, мотивированного глаголом. – С. 35.

## Summary

The article analyses the homonymy and polysemy of word formation formants in polysemantic derivatives. The motivational method of the derivative is the major criterion for differentiating between word formation and lexical homonymy and polysemy. There are 2 types of homonymy and polysemy of word formation formants: interword and intraword.

*УДК 811.161.3’37*

*П. А. РААГО*

# ДЗЕЯСЛОВЫ З ПРАДМЕТНАЙ СЕМАЙ ‘ЖЫВЁЛА’ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

*(Паступіў у рэдкалегію 8.12.2009 г.)*

Семны склад дзеяслова вызначаецца складанасцю і неаднароднасцю. Акрамя даволі абстрактных несубстанцыянальных сем, такіх як ‘станаўленне’, ‘быційнасць’, ‘дзеянне’, ‘стан’, ‘адносіны’ і пад., для значнай часткі дзеясловаў уласцівы больш канкрэтныя субстанцыянальныя семы, якія ўказваюць на ўдзельнікаў сітуацыі і на іх прыметы – функцыянальныя, квантатыўныя, якасныя (катэгарыяльна-семантычныя і рэферэнтныя) [1]. Наяўнасцю ў значэнні дзеяслова пэўных катэгарыяльна-семантычных або рэферэнтных сем тлумачыцца ўласцівасць некаторых дзеясловаў спалучацца толькі з імёнамі пэўных катэгарыяльна-семантычных або функцыянальна-адлюстравальных класаў. Дзеясловы, якія маюць здольнасць спалучацца толькі з вузкім колам семантычна блізкіх імён або нейкім адным імем, у лінгвістычнай літаратуры прынята называць дзеясловамі вузкай дэнататыўнай аднесенасці, дзеясловамі з уключанымі актантамі або дзеясловамі са спецыялізаванымі прадметнымі семамі [2–4]. Найбольш частай з’яўляецца спецыялізацыя дзеясловаў да імя ў пазіцыі суб’екта або ў пазіцыі аб’екта [5]. Напр., такія дзеясловы, як *бляяць, каласіцца, разліцца,* дэнататыўна арыентаваныя на сферу суб’екта і вымагаюць ужывання пры сабе адпаведна імён *авечка* (*ягня, баран*)*, збожжа* (*жыта, пшаніца, ячмень* і пад.)*, вадкасць* (*вада, малако, фарба* і пад.), а дзеясловы *чаранкаваць, падкоўваць* і пад. маюць арыентацыю на аб’ект і спалучаюцца адпаведна з назвамі некаторых (пераважна садовых) раслін і імем *конь* (*кабыла, жарабя* і пад.) у аб’ектнай пазіцыі (у апошнім выпадку, відаць, больш карэктна казаць пра адначасовую арыентацыю дзеяслоўных прэдыкатаў на сферу аб’екта і на сферу суб’екта, бо *чаранкаваць* і *падкоўваць* можа толькі *чалавек* [6; 7]).

Склад дзеясловаў са спецыялізаванай прадметнай семай ‘жывёла’ даволі неаднародны. У адрозненне ад канкрэтных лексіка-семантычных груп (ЛСГ) дзеясловаў, якія маюць пэўную тыпавую семантыку і характарызуюцца наяўнасцю даволі выразных сувязей паміж элементамі (гіпагіперанімічных і сінанімічных), групоўка дзеясловаў з семай ‘жывёла’ не мае выразнай структуры. І гэта натуральна, бо пры вылучэнні ЛСГ дзея-

словаў пад увагу бярэцца найперш адцягненае ўяўленне пра характар дзеяння, у выніку чаго ўсе дзеясловы адной ЛСГ характарызуюцца падабенствам семантыкі і сінтаксічных паводзін [8], у той час як дзеясловы, аб'яднаныя наяўнасцю прадметнай семы, абазначаюць самыя розныя сітуацыі, дзеянні і станы, удзельнікамі, выканаўцамі або носьбітамі якіх могуць выступаць рэферэнты, інфармацыя пра якія захоўваецца ў прадметнай семе. Такім чынам, у групоўку дзеясловаў з прадметнай семай 'жывёла' ўваходзяць дзеясловы розных ЛСГ, аб'яднаныя агульнай прыметай – наяўнасцю ў семнай структуры семы 'жывёла'. Цэнтральнае месца сярод дзеясловаў з прадметнай семай 'жывёла', напэўна, займаюць так званыя ***бестыяльныя*** дзеясловы.

Да бестыяльных дзеясловаў [9] традыцыйна адносяць дзеясловы, «што маюць у значэнні сему спецыялізаванага суб'екта, які выражаецца назвай жывёлы» [10] і «прыпісваюць (прэдыцыруюць) рэферэнтна-таксанамічнаму класу імёнаў ... «жывёлы» (лац. *bestia*) уласцівыя ім дынамічныя прыметы» [11]. У семантыцы бестыяльных дзеясловаў зафіксаваны веды чалавека пра анталагічныя ўласцівасці жывёл (напр., *ліняць*, *гняздзіцца*, *квакаць*, *каціцца* і пад.).

Бестыяльныя дзеясловы, дзякуючы сваім семантычным і сінтагматычным уласцівасцям, утвараюць так званую функцыянальна-анамасіялагічную групу (ФАГ) дзеясловаў. Дадзенае паняцце было ўведзена ў навуковы ўжытак Ф. Бацэвічам. Як адзначае даследчык, «групы дзеяслоўных прэдыкатаў, адлюстравальна арыентаваныя на рэферэнтна-таксанамічныя класы імёнаў суб'ектаў кшталту «жывёлы», «расліны», «людзі», з'яўляюцца аб'яднаннямі слоў аднаго семіялагічнага (і камунікатыўнага) класа (прыкметавага, сігніфікатыўнага), члены якога: 1) анамасіялагічна аднародныя, бо прыпісваюць характэрныя дынамічныя прыкметы толькі аднаму рэферэнтна-адлюстравальнаму класу імёнаў суб'ектаў і 2) валодаюць агульнасцю функцый у працэсе спараджэння маўлення, фарміравання структуры выказвання, перш за ўсё прэдыкатыўнага ядра апошняга, яго прапазіцыі» [12]. Названыя адметнасці ФАГ дзеяслоўных прэдыкатаў уласцівы бестыяльным дзеясловам.

Як паказаў аналіз, функцыянальна-анамасіялагічную групу бестыяльных дзеясловаў у беларускай мове складаюць прэдыкаты гучання (самая вялікая па колькасці лексем падгрупа), напр., *бляяць*, *брахаць*, *буркаваць*, *гагатаць* і інш.; руху (аднанакіраванага, разнанакіраванага, непаступальнага), напр., *пырхаць*, *гарцаваць*, *напаўзаць*, *раіцца*, *гіжэць*; *тупаць, курзоліцца* і інш.; змяшчэння ў прасторы, напр., *уздыбіцца*, *задупкаваць* і інш.; удару, напр., *брыкаць*, *бадаць*, *лігаць* і інш.; дотыку, напр., *цerabіцца*, *чэмхацца*, *залізваць* і інш.; рыцця, напр., *рыцца*, *кошкацца* і інш.; пакрыцця, напр., *засядзець, замураваць* і інш.; стваральнай дзейнасці, напр., *віць*, *скляпіць*, *цыраваць* і інш.; дзейнасці па дасягненні мэты, напр., *віжаваць*, *мышкаваць*, *паляваць* і інш.; успрымання, напр., *абнюхвацца* і інш.; фізія-

лагічнага дзеяння (кармленне, ачышчэнне арганізму, дыханне, спароўванне, нараджэнне, рэакцыя на раздражненне), напр., *хлябтаць*, *кляваць*, *дзюбаць*; *бэсціць*, *каліцца*, *схарашыцца*; *зехацець*; *спарвацца*, *вяснавацца*, *кныраваць*, *красавацца*, *пакрывацца*; *цяліцца*, *каціцца*, *шчаніцца*, *знесці*; *нахохліцца*, *ашчэрыцца*, *ашчаціцца* і інш.; пашкоджання неадушаўлёнага аб’екта, напр., *дзерці*, *грызці*, *кнысаць*, *тачыць* і інш.; пашкоджання цела жывой істоты, напр., *джаліць*, *джгаць*, *жыгаць*, *кусаць*, *кніцець* і інш.; пазбаўлення жыцця, напр., *выдусіць*, *задзерці*, *заесці*, *расплатаць* і інш.; супрацьдзеяння, напр., *грызціся*, *бароцца*, *дзяўбціся*, *секчыся* і інш.; фізіялагічнага стану (хвароба, стомленасць, палавая актыўнасць, цяжарнасць), напр., *абадзьмуцца*, *апаршавець*, *пучыць*, *ахваціцца*, *залазаваць*; *запеніцца*, *зашумецца*, *узмыліцца*; *нераставаць*, *паляваць*, *быдлаваць*, *гайнявацъ*, *гудзець*, *маркітаць*, *руіцца;* *пабегаць*, *пабыдлаваць*, *пагукаць*, *пакатнаваць*, *пакрыцца* і інш.; змены эмацыйнага стану, напр., *успудзіцца*, *дзівачыцца* і інш.; станаўлення і змены якасных (марфалагічных і фізіялагічных) характарыстык, напр., *ліняць*, *аперыцца*, *акукліцца*, *ялавець*, *зарвацца*, *здзічэць* і інш.; станаўлення і змены колькасных характарыстык, напр., *убучэць*, *укарміцца* і інш.; якаснай (фізіялагічнай і «паводзіннай») уласцівасці, напр., *несціся*, *вадзіць*, *радзіць*; *лігацца*, *брыкацца*, *бадацца* і інш.; пачатку існавання, напр., *нарадзіцца*, *вывесціся*, *прадзяўбціся*, *вылупіцца* і інш.; быцця-існавання, напр., *гняздзіцца*, *вадзіцца* і інш.; спынення быцця, напр., *здохнуць*, *апрутнець*, *дацца*, *здырдзіцца*, *змітрэжыцца*, *прапасці*, *тохнуць*, *звясціся*, *зраіцца* і інш.

Аднак не ўсе дзеясловы з прадметнай семай ‘жывёла’ ўваходзяць у склад ФАГ бестыяльных дзеясловаў. Як адзначала А. А. Уфімцава, «намінацыя дзеяслоўнымі лексемамі адбываецца непазбежна з арыентацыяй на сферу суб’екта/аб’екта. Таму дзеяслоў як намінатыўная адзінка мае кожны сваю анамасіялагічную формулу, якая раскрывае яго семантычную скіраванасць на адну з дзвюх указаных сфер» [13]. Паняцце «бестыяльныя дзеясловы» скіроўвае даследчыкаў толькі да тых дзеяслоўных прэдыкатаў, якія спалучаюцца з імёнамі-назвамі жывёл у функцыі суб’екта. Між тым у беларускай мове існуе шэраг дзеясловаў, такіх як *падкоўваць, даіць, запрагаць* і пад., якія вымагаюць ужывання пры сабе заонімаў, але не ў пазіцыі суб’екта, а ў пазіцыі аб’екта дзеяння, г. зн. такія дзеясловы зарыентаваны на сферу аб’екта. У семнай будове такіх дзеясловаў прысутнічае прадметная сема ‘жывёла’, якая эксплікуецца ў абавязковай аб’ектнай пазіцыі.

Асобны выпадак уяўляе нешматлікая колькасць дзеясловаў накшталт *выседзець* ‘седзячы на яйцах, вывесці птушанят’ [14], *прывесці* ‘*разм.* даць жыццё каму-небудзь, нарадзіць (пра жывёлу)’ [15], *таптаць* ‘*разм.* апладняць самку (пра птушак)’ [16]), *пакрыць* ‘апладніць (пра жывёл)’ [17] і пад. Пры такіх дзеясловах назвы жывёл займаюць і суб’ектную, і аб’ектную пазіцыі. Паводле сваёй асноўнай анамасіялагічнай характарыстыкі (прыпісваюць характэрныя дынамічныя прыметы толькі аднаму рэферэнтна-адлюстравальнаму класу імён суб’ектаў, што выяўляецца ў спалучальнасці

з імем-назвай жывёлы ў суб’ектнай пазіцыі) такія дзеясловы ўваходзяць у ФАГ бестыяльных дзеясловаў, але іх семантыка ўскладнена інфармацыяй, што дзеянне, якое выконваецца жывёлай, пераходзіць таксама на жывёлу. Фактычна такія дзеясловы ўтрымліваюць адразу дзве семы ‘жывёла’, адна з якіх прадвызначае характар імя ў пазіцыі суб’екта, а другая ў пазіцыі аб’екта.

Для беларускай мовы характэрна наяўнасць і такіх дзеясловаў, як *счарвець, урабачэць* і пад., з агульнай семантыкай з’яўлення (узнікнення) пэўных жывёл (насякомых) у межах пэўнага аб’екта. Прадметная сема ‘жывёла’ ў такіх дзеясловах можа эксплікавацца на марфемным узроўні (корань у такіх дзеясловах перадае значэнне актанта). Наяўнасць семы ‘жывёла’ ў значэнні такіх дзеясловаў таксама збліжае іх з дзеясловамі бестыяльнымі.

На марфемным узроўні сема ‘жывёла’ эксплікуецца і ў дзеясловах тыпу *малпаваць, папугайнічаць* і пад. Аднак дадзеныя дзеясловы, нягледзячы на наяўнасць у іх структуры непасрэдных спасылак на пэўныя віды жывёл, не могуць лічыцца бестыяльнымі, бо яны не абазначаюць дзеянні (або станы) з удзелам жывёл, а толькі скіроўваюць да іх як да аб’ектаў параўнання. Семантычную структуру названых дзеясловаў часам характарызуюць, як ‘весці сябе, нібы X (не з’ўляючыся X-ом)’, дзе X – назва жывёлы [18]. Наогул жа падобныя дзеясловы, утвораныя ад назваў жывёл, прынята называць дзеяслоўнымі зоамарфізмамі. У сваёй большасці яны характарызуюць паводзіны чалавека (за выключэннем групы дзеясловаў накшталт *цяліцца, каціцца* і пад., якія абазначаюць працэс нараджэння жывой істоты, а таму павінны разглядацца ў межах бестыяльных дзеясловаў).

Як было паказана, прадметную сему ‘жывёла’ ўтрымліваюць не толькі тыя дзеясловы, якія абмежоўваюць спалучальнасць з імёнамі-назвамі жывёл у пазіцыі суб’екта і абазначаюць пэўныя анталагічныя ўласцівасці жывёл, але і тыя, у якіх сема ‘жывёла’ эксплікуецца ў пазіцыі аб’екта або зусім не знаходзіць свайго выражэння на сінтаксічным узроўні. Зразумела, што семантычныя асаблівасці і сінтаксічныя паводзіны дзеясловаў, што належаць да кожнай з адзначаных груп, розныя, аднак наяўнасць у семнай структуры гэтых дзеясловаў прадметнай семы ‘жывёла’ збліжае іх і дае падставы для пашырэння паняцця «бестыяльныя дзеясловы» на ўсе дзеясловы з прадметнай семай ‘жывёла’ (такое пашырэнне паняцця дазволіла б пазбегнуць выкарыстання складаных апісальных канструкцый, тыпу «дзеясловы з прадметнай семай ‘жывёла’, якія патрабуюць выкарыстання імёнаў-назваў жывёл (заонімаў) у пазіцыі аб’екта» і пад.). Таму нам бачыцца мэтазгодным прапанаваць уласную класіфікацыю дзеясловаў з прадметнай семай ‘жывёла’, у якой былі б аб’яднаны ўсе дзеясловы з названай семай і адначасова ўлічаны асаблівасці іх функцыянавання.

У межах дзеясловаў з прадметнай семай ‘жывёла’ вылучым наступныя групы: суб’ектна-бестыяльныя дзеясловы; аб’ектна-бестыяльныя дзеясловы; сінкрэтычныя бестыяльныя дзеясловы; бестыяльныя дзеясловы ўзнікнення і каузацыі змены стану.

Суб’ектна-бестыяльныя дзеясловы – гэта сукупнасць дзеясловаў, якую традыцыйна адносяць да бестыяльных, г. зн. дзеясловы, «што маюць у значэнні сему спецыялізаванага суб’екта, які выражаецца назвай жывёлы» [19], напр., *кукарэкаць, дзюбаць, гізаваць, гняздзіцца* і пад. Такія дзеясловы ўтвараюць асобную ФАГ дзеясловаў.

Аб’ектна-бестыяльныя дзеясловы, або дзеясловы, якія спалучаюцца з імем жывёлы ў пазіцыі аб’екта (*брытаць, дрэсіраваць* і пад.), не ўваходзяць у ФАГ бестыяльных дзеясловаў. Яны не абазначаюць дзеянні, выканаўцамі якіх з’яўляюцца жывёлы, а паказваюць, якому ўздзеянню можа падвяргацца жывёла. Натуральна, што ўсе гэтыя дзеясловы пераходныя і сярод іх няма статальных дзеясловаў.

Сінкрэтычныя бестыяльныя дзеясловы блізкія да суб’ектна-бестыяльных дзеясловаў, але яны поруч з семай жывёлы-суб’екта ўтрымліваюць сему жывёлы-аб’екта і абавязкова з’яўляюцца пераходнымі, напр., *выседзець, таптаць, пакрываць, кусаць* і пад. Як і суб’ектна-бестыяльныя дзеясловы, яны ўваходзяць у ФАГ бестыяльных дзеясловаў, бо абазначаюць анталагічныя дынамічныя прыметы жывёл. У семантычным плане да сінкрэтычных бестыяльных дзеясловаў набліжаюцца дзеясловы тыпу *цяліцца, жарабіцца, шчаніцца* і пад. Аднак семантычны аб’ект у дадзеных дзеясловах выражаецца не на сінтаксічным, а на марфемным узроўні, што адбіваецца на іх сінтагматычных уласцівасцях. Параўн.: *цяліцца* – нарадзіць *цяля*, *жарабіцца* – нарадзіць *жарабя*, *шчаніцца* – нарадзіць *шчаня*. Такія дзеясловы можна назваць матываванымі сінкрэтычнымі бестыяльнымі дзеясловамі.

Бестыяльныя дзеясловы ўзнікнення і каузацыі змены стану (напр., *чарвівець, счарвець, урабачэць*) маюць даволі спецыфічную семантыку. З аднаго боку, яны абазначаюць, што ў межах пэўнага прадмета ўзніклі жывыя арганізмы, спасылка на якія знаходзіцца ў корані дзеяслова, з іншага – працэс узнікнення жывых арганізмаў прадстаўляецца як змена стану, якаснай характарыстыкі прадмета ў выніку ўздзеяння гэтых арганізмаў на прадмет. Дадзеныя дзеясловы эксплікуюць сему ‘жывёла’ на марфемным узроўні.

Пашырэнне паняцця «бестыяльныя дзеясловы» на ўсе дзеясловы з прадметнай семай ‘жывёла’ дазваляе вызначыць не толькі тое, у якой ступені і якім спосабам у мове адлюстраваны пэўныя анталагічныя ўласцівасці жывёл, але і кола тых адносін, у якія яны могуць уступаць, г. зн. даць комплекснае ўяўленне, якія веды пра свет жывёл захоўваюцца ў дзеяслоўнай семантыцы беларускай мовы.

Другая праблема, з якой мы сутыкаемся, калі пачынаем акрэсліваць змест паняцця «дзеясловы з прадметнай семай ‘жывёла’», – вызначэнне таго сэнсу, які мы ўкладваем у само паняцце «жывёла». Як слушна адзначае Ф. С. Бацэвіч, «імя на першы погляд аднаго адлюстравальнага класа можа хаваць розныя рэферэнтныя сутнасці (анамасіялагічныя статусы)» [20]. Адбываецца так таму, што ў залежнасці ад сітуацыі «любая … з сем можа актуалізавацца, выйсці на першы план, уключыцца ў рэму выказван-

ня, у той час як іншыя семы, якія адлюстроўваюць ужо вядомыя або неістотныя для гаворачых аспекты з'яў, страчваюць камунікатыўную значнасць, адыходзяць на другі план … і могуць зусім знікнуць з семантычнай структуры слова» [21]. У залежнасці ад інтэнцыі гаворачага ў маўленні імя жывёлы напаўняецца рознымі сэнсамі і пачынае суадносіцца з некалькімі адлюстравальнымі класамі. Услед за Ф. С. Бацэвічам назавём такую з'яву дэнататыўнай расчлянёнасцю [22]. У такіх спалучэннях, як *разбіраць парсюка, смаліць свінню* і пад., у імён *парсюк* і *свіння* сема 'жывёла' паслабляецца, «пагашаецца», адыходзіць на перыферыю значэння, у той час як пачынае актуалізавацца сема 'рэчыва, прадукт перапрацоўкі', і самі гэтыя імёны перастаюць з'яўляцца часткай рэферэнтна-таксанамічнага класа «жывёла». Адпаведна і дзеясловы тыпу *разбіраць*, *смаліць* – гэта крайняя перыферыя дзеясловаў з прадметнай семай 'жывёла'.

Для рэферэнтна-таксанамічнага класа «жывёлы» з'ява дэнататыўнай расчлянёнасці характэрна ў нязначнай ступені. Часам назва жывёлы выступае ў якасці абазначэння «цела-прасторы» (напр., *карова ляжыць у цяньку*), але нават у такіх выпадках імя-назва жывёлы не страчвае сувязь з паняццем жывой матэрыі. У якасці абазначэння «цела-рэчыва» імя жывёлы выступае ў выразах накшталт *конь ужо расклаўся*, а ў якасці артэфакта (прадукта перапрацоўкі) – у такіх выразах, як *норка, вавёрка ішлі на футра*. Для абазначэння прадуктаў харчавання жывёльнага паходжання часта выкарыстоўваюцца спалучэнні са словам *мяса* (напр., *качынае мяса*) або асобныя лексемы (накшталт *ялавічына, свініна* і пад.), што дазваляе пазбегнуць двухсэнсоўнасці, хаця ў мове дапушчальны і выразы тыпу *запякаць парсюка, смажыць рыбу* і пад., калі гутарка ідзе пра факт прыгатавання (апрацоўкі) ўсёй жывёлы цалкам.

У штодзённым маўленні паняцце «жывёлы» звычайна супрацьпастаўляецца такім паняццям, як «птушкі», «рыбы», «насякомыя» і пад. Аднак у строгім біялагічным разуменні такое супрацьпастаўленне з'яўляецца памылковым, бо з пункту гледжання біялагічнай сістэматыкі і птушкі, і рыбы, і насякомыя – гэта ўсё прадстаўнікі менавіта царства «жывёлы». Калі абагульніць асноўныя слоўнікавыя дэфініцыі, то можна прыйсці да высновы, што пад жывёлай варта разумець любы жывы арганізм, які здольны самастойна рухацца; валодае адчувальнасцю; харчуецца гатовымі арганічнымі злучэннямі. Менавіта ў такім найбольш шырокім сэнсе паняцце «жывёла» выкарыстоўваецца ў дадзенай працы.

Асобнае і даволі складанае пытанне – характар узаемаадносін паміж *бестыяльнымі* і *персанальнымі* дзеясловамі. Як адзначаецца ў літаратуры, «склад дзеясловаў з прадметнымі спецыялізаванымі семамі таксама нельга лічыць аднародным. У сувязі з гэтым іх спалучальнасць можа быць ахарактарызавана як больш шырокая або больш вузкая ў залежнасці ад якасці субстанцыянальных сем – ад ступені іх спецыялізацыі» [23]. У залежнасці ад ступені спецыялізацыі вылучаюць наступныя тыпы дзеясловаў вузкай

дэнататыўнай аднесенасці: 1) дзеясловы, якія спецыялізуюцца да родавых назваў-актантаў (напр., *завянуць, засохнуць* – для ўсіх раслін); 2) дзеясловы, якія спецыялізуюцца да відавых назваў-актантаў (напр., *гняздзіцца* – для некаторых відаў птушак); 3) дзеясловы, якія спецыялізуюцца да індывідуальных назваў-актантаў (напр., *буркатаць* – голуб, *рохкаць* – свіння) [24]. У бестыяльных дзеясловаў родавыя абмежаванні на спалучальнасць выяўляюцца ў здольнасці дзеясловаў спалучацца з імёнамі ўсіх (ці абсалютнай большасці) прадстаўнікоў царства «жывёлы» (напр., *вадзіцца*, *здохнуць* і пад.), відавыя – у спалучальнасці з імёнамі прадстаўнікоў асобных тыпаў, класаў ці некалькіх сямейств, атрадаў жывёл (напр., *гняздзіцца* – для некаторых відаў птушак, *ліняць* – для некаторых жывёл, *нераставаць* – для некаторых рыб), індывідуальныя – у спалучальнасці з імёнамі прадстаўнікоў пэўнага сямейства ці біялагічнага віда (напр., *буркатаць* – голуб, *рохкаць* – свіння, *квакаць* – жаба).

Аналіз сінтагматычных уласцівасцей бестыяльных дзеясловаў паказаў, што ў большасці выпадкаў яны, у адрозненне ад грамінальных дзеясловаў (дзеясловаў з прадметнай семай ‘расліна’), накладаюць відавыя або індывідуальныя спалучальнасныя абмежаванні на сваё акружэнне. Фактычная адсутнасць бестыяльных дзеясловаў з родавымі абмежаваннямі на спалучальнасць і наяўнасць вялікай колькасці дзеясловаў, якія абазначаюць дзеянні або станы, агульныя для жывёл і чалавека (такія дзеясловы разглядаюцца Ф. Бацэвічам як многапрызнакавыя [25], напр., *есці*, *піць*, *спаць*, *глядзець* і пад.), прывялі нас да высновы, што вылучэнне такой сферы дэнататыўнай прасторы дзеяслова, як *хомадынаміка* [26] (г. зн. дзеянні, дзейнасць і стан чалавека), мае даволі ўмоўны характар. Адсутнасць бестыяльных дзеясловаў з родавымі абмежаваннямі на спалучальнасць можна патлумачыць толькі тым, што дзеясловы, якія абазначаюць агульныя для ўсіх жывёл дзеянні і станы, звычайна выкарыстоўваюцца і для характарыстыкі чалавека і, адпаведна, не маюць у слоўніках памету «пра жывёл». Толькі ў тым выпадку, калі разглядаць чалавека не ў якасці нейкай абсалютна самастойнай сутнасці, а ў якасці аднаго з відаў жывёл, дадзеная супярэчлівасць здымаецца, і мы здольны выявіць тры ступені абмежаванняў на спалучальнасць. І гэта натуральна, бо ў такім выпадку дзеясловы накшталт *есці, піць, глядзець, слухаць* і шэраг іншых набываюць статус не многапрызнакавых, а суб’ектна-бестыяльных дзеясловаў з родавымі абмежаваннямі на спалучальнасць і, адпаведна, спалучаюцца як з назвамі жывёл (у вузкім сэнсе) (напр., *конь/ чарапаха/ малпа есць, п’е, глядзіць, слухае*), птушак (*курыца/ папугай/ сарока есць, п’е, глядзіць, слухае*) і г. д., так і з імёнамі-назвамі чалавека як біялагічнага віда, антрапонімамі, імёнамі чалавека паводле яго сацыяльных функцый, узроставых, палавых асаблівасцей і інш. (*чалавек/ мужчына/ муляр есць, п’е, глядзіць, слухае*). У дадзеным выпадку працуе правіла, у адпаведнасці з якім усім індывідам уласцівы характарыстыкі віда, а ўсім відам – характарыстыкі роду (аднос-

на шырокая спалучальнасць дзеясловаў тыпу *есці, піць, глядзець, слухаць* у такім выпадку і тлумачыцца тым, што яны з'яўляюцца дзеясловамі з родавымі абмежаваннямі на спалучальнасць, а значыць, спалучаюцца з іменамі ўсіх прадстаўнікоў царства «жывёлы»). Для нас з'яўляецца блізкай пазіцыя часткі філосафаў, якія разглядалі чалавека як «жывёлу, што захварэла на дух» [27]. Менавіта спалучэннем фізіялагічнага (жывёльнага) з духоўным абумоўлена спецыфіка чалавека. І ўсе тыя дзеясловы, якія характарызуюць спецыфічную «духоўную» дзейнасць чалавека (напр., дзеясловы ментальных дзеянняў, дзеясловы маўленчай дзейнасці і пад.), з пункту гледжання сістэмнасці варта разглядаць не ў якасці асобнага класа, а ў якасці суб'ектна-бестыяльных дзеясловаў з відавымі абмежаваннямі на спалучальнасць, суб'ектамі пры якіх з'яўляюцца імёны прадстаўнікоў віда homo sapiens. Як было паказана, толькі пры такім падыходзе захоўваецца цэльнасць і ўнутраная несупярэчлівасць сістэмы дзеясловаў. Аднак нягледзячы на тое, што ўсе персанальныя дзеясловы фактычна павінны ўваходзіць у ФАГ бестыяльных дзеясловаў, само вылучэнне семы 'персанальнасць' цалкам абгрунтаванае, бо ў шэрагу славянскіх моў яна мае фармальнае выражэнне на паверхнева-граматычным узроўні (напр., *мужчынская персанальнасць* у польскай мове, сувязь граматычнай адушаўлёнасці з мужчынскай персанальнасцю ў славацкай мове, аднак у названых выпадках рэлевантнай аказваецца менавіта мужчынская персанальнасць, а не персанальнасць як такая), што сведчыць пра яе адносную самастойнасць і значнасць, а самі дзеясловы з семай 'персанальнасць' утвараюць значны па колькасці лексічных адзінак клас. Іншая справа, што гэтая сема ў складзе дзеясловаў павінна класіфікавацца не ізалявана, а ў цеснай сувязі з семай бестыяльнасці (як яе канкрэтны від).

Такім чынам, у якасці дзеясловаў з прадметнай семай 'жывёла' (бестыяльных дзеясловаў) варта разглядаць тыя дзеясловы, якія накладваюць абмежаванні на сваю спалучальнасць і спалучаюцца пераважна з імёнамі-назвамі жывёл як жывых арганізмаў у пазіцыях суб'екта ці аб'екта або эксплікуюць прадметную сему 'жывёла' на марфемным узроўні і адлюстроўваюць у сваёй семантыцы анталагічныя дынамічныя прыметы жывёл або характар адносін, якія складваюцца паміж жывёлай і іншымі ўдзельнікамі сітуацыі. Аналіз дзеясловаў з прадметнай семай 'жывёла' здольны паказаць, якія веды пра жывёльны свет захоўваюцца ў дзеяслоўнай семантыцы беларускай мовы, вызначыць ролю прадметных сем у арганізацыі выказвання, раскрыць некаторыя прынцыпы дзеяслоўнай намінацыі сітуацый з удзелам жывёл.

*Мінск*

## Літаратура

1. Гайсина, Р. С. К семантической типологии глаголов русского языка / Р. С. Гайсина // Семантические классы русских глаголов. – Свердловск, 1982. – С. 18.

2. Бацевич, Ф. С. Функционально-ономасиологическое исследование глагольной лексики / Ф. С. Бацевич, Т. А. Космеда // Очерки по функциональной лексикологии. – Львов, 1997. – С. 50.

3. Русская глагольная лексика: пересекаемость парадигм: памяти Э. В. Кузнецовой / под общ. ред. Л. Г. Бабенко. – Екатеринбург, 1997. – С. 53.

4. Михайлова, О. А. К вопросу об изучении глаголов с предметными семами / О. А. Михайлова // Проблемы глагольной семантики: сб. науч. тр. – Свердловск, 1984. – С. 65.

5. Михайлова, О. А. К вопросу об изучении глаголов с предметными семами. – С. 65.

6. Уфимцева, А. А. Лексическое значение: принцип семиологического описания лексики / А. А. Уфимцева.– М., 2002. – С. 185.

7. Русская глагольная лексика: пересекаемость парадигм: памяти Э. В. Кузнецовой. – С. 52.

8. Лексико-семантические группы русских глаголов / под ред. Э. В. Кузнецовой. – Иркутск, 1989. – С. 7.

9. Ганжа, Р. С. Изучение глагольной семантики / Р. С. Ганжа // Русский язык в школе. – М., 1970. –№ 4. – С. 37.

10. Михайлова, О. А. К вопросу об изучении глаголов с предметными семами. – С. 67.

11. Бацевич, Ф. С. Функционально-ономасиологическое исследование глагольной лексики. – С. 175.

12. Бацевич, Ф. С. Функционально-ономасиологическое исследование глагольной лексики. – С. 66.

13. Уфимцева, А. А Лексическое значение: принцип семиологического описания лексики. – С. 139.

14. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. (6 кн.) / пад аг. рэд. К. К. Крапівы. – Мінск, 1977.– Т. 1. – С. 574.

15. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы.– Т. 4. – С. 413.

16. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. – Т. 5. – С. 476.

17. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. – Т. 3. – С. 620.

18. Куратчик М. Семантическая характеристика глагольных зооморфизмов в русском и польском языках / М. Куратчик // Проблемы глагольной семантики: сб. науч. тр. – Свердловск, 1988. – С. 76.

19. Михайлова, О. А. К вопросу об изучении глаголов с предметными семами. – С. 67.

20. Бацевич, Ф. С. Функционально-ономасиологическое исследование глагольной лексики. – С. 32.

21. Гак, В. Г. К проблеме семантической синтагматики / В. Г. Гак // Проблемы структурной лингвистики.– М., 1972.– С. 371.

22. Бацевич, Ф. С. Функционально-ономасиологическое исследование глагольной лексики. – С. 130.

23. Важнік, С. А. Да праблемы стварэння комплекснай сінтагматычнай класіфікацыі беларускіх і польскіх дзеяслоўных прэдыкатаў / С. Важнік // Паланістыка – Полонистика – Polonistyka, 2001: Маладая паланістыка.– Мінск, 2002.– С. 111.

24. Важнік, С. А. Да праблемы стварэння комплекснай сінтагматычнай класіфікацыі беларускіх і польскіх дзеяслоўных прэдыкатаў. – С. 111.

25. Бацевич, Ф. С. Функционально-ономасиологическое исследование глагольной лексики. – С. 56–60.

26. Русская глагольная лексика: денотативное пространство / под общ. ред. Л. Г. Бабенко.– Екатеринбург, 1999. – С. 78.

27. Философия и методология науки: учеб. пособие для аспирантов / под ред. А. И. Зеленкова. – Минск, 2007. – С. 53.

## Summary

This paper is aimed to define the notion «verbs with the subject seme ‘an animal’» in Belarusian language, to give their brief semantic and syntactic description and to propose their possible classification.

*УДК 811.161.3’276.6:004.738.5+811.161.3’42*

*К. А. БЯЛОВА*

# МОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАГА ІНТЭРНЭТ-ДЫСКУРСУ

*(Паступіў у рэдкалегію 9.03.2010 г.)*

У эпоху інтэнсіўнага развіцця сеткі інтэрнэту ў Беларусі, яе імклівага пранікнення ва ўсе сферы жыцця прадстаўнікоў беларускай сацыякультурнай супольнасці, «ператварэння ў інфармацыйна-камунікатыўную сераду, якая ў жыцці ўсё большай колькасці людзей займае ўсё больш значнае месца, а ў некаторых выпадках пачынае пераважаць» [1], і папулярызацыі камп’ютарна апасродкаванай камунікацыі даследаванне моўнай сітуацыі і спецыфічных асаблівасцей інтэрнэт-дыскурсу байнэт (ад англ. ByNet – ‘беларускі сектар сеткі інтэрнэту’) уяўляецца дастаткова актуальным.

З моманту свайго станаўлення тэрмін «дыскурс» дапускае мнагазначнасць інтэрпрэтацый у парадыгмах ведаў розных айчынных і замежных навуковых школ. Аднак усе вядомыя падыходы да аналізу гэтага феномена не з’яўляюцца ўзаемавыключальнымі. Яны толькі з розных пазіцый даследуюць дыскурс, які можна з поўным правам назваць міждысцыплінарнай з’явай на стыку розных навук: сацыялогіі, лінгвістыкі, прагмалінгвістыкі, псіхалінгвістыкі, кагнітыўнай лінгвістыкі, лінгвістыкі тэксту, семіётыкі, медыялінгвістыкі [2].

У кантэксце дадзенага даследавання найбольш дакладным уяўляецца разуменне дыскурсу Т. А. ван Дэйкам [3], згодна з якім дыскурс разглядаецца як моўны твор ва ўсёй паўнаце свайго выражэння (вербальнага і невербальнага, паралінгвістычнага) з улікам усіх экстралінгвістычных фактараў (сацыяльных, культурных, псіхалагічных), істотных для паспяховага моўнага ўзаемадзеяння індывідаў, у нашым выпадку, у працэсе камп’ютарна апасродкаванай камунікацыі ў беларускім сектары інтэрнэту.

У ходзе даследавання выкарыстоўваліся сайты ўсіх рубрык (бізнес і эканоміка, грамадства і палітыка, адукацыя і навука, навіны і СМІ, культура і мастацтва, даведкі, медыцына і здароўе, інтэрнэт/камп’ютары і электроніка, спорт, дом і сям’я, лад жыцця, адпачынак і забавы, турызм/падарожжы/прырода, крамы/гандлёвыя пляцоўкі, аб’явы, зносіны) са спісу, складзенага беларускай кампаніяй «Акавіта» [4]. Паводле статыстыкі, гэтыя сайты з’яўляліся найбольш папулярнымі сярод беларускай інтэрнэт-аўдыторыі ў студзені 2010 г. Былі выкарыстаны таксама сайты з каталога вэб-спасылак беларускай электроннай бібліятэкі «Беларуская палічка» [5]

і вынікі нашага анкетавання 3769 чалавек на базе шэрагу прадпрыемстваў і арганізацый сталіцы.

Па выніках сацапытанняў, якія рэгулярна праводзяцца вядучымі беларускімі парталамі, сэрвісамі, рэсурсамі навін (tut. by, kp. by, irr. by, av. by, і інш.) і маніторынгавымі кампаніямі («Акавіта», «НОВАК», «MIASMI BY», «Gemius» і інш.), а таксама ўласных даследаванняў на базе некаторых арганізацый і прадпрыемстваў сталіцы тыповым беларускім карыстальнікам інтэрнэту сёння з'яўляецца чалавек (у роўных частках мужчына або жанчына) ва ўзросце ад 18 да 35, жыхар абласнога горада з (незакончанай) вышэйшай або спецыяльнай адукацыяй, навучэнец або спецыяліст у якой-небудзь галіне, кіраўнік або прадпрымальнік, які карыстаецца камуціраваным або шырокапалосным доступам у інтэрнэт ад 1 да 4 і больш разоў на тыдзень.

Аналіз адказаў карыстальнікаў інтэрнэту на пытанні кшталту «З якой мэтай вы выкарыстоўваеце інтэрнэт?» / «Якімі інтэрнэт-рэсурсамі карыстаецеся часцей за ўсё?» / «Што трапляе пад вашу ўвагу падчас інтэрнэт-сеанса?» і пад. даў магчымасць акрэсліць кола тых відаў дзейнасці ў сетцы, якім аддаюць перавагу прадстаўнікі беларускай інтэрнэт-аўдыторыі.

Усе апытаныя (3769) карыстаюцца паслугамі электроннай пошты і скачваюць інфармацыю розных фарматаў і аб'ёмаў; многія (2915 з 3769) з'яўляюцца наведвальнікамі сацыяльных сайтаў; удзельнікамі форумаў або канферэнцый з'яўляюцца 2175 апытаных; рэсурсамі навін карыстаюцца 2004; зносіны куплі-продажу ажыццяўляе з дапамогай дошак аб'яў досыць вялікая колькасць рэспандэнтаў (1709 з 3769); кантактуюць у сістэмах імгненнага абмену паведамленнямі і/або заходзяць у чаты 1549; шукаюць адказы на патрэбныя пытанні ў сістэмах FAQ 1024 з 3769; часта пакідаюць паведамленні ў кнігах гасцей наведаных сайтаў 980 з 3769; вядуць асабістыя дзённікі або праглядаюць блогі 967 з 3769; падпісчыкамі на тую ці іншую рассылку з'яўляюцца 617 рэспандэнтаў; пошук па каталогах рэсурсаў сайтаў ажыццяўляюць 598 карыстальнікаў; 183 не абмінаюць спам- ці банерную рэкламу. Невялікая колькасць карыстальнікаў мае асабістыя старонкі (9 з 3769) і гуляе ва on-line гульні (17 з 3769).

Такім чынам, беларусы звяртаюцца да інтэрнэту для пошуку інфармацыі, файлавага абмену, камунікацыі, чытання навін, куплі-продажу тавараў і паслуг, гульняў.

Калі ўзяць пад увагу жанрава-тыпавую разнастайнасць дыскурсу ў цэлым і інтэрнэт-дыскурсу ў прыватнасці, у нашым даследаванні мы спыніліся на асобасна-арыентаваным тыпе дыскурсу і тых жанрах, якія, згодна з вынікамі анкетавання, прыведзенымі вышэй, з'яўляюцца найбольш камунікатыўна значымымі для беларускіх карыстальнікаў, а значыць, і найбольш актуальнымі для аналізу. Да такіх жанраў адносяцца: электронная пошта, форум/канферэнцыя, сацыяльныя суполкі/сайты, жывы журнал/блог, чат, гасцявая кніга, дошкі аб'яў, спам-лісты, спісы рассылкі, FAQ

(найбольш папулярныя пытанні), банер, каталог. Тэксты гэтых жанраў паслужылі асновай моўнага матэрыялу для даследавання. Арфаграфія, графіка і пунктуацыя прыведзеных у артыкуле прыкладаў належаць аўтарам.

Звяртаючыся да моўнай сітуацыі, якая характарызуе беларускі сегмент глабальнай сеткі, трэба адзначыць, што вынікі даследавання гавораць аб выкарыстанні ў большасці выпадкаў трох асноўных моў: рускай (займае вядучую пазіцыю), беларускай і англійскай. Пра гэта сведчаць перш за ўсё вынікі анкетавання, у якім на пытанне «На якой мове вы кантактуеце ў інтэрнэце і/ці праглядаеце рэсурсы?» 506 з 3769 выбралі беларускую мову, 389 – беларускую і англійскую, 703 – рускую, 1061 – рускую і англійскую, 254 – рускую і іншыя мовы, 856 – рускую, беларускую і англійскую. Моўнае афармленне 119 найбольш папулярных сярод беларусаў за студзень 2010 г. сайтаў таксама дэманструе існаванне трох асноўных моў у байнэце і падкрэслівае вядучую ролю рускай мовы. Так, са 119 сайтаў 100 прадстаўлена толькі на рускай мове, 2 – толькі на беларускай, 2 – на рускай і беларускай, 13 – на рускай і англійскай, 2 – на рускай, беларускай і англійскай мовах.

Разгледзім некаторыя характэрныя асаблівасці камп’ютарна апасродкаванай камунікацыі беларусаў у пералічаных вышэй жанрах інтэрнэт-дыскурсу на беларускай мове. У сваім даследаванні мы спыніліся на беларускай мове таму, што, з аднаго боку, менавіта беларуская мова найменш даследавана як сродак сеткавай камунікацыі, а з другога – папулярнасць беларускай мовы як у байнэце, так і ў нясеткавым асяроддзі відавочна павялічваецца, асабліва сярод моладзі.

Перш за ўсё, трэба адзначыць, што камунікацыя беларусаў у акрэсленым вышэй жанрава-тыпавымварыянце інтэрнэт-дыскурсу характарызуецца «нейтралізацыяй апазіцыі двух тыпаў мовы – вуснай и пісьмовай» [6], дэмакратычным стылям («хуткім, лёгкім, раскаваным, творча эўрыстычным, арыгінальным, інфармацыйна ёмістым, месцамі жартоўным, тэматычна разнастайным» [7]), эмацыянальнасцю, «нядбайнасцю да звычайных моўных нормаў» [8], тэндэнцыяй да рознабаковых спрашчэнняў і набліжэннем да нясеткавага размоўнага ненарматыўнага варыянта, «стылістычнай лёгкасцю, суадносінамі натуральнай мовы і спецыяльнага штучнага кода» [9], моўнай гульнёй ці «свабоднай словатворчасцю масаў» [10].

У ходзе аналізу 3900 тэкстаў розных жанраў на беларускай мове былі выяўлены перш за ўсё алфавітныя і графічныя варыянты.

Беларуская мова байнэту прадстаўлена трыма асноўнымі алфавітнымі варыянтамі (парадак прадстаўлення алфавітаў адлюстроўвае перавагі ў іх выкарыстанні):

а) беларуская кірыліца (напр., ***Адкажыце*** *– што рабіць у гэтым выпадку?* – FAQ; ***значыць*** *пойдзем у прыват??!!* – чат);

б) лацінская транслітарацыя беларускай кірыліцы (напр., ***Adkazhice****, kali laska, chto geta robitsa?!!!!!* – форум; *Dyk,* ***znachyt’*** *vy razam tam byli?!* – сацыяльны сайт);

в) беларуская лацінка (напр., ***Adkažy*** *na pytańni ankiety, raźmieščanaj sprava ad hetaha dopisu!* – форум; ***Značyć****, usio navat horš, čym ja zdahadvaŭsia (...)* – э-ліст).

Усе тры алфавіты маюць графічныя варыянты асобных літар. Гэтыя асаблівасці абумоўлены часцей за ўсё тэхнічнымі прычынамі – адсутнасцю неабходных знакаў патрэбнага алфавіта на асноўнай клавіятуры карыстальніка, а таксама неахайным стаўленнем да пісьмовай фіксацыі сваёй мовы ў абазначаных жанрах інтэрнэт-дыскурсу.

Пакажам найбольш частотныя прыклады:

1) графічная замена [і] → [и], [ў] → [у] у беларускай кірыліцы (напр., *Адкажыце –* ***яки*** *адказ* ***быу*** *у вашым выпадку?* – форум; *Сёння,* ***кали*** *наведвала* ***бацькоу****, бачыла твайго* ***Мишу****!* – сацыяльны сайт);

2) варыянты транслітарацыі [я] → [ya/ja], [ё] → [yo/jo], [ю] → [yu/ju], [ў] → [u/u'], [ц] → [c/cz/ts] (напр., ***maya matulya*** *taksama tam rabila!* – форум; ***jak daluchycca*** *da vashaga gurtka?* – FAQ; ***czalkam*** *zgodna i* ***razumeju****!* – чат; ***tsalkam*** *ne* ***razumeyu*** *navoshta koler* ***zmjanili****?* – гасцявая кніга);

3) ранні і позні / польскі і чэшскі варыянт асобных літар лацінкі, а менавіта [ў] → [u/ŭ/w], [ч] → [cz/č], [ш] → [sz/š], [ж] → [ż/ž] (напр., ***čamu ŭčora*** *zbornik ne prynesla?* – сацыяльны сайт; *и tjane* ***czasta*** *boli!* – форум; *sprava* ***w czym****?* – чат).

Для беларускамоўных тэкстаў байнэту характэрна таксама лексічная спецыфіка, якая ўзнікае пад уплывам дзвюх іншых папулярных моў гэтага інтэрнэт-сектара – рускай і англійскай. Неабходна адзначыць тэндэнцыю ўжывання лексікі, якая з'явілася ў камп'ютарна апасродкаванай камунікацыі на беларускай мове пад уплывам рускай і англійскай мовы, у беларускай фанетычнай абалонцы / беларускім варыянце напісання. Асноўнымі асаблівасцямі на лексічным узроўні з'яўляюцца:

а) лексіка камп'ютарнай тэматыкі, утвораная ад асноў рускіх і транслітараваных англійскіх слоў у асноўным такімі спосабамі, як суфіксацыя/прэфіксацыя (*джобіць* ← ад англ. job, *пагаміць* ← ад англ. game, *пенцяшка* ← ад англ. Pentium – 'тып камп'ютарнага працэсара'); калькаванне і транслітарацыя (*варэз* ← ад англ. warez – 'пірацкія неліцэнзаваныя праграмы', *спэлчэкер* ← ад англ. spellcheck – 'праграма, што правярае арфаграфію'), метафарычны перанос (*сырец* – 'зыходны дакумент', *святафор* – 'знешні мадэм з лямпачкамі'), абрэвіяцыя (*СД* ← ад англ. CD-ROM, *kbd* ← ад англ. Keyboard – клавіятура), словаскладанне (*чыслагрыз* – 'камп'ютар', мышадром – дыванок для камп'ютарнай мышкі), словаўсячэнне (*вінч* ← ад рус. винчестер, *прога* ← ад рус. программа), гібрыдныя ўтварэнні (*htmlка* – 'тэкст на мове HTML', *zipташ* – 'файл у архіве zip' );

б) утвораныя разнастайнымі спосабамі (гл. пункт а) ад асноў агульнаўжывальнай рускай, беларускай і транслітарыраванай англійскай лексікі словы некамп'ютарнай тэрміналогіі (напр., ***Меганечаканасць****! Таму* ***мегавіньшаванні****! Далучаю яшчэ* ***стосік*** *самых цёплых* ***віншаванак*** *да таго,*

*што ўжо казаў у **рэале**!* – э-ліст; *о! было! **кампакцілі**, памятаю!* – чат; ***Дзялішкі*** *мае нічога …* – сацыяльны сайт; *Прывітанне спадарству з Беларусі. Рэклама ў **ЖЖ*** (‘жывы журнал’) *для Вас!* – банер; ***Дзяк вял*** (‘дзякуй вялікі’) *за дапамогу!* – форум);

в) рускія прэцэдэнтныя феномены (напр., *Нягледзячы на спробы гаспадара, **мы** былі **чужыя на этам празьнікe жызьні*** … (цытата з рамана «Дванаццаць крэслаў» І. Ільфа і Я. Пятрова) – блог; *Куды плануеш весці нас, **Сусанін**!!!* – форум);

г) рускія нецэнзурныя словы і выразы, лексіка «блатнога жаргону» (напр., *нельга табе было **гнаць гэту туфту**!* – сацыяльны сайт; *не трэба **базарыць** таго, што ня ведаеш!!!!!!!* – форум; ***klikukha** ne padabaecca, vos' i usyo!* – чат);

д) англіцызмы і англійская агульнаўжывальная лексіка (напр., *Віншуем, Дзёня і Настачка! **Вэлкам ту зэ клаб**!* – э-ліст; *Толькі добры настрой, добрыя людзі, цікавыя тэмы, **кул** піва, гарбата!* – гасцявая кніга; ***Пліз**, растлумачте што куды трэба несці?* – форум; ***автакар**: вадзіцель, тэхнік.* – дошка аб’яў; ***Топлез** шукай тут!* – спам).

Акрамя слоў, утвораных пад уплывам рускай і англійскай моў, у сеткавай камунікацыі можна сустрэць і наватворы на беларускай мове, што таксама дадае асаблівасць беларускаму інтэрнэт-дыскурсу. Найбольш частотнымі з’яўляюцца наступныя словы: *сеціва* – ‘інтэрнэт сетка’, *гартач* – ‘browser’, *гузік* – ‘button’, *тэчка* – ‘folder’, *пляткарня* – ‘чат’, *хамяк* – ‘хатняя старонка’, *пячорны* – ‘чалавек, які не ўмее карыстацца камп’ютарам’, *дабранак* і інш. [11].

Граматычнае афармленне мовы ў названых жанрах беларускага сектара таксама набывае сваю спецыфіку. У большасці тэкстаў амаль усіх жанраў часцей за ўсё можна назіраць аднасастаўныя і неразвітыя простыя сказы, раздзеленыя кропкай ці коскай; эліпсы; інверсіі; ужыванне назоўнага склону замест ускосных склонаў назоўнікаў; парушаныя мадэлі дзеяслоўнага кіравання (напр.: *былі на дача, спякота жудасная была* – э-ліст; *Чакаю на твае каменты!* – чат; *прыват? са мной? пойдзеш?!* – чат; *учора на дыскатека сустрэла цікавага хлопца …* – блог; *Тэлэфон?* – спам-ліст; *заходзь, глядзі, качай!* – банер; *мадэм да сяці далучон быць павінен!* – FAQ; *дамы новыя; мэбля драўляная* – каталог; *Тэлэфануйце па 0 руб/хв у сваёй сетцы. Цудоўна! Выдатна! Новы тарыф «Выдатны»!* – банер).

У ходзе аналізу моўнага матэрыялу ў беларускім сектары інтэрнэту было таксама заўважана актыўнае выкарыстанне невербальных сродкаў. Гэтыя сродкі не толькі перадаюць асаблівасці вымаўлення і інтанацыі мовы карыстальнікаў, не толькі замяняюць у пэўных умовах вербальныя лексічныя адзінкі, але і надаюць выказванням дадатковыя адценні значэння (экспрэсіўнасці, важнасці, двухсэнсоўнасці, неадабральнасці і г. д.).

Дастаткова часта ў многіх жанрах інтэрнэт-дыскурсу выкарыстоўваюцца такія сродкі, як сінграфеміка (пунктуацыйнае вар’іраванне) і супграфеміка (шрыфтавое вар’іраванне ў спосабе напісання літар і іх памеры).

Трэба адзначыць, што асноўнымі пунктуацыйнымі знакамі, тыповымі для інтэрнэт-камунікацыі, з'яўляюцца:

а) шматкроп'е як індыкатар маўчання/сумневу/недасказанасці, замяняльнік нецэнзурных слоў;

б) клічнік, які ўжываецца для перадачы эмацыянальных адценняў і павышэння семантыка-ацэначнай канатацыі асобных лексічных адзінак, а таксама замест слоў «увага» і «толькі»;

в) пытальнік для выражэння неадабральнасці/неразумення слоў суразмоўцаў ці сітуацыі або замест слоў «навошта», «чаму», «у чым справа», «не разумею» і пад.

Пакажам прыклады шрыфтавога і пунктуацыйнага вар'іравання ў тэкстах інтэрнэт-камунікацыі: *Хіба **ГЭТА** нельга да заўтра адкласці???* – э-ліст; *!Усё ТУТ!* ('увага, усё (толькі) тут') – спам-ліст; … *Ж … у вас тут, а не сайт!!!* – гасцявая кніга; *маё імЯ юлЯ!!!* – чат; *ПАГУТАРЫМ можа пра гэта?????* – форум; *????? Mau'chysh ?????* ('чаму маўчыш?') – чат; *Купляйце новы тэлефон. МЫ вернем вам грошы.* – банер; *!!! Navošta ž ??? NAZAŬSYODY ????!!!!!* – сацыяльны сайт.

У тэкстах абазначаных жанраў назіраецца таксама высокая частотнасць ужывання разнастайных пазіграфічных знакаў:

а) лічбы, якія замяняюць славеснае напісанне дат, сумы, колькасныя значэнні (напр., *Сустрэча 14.07.* – форум; *Я 170/60 90-60-90 познаёмлюся з добрым чалавекам!* – дошка аб'яў; *праз 5–7 дзён патэлэфаную зноў!* – сацыяльны сайт);

б) матэматычныя знакі аперацый і адносін такія, як > замест «больш», < замест «менш», = замест «адпаведна, роўна, адпавядае, такі ж як»; % замест «самы, найлепшы, сапраўдны» у выразе «100%» (напр., *Вы жадаеце ведаць > у 10 разоў?! Тады вам сюды!* – спам; *а мне ўсё = !* – чат; *Першае ўражанне – 100% Казанова!!* – э-ліст);

в) знакі грашовых абазначэнняў замест назваў валют ці слова «грошы» (напр., *Націсьні сюды и ВЫЙГРАЙ $$$$$$$!!* – банер; *лепей дапамажы $$$$$!* – э-лист);

г) піктаграмы/смайлікі (напр., *Спадніца ў яе была :-P. Потым на фотках пабачыш!* – сацыяльны сайт; *усім ☺ !* – форум; *по 1 nya chacicca z Mikaj* ☹ *!* – чат).

Такім чынам, інтэрнэт-дыскурс Беларусі, у межах разгледжанага намі жанрава-тыпавога варыянта, паўстае як неаднародны лінгвістычны феномен з шэрагам моўных асаблівасцей.

Вывучэнне гэтага феномена у цэлым і вынікі living рознабаковых даследаванняў яго асаблівасцей у прыватнасці могуць быць карысныя наведвальнікам інтэрнэту для арыентацыі ў свеце віртуальнай камунікацыі і выкарыстоўвацца ў распрацоўцы шляхоў і спосабаў аптымізацыі камп'ютарна апасродкаваных міжкультурных зносін беларусаў.

*Мінск*

## Літаратура

1. Мечковская, Н. Б. История языка и история коммуникации: от клинописи до Интернета: курс лекций по общему языкознанию / Н. Б. Мечковская. – М., 2009. – С. 439–440.
2. Карасик, В. И. Языковой круг: личность, концепты, дискурс / В. И. Карасик. – Волгоград, 2002. – С. 189–200.
3. Дейк, Т. А. ванн. Язык. Познание. Коммуникация / Т. А. ванн Дейк. – М., 1989. – 312 с.
4. http://top. akavita. com/
5. http://knihi. com/
6. Мечковская, Н. Б. История языка и история коммуникации: от клинописи до Интернета. – М., 2009. – С. 441.
7. Важнік С. А. Беларуская мова ў Інтэрнэце / UWM Olsztyn. Acta Neophilologica, VIII. – Olsztyn, 2006. – С. 85.
8. Мечковская Н. Б. Демократизация языков: факторы, коллизии и альтернативы / UWM Olsztyn. Acta Neophilologica, VIII. – Olsztyn, 2006. – С. 137.
9. Мечковская Н. Б. Демократизация языков: факторы, коллизии и альтернативы. – С. 136.
10. Важнік С. А. Беларуская мова ў Інтэрнэце. – С. 85.
11. Важнік С. А. Беларуская мова ў Інтэрнэце. – С. 82–83.

## Summary

The article dwells upon the most typical features of the Belarusian language as means of internet-communication: alphabetic and graphic variants, lexical and grammatical markers, nonverbal units.

## *ЭТЫМАЛАГІЧНЫЯ НАТАТКІ*

### БЕЛАРУСКАЕ *КАМЯГІ́*

Бел. *камягі́* 'кучавыя аблокі' [1] ужо этымалагізавалася ў ЭСБМ [2]. Прапанаваная этымалогія (ад *камя́к*, *камякі́*) не тлумачыць інтэрвакальнага азванчэння *-к-* і небездакорная ў семантычных адносінах. У гэтай форме слова не мае адпаведнікаў у іншых славянскіх мовах. Аднак існуюць аднакарэнныя яму лексемы, але з іншымі прыстаўкамі ў беларускай і ўкраінскай мовах. Гэта тур. *помя́г*, *пом'я́г*, *помяжо́к* 'воблака, хмарка' [3] і ўкр. палес. *поме́г*, *по́мйаг*, *помежо́к*, *помигі́*, *па́мег*, *па́меж*, *па́муг*, *па́ма*, *памуг'і́* 'тс' [4], дзе выдзяляюцца прыстаўкі *па-* і *по-*. Этымалогія каранёвай часткі (параўн. з чэш. *smuga* 'воблака (цёмнае), хмара) [5] выклікае як фанетычныя, так і семантычныя пярэчанні. Больш дакладная этымалогія гэтых слоў дадзена В. А. Мяркулавай [6]. Разглядаючы ўкр. палес. *памэ́г* 'хмара' і ўкр. валын. *па́меги* 'аблокі' (беларускі і больш шырокі палескі матэрыял застаўся ёй невядомым), яна ўзводзіць іх да і.-е. кораня **meig-*, які выступае ў двух асноўных значэннях 'мігаць, мігацець' і 'рабіцца цёмным'. У славянскіх мовах існуе шэраг дэрыватаў ад гэтага кораня: прасл. **migati* 'мігаць', **mьga* 'імга', **mьgla* 'імгла' і г. д. Для вышэйназваных лексем Мяркулава ўзнаўляе праформу **paměgъ*, дзе *-ě-* ўзыходзіць да ступені кораня з дыфтонгам *-oi-*, і прыходзіць да высновы аб вельмі архаічным характары гэтага слова са старым іменным прэфіксам *па-* і паралелямі ў і.-е. мовах: параўн. ст.-інд. *meghá* 'воблака', авесц. *maeγa-* 'тс', пярс. *mēγ* 'воблака, хмара, туман'. У нашых прыкладах з прыст. *па-*, *по-* не ўсе галосныя магчыма ўзвесці да **ě* (напр., *-у-*), відаць, гэта ўплыў іншага слова або вынік несістэмных фанетычных змяненняў. Такім чынам, *камягі́* – гэта дэрыват ад таго ж кораня. Прэфікс *ка-* (або *ко-*, паколькі пры адсутнасці іншаславянскіх адпаведнікаў галосную ў прыстаўцы ў ненаціскной пазіцыі вызначыць цяжка), з апафанічнымі варыянтамі (*ко-*, *ку-*) адносіцца да ліку так званых архаічных, «мёртвых» приставак, якія не ўдзельнічаюць у сучасным словаўтварэнні і выдзяляюцца з дапамогай этымалагічнага аналізу.

### БЕЛАРУСКАЕ *УБОЎ*

У рукапісным слоўніку П. Шпілеўскага [7] ёсць слова, не адзначанае ў іншых беларускіх слоўніках. Гэта *убоў* 'драўляны гаршчок', на жаль, без лакалізацыі. Фармальныя адпаведнікі гэтай лексеме існуюць перш за ўсё

ў паўдн.-слав. мовах.: балг. дыял. *ва̀бел*, *въ̀мбел*, *во́бел* ‘крыніца, калодзеж’, сербскахарв. *ȗбао*, Р. с. *ȕбла* ‘яма, выдзеўбанае ўнутры бервяно, калода’. Апрача таго, вядома палаб. *wûmbâl* ‘крыніца’; статус чэш. *úbĕl* ‘алебастр’, застаецца няясным, паколькі яго значэнне рэзка адрозніваецца ад вышэйуказанага кола значэнняў. У «Этымалагічным слоўніку чэшскай мовы» [8] ёсць версія аб сувязі гэтага слова з паўдн.-слав. лексемамі; яго значэнне магло змяніцца пад уплывам прыметніка *bílý* ‘белы’. У помніках фіксуецца толькі рус.-царк.-слав. *оуболъ* ‘калодзеж’ (XI ст.). Паводле этымалагічных слоўнікаў славянскіх моў, гэтыя лексемы ўзыходзяць да прасл. **obьlъ* ‘круглы’ [9; 10]. Адзначым яшчэ, што больш блізкім па значэнні да бел. слова можа быць рэдкі сербскахарв. дыялектызм *убао*, Р. с. *убла* ‘нейкая мера вадкасці’; тады беларуская і сербахарвацкая лексемы ў гэтым значэнні маглі б быць амонімамі адносна лексем у значэнні ‘калодзеж; крыніца’, узыходзячы таксама да прасл. **obьlъ*.

*Р. М. Малько (Мінск)*

## Спіс скарачэнняў

**Авесц.** – авясційскае, **балг.** – балгарскае, **валын.** – валынскае, **палаб.** – палабскае, **пярс.** – пярсідскае, **палес.** – палескае, **паўдн.-слав.** – паўднёваславянскае, **рус.-царк.-слав.** – рускае царкоўнаславянскае, **сербскахарв.** – сербскахарвацкае, **ст.-інд.** – старажытнаіндыйскае, **тур.** – тураўскае, **чэш.** – чэшскае.

## Літаратура

1. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1980. – Т. 2.
2. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1988. – Т. 4. – С. 231.
3. Тураўскі слоўнік. – Мінск, 1982. – Т. 2.
4. Беларуска-ўкраінскія ізалексы. – Мінск, 1971. – С. 61.
5. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 8. – С. 145.
6. Этимология–1973. – М., 1975.
7. Шпилевский П. Словарь белорусского наречия (рукапіс). – Рукапісны аддзел Бібліятэкі АН СССР, Ленінград.
8. Machek V. Etymologický slovník českého jazyka. – Praha, 1968. – S. 665.
9. Български этимологичен речник. – София, 1971. – Т. 1. – С. 200.
9. Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. – М., 1973. – Т. 4. – С. 143.

## БЕЛАРУСКАЕ *КРАЎПІЦА*

Паводле «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» [1] лексема *кра́ўпіца* ‘чальчак[1] вербалісты, *Lythrum salicaria L.*’, лакалізаваная на Віцебшчыне, – верагодны балтызм, аб чым, згодна з меркаваннем аўтара этымалогіі, у першую чаргу сведчыць дыфтонг *а́ў* у карані. У якасці магчымай крыніцы запазычання падаецца літ. *kraupùs* ‘няроўны, шурпаты’. Меркава-

[1] У слоўніку памылкова – *чальгак*.

лася, што гэтае азначэнне павінна мець дачыненне да дастаткова выразнай асаблівасці расліны, якая б дазволіла даць ёй такую назву. Будова лексемы ў артыкуле не разглядаецца, аднак, відавочна, мяркуецца наступны падзел слова на марфемы – *краўп-іц-а*. Месца націску ў слове вызначана, відаць, аўтарам этымалогіі, паколькі ў батанічным слоўніку А. І. Кісялеўскага, на які даецца спасылка, націску няма. Такім чынам, цалкам правамерны і варыянт *краўпíца*.

Чальчак вербалісты мае разнастайныя ўласцівасці, выразны знешні выгляд і вылучаецца ў беларускіх гаворках даволі вялікай колькасцю назваў: *вербяніца*, *гарлёўнік*, *кабылля мятка*, *ляўконія палявая*, *ракавыя шышкі*, *слёзнік*, *тройнік*, *цвярдзянка* [2].

Усе гэтыя назвы суадносяцца з пэўнымі характарыстыкамі: падабенства лісця чальчака да лісця вербы дало назву *вербяніца* (сюды ж можна аднесці і навуковую назву *чальчак вербалісты*); падабенства формы суквеццяў – *ляўконія палявая* (да ляўконіі)*, кабылля мятка* (да мяты); *ракавыя шышкі* (да драсёна); асаблівасць гэтай расліны вылучаць лішак вадкасці праз спецыяльныя пратокі дала ёй такую красамоўную назву, як *слёзнік*; назву *тройнік* расліна атрымала паводле размяшчэння ліасткоў на сцябле: па тры ў кальчаку; паводле лекавага ўздзеяння – *гарлёўнік* (дапамагае ад болю ў горле); паводле адзеравянелага ў ніжняй частцы сцябла – *цвярдзянка*. Усе пералічаныя назвы дастаткова поўна і з розных бакоў характарызуюць чальчак, аднак усё ж не ўлічваюць яшчэ адну важную ўласцівасць гэтай лекавай расліны.

Пры супастаўленні беларускіх народных назваў і назваў чальчака ў іншых мовах звяртае на сябе ўвагу адсутнасць у беларускай мове назвы, звязанай з кроваспыняльнымі ўласцівасцямі гэтай расліны, у той час як апошнія выразна дэманструюць радавое лацінскае імя *Lythrum*, якое паходзіць ад грэч. λυθρον 'пралітая запечаная кроў'. У іншых славянскіх мовах гэтая ўласцівасць знайшла шырокае адлюстраванне. Хаця, вельмі верагодна, гэтыя назвы з'яўляюцца калькай лацінскага тэрміна, але нярэдкія выпадкі, калі такія намінацыі распаўсюджваліся і ў народнай мове: рус. *кровавница*, пол. *krwawnica*, чэш. *krvavnice*, верхнялуж. *krawnica*, славен. *krvénka*. А вось у славацкай мове лексема *krvavec* абазначае іншую расліну – 'крывасмок, *Sanguisorba L.*'. Такое «вандраванне» адной назвы па розных раслінах з падобнымі якасцямі нярэдкае ў народнай батанічнай наменклатуры. Цалкам можна дапусціць, што і ў выпадку з лексемай *краўпіца* мы маем справу з калькай лацінскай назвы расліны крывасмока *Sanguisorba* (з лацін. *sanguis* 'кроў', *sorbēre* 'усмоктваць'). Паколькі няма дакладнай лакалізацыі лексемы, прыйсці яна магла і з польскай – *krwiopijca* (што больш вераемна з фанетычных меркаванняў), і з рускай – *кровопийца*. На беларускай глебе слова магло прыняць форму **кроўпíйца*, затым пад уздзеяннем акання – **краўпíйца*, а сцяжэнне групы *-íй-* прывяло да ўтварэння цалкам дээтымалагізаванай лексемы *краўпíца*.

*Я. В. Волкава (Мінск)*

**Літаратура**

1. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Рэд. В. У. Мартынаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – Т. 5. – С. 115.

2. Киселевский, А. И. Латино-русско-белорусский ботанический словарь / А. И. Киселевский. – Минск: Наука и техника, 1967. – С. 79.


## БЕЛАРУСКАЕ *ТЫДЗЕНЬ*

Для назвы тydня ў бел. гаворках існуе некалькі лексем:

1) найбольш пашыранай з'яўляецца: *ты́дзень* (ТСБМ, Нас., Касп., Байк. і Некр., Яруш., Мал., Гарэц.; лід., смарг., люб., шальч., беласт., Сл. ПЗБ), *ты́дзень* (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *ты́дзянь* (віл., лід., смарг., свісл., маст., шчуч., тракайск., пух., Сл. ПЗБ), *ты́день* (пруж., Сл. ПЗБ; Растарг.), – якія, найбольш імаверна, былі запазычаны з польскай мовы, або ўтвораны пад яе ўплывам (параўн., пол. *tydzień* 'тс'). Польскае слова – складанае, другі член яго – лексема -*dzień* 'дзень', а першая частка *ty*-, яе паходжанне выклікала пэўныя цяжкасці: дапускалася, што гэта займеннік *ty* у В. скл. мн. ліку ў выразе *na ty dni*, які ўжываўся ў кляштарах для вызначэння манахам дня заняткаў (Й. Лось. Сложные слова в польском языке. Пб., 1901. С. 35). Й. Атрэмбскі («Prace Filologiczne». Т. X. С. 74) бачыць у першай частцы закасцянелую прыслоўевую форму *ty* (як у *póty* 'да таго часу, як'), што не задаволіла Т. Лера-Сплавінскага, які меркаваў («Język polski». Т. XIII. 1928. С. 12–14), што гэта – В. скл. займенніка **tъ* 'гэты'. Параўнаўшы польскі матэрыял з іншаславянскім, ён вызначыў, што форма *tydzień*, абодва члены якой скланяліся: *(do) tegodnia (w) tegodniu* і г. д., мае адпаведнікі ў чэшскай мове (*týden*) і славацкай (*týždeň*), у якіх яна таксама скланялася: *téhodne*, *témudni*, *témdni*, *týmdnem*, у ніжнялужыцкай (*tyźeń*), верхнялужыцкай (*tydźeń*), а таксама ва ўкраінскай (*тиго́день*). У сучаснай польскай мове ад старога скланення засталася толькі форма Р. скл. адз. ліку (*tygodnia*), у іншых склонах мяняецца толькі другая частка;

2) кантамінаваная назва *тыго́дзень* (ашм., Сцяшк. Сл.) з пол. *tygodnia* і бел. *тыдзень*;

3) *ты́днік* 'тыдзень' (віл., Сл. ПЗБ), *ты́днічак* (Скарбы) з незразумелай матывацыяй выкарыстання суф. -*нік*;

4) *тыйдзень* 'тс' (Жд. 3), *тыйдень* (Карскі, Труды, 249) узыходзіць да выразу **tъjь dьnь* > ст.-бел. *тыи день*;

5) *ты́жджань* 'тс' (калінк., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), *тыжджэнь* 'тс' (кам., Сл. ПЗБ; ТС; Пятк.), *ты́ждень* (Растарг.), *ты́ждэнь* (лельч., Нар. лекс.), *тыждэ́н* (кам., Сл. ПЗБ), *тэ́ждынь* (драг., Сл. Брэс.), якія ўзыходзяць да прасл. **tъd'e* (або **tъdje*); апошняе ў старaславянскай мове аформілася ў выглядзе **тъждє** 'той жа самы, такі ж' і **dьnь*. Аднак словазлучэння *tъdje dьnь* спачатку як 'перанос дня, ад якога вялі адлік, на адрэзак часу пасля гэтага', пазней – у значэнні 'тыдзень' у праславянскі перыяд яшчэ не было

(Сной. Slovenski etimološki slovar. С. 753), а з’явілася яно пасля хрышчэння славян і ўвядзення 7-дзённага тыдня. Гэтак жа ўтварыліся: славен. *tẹ̑den*, харв. *tjȅdan*, славац. *týždeň*, ст.-чэш. *týžden*, укр. *ти́ждень*.

У беларускіх лексем *-дж-* замест *-дз-* змянілася ў выніку асіміляцыі, бо «больш правільнай» формай з’яўляецца *ты́ждзень* (ПСл.; пін., Сл. ПЗБ; браг., Нар. словатв.; ТС; Нар. Гом.), а *ты́здзень* (ТС) утварылася ў выніку распадабнення *ж* > *з*. Вынікам усячэння зычных *-ждж-* з’яўляюцца лоеўск. *ты́джань* і *ты́жань* ‘тс’ (Ян.).

Скарачэнні падаюцца паводле прынятых скарачэнняў у ЭСБМ.

*І. І. Лучыц-Федарэц (Мінск)*

## *КУЛЬТУРА МОВЫ*

# ВЫЗНАЧЭННЕ КАНСТРУКЦЫЙ З УЗМОЦНЕНЫМ АДАСАБЛЕННЕМ

Адасабленнем, як вядома, лічыцца сэнсава-граматычнае і інтанацыйнае выдзяленне даданых членаў у сказе. Адасобленыя члены на пісьме аддзяляюцца ці выдзяляюцца ў сказе з дапамогай коскі: *Бярэзнік беластволы пад зарой звініць, умыты чыстаю расой* (А. Бялевіч); *Луг зялёным аксамітам, вянкамі кветак апавіты, разлёгся ў роскашы-красе* (Я. Колас). Адасабленне можа мець узмоцнены характар, і тады пры вымаўленні перад адасобленымі членамі (і пасля іх, калі адасобленыя члены размешчаны ў сярэдзіне сказа) робіцца больш працяглая паўза, а самі адасобленыя члены вымаўляюцца з узмоцненай інтанацыяй і на пісьме аддзяляюцца ці выдзяляюцца з дапамогай працяжніка: *З берагоў Бабра патыхае чаромхаю ды калінаю – у самым цвеце* (М. Лынькоў); *Наперадзе – як кінуць вокам – цягнулася шэрая пожня і чорная ралля* (К. Чорны).

Узмоцненае адасабленне вызначаецца камунікатыўнымі мэтамі, сэнсам, які ўкладваецца ў выказванне. Аднак ёсць і пэўныя граматычныя ўмовы, якія прадвызначаюць узмоцненае адасабленне. Гэта размяшчэнне адасобленых членаў у сказе, а таксама іх колькасны склад і развітасць. У некаторых выпадках узмоцненае адасабленне вызначаецца спосабам марфалагічнага выражэння адасобленых членаў сказа, а таксама сродкамі іх сувязі паміж сабой.

Адасабленне азначэнняў лічыцца, як правіла, узмоцненым, калі яны выражаны адзіночнымі прыметнікамі, размешчаны ў канцы сказа і калі іх не менш чым два: *Плывуць па небе хмаркі – белыя, кучаравыя* (М. Лынькоў); *У руках была кветка – белая, пышная, вялікая* (Я. Колас). У вымаўленні такія азначэнні адрозніваюцца працяглай паўзай на стыку з астатняй часткай сказа, сінтагматычным націскам, аслабленай інтэнсіўнасцю і запаволеным тэмпам [1].

Набываюць узмоцнены характар адасобленыя азначэнні, выражаныя адзіночнымі прыметнікамі ці займеннікамі, калі яны маюць удакладняльны характар і для іх аб’яднання ўжываецца злучнік *і* (адзін або ў спалучэнні з бяззлучнікавай сувяззю): *Гэта наша – твая і мая – маладосць* (П. Глебка); *На дрэвах зімой два колеры – чорны і белы* (З. Бядуля); *Ішоў асенні – дробны, нудны і доўгі – дождж* (К. Чорны). У маўленні, калі такія азначэнні размешчаны ў канцы сказа, перад імі робіцца працяглая паўза, а самі

азначэнні вымаўляюцца з узмоцненай інтанацыяй, калі ў сярэдзіне сказа, то выдзяляюцца працяглымі паўзамі з абодвух бакоў.

Узмоцненым з'яўляецца адасабленне неразвітых і развітых недапасаваных азначэнняў, выражаных назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў, калі яны размешчаны ў сярэдзіне сказа пасля дапасаванага азначэння, выражанага прыметнікам, і ўдакладняюць яго сэнс: *Дарога ішла па доўгай – з кіламетр – паляне* (М. Лынькоў); *Сакавіты – з поўных грудзей – смех напоўніў пакой* (І. Шамякін).

Паколькі такія азначэнні змяшчаюць элементы дадатковага паведамлення, у маўленні яны заўсёды лагічна падкрэсліваюцца і аддзяляюцца ад астатняй часткі сказа працяглымі паўзамі, у выніку чаго набываюць большую сінтаксічную важнасць і стылістычную выразнасць.

З дапамогай працяжніка адасабляюцца недапасаваныя азначэнні, выражаныя інфінітывам, калі яны размешчаны ў канцы сказа і ўжываюцца для ўдакладнення асобных слоў у сказе: *Усіх непакоіла адна думка – выстаяць* (М. Лынькоў); *Узнікла недарэчнае ў такіх абставінах жаданне – засмяяцца* (Р. Сабаленка). Постпазіцыйнае становішча такіх азначэнняў, а таксама спосаб іх марфалагічнага выражэння спрыяюць узмоцненаму сэнсаваму і эмацыянальнаму адасабленню ў сказе.

Набывае ўзмоцнены характар адасабленне неразвітых і развітых прыдаткаў, якія размешчаны ў канцы сказа. У маўленні перад такімі прыдаткамі робіцца працяглая выразная паўза, а самі прыдаткі выдзяляюцца з дапамогай лагічнага націску: *Дадому з зімоўкі далёкай ляцяць нашы госці – шпакі* (М. Хведаровіч); *Пеніцца Нарач – рыбацкае мора* (А. Вялюгін); *На сяле праспявалі апошнія пеўні – вешчуны блізкай зары і новага дня* (В. Каваль). Узмоцненым з'яўляецца адасабленне прыдаткаў, калі яны ўдакладняюць змест азначаемага слова і дапускаюць магчымасць падстаноўкі злучальнага слова *а іменна: Камандзір заслужана насіў вядомае па вобласці імя – Грозны* (Я. Брыль); *Грабцы – дзяўчаты, маладзіцы – штораз варушацца жывей, бо чуюць голас навальніцы* (Я. Колас).

Пастаноўка працяжніка пры прыдатках можа быць абумоўлена і кампазіцыйнымі асаблівасцямі сказа. У прыватнасці, у сказах ускладненай будовы адасобленыя прыдаткі заўсёды аддзяляюцца або выдзяляюцца працяжнікамі: *На пагорку, ля самага броду рэчкі, Мацей Тадэўчык – стары рыбак і паляўнічы – сядзіць на перавернутым чоўне пры слаба тлеючым вогнішчы і дыміць люлькай* (З. Бядуля). Калі адасоблены прыдатак адносіцца да аднаго з аднародных членаў, то для іх дакладнага размежавання ў сказе гэты прыдатак аддзяляецца або выдзяляецца працяжнікамі [2]: *Маці, Алімпа – яе сястра – і мы збіралі ягады на паляне* (Я. Колас); *Андрэй, Сцяпан – селянін з суседняй вёскі – і незнаёмая дзяўчына выйшлі на дарогу* (П. Пестрак). Адасабленне такіх прыдаткаў узмоцненым не з'яўляецца.

Адасабленне акалічнасцей набывае ўзмоцнены характар, калі яны ўдакладняюць або паясняюць іншую акалічнасць у сказе, размешчаны

ў канцы сказа і калі іх не менш чым дзве: *Сані рыпяць па-ранішняму – глуха, коратка, непрыветна* (Я. Скрыган); *Хата пабудавана на вясковы лад – проста і адмыслова* (К. Чорны).

Адасабленне акалічнасцей з'яўляецца ўзмоцненым, калі яны выражаны інфінітывам або інфінітыўным словазлучэннем, размешчаны ў канцы сказа і аддзелены ад паясняемага выказніка іншымі членамі сказа: *Да Сцёпкі зайшлі хлопцы – пазнаёміцца* (Я. Колас); *Сава пайшоў у напрамку пасёлка – сустрэць Сцяпана Каваля* (П. Пестрак).

Адасобленыя акалічнасці, выражаныя прыслоўямі, вымаўляюцца з узмоцненай інтанацыяй, калі маюць свае інтанацыйныя знакі прыпынку або калі набываюць параўнальнае значэнне і аддзелены ад паясняемага выказніка іншымі членамі сказа: *Я за сабой масты ўсе – начыста! – спаліла* (Я. Янішчыц); *Ляцяць над імі – дымам – хмары* (А. Вялюгін).

Адасабленне акалічнасцей, выражаных назоўнікамі з прыназоўнікамі, з'яўляецца ўзмоцненым, калі яны знаходзяцца ў канцы сказа і аддзелены ад паясняемага выказніка іншымі членамі сказа: *У госці сваякі запрошаны пасля параду – на абед* (А. Астрэйка); *Распранალася яна марудна – ад стомы* (І. Мележ); *Ірына ўзяла кошык яек – для адводу вачэй* (М. Лынькоў). Прыклады паказваюць, што такое адасабленне ўласціва для акалічнасцей мэты і прычыны.

Адасабленне акалічнасцей, выражаных назоўнікамі з прыназоўнікамі, набывае ўзмоцнены характар, калі яны з'яўляюцца аднароднымі, размешчаны ў канцы сказа і аддзелены ад паясняемага выказніка іншымі членамі сказа: *Непадалёку праходзілі ўзброеныя людзі – купкамі, калонамі, у адзіночку* (М. Лынькоў). Узмоцненым з'яўляецца адасабленне аднародных акалічнасцей, калі яны маюць удакладняльны характар і аб'яднаны паміж сабой злучнікамі *і, ды, ці, або*: *Усюды – далёка і блізка – жаданая ява ўстае* (П. Броўка); *Заўсёды – летам і зімой – ён хадзіў у цёплай шапцы* (М. Лынькоў); *Усюды – на полі, у лесе або дома – ён не сядзеў без работы* (З. Бядуля). Адасабленне акалічнасцей лічыцца ўзмоцненым, калі яны маюць паясняльны характар і размешчаны ў канцы сказа: *Дзіцячы пратэст выказваецца адзіным для маленства сродкам – плачам* (Я. Брыль); *А дзясятай гадзіне Лясніцкі пайшоў ва ўмоўленае месца – у гарадскі сквер* (М. Зарэцкі). Адасабленне паясняльных членаў сказа набывае ўзмоцнены характар, калі яны з'яўляюцца аднароднымі і размешчаны ў сярэдзіне ці ў канцы сказа: *Не так даўно ў адным французскім порце – у Брэсце, у Тулоне ці ў Марселі – стаяў на прычале карабель заморскі* (М. Лужанін); *Рыцар быў адным са знакамітых магнатаў – не то князь Радзівіл, не то граф Патоцкі* (З. Бядуля); *Не хапала толькі аднаго – смеласці і сумлення* (М. Паслядовіч).

Прааналізаваны фактычны матэрыял дае магчымасць сцвярджаць, што асноўнымі граматычнымі ўмовамі ўзмоцненага адасаблення з'яўляюцца размяшчэнне адасобленых членаў у канцы сказа, іх удакладняльны або па-

ясняльны характар, развітасць, колькасны склад. Граматычныя ўмовы прадвызначаюць узмоцненае адасабленне азначэнняў, прыдаткаў і акалічнасцей. Узмоцненае адасабленне дапаўненняў поўнасцю залежыць ад сэнсу выказвання: *За святло душы, за сілу, ласку – пакахала дзяўчына яго* (А. Бялевіч); *Замест слёз – у торбе песні* (М. Машара).

Прааналізаваныя граматычныя ўмовы ўзмоцненага адасаблення характэрны і для рускай мовы: *Таковы многие бунинские персонажи – колоритные, яркие, своеобычные* (Л. Крутикова); *По пути из Задонска в Воронеж я догнал двух богомольцев – старика и старуху* (М. Горький); *Я наложу на всех одну обязанность – творить* (М. Горький); *И казармы здесь были устроены по-тюремному – из толстых брёвен, с крохотными окошками* (Д. Н. Мамин-Сибиряк).

Дадатковае паведамленне, выражанае адасобленымі азначэннямі ці акалічнасцямі і вынесенае ў канец сказа, акцэнтуе на сабе павышаную ўвагу, што абумоўлівае ўзмоцненае адасабленне такіх канструкцый.

Узмоцненае адасабленне адзіночных азначэнняў ці акалічнасцей вызначаецца не толькі іх размяшчэннем у канцы ці ў сярэдзіне сказа, а і спосабам іх марфалагічнага выражэння (як правіла, гэта немарфалагізаваныя азначэнні і акалічнасці), а таксама дыстантным ці постпазіцыйным становішчам адносна азначаемага ці паясняемага члена сказа.

Такім чынам, узмоцненае адасабленне вызначаецца не толькі сэнсам, які ўкладваецца ў паведамленне, але і падмацоўваецца пэўнымі граматычнымі ўмовамі, што дае магчымасць больш дакладна дыферэнцыраваць гэту з'яву.

*І. Л. Бурак (Мінск)*

**Літаратура**

1. Бурак, Л. І. Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя / Л. І. Бурак. – Мінск, 1987. – С. 164.

2. Бурак, Л. І. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы / Л. І. Бурак. – Мінск, 1980. – С. 72.

## АСАБЛІВАСЦІ КАНЧАТКАЎ АСАБОВЫХ НАЗОЎНІКАЎ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ Ў МЕСНЫМ СКЛОНЕ

Нармалізацыя і ўніфікацыя склонавых канчаткаў асабовых назоўнікаў мае важнае значэнне для культуры беларускай літаратурнай мовы. Гэта тычыцца і асабовых назоўнікаў мужчынскага роду з чыстай асновай у месным склоне, характар скланення якіх залежыць ад фармальнага выгляду асновы, якая можа заканчвацца на цвёрды зычны; на мяккі зычны і *й*; на *ж, ш, ч, р, ц*; на *г, к, х*. У залежнасці ад тыпу асновы ў месным склоне функцыянуюць канчаткі *-е, -у, -ю.*

Асаблівай увагі патрабуе скланенне асабовых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны, дзе назіраецца варыянтнасць канчаткаў *-е* і *-у*. Усталяванню адзінага нарматыўнага канчатка перашкаджае ўплыў дыялектных гаворак, пэўныя ўмовы, акалічнасці экстралінгвістычнага характару. Агляд беларускіх граматык і аўтарытэтных навуковых дапаможнікаў і падручнікаў розных гадоў выдання сведчыць, што сярод даследчыкаў няма адзінства адносна названай граматычнай пазіцыі. Адны вучоныя лічаць, што асабовыя назоўнікі з цвёрдай асновай у месным склоне павінны мець канчатак *-у*, другія – канчатак *-е*, а іншыя – дапускаюць варыянтнасць канчаткаў *-у* і *-е*.

У 1929 г. Б. Тарашкевіч у падручніку «Беларуская граматыка для школ» для асабовых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны ў якасці літаратурнай нормы ў месным склоне вызначаў канчатак *-е* [1].

Згодна з «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), агульныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай і імёны і прозвішчы асоб мужчынскага роду, якія канчаюцца на цвёрды зычны, у месным склоне павінны былі мець канчатак *-е* [2].

«Граматыка беларускай мовы» (1962) прадпісвала для агульных асабовых назоўнікаў з цвёрдай асновай у месным склоне адзіночнага ліку адзіны канчатак *-у (-ю)*, а ўжыванне канчатка *-е* кваліфікавалася як неадпаведнасць літаратурнай норме. Уласныя імёны і прозвішчы на цвёрды зычны і *ў* у месным склоне, згодна з названай граматыкай, павінны былі ўжывацца з канчаткам *-е* [3].

Некаторыя аўтары навуковых і вучэбных дапаможнікаў розных гадоў выдання, відаць, кіруючыся рэкамендацыямі «Граматыкі беларускай мовы» (1962) і шырокім ужываннем у беларускіх гаворках назоўнікаў з канчаткам *-у* ў месным склоне, прапаноўвалі яго ў якасці літаратурнай нормы [4]. Напр.: *брат – аб брату, сын – аб сыну, аграном – аб аграному, салдат – аб салдату.* У шэрагу кадыфікаваных выданняў у назоўніках з цвёрдай асновай дапускаюцца варыянтныя канчаткі *-у* і *-е: аферыст – аб аферысту (аферысце), спецыяліст – аб спецыялісту (спецыялісце), сусед – аб суседу (суседзе)* [5].

Прыведзеныя пазіцыі даследчыкаў адрозніваюцца ад правіл, устаноўленых акадэмічнай «Беларускай граматыкай» (1985), у якой кадыфікацыя норм беларускай літаратурнай мовы праводзіцца на падставе скрупулёзнага аналізу фактычнага матэрыялу з улікам прадпісанняў папярэдніх нарматыўных даведнікаў. Так, у «Беларускай граматыцы» адзначаецца, што «адпаведна з Правапісам беларускай мовы (1934), «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959) асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрды зычны, а таксама ўласныя імёны і прозвішчы з такой жа асновай **павінны** (выдзелена намі. – *Н. Ч.*) ужывацца ў месным склоне з канчаткам *-е* [6]. У моўнай практыцы названае палажэнне паслядоўна не вытрымлівалася. Формы з канчаткам *-у*, шырока распаўсюджаныя ў беларускіх гаворках, ужываліся ў пісьмовай мове, што прыводзіла да варыянт-

насці. Імкнучыся ўніфікаваць формы меснага склону асабовых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны, аўтары граматыкі рэкамендавалі ў якасці літаратурнай нормы для асабовых назоўнікаў форму з канчаткам *-е.*

У «Кароткай граматыцы беларускай мовы» (2007) услед за «Беларускай граматыкай» (1985) пры скланенні асабовых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны ў месным склоне ў якасці літаратурнай нормы прапануецца канчатак *-е* [7]. Аўтары, відаць, кіраваліся «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959) і тэндэнцыяй на больш шырокае ўжыванне ў месным склоне канчатка *-е.* Для назоўнікаў *дзед* і *прадзед* дапускаюцца формы з варыянтнымі канчаткамі *-е* і *-у*, што карыстальнікамі мовы ўспрымаецца неадназначна.

Прыведзены матэрыял сведчыць, што ў працэсе ўніфікацыі канчаткаў меснага склону сітуацыя склалася на карысць форм з канчаткам *-е*, што можа быць падставай для замацавання яго ў якасці літаратурнай нормы. Гэта правіла адлюстравана ў шэрагу падручнікаў і даведнікаў, паводле якіх для асабовых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны ў месным склоне нарматыўным з'яўляецца канчатак *-е* [8; 9].

Нарматыўныя слоўнікі беларускай мовы, такія як «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (1977–1984, далей ТСБМ), «Слоўнік беларускай мовы» (1987, далей СБМ), «Граматычны слоўнік назоўніка» (2008, далей ГСН), асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрды зычны ў месным склоне ў якасці літаратурнай нормы падаюць з канчаткам *-е.* Напр.: *артапед – аб артапедзе, швед – аб шведзе, карэспандэнт – аб карэспандэнце, сейбіт – аб сейбіце, парадыст – аб парадысце* (ТСБМ); *авангардыст – аб авангардысце, акардэаніст – аб акардэанісце, партызан – аб партызане, рэцыдывіст – аб рэцыдывісце, хлебароб – аб хлебаробе* (СБМ); *абарыген – аб абарыгене, гімназіст – аб гімназісце, прэзідэнт – аб прэзідэнце* (ГСН). Акрамя таго, формы з канчаткам *-е* паслядоўна ўжываюцца ў тэкстах усіх стыляў беларускай літаратурнай мовы. Выкарыстанне форм з канчаткам *-у* як варыянтных з'яўляецца непажаданым. Толькі ў мове мастацкай літаратуры як асаблівасць, прыкмета індывідуальнасці стылю таго ці іншага пісьменніка дапускаецца ўжыванне ў месным склоне форм з канчаткам *-у.*

Такім чынам, з канчаткам *-е* ўжываюцца ўсе асабовыя назоўнікі з асновай на цвёрды зычны: *артыст – аб артысце, мовавед – аб мовaведзе, сусед – аб суседзе, прараб – аб прарабе, аграном – аб аграноме, земляроб – аб земляробе, партызан – аб партызане, кнігалюб – аб кнігалюбе, салдат – аб салдаце; абылгалі памяць аб* ***сыне*** (Полымя. 1997. № 10. С. 282); *Нібыта кулямётныя істужкі, На* ***сваце****-камандзіру ручнікі* (Полымя. 2008. № 4. С. 184).

З канчаткам *-у* ўжываюцца асабовыя назоўнікі з асновай:

на зацвярдзелыя *ж, ч, ш, р, ц: нябож – аб нябожу, муж – аб мужу, дзеяч – аб дзеячу, чытач – аб чытачу, таварыш – аб таварышу, латыш – аб латышу, канькабежац – аб канькабежцу, інжынер – аб інжынеру, ган-*

*чар – аб ганчару, акцыянер – аб акцыянеру, баец – аб байцу, кітаец – аб кітайцу, шавец – аб шаўцу, кармілец – аб кармільцу.* Напр.: *Так памыліцца ў сваім* ***мужу****!* (Полымя. 1997. № 7. С. 148); *Калі і было, дык, мусіць, пры* ***цару*** *Гароху, не пазней* (Полымя. 2008. № 9. С. 65); [паэт] *гаворыць аб нашым сучасніку-****шахцёру*** (Полымя. 2009. № 1. С. 42). Некаторыя словы гэтай групы ў моўнай практыцы ўжываюцца з канчаткам -*ы*: *Зноў пайшло, як пры* ***цары*** (Народная воля.14.04.1998 г.); *пры жывым* ***мужы*** (Полымя. 1997. № 7. С. 143); *пры жывым* ***мужы****-гецьмане* (Полымя. 2008. № 6. С. 21). Парушэнне нормы выклікана няведаннем такога правіла;

на заднеязычныя *г, к, х: астролаг – аб астролагу, геолаг – аб геолагу, крытык – аб крытыку, электрык – аб электрыку, галоўбух – аб галоўбуху, жаніх – аб жаніху, патрыярх – аб патрыярху, пастух – аб пастуху.*

З канчаткам -*ю* ўжываюцца асабовыя назоўнікі з асновай на мяккі зычны і асновай на *й*: *абывацель – аб абывацелю, вучань – аб вучню, каваль – аб кавалю, любіцель – аб любіцелю, прыяцель – аб прыяцелю, казначэй – аб казначэю, архірэй – аб архірэю, карыфей – аб карыфею.*

Уласныя асабовыя імёны і прозвішчы мужчынскага роду з чыстай асновай у месным склоне маюць такія ж канчаткі, як і агульныя асабовыя назоўнікі з адпаведнай асновай: *Ленін – аб Леніне* (як *бландзін – аб бландзіне*)*, Колас – аб Коласе* (як *беларус – аб беларусе*)*, Мележ – аб Мележу* (як *нябож – аб нябожу*)*, Алег – аб Алегу* (як *педагог – аб педагогу*)*, Васіль – аб Васілю* (як *кароль – аб каралю*)*, Мікалай – аб Мікалаю* (як *гультай – аб гультаю*)*, Назар – аб Назару* (як *акцёр – аб акцёру*)*, Дамінік – аб Дамініку* (як *чалавек – аб чалавеку*)*.*

На жаль, скланенне асабовых назоўнікаў не знайшло адлюстравання і ўдакладнення ў «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008), як гэта было ў папярэдніх «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959).

Такім чынам, канчаткі асабовых назоўнікаў мужчынскага роду ў месным склоне абумоўлены характарам асновы. Прымаючы пад увагу моўную практыку, правілы і рэкамендацыі апошніх нарматыўнах акадэмічнах граматык і матэрыял лексікаграфічных нарматыўных слоўнікаў беларускай мовы, у назоўніках з асновай на цвёрды зычны ў месным склоне за літаратурную норму трэба лічыць канчатак -*е*.

*Н. А. Чабатар (Мінск)*

### Літаратура

1. Тарашкевіч, Б. Беларуская граматыка для школ / Б. Тарашкевіч. – Мінск: Народная асвета, 1991. – С. 71.

2. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1959. – С.115.

3. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд.: К. К. Атраховіч (Крапіва), М. Г. Булахаў. – Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1962. – Т. 1: Марфалогія. – С. 53–54.

4. Жыдовіч, М. А. Назоўнік у беларускай мове / М. А. Жыдовіч. – Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна. 1969. – Ч. 1: Адзіночны лік. – С. 104; Гурскі, М. І. Параўнальная граматыка рускай і беларускай моў. Фанетыка і марфалогія / М. І. Гурскі. – Мінск: Вышэйш. шк., 1972. – С. 105; Сучасная беларуская літаратурная мова: Марфалогія: вучэб. дапам / Я. М. Адамовіч, Н. В. Гаўрош, М. Ф. Гуліцкі [і інш.]; пад. рэд. Ф. М. Янкоўскага. – 2-е выд., дапрац. – Мінск: Вышэйш. шк., 1980. – С. 60; Сцяцко, П. Культура мовы. – Мінск: Тэхналогія, 2002. – С. 55.

5. Шуба, П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія: вучэб. дапам. / П. П. Шуба. – Мінск: Універсітэцкае, 1987. – С. 68; Кривицкий, А. А. Белорусский язык для говорящих по-русски / А. А. Кривицкий, А. Е. Михневич, А. И. Подлужный. – 3-е изд., перераб. – Минск: Вышэйш. шк., 1990. – С. 116.

6. Беларуская граматыка: у 2 ч. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд.: М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985 –1986. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / М. В. Бірыла [і інш.]. – 1985. – С. 68.

7. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – Ч. 1: Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – С. 136.

8. Сямешка, Л. І. Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. – Мінск: Універсітэцкае, 1996. – С. 313.

9. Арашонкава, Г. У. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы: Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўжыванне / Аўт.-склад. Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. – Мінск: ПУП «РАДЫЁЛА-плюс», 2005. – 448 с.

## НОВЫЯ НАРМАТЫЎНЫЯ СЛОЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ: СПРЭЧНЫЯ ПЫТАННІ

23 ліпеня 2008 г. прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», згодна з якім новая рэдакцыя правіл уводзіцца з 1 верасня 2010 г. Натуральна, што ўжо з'яўляюцца новыя беларускія арфаграфічныя слоўнікі, якія маюць нарматыўны характар. У іх прыведзена лексіка сучаснай беларускай мовы, акрамя агульнаўжывальных слоў у рэестр уключаны новыя лексічныя адзінкі, што з'явіліся ў канцы XX – пачатку XXI ст. Напісанне і граматычная прыналежнасць некаторых запазычанняў выклікае пытанні.

**1. Вызначэнне роду і ліку нескланяльных назоўнікаў.** Асноўныя погляды на дадзеную праблему былі выкладзены ў артыкуле В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч «Род і лік нескланяльных запазычаных назоўнікаў» (Роднае слова. 2005. № 6–7), у якім вызначэнне роду новых запазычанняў абапіралася на агульнапрынятыя прынцыпы:

1) адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу, адносяцца да мужчынскага роду (*куцюр'е, мафіёзі, мача, папарацы*)*: 14 кастрычніка – юбілей у маэстра расійскай моды, любімага* ***куцюр'е*** *тамтэйшага бамонду Валянціна Юдашкіна* (Звязда. 2003. 11 кастр.); *Імкненне паводзіць сябе «сапраўдным* ***мача****» негатыўна адбіваецца не толькі на вучобе, такая манера паводзін закранае ўсё кола ўзаемаадносін падлетка* (Настаўніцкая газета. 2002. 10 снеж.);

2) адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб жаночага полу, адносяцца да жаночага роду (*бізнэс-вумэн, бізнэс-лэдзі*): *Сама* ***бізнэс-вумэн*** *тым часам ідзе начаваць да сяброўкі* (Інтэрнэт);

3) большасць неадушаўлёных назоўнікаў адносіцца да ніякага роду: *цудоўнае арыгамі, моднае бікіні, эратычнае бюсцье, прыгожае дэфіле, бясплатнае караоке, прафесійнае партфоліо, халоднае сакэ, небяспечнае сафары* і г. д.

Сустракаюцца і выключэнні, род якіх вызначаецца на падставе родавага наймення (*гран-пры* (прыз)*, дзьюці фры* (магазін)*, татамі* (дыван) – м. р., *грын-карт* (картка) – ж. р.) ці па знешняй форме (*пасціш, плэй-оф, фаст-фуд, фэн-шуй, экшн* – м. р., *ска* – ж. р.): *Новы **татамі** ў якасці бязвыплатнай спонсарскай дапамогі ад дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Прэзідэнцкі спартыўны клуб» атрымалі юныя майстры баявых відаў спорту з горада Іўе* (Інтэрнэт); *Магла мець права на жыхарства і працу – так званую **Грын-карт*** (Народная воля. 2002. 22 верас.).

Сярод новых нескланяльных назоўнікаў вылучаюцца лексемы, якія мэтазгодна аднесці да множналікавых: *Гэтыя карысныя **мюслі*** (Інтэрнэт); *Асабліва гэта датычыцца розных кропак, дзе вам прапануюць адведаць японскія **сушы** ці атрымаць задавальненне ад наведвання кітайскага або індыйскага рэстарана* (Звязда. 2006. 13 мая).

Неабходна дадаць, што ў беларускай літаратурнай мове адзначаюцца таксама некаторыя выключэнні ў вызначэнні роду пад уплывам родавай прыналежнасці слова ў мове-крыніцы (*эскуда* 'манета' (ісп. escudo, м. р.) – м. р., *экю* 'манета' (фр. écu, м. р.) – м. р., хаця апошняя лексема можа ўжывацца і як назоўнік ніякага роду [1]).

Такім чынам, большасць нескланяльных неадушаўлёных назоўнікаў адносіцца да ніякага роду [2–4], і гэты прынцып аўтары артыкула прапаноўвалі выкарыстоўваць і пры вызначэнні роду новых нескланяльных запазычанняў.

Аднак вызначэнне роду запазычаных назоўнікаў застаецца праблематычным. Так, у БАС род запазычанага нескланяльнага назоўніка *біенале* вызначаецца як мужчынскі.

Аналіз тэкстаў СМІ адлюстроўвае родавую варыянтнасць гэтай лексемы, як і падобных *трыенале* і *квадрыенале*: *Упершыню мастакі-самавукі Беларусі прынялі ўдзел у Міжнародным **трыенале** інсітнага (наіўнага) мастацтва* (ЛіМ. 1997. № 41); *Міжнародная выстаўка сцэнаграфіі тэатральнай архітэктуры «Пражская **квадрыенале** – 2007»* (Інтэрнэт).

Існаванне варыянтнасці можна растлумачыць некалькімі прычынамі. З аднаго боку, у мове-крыніцы гэтыя словы адносяцца да жаночага роду, што выклікае з'яўленне ў перыядычным друку наступных прыкладаў: *Венецыянская **біенале** ў Мінску: наш адказ Чэмберлену* (Інтэрнэт). З іншага боку, аднясенне да мужчынскага ці жаночага роду можна растлумачыць уплывам роду гіпероніма: *Тэатральны **фестываль** «Бонскі **Б'енале**» ў наступным чэрвені будзе ладзіцца ў чацвёрты раз* (ЛіМ. 1997. № 47); *Беларускія мастакі-сцэнографы прынялі ўдзел у вельмі прэстыжнай міжнароднай **выставе** «Пражская **квадрыенале**-95»* (ЛіМ. 1997. № 2).

Запазычанне *джакузі* ў БАС адносіцца да жаночага роду, відавочна, пад уплывам родавага наймення ‘ванна’. У СМІ таксама сустракаецца падобны варыянт: *У чыіх вачах адбіваецца пена з малахітавай* ***джакузі*** (Інтэрнэт).

Улічваючы, што вызначэнне нескланяльных неадушаўлёных назоўнікаў як назоўнікаў ніякага роду ў беларускай літаратурнай мове з’яўляецца больш пашыраным, мэтазгодней адносіць вышэйпрыведзеныя словы *біенале* (*б’енале,* а таксама *трыенале*, *квадрыенале*), *джакузі* да ніякага роду.

**2. Напісанне запазычанняў згодна з літаратурным вымаўленнем.** У адпаведнасці з новымі правіламі, «літара *э* ў запазычаных словах пасля губных зычных, а таксама пасля *з*, *с*, *н* пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем» і «ў запазычаных словах… напісанне *э*, *е* вызначаецца па слоўніку» [5].

Узнікае пытанне: на якое беларускае літаратурнае вымаўленне трэба арыентавацца носьбіту мовы і чаму?

У новых нарматыўных слоўніках занатавана наступнае напісанне: *бізнес*, *энергія, анестэзія, інерцыя* (БАС, ССБМ), *секс, супермен* (БАС). Лексема *супермен* раней была прадстаўлена як *супермэн* (СІС, РБС) і *супермен* (БРС, СБМ).

Аналіз матэрыялаў СМІ (у тым ліку радыё і тэлебачання) сведчыць, што сучасная фанетыка-графічная адаптацыя запазычанняў адлюстроўвае цвёрдае вымаўленне зычных. Гэта пацвярджае і невялікі эксперымент, праведзены сярод 73 студэнтаў установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў». На занятках па англійскай мове ім былі прапанаваны англіцызмы *business* і *sex* з заданнем вызначыць вымаўленне гэтых слоў у беларускай мове. 56 (76,7%) рэспандэнтаў вымаўляюць зычны *н* у слове *бізнэс* цвёрда і 59 (80,8%) студэнтаў вымаўляюць зычны *с* у слове *сэкс* цвёрда[1].

Дарэчы, у рускай мове, калі арыентавацца на яе як на мову-пасрэдніка ў запазычанні дадзеных слоў, гэтыя лексемы гучаць з цвёрдымі зычнымі (гл. НОС). Цвёрдае вымаўленне характэрна таксама ў рускай мове і для даўно вядомых запазычанняў *энергия* (і вытворных), *инерция* (і вытворных), *анестезия*, *супермен*.

Раней супярэчнасці, якія сустракаліся ў напісанні некаторых запазычанняў па-беларуску, былі выкліканы пасрэдніцтвам рускай мовы, у якой літара *е* ўжываецца для перадачы і мяккасці, і цвёрдасці зычных [6; 7]. У рускай мове існуе тэндэнцыя да змякчэння зычных у пазіцыі перад [э], таму ў новых словах, нягледзячы на магчымае цвёрдае вымаўленне зычнага, літара *е* пішацца, як адзначае В. Ф. Іванова, «авансам» [8].

---

[1] Аўтар выражае ўдзячнасць выкладчыкам англійскай мовы кафедры гуманітарных дысцыплін установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў» К. А. Старадубцу, Г. В. Ярашэвіч, дацэнту кафедры М. Я. Жлутка за магчымасць правядзення лінгвістычнага эксперыменту.

Здаецца, што вырашыць спрэчныя пытанні ў дадзеным выпадку можа стварэнне нарматыўнага арфаэпічнага слоўніка беларускай мовы, аднак выклікае сумненне той факт, што ім будзе занатавана вымаўленне *б'із'н'ес* (згодна з арфаэпічнымі нормамі беларускай мовы, зубныя [з] і [с] вымаўляюцца мякка перад мяккімі губнымі і зубнымі зычнымі).

**3. Цвёрдыя [д], [т] у запазычаннях.** Згодна з правіламі новай рэдакцыі, «зычныя *дз*, *ц* пішуцца ў некаторых словах, правапіс якіх вызначаецца па слоўніку» [9]: *бардзюр, дзюна*, *уверцюра, цюль*, *эцюд* і г. д.

У апошнія часы з'явіліся прыклады адлюстравання запазычанняў, якія заканчваюцца на *-ік*, са змякчэннем папярэдняга [т], магчыма па аналогіі з запазычаннямі, у якіх *-ік* з'яўляецца суфіксам (*квадрат – квадрацік*): *Большую частку квартала зойме вялікі гандлёва-офісны цэнтр з выхадам на вуліцу Чырвоная і іншыя грамадскія аб'екты – кафэ, **буцікі**, клубы* (Звязда. 2003. 2 крас.); *Не выключаю, што ў Мінску можа з'явіцца **буцік** джынсавага адзення нашай маркі* (Інтэрнэт); *Сам гуляў, сябры гулялі – добрых уражанняў маса!!! І графіка, і дынаміка... – усё на вышыні!!! Толькі абавязкова патрэбен **джойсцік*** (Інтэрнэт); *Некаторы час назад на адным з Інтэрнэт-сайтаў была выкладзеная даволі падрабязная інструкцыя аб тым, як пераўтварыць **джойсцік** Sony PlayStation DualShock, каб выкарыстаць яго з PSP* (Інтэрнэт).

Можна меркаваць, што дадзеныя лексемы захаваюцца ў формах *буцік* і *джойсцік*, паколькі прыклады з цвёрдым зычным усё ж адзінкавыя: *Акрамя таго, плануецца адкрыць два мультыбрэндавыя **бутыкі** Dress Code I Concept* (Звязда. 2007. 21 сак.); *Мы аснашчаем сваю тэхніку бартавымі камп'ютарамі са зручнымі маніторамі і эрганамічным пультам, шматфункцыянальным **джойстыкам*** (Інтэрнэт).

У апошнія часы з'явіліся таксама запазычанні, якія заканчваюцца на *-ці*, *-дзі* альбо першая частка якіх заканчваецца на *-ці*, *-дзі*: *На самай справе **графіці** як від мастацтва ніякага дачынення не мае да палітычных, у тым ліку неанацысцкіх, і проста хуліганскіх роспісаў* (Чырвоная змена. 2003. 6 чэрв.); *Пасля тэрарыстычнага акта на Алімпіядзе 1972 года супрацьізраільскіх спартсменаў некаторыя алімпійскія дэлегацыі прыязджаюць на галоўныя спаборніцтвы чатырохгоддзя толькі ў суправаджэнні **сек'юрыці*** (Звязда. 2004. 2 ліп.); *Святочная праграма з удзелам ві-джэяў Першага музычнага, **дзі-джэяў** мінскіх радыёстанцый, беларускіх музыкантаў* (Звязда. 2002. 27 снеж.).

Значна радзей сустракаецца іншае афармленне: *Уладальнікі і наведвальнікі самых-самых папулярных начных клубаў вырашылі ўсёй грамадой вызначыць лепшых **ды-джэяў** краіны* (Звязда. 2003. 24 мая).

На жаль, гэтыя словы не прадстаўлены ў новых слоўніках, аднак пытанне аб іх напісанні патрабуе хутчэйшага вырашэння.

Нельга сказаць, што ў слоўніках няма новых слоў, аднак напісанне некаторых з іх выклікае сумненне.

Так, у БАС занатаваны назоўнік *бодзібілдзінг*, што не адпавядае агульнай тэндэнцыі выкарыстання ў запазычаных словах цвёрдых *д*, *т* (параўн. там жа: *кастынг, маркетынг, мітынг*).

Матэрыялы СМІ пацвярджаюць наяўнасць цвёрдых зычных у акрэсленым становішчы: *Яна ў цябе* ***бодзібілдынгам*** *займаецца?* (Бярозка. 2007. № 5); *Таму гаварыць, што* ***бодзібілдынг*** *– танны від спорту, не варта* (Інтэрнэт). Тое ж справядліва і для іншых лексем, якія маюць падобныя апошнія часткі: *Нядаўна* ***холдынг*** *«Атлант-М» набыў блакіруючы пакет акцый Мінскага Транзітнага Банка, які маем намер зарыентаваць на развіццё малога і сярэдняга бізнэсу ў рэспубліцы* (Звязда. 2003. 7 чэрв.); *Пад экстрэмальным спортам разумеецца* ***рафтынг*** *ці іншыя водныя віды спорту* (Інтэрнэт).

У пералік запазычанняў, напісанне якіх вызначаецца па слоўніку, трапіў назоўнік *арцішок* (БАС), які раней у слоўніках падаваўся у форме *артышок* (БРС, РБС, СБМ, СІС). І гэта выклікае пытанне: чым абгрунтавана змена ў напісанні даўно вядомага слова?

Безумоўна, падобныя заўвагі патрабуюць выпраўлення. Надышоў час унесці карэктывы ў слоўнікі і ўпарадкаваць лінгвістычны матэрыял ці даць абгрунтаваныя адказы на спрэчныя пытанні. Такая работа патрабуе шырокага абмеркавання моваведамі ўсёй краіны.

*Н. М. Даўгулевіч (Мінск)*

### Спіс скарачэнняў

**БАС** – Беларускі арфаграфічны слоўнік / Уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя. – Мінск, 2009; **БРС** – Беларуска-рускі слоўнік: У 3 т. – Мінск, 2003. – Т. 1–3; **НОС** – Новый орфоэпический словарь русского языка / Под ред. Т. Ф. Ивановой. – М., 2005; **РБС** – Русско-белорусский словарь: В 3 т. – Мінск, 1993. – Т. 1–3; **СБМ** – Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / Пад рэд. М. В. Бірылы. – Мінск, 1987; **СІС** – Булыка А. М. Слоўнік іншамоўных слоў: У 2 т. – Мінск, 1999. – Т. 1–2; **ССБМ** – Завальнюк У. М., Прыгодзіч М. Р., Раманцэвіч В. К. Слоўнік сучаснай беларускай мовы. – Мінск, 2009; **ЛіМ** – «Літаратура і мастацтва».

### Літаратура


1. Кароткая граматыка беларускай мовы: У 2 ч. – Мінск, 2007. – Ч. 1. – С. 114.
2. Кароткая граматыка беларускай мовы.
3. Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі / Пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск, 1987. – С. 119.
4. Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. – Мінск, 1987. – С. 50.
5. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск, 2008. – С. 8.
6. Панов М. В. Русская фонетика. – М., 1967. – С. 278.
7. Шубов Я. И. Употребление букв э, е после гласных в заимствованных словах // О современной русской орфографии. – М., 1964. – С. 40–44.
8. Иванова В. Ф. Буквенная пара э/е и вопросы орфоэпии // Теория языка, методы его исследования и преподавания. – Л., 1981. – С. 122–125.
9. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – С. 17.

## *ХРОНІКА*

### АЛЯКСАНДР ІОСІФАВІЧ ПАДЛУЖНЫ
### (да 75-годдзя з дня нараджэння)



У жніўні гэтага года навуковая грамадскасць адзначае 75-годдзе з дня нараджэння вядомага беларускага мовазнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Іосіфавіча Падлужнага. На жаль, вучоны не дажыў да гэтага юбілею, але засталася багатая навуковая спадчына і памяць аб ім – светлая і ўдзячная, як і само жыццё выдатнага вучонага. З яго імем звязана распрацоўка праблем беларускай фанетыкі і фаналогіі, граматыкі, правапісу і культуры мовы ў краіне. Кнігі акадэміка служаць зыходнай базай пры распрацоўцы актуальных пытанняў, звязаных з арфаэпіяй, фарміраваннем, развіццём, унармаваннем і правапісам мовы беларускага народа.

А. І. Падлужны належаў да ліку тых сейбітаў родных слоў і талентаў, незабыўных яркіх асоб, чыё імя з глыбокай павагай праносіцца праз усё жыццё. Яго плённая праца на ніве беларускага мовазнаўства, багатая і шматгранная спадчына, неацэнны ўклад у справу выхавання паслядоўнікаў высока цэняцца сучаснымі лінгвістамі. Работы вучонага ўспрымаюцца як патрабаванне ўдумлівых адносін да кожнага слова роднай беларускай мовы, яе гісторыі, культуры, моўных норм, узорнага гучання.

Тэма артыкула прадыктавана не толькі данінай глыбокай павагі да светлай памяці вучонага падчас юбілейных святкаванняў, але і сугучнасцю вырашаных ім праблем з актуальнымі на сённяшні дзень пытаннямі моўнага жыцця.

Нарадзіўся Аляксандр Падлужны 16 жніўня 1935 г. у вёсцы Залессе Мсціслаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Сваё прызванне вызначыў у раннім дзяцінстве, паступіўшы ў Мсціслаўскае педагагічнае вучылішча. Затым

паспяхова закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1959). Некаторы час працаваў настаўнікам беларускай мовы ў Расненскай сярэдняй школе Горацкага раёна. У 1962–1964 гг. вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа. Далейшая працоўная дзейнасць А. І. Падлужнага была непарыўна звязана з інстытутам, роднай беларускай мовай, беларусістыкай, мовазнаўствам, Акадэміяй навук. Пачаўшы навуковы шлях з пасады малодшага навуковага супрацоўніка, ён вырас да акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў, якое ўзначальваў пяць гадоў (1997–2002). Дваццаць гадоў А. І. Падлужны кіраваў Інстытутам мовазнаўства – спачатку быў намеснікам дырэктара па навуковай рабоце (1983–1989), а потым дырэктарам (1989–2003). На любой пасадзе ўсе сілы, веды і здольнасці ўмеў скіраваць на прагрэсіўны рух навукі. Сярод кіраўнікоў заўсёды вылучаўся высокай прынцыповасцю, дысцыплінаванасцю і адказнасцю, чаго патрабаваў і ад падначаленых. Удумлівае вызначэнне прыярытэтаў лінгвістычнай навукі пацверджана выданнем буйных, грунтоўных прац пад грыфам Інстытута мовазнаўства. Многа ўвагі аддаваў падрыхтоўцы менавіта такіх выданняў – этымалагічнага, гістарычнага, нарматыўнага, дыялектных слоўнікаў, граматык і атласаў. Спалучэнне таленту арганізатара навукі і вучонага-даследчыка – з'ява даволі рэдкая. Творчая біяграфія А. І. Падлужнага – адзін з прыкладаў такога шчаслівага спалучэння.

З першых дзён працы ў інстытуце яшчэ малады даследчык звярнуўся да найбольш актуальных і малараспрацаваных у тэарэтычным і практычным плане праблем беларускага мовазнаўства. З паспяховай абароны А. І. Падлужным кандыдацкай дысертацыі «Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы» (1967) у беларусістыцы пачаўся якасна новы этап вывучэння гукавога ладу мовы. Асабістая заслуга вучонага – разгортванне і развіццё эксперыментальнага даследавання гукавога ладу беларускай мовы ў краіне. У лабараторыі эксперыментальнай фанетыкі (1969) пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле была выканана вялікая праца па эксперыментальным даследаванні артыкуляцыі беларускіх гукаў, што дазволіла апісаць асноўныя характарыстыкі артыкуляцыйнай базы беларускай мовы, стварыць навукова абгрунтаваную артыкуляцыйна-фізіялагічную класіфікацыю гукаў беларускай мовы, параўнаць іх з тыпалагічна падобнымі гукамі суседніх славянскіх моў. Вынікі даследавання знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх працах вучонага, у тым ліку ў грунтоўных манаграфіях. Значным крокам на шляху стварэння навуковай апісальнай фанетыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы стала кніга А. І. Падлужнага «Гукі беларускай мовы» (1973). Характарыстыка гукаў беларускай мовы з пункту погляду акустыкі моўнага сігналу і яго ўспрымання пададзена ў манаграфіі «Нарысы акустычнай фанетыкі беларускай мовы» (1977). Па гэтай праблеме вучоны абараніў доктарскую дысертацыю «Фанетычная сістэма беларускай мовы (эксперыментальна-фанетычнае даследаванне гукавога складу)» (1981). Створаная ім арыгінальная тэорыя працэсаў успрымання мовы даз-

валяе і зараз вызначаць рэальныя шляхі выкарыстання фанетычных ведаў у дыягностыцы моўнай функцыі слыху чалавека, у аўтаматычным распазнаванні і сінтэзе маўлення.

Пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле А. І. Падлужнага далейшая распрацоўка пытанняў беларускай фаналогіі і фанетыкі сучаснай літаратурнай мовы была ажыццёўлена ў манаграфіях «Фанетыка слова ў беларускай мове» (1983), «Фанетыка беларускай літаратурнай мовы» (1989). Праведзеныя ім даследаванні фаналагічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы з'явіліся асновай распрацоўкі пытанняў правапісу і арфаэпіі, што знайшлі адлюстраванне ў раздзелах «Фанетыка» і «Арфаэпія» акадэмічнай «Беларускай граматыкі» (1985), а таксама ў нарматыўным «Слоўніку беларускай мовы: Арфаэпія. Арфаграфія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987). Ён з'яўляўся членам рэдкалегіі і адным з аўтараў энцыклапедыі «Беларуская мова» (1994).

Навуковыя інтарэсы Аляксандра Іосіфавіча няўхільна пашыраліся. Істотнае месца ў навуковай дзейнасці вучонага займалі праблемы сучаснай беларускай мовы, нармалізацыі літаратурнага маўлення, сацыялінгвістыкі, моўнай палітыкі і ролі мовы ў суверэннай Беларусі, удасканалення правапісу. Пад кіраўніцтвам акадэміка А. І. Падлужнага была распачата падрыхтоўка новай рэдакцыі «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», у якой многія правілы пазбаўлены выключэнняў, атрымалі сучасную трактоўку і значна спрошчаны. У кнізе «Мова і грамадства» (1997) даследчык акцэнтаваў увагу на стане, працэсе развіцця, статусе беларускай мовы ў грамадстве, а таксама на пэўных складанасцях, існуючых у моўнай сферы.

Багатая творчая спадчына вучонага з'яўляецца яркай старонкай у гісторыі беларускага мовазнаўства. Асноўныя працы А. І. Падлужнага маюць прыкладны характар, адрасаваны тым, хто вывучае беларускую мову. Ён – адзін з аўтараў кнігі «Белорусский язык для небелорусов» (1973, 1978). Трэці раз дапоўненая і перапрацаваная кніга выйшла пад назвай «Белорусский язык для говорящих по-русски» (1990). А. І. Падлужны – навуковы рэдактар і адзін з аўтараў кнігі «Беларуская мова: Цяжкія выпадкі фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі» (1987), зборніка «Культура беларускай мовы» (1991), хрэстаматыі «Вусная беларуская мова» (1990). У суаўтарстве падрыхтаваў навучальныя дапаможнікі «Фанетыка беларускай мовы» (1984), «Практыкум па фанетыцы беларускай мовы» (1991), а таксама «Учебник белорусского языка для самообразования» (1994).

Набытымі ведамі і багатым вопытам вядомы вучоны шчодра дзяліўся са сваімі вучнямі, з якіх дванаццаць пад яго кіраўніцтвам атрымалі дыплом кандыдата філалагічных навук і адзін – доктара навук. Клопатамі аб росце ў краіне высокакваліфікаваных кадраў была прасякнута дзейнасць акадэміка А. І. Падлужнага на пасадзе старшыні савета па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, які ён узначальваў з 1989 па 2005 г.

Творчая дзейнасць даследчыка атрымала высокую ацэнку, яму прысвоена вучонае званне прафесара (1989), у гэтым жа годзе быў абраны чле-

нам-карэспандэнтам, акадэмікам Акадэміі навук Беларусі (1994). Як адзін з актыўных арганізатараў мовазнаўчай навукі ў Беларусі А. І. Падлужны ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1983), ордэнам «Знак Пашаны» (1986), стаў заслужаным дзеячам навукі Рэспублікі Беларусь (1999).

А. І. Падлужны – буйны спецыяліст у галіне сучаснай беларускай мовы, аўтар больш чым 150 навуковых прац, у тым ліку 16 манаграфій. Яго навуковыя даследаванні па беларускай фанетыцы і фаналогіі добра вядомы не толькі вучоным Беларусі, але і лінгвістам замежжа. Нязменна выклікалі цікавасць славістаў яго даклады па фанетыцы і фаналогіі на пасяджэннях Міжнароднай камісіі Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа пры Міжнародным камітэце славістаў. Але ў першую чаргу вучонага хвалявалі праблемы беларускай літаратурнай мовы ў яе пісьмовай і вуснай форме ў галіне вымаўлення, правапісу, словазмянення, словаўтварэння і словаўжывання. На рубяжы стагоддзяў, калі моўная практыка наглядна выяўляла надзвычайную шматварыянтнасць і складанасць пытанняў, звязаных з нормамі літаратурнай мовы, акадэмікам А. І. Падлужным выношвалася ідэя навуковага выдання (граматыкі і слоўнікаў у якасці дадаткаў), якімі кіраваліся б стваральнікі вучэбнай і даведачнай літаратуры, для забеспячэння адзінападобнага выкарыстання моўных сродкаў у вучэбным працэсе, друку, дзелавой перапісцы.

Напярэдадні юбілею акадэміка А. І. Падлужнага калектыву паслядоўнікаў і вучняў удалося рэалізаваць навуковую задуму выдатнага вучонага. Яго светлай памяці прысвечана арыгінальнае выданне, якое складаецца з пяці кніг, дзе праблемы пісьмовай нормы зафіксаваны двума ўзаемадапаўняльнымі спосабамі арфаграфічнага апісання – пры дапамозе граматыкі: «Кароткая граматыка беларускай мовы. У 2 ч. Ч. 1. Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія; Ч. 2. Сінтаксіс» (2007; 2009) і слоўнікаў: «Граматычны слоўнік дзеяслова» (2007), «Граматычны слоўнік назоўніка» (2008), «Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя» (2009). У грунтоўным даведачным комплексе, аналагаў якому пакуль не існуе ў славянскім мовазнаўстве, праблема лінгвістычнай кадыфікацыі арфаграфіі цесна пераплятаецца з лексікаграфічнай фіксацыяй слоў.

Слаўны жыццёвы і творчы шлях прайшоў Аляксандр Іосіфавіч Падлужны. Многа ім здзейснена ў імя росквіту роднай мовы, навукі і культуры беларускага народа. За сваё жыццё ён нямала павандраваў па свеце, пабываў у многіх замежных краінах, але мілей за ўсё яму была родная Беларусь, яе прырода, людзі і, вядома, родная беларуская мова, якую ён узносіў і ў імя якой тварыў. Важкім вынікам шматгадовай плённай дзейнасці моваведа засталіся навуковыя працы, а ўсе, хто ведаў Аляксандра Іосіфавіча, працаваў разам з ім, да сённяшняга дня захавалі самую светлую памяць у сваіх сэрцах аб выдатным лінгвісце, таленавітым кіраўніку, цудоўным, сумленным чалавеку.

*В. П. Русак (Мінск)*

## *АЛЯКСАНДР МІКАЛАЕВІЧ БУЛЫКА*

**(да 75-годдзя з дня нараджэння)**



18 сакавіка 2010 г. знакамітаму беларускаму мовазнаўцу Аляксандру Мікалаевічу Булыку, доктару філалагічных навук, члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, выдатніку адукацыі, споўнілася 75 гадоў.

Працоўны шлях Аляксандра Мікалаевіча звязаны з адной установай – Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, куды ён уладкаваўся пасля заканчэння аспірантуры. Тут ён прайшоў усе ступені кар'ернай лесвіцы (малодшы навуковы супрацоўнік (з 1965 г.), старшы навуковы супрацоўнік (з 1969 г.), загадчык аддзела руска-беларускіх моўных сувязей (з 1984 г.), загадчык (з 1992 г.) і галоўны навуковы супрацоўнік (з 2008 г.) аддзела гісторыі беларускай мовы), стаў доктарам філалагічных навук (1981), прафесарам (1992), членам-карэспандэнтам НАН Беларусі (1994).

Вядучае месца ў даследчыцкай дзейнасці А. М. Булыкі займаюць пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы. У працах вучонага адлюстравана:

фарміраванне лексічнага складу старабеларускай мовы і роля запазычанняў у гэтым працэсе (манаграфіі «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970, у суаўтарстве), «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (1972), «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV–XVIII стст.» (1980), «З моў блізкіх і далёкіх» (1986); артыкулы «Да пытання аб беларусізмах у кніжнаславянскай мове» (1969), «З гісторыі назоўніка *жывот* у беларускай мове» (1968), «Лексіка дзелавой пісьменнасці Палесся XV–XVII стст.» (2004), «Лексічныя паланізмы ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ранняга перыяду» (2006), «Лексіка літоўскага паходжання як крыніца «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (2007) і інш.). Так, у «Гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы», гаворачы пра старажытнарускую лек-

сіку як аснову старабеларускай лексічнай сістэмы, вучоны адзначыў, што «значная колькасць старажытнарускіх слоў захавала свае першапачатковыя значэнні. Склаўшы на першых парах фарміравання беларускай народнасці і беларускай мовы асноўны багаж яе слоўніка, старажытнарускі лексічны пласт не губляў сваёй важкасці і на працягу наступных стагоддзяў». Функцыянаванне назваў грамадска-палітычнага зместу, якія знайшлі найбольш поўнае адлюстраванне ў дзелавой пісьменнасці, аўтар звязвае з экстралінгвістычнымі фактарамі (раздзел «Грамадска-палітычная лексіка»).

У манаграфіі «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV–XVIII стст.» прыведзены найбольш поўны корпус старабеларускіх слоў іншамоўнага паходжання (3635 адзінак), зроблена іх класіфікацыя (грамадска-палітычная, юрыдычная, канцылярская, ваенная, сацыяльна-эканамічная, прафесійна-вытворчая, бытавая, рэлігійная лексіка, лексіка, звязаная з лічэннем і вымярэннем, лексіка, якая характарызуе чалавека ў фізічных, псіхічных і інтэлектуальных адносінах; якая характарызуе навуку, культуру і мастацтва, поліфункцыянальная і агульная лексіка), апісана іх семантыка, выяўлены прычыны і шляхі пранікнення ў старабеларускую мову, час фіксацыі ў тэкстах, разгледжана фанетычнае, марфалагічнае, семантычнае асваенне старабеларускай мовай і словаўтваральная актыўнасць. У працы запазычванне разгледжана як станоўчы, прагрэсіўны працэс, «у якім актыўным бокам выступае не мова-крыніца, а мова-рэцэптар, што адлюстроўвае новую гістарычную сітуацыю і сувязь данай мовы з суседнімі мовамі». Сярод запазычанняў дамінуюць паланізмы, лацінізмы, германізмы, словы цюркскага, грэчаскага, раманскага, літоўскага, венгерскага і чэшскага паходжання прадстаўлены ў меншай ступені.

Цяпер Аляксандр Мікалаевіч працуе над раздзелам калектыўнай манаграфіі «Лексіка старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы XIV – сярэдзіны XVI стст.»;

станаўленне старабеларускай графіка-арфаграфічнай сістэмы. Кніга «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» (1970), у якасці фактычнага матэрыялу для якой паслужылі 180 рукапісных і друкаваных тэкстаў, дазволіла атрымаць уяўленне аб тых фанетычных працэсах, якія мелі месца ў жывой мове старажытнага перыяду, аб агульных заканамернасцях ужывання галосных і зычных літар, аб функцыях вынасных графем і надрадковых знакаў, аб суадносінах напісанняў, заснаваных на этымалагічна-марфалагічным і фанетычным прынцыпах правапісу. Вынікі даследавання актуальныя не толькі для мовазнаўства, але і для палеаграфіі і эдыцыі;

развіццё марфалагічнага ладу беларускай мовы. У манаграфіях «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (1979, у суаўтарстве), «Мова беларускай пісьменнасці XIV–XVIII стст.» (1988, у суаўтарстве) паказаны змены ў сістэме скланення назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў, прааналізаваны традыцыйныя і архаічныя рысы, адметнасці, абумоўленыя ўплывам жывой

гаворкі, а таксама царкоўнаславянскай і польскай моў, звернута ўвага на важнейшыя адрозненні твораў дзелавога, свецкага і канфесійнага зместу ў галіне формазмянення, паказаны лёс асобных форм у гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Агляд развіцця беларускай мовы канца XV – пачатку XVI ст. прапанаваны ў кнізе «Скарына і яго эпоха» (1990, у суаўтарстве). Аналіз тэкстаў розных жанраў (Летапіс Аўраамкі, Віленскі і Увараўскі спісы летапісаў, «Аповесць аб валхвах», «Пакуты Хрыста», Статут ВКЛ 1529, пераклады Францыска Скарыны, Полацкія граматы, Кніга караля Казіміра 1482–1491 гг. і інш.) пацвердзіў падабенства помнікаў пісьменнасці паводле многіх графіка-арфаграфічных, граматычных і лексічных прымет, «што сведчыць аб устойлівасці пісьмовых традыцый і аб агульнасці тэндэнцый у развіцці старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы»;

адметнасці мовы выданняў Францыска Скарыны (манаграфіі «Мова выданняў Францыска Скарыны» (1990, у суаўтарстве), артыкулы «Лексіка выданняў Францыска Скарыны як крыніца «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (2008), «Спрадвечна беларуская лексіка ў выданнях Ф. Скарыны» (2009) і інш.). Падрабязнае вывучэнне арфаграфіі і лексікі Скарынавых перакладаў у манаграфіі дазволіла вучонаму прыйсці да наступных высноў: 1) правапісныя прыёмы пачынальніка беларускага кнігадрукавання «не засталіся ізаляваным фактам у гісторыі беларускай пісьменнасці. Яны служылі арыенцірам для многіх аўтараў і перакладчыкаў наступных дзесяцігоддзяў, асабліва калі ім даводзілася працаваць у галіне рэлігійных жанраў»; 2) тэматычная разнастайнасць 10 516 розных па паходжанні апелятываў, у тым ліку 5058 дзеясловаў, 3329 назоўнікаў, 1169 прыметнікаў, 670 прыслоўяў, 290 лічэбнікаў, займеннікаў і службовых слоў, каля 3000 уласных назваў сведчыць пра перакладчыцкі талент і шырокі філалагічны дыяпазон Скарыны і дазваляе лічыць плённай яго спробу «дэмакратызаваць лексіку царкоўнаславянскіх твораў».

Аляксандр Мікалаевіч – рэдактар і суаўтар фундаментальнага «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». Ён адрэдагаваў 36 выпускаў слоўніка, з якіх 30 апублікаваны, распрацаваў каля 100 аркушаў слоўнікавых артыкулаў, удзельнічаў у стварэнні картатэкі слоўніка, для якой выпісаў 51 000 картак-цытат з такіх помнікаў, як «Троя», Статуты ВКЛ 1529, 1566, Зборнікаў павучэнняў 255, 261 і інш. З 2006 г. сумесна з супрацоўнікамі аддзела гісторыі беларускай мовы інстытута ён рыхтуе першы ў айчынным дыяхранічным мовазнаўстве «Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі» – слоўнік назоўнікаў, што ўжываліся ў XIV–XVIII стст. на старонках твораў рознай стылёва-жанравай прыналежнасці. Названыя лексікаграфічныя даведнікі арыентаваны на шырокае кола даследчыкаў мінуўшчыны, прызначаны палегчыць іх працу са старажытнымі помнікамі як першакрыніцамі пазнання шматвекавой гісторыі беларускага народа, садзейнічаюць нашаму далучэнню да той гістарычнай рэальнасці, нашчадкамі якой мы з’яўляемся.

А. М. Булыка даследуе таксама і аспекты функцыянавання сучаснай беларускай літаратурнай мовы («Сопоставительное описание русского и белорусского языков: Морфология» (1990, у суаўтарстве); «Тэорыя і практыка беларускай тэрміналогіі» (1999, у суаўтараастве), «Красамоўства ў Беларусі» (2002, у суаўтарстве), «Кароткая граматыка беларускай мовы» (2007, у суаўтарстве) і інш. Як старшыня Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі пры НАН Беларусі Аляксандр Мікалаевіч кіруе работай па распрацоўцы, сістэматызацыі і ўкараненні ў друк, у падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, у даведачную літаратуру навуковай і навукова-тэхічнай тэрміналогіі на беларускай і рускай мовах.

Аляксандр Мікалаевіч сёння па праве лічыцца самым вядомым і аўтарытэтным лексікографам Беларусі. Ён аўтар першых у лексікаграфіі Беларусі слоўнікаў іншамоўных слоў у сучаснай беларускай мове. Так, «Слоўнік іншамоўных слоў» (1993) уключае ў свой склад прыблізна 5600 запазычанняў і, па словах аўтара, арыентаваны на выкарыстанне ў школьнай практыцы. У «Слоўніку іншамоўных слоў» (1999, т. 1–2) прадстаўлена ўжо каля 25 000 агульнаўжывальных лексем і найбольш пашыраных тэрмінаў з розных галін ведаў, запазычаных з іншых моў ці ўтвораных з іншамоўных лексічных элементаў. Кожнае слова мае тлумачэнне і суправаджаецца даведкай аб сваім паходжанні: прыводзіцца іншамоўная першакрыніца, нярэдка – пры наяўнасці дастатковых аргументаў – і звесткі аб мовах-пасрэдніцах.

А. М. Булыкам падрыхтавана больш за 20 слоўнікаў па сучасных беларускай і рускай мовах: *арфаграфічныя* – «Арфаграфічны слоўнік» (2000), «Современный орфографический словарь русского языка» (2004), «Орфографический словарь с правилами русского языка» (2008, у суаўтарстве) і інш., *тлумачальныя* – «Словарь иноязычных слов. Актуальная лексика» (2006), «Толковый словарь русского языка» (2007), «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (2009) і інш.; *перакладныя* – «Беларуска-рускі слоўнік» (2002), «Русско-белорусский словарь» (2004, у суаўтарстве), «Белорусско-русский, русско-белорусский словарь» (2006, у суаўтарстве), «Современный русско-белорусский политехнический словарь» (2007) і інш.; *фразеалагічны* – «Фразеологический словарь русского языка» (2007). Пералічаныя выданні сталі надзейнымі даведнікамі пры вывучэнні беларускай і рускай моў, пры перакладзе тэкстаў з беларускай мовы на рускую і наадварот, з'яўляюцца агульнадаступнымі дапаможнікамі па ўдасканаленні і павышэнні моўнай і маўленчай культуры іх карыстальнікаў, што вельмі важна ва ўмовах беларуска-рускага білінгвізму ў нашай краіне.

Вучоны ўваходзіў у склад аўтарскага калектыву энцыклапедый «Францыск Скарына і яго час», «Беларуская мова» (за працу над гэтай кнігай атрымаў у 1998 г. Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь), «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», «Беларуская энцыклапедыя». Пад яго рэдакцыяй апублікавана больш за 30 манаграфій, калектыўных прац, зборнікаў.

Навуковую дзейнасць А. М. Булыка заўсёды спалучаў і спалучае з грамадскай і прафсаюзнай (вучоны савет інстытута, Савет па абароне дысертацый Д 01.43.01 пры інстытуце (намеснік старшыні), навукова-метадычны семінар «Тэарэтычныя праблемы беларускага мовазнаўства», Міжнародны камітэт славістаў, рэдкалегіі часопісаў «Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук» і «Беларуская лінгвістыка», навуковы савет «Мова і грамадства», экспертны савет ВАК і Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў, прафкам інстытута (старшыня), аб'яднаны камітэт прафсаюза Акадэміі навук Беларусі (намеснік старшыні), Мінскі абласны камітэт прафсаюза работнікаў народнай адукацыі і навукі і інш.).

У 2009 г. Аляксандр Мікалаевіч атрымаў званне выдатнік адукацыі. Яго педагагічная работа пачалася пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ ў Асоўскай сярэдняй школе Воранаўскага раёна і Воранаўскай школе-інтэрнаце (1959–1962), дзе ён выкладаў рускую і беларускую мовы і літаратуры ў 5–10 класах. На працягу дзесяцігоддзяў у вядучых вышэйшых навучальных установах краіны – Беларускім дзяржаўным універсітэце і Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка – ён чытае лекцыі, узначальвае дзяржаўныя экзаменацыйныя камісіі, з'яўляеццца кіраўніком дыпломных і курсавых праектаў. Прафесар Булыка падрыхтаваў больш за 20 кандыдатаў і дактароў філалагічных навук па спецыяльнасцях «беларуская мова» і «руская мова», адны з якіх асвойваюць новыя далягляды дыяхранічнага мовазнаўства, другія займаюцца выкладаннем філалагічных дысцыплін ва ўніверсітэтах краіны.

1 снежня гэтага года Аляксандр Мікалаевіч адзначыць яшчэ і прафесійны юбілей – 45 гадоў працы ў інстытуце. Працы плённай, цікавай, узорнай, вынікі якой садзейнічаюць прэстыжу і развіццю айчыннай навукі, адукацыі і культуры. Манаграфіі, артыкулы, слоўнікі, этымалагічныя нататкі, энцыклапедычныя матэрыялы вучонага сталі важкім набыткам беларусістыкі. Адны з іх запатрабаваны ў навуковых доследах і вучэбным працэсе, другія адрасаваны знаўцам і аматарам мінулага, іншыя спрыяюць нашаму разуменню і шанаванню нацыянальнай спадчыны. І ўсе яны сведчаць пра багацце і веліч беларускай мовы.

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч! Шчыра жадаем Вам моцнага здароўя, дабрабыту, радасці! Няхай ва ўсе наступныя гады, як і ў папярэднія, Ваша праца ў інстытуце будзе паспяховай і выніковай!

*Н. В. Паляшчук (Мінск)*

## ВАЛЯНЦІНА ПАЎЛАЎНА РУСАК
### (да 60-годдзя з дня нараджэння)



У лютым 2010 г. супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі сардэчна віншавалі з юбілеем вядомага беларускага моваведа, загадчыка аддзела сучаснай беларускай мовы, доктара філалагічных навук Русак Валянціну Паўлаўну.

В. П. Русак нарадзілася 13 лютага 1950 г. ва Украіне ў горадзе Горлаўка Нікітаўскага раёна Данецкай вобласці ў сям'і служачага. У 1964 г. сям'я пераехала ў Беларусь.

У верасні 1968 г., пасля заканчэння сярэдняй школы № 4 г. Мінска, Валянціна Паўлаўна паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які паспяхова скончыла ў 1974 г. па спецыяльнасці «беларуская і руская мова і літаратура». Будучы студэнткай старэйшых курсаў БДУ, яна працавала на пасадзе лабаранткі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа. Пасля заканчэння ўніверсітэта працягвала працаваць у сектары сучаснай беларускай мовы і культуры мовы, а ў 1984 г. была залічана ў аспірантуру Акадэміі навук Беларусі.

З 1977 па 2004 г. прайшла шлях ад малодшага да галоўнага навуковага супрацоўніка інстытута. У 1990 г. пад кіраўніцтвам акадэміка А. І. Падлужнага абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Марфаналогія дзеяслова ў беларускай мове». З 1994 па 2004 г. займала пасаду вучонага сакратара інстытута. У 2004 г. абараніла доктарскую дысертацыю «Марфаналогія ў словазмяненні і словаўтварэнні сучаснай беларускай мовы». З 2006 г. з'яўляецца загадчыкам аддзела сучаснай беларускай мовы.

Сфера навуковых інтарэсаў В. П. Русак вельмі рознабаковая. Гэта фанетыка, фаналогія, марфалогія, марфаналогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы, гісторыя і дыялекталогія беларускай мовы. Асноўныя вынікі даследаванняў прадстаўлены ў шматлікіх навуковых артыкулах. В. П. Русак актыўна ўдзельнічае ў рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцыях. Яе даклады па фанетыцы і марфаналогіі беларускай мовы нязменна выклікаюць цікавасць у спецыялістаў.

В. П. Русак з’яўляецца аўтарам манаграфіі «Марфаналогія сучаснай беларускай мовы», у якой на матэрыяле даследавання знамянальных часцін мовы праведзена навуковае апісанне марфаналагічнай сістэмы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Падрабязна прааналізаваны марфаналагічныя сродкі пры словазмяненні і словаўтварэнні часцін мовы, сфармуляваны марфаналагічныя законы, трактоўка якіх носіць абагульнены характар, марфаналагічныя сродкі прадстаўлены як моўная сістэма. Дадзеная манаграфія з’яўляецца найбольш поўным сістэматычным даследаваннем марфаналогіі сучаснай беларускай мовы.

Асабліва значнае месца ў навуковай дзейнасці В. П. Русак займае праца над міжнародным лінгвагеаграфічным праектам «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» (АЛА). З 2006 г. яна з’яўляецца старшынёй Беларускай нацыянальнай камісіі АЛА пры Міжнародным камітэце славістаў. В. П. Русак прымала ўдзел у рабочых нарадах Міжнароднай камісіі АЛА ў Харватыі, Сербіі, Славакіі, Польшчы, Македоніі, Германіі. Ёй праводзіцца вялікая работа па падрыхтоўцы індэксаў, легенд, напісанні каментарыяў, стварэнні карт для выпускаў АЛА. Пры яе непасрэдным удзеле выйшлі тры тамы фанетыка-граматычнай серыі і адзін том лексіка-словаўтваральнай серыі АЛА. На адным з апошніх пасяджэнняў Міжнароднай камісіі АЛА была прынята пастанова аб пачатку збору матэрыялаў на рэфлексы **a* ў славянскіх мовах з мэтай выдання адпаведнага выпуску атласа, падрыхтоўкай якога кіруе В. П. Русак. У 2009 г. яна з’яўлялася адным з арганізатараў чарговай нарады Міжнароднай камісіі АЛА, якая адбылася ў Мінску. У межах працы над АЛА пад яе кіраўніцтвам была выдадзена калектыўная манаграфія «Матэрыялы Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа. Раслінны свет». Гэта даследаванне праведзена на матэрыялах III тома лексіка-словаўтваральнай серыі «Раслінны свет» і прысвечана арэальнаму распаўсюджанню лексікі расліннага свету ў краінах Славіі.

В. П. Русак праводзіць вялікую рэдактарскую работу. Яна ўваходзіць у склад рэдкалегіі часопіса «Беларуская лінгвістыка», з’яўлялася навуковым рэдактарам бібліяграфічнага паказальніка «Беларускае мовазнаўства 1986–1991», а таксама такіх буйных лексікаграфічных прац, як «Граматычны слоўнік дзеяслова», «Граматычны слоўнік назоўніка» (разам з А. Я. Міхневічам), «Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя». Гэтыя слоўнікі з’яўляюцца найбольш поўнымі граматычна-арфаграфічнымі даведнікамі, змяшчаюць граматычную характарыстыку і парадыгму словазмянення часцін мовы. Слоўнікі-даведнікі ўваходзяць у склад комплексу прац, прысвечаных актуальным праблемам сучаснай пісьмовай мовы, якія разглядаюцца ў двух напрамках – тэарэтычным і прыкладным. Тэарэтычны аспект прадстаўлены «Кароткай граматыкай беларускай мовы» (у 2 ч.), у стварэнні якой прымала ўдзел і В. П. Русак.

Акрамя даследчыцкай і навуковай работы В. П. Русак шмат часу аддае выкладчыцка-педагагічнай дзейнасці. Доўгія гады яна супрацоўнічае з ка-

федрай беларускага мовазнаўства БДПУ, чытае курс «Сучасная беларуская мова», вядзе семінар «Актуальныя праблемы мовазнаўства» і спецкурс «Марфаналогія беларускай мовы», а таксама з'яўляецца старшынёй Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па беларускай мове і методыцы выкладання мовы, гісторыі беларускай літаратуры і методыцы выкладання літаратуры ў БДУ (спецыяльнасці «Беларуская філалогія» і «Славянская філалогія»). У 2006 г. ёй было прысуджана вучонае званне дацэнта.

В. П. Русак кіруе падрыхтоўкай дысертацыйных работ па марфалогіі, фаналогіі, марфаналогіі аспірантаў і маладых вучоных Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

Валянціна Паўлаўна з'яўляецца членам вучонага савета і савета па абароне дысертацый пры Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, а таксама членам савета па абароне дысертацый пры БДУ.

Як вядомы спецыяліст у галіне сучаснай беларускай мовы, аўтар шматлікіх фундаментальных прац, ініцыятыўны арганізатар навукова-даследчай работы, клапатлівы настаўнік мовазнаўчых кадраў, у 2009 г. В. П. Русак была ўзнагароджана Ганаровай граматай Прэзідыума НАН Беларусі.

Свой юбілей В. П. Русак сустрэла новымі задумамі і планамі, здзяйсненне якіх будзе садзейнічаць далейшаму развіццю беларускага мовазнаўства. Мы, яе калегі, сябры і вучні, жадаем Валянціне Паўлаўне добрага здароўя, творчых поспехаў і вялікага плёну ў працы.

*В. Л. Татур, А. Р. Чарняўскі (Мінск)*

## *РЭЦЭНЗІІ*

### PRACE SLAWISTYCZNE «SLAVICA». SŁOWOTWÓRSTWO I TEKST / RED. ZOFIA RUDNIK-KARWATOWA I VIARA MALDJIEVA. – WARSZAWA: SLAWISTYCZNY OŚRODEK WYDAWNICZY, 2007. – T. 124. – 271 s.; PRACE SLAWISTYCZNE «SLAVICA». WSPÓŁCZESNA KOMUNIKACJA JĘZYKOWA. NAJNOWSZE ZMIANY W LEKSYCE I SŁOWOTWÓRSTWIE JĘZYKÓW SŁOWIAŃSKICH / RED. RUDNIK-KARWATOWA. – WARSZAWA: SLAWISTYCZNY OŚRODEK WYDAWNICZY, 2008. – T. 125. – 282 s.

Значныя падзеі, якія адбыліся ў міжнародным супольніцтве на скрыжаванні XX–XXI стст. і закранулі як сацыяльна-эканамічныя, так і матэрыяльна-тэхналагічныя бакі нашага жыцця, аказалі сур’ёзны ўплыў на развіццё моў свету, у тым ліку і славянскіх. Яскравыя змены ў іх лексічных падсістэмах не маглі не зацікавіць навукоўцаў, аб чым сведчыць цэлы шэраг дыскусій, якія мелі месца на пасяджэннях Міжнароднага з’езда славістаў у Охрыдзе (Македонія, 2009) і шматлікіх перадз’ездавых канферэнцыях, а таксама мноства цікавых публікацый, прысвечаных дадзенай праблематыцы. З усяго апублікаванага хацелася б звярнуць увагу чытачоў на апошнія два тамы Прац славістычных «Slavica», падрыхтаваныя польскімі даследчыкамі, менавіта на том 124 «Словаўтварэнне і тэкст» і том 125 «Навейшыя змены ў лексіцы і словаўтварэнні славянскіх моў».

Галоўнымі лініямі назіранняў за словаўтварэннем у тэксце сталі выяўленне матывацыі і стратэгій стварэння і функцыянавання дэрыватаў у тэксце, вызначэнне ролі дэрыватаў у інтэрпрэтацыі зместу тэксту і ролі кантэксту для тлумачэння нерэгулярных ідыяматычных вытворных адзінак. Зыходным становіцца падыход да дэрыватаў не толькі як адзінак намінатыўных, але і камунікатыўных. Так, у артыкуле Ю. Балтавай, якім адкрываецца зборнік, разглядаюцца сінтактыка-камунікатыўныя аспекты семантыкі Nomina Agentis deverbativa і desubstantiva ў польскай і балгарскай мовах. Аўтар пераканаўча даказвае, што Nomina Agentis у функцыі прэдыкатаў элементарных сказаў – нішто іншае як транспазіцыйныя адзінкі. Выкананне Nomina Agentis ролі аргументаў элементарных сказаў дыктуе значныя змены ў іх семантыцы і адкрывае шырокія магчымасці для новых прэдыкацый. Па сваіх тэмпаральных характарыстыках Nomina Agentis, якім уласцівы значэнні патэнцыяльнасці і хабітуальнасці, збліжаюцца з формамі цяперашняга часу і адначасова адрозніваюцца ад апошніх адсутнасцю значэння актуальнасці. Наколькі апора на прэдыкатна-аргументныя структу-

ры спрыяе поспеху ў пошуку глыбіннай семантыкі вытворных адзінак, дэманструюць таксама даследаванні В. Малджыевай і А. Ржэмікоўскай. На падставе канцэптуальных прэдыкатна-аргументных структур – семантычных асноў дэрыватаў, сказаў і тэксту В. Малджыева распрацоўвае агульную мадэль іх апісання, а А. Ржэмікоўская атрымлівае магчымасць зрабіць шэраг глыбокіх назіранняў над семантыкай субстантыўных спалучэнняў з вытворнымі прыметнікамі з прэфіксам *bez-* у польскай мове.

Яшчэ адным цікавым аб’ектам даследавання аўтараў разглядаемага тома становяцца неалагізмы. У шэрагу прысвечаных ім артыкулаў раскрываюцца розныя аспекты дадзенай катэгорыі слоў. Гэта змены, якія адбыліся ў 1990-я гады ў семантыцы Nomina essendi ў польскай мове і іх уплыў на прадуктыўнасць суфіксаў, асабліва суфікса *-ość* (С. Банба і М. Шчышэк), прагматычныя характарыстыкі неалагізмаў у сучаснай польскай мове, створаных з дапамогай экспрэсіўных суфіксаў (Ш. Капрон-Харзінская). Цікавыя назіранні над вытворнымі неалагізмамі з пункту гледжання эксплікацыі іх матываванасці змяшчае артыкул А. Каракоўцавай, якая падкрэслівае розную для розных груп камунікантаў накіраванасць моўцы на пераадольванне культурнага і моўнага адрознення ад слухача. Суфіксальны спосаб утварэння жаргонных назваў рубля ў сучаснай рускай мове, які часам можа суправаджацца метанімічнымі зменамі, разглядае ў сваім артыкуле В. Мяшкоўская. Зменам, якія адбываюцца ў канататыўных значэннях уласных імён – словаўтваральных баз апелятыўнай лексікі (рус. *ждановщина*, *сталинизм*, *чернобылец* і інш.), прысвечаны артыкул Э. Багдановіч. Аналізуючы польскія і рускія апелятыўныя дэрываты, яна прыйшла да высновы, што словаўтварэнне ад уласных імён не ёсць акт чыста фармальны. У семантыцы дэрыватаў ад уласных імён рэалізуюцца розныя канататыўныя значэнні ўласных імён, ад якіх яны ўтвораны, дзякуючы чаму аданімічныя дэрываты атрымліваюць новыя лексічныя значэнні. Аб уплыве арфаграфіі на прадуктыўнасць словаўтваральных тыпаў распавядае ў сваім артыкуле Э. Рагоўска-Цыбульска.

Адметная роля ў рэцэнзуемым зборніку належыць артыкулам, якія прысвечаны аналізу асаблівасцей перакладу з адной мовы на другую, або моўным кантактам. У іх высвятляюцца цяжкасці перакладу новых вытворных адзінак, тыпу састаўных *старушка-валютчица*, *здания-близнецы* ў рускай мове (артыкул Э. Конефал), ад’ектыўных балгарскіх неалагізмаў (артыкул Й. Прыгоцка-Хамрол) на польскую мову, апісваюцца новыя ўтварэнні, якіх патрабаваў пераклад кнігі «Псалтыр» на царкоўнаславянскую мову (артыкул А. Шульц), словаўтваральныя моўныя калькі ў рускіх гаворках старавераў (артыкул Д. Пасько), аналізуецца ўзаемны ўплыў англійскай і ірландскай моў у галіне стварэння суфіксальных дэмінутываў (артыкул П. Стальмашыка). Цікавыя назіранні аб ужыванні афіксальных дэрыватаў у аповесці К. Вольф «Leibhaftig» і яе перакладах на польскую і рускую мовы чытач знойдзе ў артыкуле І. Онхайзер, якая прыходзіць да высновы,

што функцыі словаўтварэння ў тэксце не абмяжоўваюцца паэтычнай функцыяй і функцыяй тэматычнай кагерэнтнасці. Шматлікія афіксальныя дэрываты, якія адзін за другім нанізвае К. Вольф, не толькі дэманструюць паталагічны стан гераіні, але з'яўляюцца яшчэ і тэрапеўтычным сродкам, з дапамогай якога гераіня змагаецца супраць бяспамяцтва, разгубленасці, несвядомасці. Адметна, што перакладчыкі знайшлі дакладныя сродкі іх перадачы.

Накіраванасць на раскрыццё функцыянальных асаблівасцей вытворных слоў, іх персуазіўнай ролі і на крэатыўныя працэсы, якія адлюстроўвае гульня слоў, – яшчэ адна агульная рыса, якая аб'ядноўвае даследаванні, змешчаныя ў гэтым томе. Так, семантыка-стылістычныя аспекты ўжывання дэрыватаў у паэтычнай мове, гульня вытворных слоў, асабліва тых, якія належаць да аднаго словаўтваральнага гнязда, знаходзяць адлюстраванне ў артыкуле К. Калас. Спроба дыяхроннага разгляду вытворных слоў прыводзіць аўтара да супрацьпастаўлення двух тыпаў паранамазійных дэрыватаў. У артыкуле І. Кавалеўскай-Дамброўскай высвятляецца персуазіўная роля шматлікіх новых дэрыватаў, якія ўжываюцца ў публіцыстычных тэкстах і якія з'яўляюцца вынікам моўнай гульні. Аб неаднназначнасці новых вытворных адзінак у публіцыстычных тэкстах, умовах іх стварэння і стратэгіях ужывання гаворыцца таксама і ў артыкуле А. Пстыгі. Функцыянаванне дыстрыбутыўных дэрыватаў у тэксце, перадаваемая імі прагматычная інфармацыя, гіпербалізацыя і адпаведныя аргументныя выразы, якія суправаджаюць дыстрыбутывы ў гэтых выпадках ужывання, падрабязна аналізуюцца ў артыкуле З. Руднік-Карватовай. І. Красоўска-Старак разглядае квазі-дэмінутывы ў польскай і нямецкай мовах і выказвае слушную, як нам падаецца, думку, што сістэматызацыя гэтай неаднароднай групы слоў з прагматычнага пункту погляду патрабуе ўліку камунікатыўнай сітуацыі, яе ўдзельнікаў, іх эмацыянальных адносін і тыпу дыскурсу. Праблеме персуазіўнай ролі вытворных адзінак прысвячае свой артыкул і Б. Кудра, якае падкрэслівае адзінства мэт словаўтварэння і персуазіі камунікацыі. Катэгорыі вытворных назоўнікаў у слоўнікавым інвентары польскіх манускрыптаў вызначае А. Левінска, дэманструючы найбольш тыповыя для таго часу працэсы словаўтварэння. Аб'ектам функцыянальнага даследавання становяцца не толькі вытворныя адзінкі польскай, рускай, балгарскай моў, але і тэндэнцыі развіцця чэшскай (артыкул Й. Метла), верхнялужыцкай (артыкул М. Мілеўска-Ставяны) моў. М. Жабоўская ў сваім артыкуле адзначае ўплыў прасадычных характарыстык на функцыі і значэнні адад'ектыўных дэрыватаў тыпу *właściwie*, *praktycznie*, *generalnie*.

Не менш цікавым і разнастайным знойдуць чытачы і том 125 Прац славістыстычных. У цэнтры ўвагі даследаванняў, прадстаўленых у гэтым томе, знаходзяцца найбольш значныя тэндэнцыі развіцця слоўнікаў і словаўтварэння славянскіх моў. На матэрыяле моўных з'яў, якія адбыліся ў славянскіх мовах у канцы XX – пачатку XXI ст., навукоўцы вызначаюць

галоўныя напрамкі развіцця мовы. Гэта азначаныя раней у калектыўнай працы Słowotwórstwo/Nominacja[1] супрацьлеглыя тэндэнцыі да інтэрнацыяналізацыі і нацыяналізацыі, інтэлектуалізацыі і дэмакратызацыі, якія падрабязна апісвае Ц. Аўрамава на матэрыяле балгарскай мовы на фоне структурна-сістэмных, тыпалагічных, прагматычных, стандартнамоўных тэндэнцый (гл. назіранні А. А. Лукашанца над аналагічнымі тэндэнцыямі ў беларускай, рускай і ўкраінскай мовах 2, 3). Гэта іранічныя ўжыванні слоў і сказаў у мове рускай сучаснай прэсы і масавай мастацкай літаратуры (артыкул В. П. Ермаковай), метафарычнае багацце мовы Інтэрнэта (А. В. Какорына), камунікатыўная агрэсія, якая вынікае з ужывання ў сродках масавай інфармацыі, па-першае, вялікага мноства запазычанняў-варварызмаў, незразумелых для большасці чытачоў, і, па-другое, аргатызмаў як сродкаў культывацыі вульгарнага стылю зносін (артыкул А. Каракоўцавай). Гэта і актуалізацыя новых фразеалагічных адзінак, аб чым яскрава сведчаць назіранні Л. Яноўца над створанымі ў 1990-я гады фразеалагічнымі адзінкамі чэшскай мовы. Гэта і пашырэнне кола моўных адзінак, якія ўжываюцца ў ролі джокераў з схематычнымі і абагульняючымі значэннямі і разнастайнымі функцыямі ў тэксце, аб чым на матэрыяле нетыповага ўжывання прэфікса *naj-* з назоўнікамі ў харвацкай мове распавядае Б. Крыжан-Станоевіч. Даследчыкаў непакоіць і тое, што побач з канвенцыянальным ужываннем слоў, як паказаў супастаўляльны, сістэмна-функцыянальны аналіз Г. П. Нешчыменка моўных паводзін удзельнікаў камп'ютарнай камунікацыі на рускай і чэшскай мовах, адбываюцца масавыя парушэнні норм. Апошняе, у сваю чаргу, можа прывесці да змен узроўню моўнай культуры. Канвенцыянальнае ўжыванне слоў побач з арыгінальным выкарыстаннем сродкаў словаўтварэння мае месца нават у такіх маленькіх тэкстах, як загалоўкі навуковых артыкулаў, аб чым паведамляе ў сваім артыкуле З. Руднік-Карватова. Своеасаблівасці семантыкі новых ацэначных адзінак на *анти-*, *анти-+-изм* у рускай мове і карэлятыўных ім вытворных словах у польскай мове дэманструе А. Пстыга.

Новыя тэндэнцыі ў развіцці славянскіх моў прывялі да ўзбагачэння іх слоўнікавага саставу. Якую ролю ў гэтым працэсе адыгрывае суфіксальная дэрывацыя, раскрывае даследаванне на матэрыяле славацкай і польскай

---

[1] Komparacja systemów i funkcjonowania współczesnych języków słowiańskich. Słowotwórstwo. Nominacja / Red. Ingeborg Ohnheiser. – Opole: Universität Innsbruck, Institut für Slawistik, Uniwersytet Opolski, Instytut Filologii Polskiej, 2003. – 541 c.

[2] Лукашанец А. А. Працэсы інтэрнацыяналізацыі ў рускай, беларускай і ўкраінскай мовах // Komparacja systemów i funkcjonowania współczesnych języków słowiańskich. Słowotwórstwo. Nominacja / Red. Ingeborg Ohnheiser. – Opole: Universität Innsbruck, Institut für Slawistik, Uniwersytet Opolski, Instytut Filologii Polskiej, 2003. – С. 59–77.

[3] Лукашанец А. А. Тэндэнцыя да нацыяналізацыі ў рускай, беларускай і ўкраінскай мовах /// Komparacja systemów i funkcjonowania współczesnych języków słowiańskich. Słowotwórstwo. Nominacja / Red. Ingeborg Ohnheiser. – Opole: Universität Innsbruck, Institut für Slawistik, Uniwersytet Opolski, Instytut Filologii Polskiej, 2003. – С. 137–151.

моў Г. Мяшкоўскай. Значнае месца ў сістэме неалагізмаў сучаснай чэшскай мовы, як дэманструе у сваім артыкуле З. Опаўска, займаюць вытворныя адзінкі з элементамі *e-* ‘электронны’, *i-* ‘звязаны з Інтэрнэтам’ і *м-* ‘мабільны’. Актыўнасць суфіксацыі і прэфіксацыі ў стварэнні новых слоў у рускай мове падкрэслівае ў сваім артыкуле А. Земская.

Побач з словаўтварэннем у лексічнай сістэме славянскіх моў адбываюцца семантычныя працэсы, якія таксама вядуць да ўзбагачэння мовы новымі значэннямі. Тыпы метафарычных семантычных працэсаў у чэшскай мове апісваюцца А. Рангелавай. Семантычныя працэсы, якія закранулі грамадска-палітычную лексіку рускай мовы, і цяжкасці катэгарызацыі найбольш значных яе адзінак разглядае М. Осіпава.

Узбагачэнне слоўнікавага саставу славянскіх моў патрабавала іх адлюстравання ў лексікаграфічных працах, што, у сваю чаргу, выклікала шэраг лексікаграфічных праблем. Як вырашаюцца праблемы суадносін стандартных і субстандартных адзінак у новым слоўніку славацкай мовы, паведамляе ў сваім артыкулы Я. Босак. На праблемы лексікаграфічнай рэпрэзентацыі ў нарматыўных слоўніках рознага тыпу шматлікіх запазычанняў сучаснай рускай мовы звяртае ўвагу Л. П. Крысін. Аўтар разглядае арфаграфічныя, фанетычныя, граматычныя, семантычныя, стылістычныя варыянты запазычанняў і прапаноўвае шэраг рэкамендацый для вырашэння тых ці іншых праблем іх лексікаграфічнага адлюстравання.

Такім чынам, разгледжаныя тамы Прац славістычных змяшчаюць вынікі цікавых і разнастайных даследаванняў функцыянавання вытворных слоў у славянскіх мовах і раскрываюць шматбаковасць іх утварэння і ўжывання ў тэкстах розных тыпаў. Зварот да жывога маўлення, словаўтваральных і экспрэсіўных магчымасцей мовы, багацце моўнага матэрыялу надаюць артыкулам асаблівую прывабнасць і значнасць. Аднак, разам з безумоўна высокай пазітыўнай ацэнкай змешчаных у тамах артыкулаў хацелася б адзначыць, па-першае, недакладнасць тэрмінаў, якія ўжываюцца ў некаторых артыкулах. Так, няўдалымі, на наш погляд, з’яўляюцца тэрміны *этымалагічныя і псеўдаэтымалагічныя парамазійныя дэрываты*, прапанаваныя К. Калас, якія не адлюстроўваюць характару паходжання, агульнасці альбо адрознення вытокаў паранамазійных дэрыватаў. Па-другое, размежаванне прадуктыўнасці як колькаснай характарыстыкі суфіксальных тыпаў і актыўнасці як іх здольнасці даваць новыя дэрываты (гл., напр., у гэтай сувязі працы С. Андэрсана і А. С. Кубраковай) спрыяла б больш дакладнаму разгляду функцыянавання словаўтваральных тыпаў.

Можна таксама зразумець рэдактара З. Руднік-Карватову, якая згодна з традыцыяй размясціла артыкулы ў алфавітным парадку прозвішчаў іх аўтараў. Магчыма, аднак, што аб’яднанне артыкулаў па блізасці закранаемай праблематыкі дазволіла б больш яскрава высветліць як агульныя, так і розныя рысы даследаваных аспектаў вытворных слоў і слоўнікаў і на-

блізіла б нас да тыпалагічных назіранняў у галіне функцыянавання вытворных слоў у славянскіх мовах.

Відавочна, аднак, што даследаванні, змешчаныя ў разглядаемых тамах, сугучныя ранейшым даследаванням лексікі і словаўтварэння ў славістыцы (гл., напр., працы К. Вашаковай, Ц. Аўрамавай і інш.[4]), закранаюць найбольш актуальныя і таму найбольш цікавыя для школ навукоўцаў, якія склаліся ў Беларусі, напрамкі лінгвістычнага пошуку. Дасягненні ў галіне словаўтварэння і функцыянавання вытворных адзінак, набліжаюць нас да больш глыбокага разумення мовы і моўных паводзін камунікантаў і заслугоўваюць самай высокай ацэнкі.

*З. А. Харытончык (Мінск)*

## LILIA CITKO. «KRONIKA BYCHOWCA» NA TLE HISTORII I GEOGRAFII JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO. – BIAŁYSTOK, 2006. – 509 с.

«Хроніка Быхаўца» – адзіны спіс Поўнага зводу летапісаў Вялікага Княства Літоўскага – дапаўняе пералік старабеларускіх помнікаў, мова якіх стала аб'ектам лінгвістычных доследаў, ажыццёўленых пераважна ў другой палове XX ст. (таксама як «Біблія» Ф. Скарыны, «Евангелле» В. Цяпінскага, «Апокрысіс» Х. Філалета, Статуты Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1588, Слонімскія акты, «Супрасльскі летапіс», «Арыстоцелевы вароты», «Александрыя», «Баркалабаўскі летапіс», «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага, «Вісліцкі статут», «Трыбунал» (1586), «Траянская гісторыя», «Хроніка» М. Стрыйкоўскага, «Унія» І. Пацея, некаторыя кнігі Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.

Лічыцца, што «Хроніка Быхаўца» напісана ў сярэдзіне XVI ст. на старабеларускай мове кірыліцай; у пачатку XVIII ст. была зроблена яе транслітарацыя польскай графікай. Рукапіс хронікі знойдзены настаўнікам віленскай гімназіі І. Клімашэўскім у маёнтку Магілёўцы Гродзенскай губерні і часткова апублікаваны ім у 1830 г. Поўны тэкст помніка быў змешчаны Т. Нарбутам у серыі «Помнікі па літоўскай гісторыі» за 1846 г. Менавіта гэта публікацыя «засталася адзінай крыніцай звестак пра помнік» (А. Жураўскі), бо ў 50-х гадах XIX ст. рукапіс бясследна знік.

Лілія Цітко ў манаграфіі «*Kronika Bychowca» na tle historii i geografii języka białoruskiego*» вызначыла дзве мэты: апісаць мову помніка і лакалізаваць яго ў межах беларускіх гаворак. Адзначым, што моўная арга-

---

[4] Procesy innowacyjne w językach słowiańskich // Prace Slawistyczne / Red. naukowa Zofia Rudnik-Korwatowa. – Warszawa: Slawistyczny ośrodek wydawniczy, 2003. – T. 114. – 257 s.; Waszakowa Krystyna // Przejawy internacjonalizacji w słowotwórstwie współczesnej polszczyzny. – Warszawa: Wyd-wa Uniwersytetu Warszawskiego, 2005. – 265 s.; Аврамова Цветанка. Словообразувателни тенденции при съществителните имена в българския и чешкия език в края на XX век. – София: Heron-press, 2003. – 259 с.; Русский язык сегодня. – М.: Ин-т рус. яз. им. В. В. Виноградова РАН, 2000, 2003, 2004, 2006. – Вып. 1–4.

нізацыя тэксту асвятлялася А. Жураўскім (1994), А. Шагун (1997), Н. Марозавай (1996, 1997, 2000, найбольш поўна ў главе 4 яе дысертацыі «Праблемы мовы і тэксталогіі летапісаў Вялікага княства Літоўскага: «Хроніка Быхаўца», 2001). Адсутнасць грунтоўнага аналізу моўных рыс хронікі звязана найперш са стратай яе рукапісу, а таксама з супярэчлівасцямі, недакладнасцямі ў гісторыі яго ўзнікнення і бытавання.

Рэцэнзуемая манаграфія стала *першай* працай, у якой дэталёва апісана мова гэтага надзвычай яскравага помніка беларускага летапісання.

Пытанне лакалізацыі хронікі неаднаразова закраналася гісторыкамі і літаратуразнаўцамі. Прыгадаем, што з улікам звестак гістарычнага зместу Слуцк як месца стварэння тэксту называлі М. Улашчык, В. Чамярыцкі, А. Семянчук. Пагаджаючыся з імі, Л. Цітко аперыруе выключна *лінгвістычнымі данымі* – выяўленымі дыялектнымі (рэгіянальнымі) рысамі – і прыводзіць іх у сваёй працы.

Кніга складаецца з *уводзін* (с. 9–39), *5 глаў* (с. 40–253), *заключэння* (с. 254–265), *індэкса слоў* (с. 266–321), *бібліяграфіі, спіса скарачэнняў* (с. 322–355), *рэзюмэ на беларускай і англійскай мовах* (с. 336–348), *дадатку* (с. 349–509).

Ва «Уводзінах» абагульняюцца звесткі з гісторыка-лінгвістычных даследаванняў аб развіцці пісьменнасці на тэрыторыі ВКЛ, называюцца паказальныя рысы юрыдычных дакументаў, статутаў, летапісаў, воінскіх і рыцарскіх раманаў і аповесцей, мемуарных, публіцыстычных, навуковых і рэлігійных твораў. Такі аналітычны агляд пісьменнасці з'яўляецца апраўданым і адпавядае назве кнігі «Kronika Bychowca» na *tle* (*фоне*) historii i geografii języka białoruskiego». Гаворачы пра шматмоўе ў вялікалітоўскай дзяржаве («так званая простая мова», царкоўнаславянская, польская, лацінская, нямецкая мовы з уласцівымі для кожнай функцыямі і сферай выкарыстання – с. 19), аўтар не абыходзіць увагай пытанне пра змест паняцця *простая мова*. «Простая мова – афіцыйная дзяржаўная мова ВКЛ – была інструментам камунікацыі міжканфесійнай і міжэтнічнай, а таксама мовай багатай свецкай і рэлігійнай літаратуры» (с. 19), «простая, ці руская мова – гэта найчасцей ужывальныя карыстальнікамі XVI–XVII стст. назвы для абазначэння мовы, якая сфарміравалася на аснове старажытнарускай, агульнай для двух этнасаў у межах ВКЛ – беларусаў і ўкраінцаў» (с. 20).

Выклад матэрыялу пра канцылярска-юрыдычныя тэксты (яны называюцца помнікамі літоўскага заканадаўства, хоць выкарыстанне прыметніка *літоўскі*, на нашу думку, у гэтым выпадку патрабуе ўдакладнення) суправаджаецца высновамі з прац Х. Станга і Я. Станкевіча пра дыялектную аснову канцылярскай мовы, «своеасаблівай стылістычна-функцыянальнай разнавіднасці простай мовы» (с. 21).

У главе «Графіка» Л. Цітко прааналізавана ўжыванне літар для абазначэння галосных і зычных гукаў, напісанне злітнае і асобнае, напісанне вялікай літары, памылкі і хібы ў графіцы. Паколькі хроніка, як ужо адзна-

чалася, уяўляе сабой транслітарацыю польскай графікай беларускага кірылічнага тэксту, у ёй заканамерным падаецца адлюстраванне польскіх графічных прыёмаў (напр., крэскаваных зычных). Адметнай рысай графікі тэксту з’яўляецца варыянтнасць напісанняў (*hn**e**w* 74 / *hn**i**wu* 37; *b**ie**haty* 30 / *b**e**hał* 61; ***i**eho* 1 / ***j**eho* 12; *necha**y*** 38 / *dale**j*** 2; *w**ź**iał* 6 / *w**z**iał* 20; ***nes**meł* 22 / ***ne s**meli* 44; *pia**t** **s**ot* 1 / *pia**ts**ot* 72; ***b**oh* 11 / ***B**oh* 5; за выключэннем асобнага ўжывання часціцы *ni*), абумоўленая неўсталяванасцю графічных сістэм беларускай і польскай моў у час стварэння кірылічнага рукапісу і яго перапісвання лацінкай польскай мадыфікацыі.

Глава «Фанетыка і фаналогія» прысвечана разгляду вакалізму і кансанантызму «Хронікі Быхаўца». Колькасныя падлікі засведчылі дамінаванне форм, якія рэпрэзентуюць усходнеславянскую мадэль рэалізацыі спалучэнняў *tort, *tolt, *tert, *telt; *ort, *olt; *tъrt, *tъlt, *tьrt; спалучэнняў зубных зычных з наступным [j], пачатковага [o] (напр., поўнагалосныя формы адзначаны ў 95 выпадках, няпоўнагалосныя – у 67). Са з’яў, уласцівых беларускай мове, у хроніцы прадстаўлены пераход [e] у [o], пераход [u] у [u̯], скарачэнне канчатка *-yj* у прыметніках м. р. Н. скл. адз. л., зацвярдзенне шыпячых і [r], наяўнасць фрыкатыўнага [h]. Аканне, дзеканне, падаўжэнне і спрашчэнні зычных, з’яўленне пратэтычных гукаў у сувязі з трывалым панаваннем этымалагічна-марфалагічнага прынцыпу арфаграфіі атрымалі меншую фіксацыю. Падкрэсліваецца, што «лацінскі правапіс, у якім помнік захаваўся, у большай ступені перадае асаблівасці жывой мовы, чым значна канвенцыялізаваная кірылічная арфаграфія» (с. 336).

У раздзеле 1 главы 3 «Флексія» апісана функцыянаванне ў тэксце назоўнікаў з былымі асновамі на *-ā*, *-jā*; *-ŏ*, *-jŏ*; *-ŭ*; *-ĭ*; *-ū*; на зычны, двух множналікавых назоўнікаў, некаторых геаграфічных назваў. Адлюстраваны вынікі спрашчэння сістэмы скланення, выраўноўвання асноў, што прывяло да скарачэння колькасці склонавых канчаткаў, іх уніфікацыі ў множным ліку, страты форм парнага ліку і замены іх формамі множнага (*obadwa braty*, *dwa pany*); залежнасць размеркавання канчаткаў у Р. скл. адз. л. (м. р.) і В. скл. мн. л. паводле крытэрыю адушаўлёнасць/неадушаўлёнасць (*brata*/*lesu*, але *sna*; *kniazey*/*seymy*); уплыў беларускай фанетыкі (*bere**z**ie*, *recz**c**e*, *Tro**c**ech* і інш.); комплекс дыялектных рыс: канчатак -*om*, -*och* у Д. і М. скл. мн. л. назоўнікаў м. р. і н. р. (*horodom*, *peskoch, mestcoch*), двухскладовы канчатак -*oju*, -*’eju* ў Т. скл. адз. л. назоўнікаў ж. і м. р. з былой асновай на -*ā* (*wodoju*, *diadeiu*), захаванне форм вакатыву (*brate*, *kniaże*), канчатак -*a* ў Н. скл. мн. л. назоўнікаў н. р. (*wojska*, *pola*).

У раздзеле 2 інтэрпрэтуюцца змены ў асновах і канчатках займеннікаў, напр., ужыванне *n* перад пачатковым *j* (*nich*), з’яўленне форм *toj*, *toje*, *taja*, *tyie*, *tyi*, супадзенне флексій у Т. і М. скл. адз. л. (*swoim – pry swoim*), а таксама дыялектны канчатак -*oje*/-*eje* ў Р. скл. адз. л. указальных і прыналежных займеннікаў ж. р. (*onoie*, *moieje*).

У раздзеле 3 адзначаецца зніжэнне ступені пашырэння кароткіх форм прыметнікаў (за выключэннем прыналежных), умацаванне катэгорыі аду-

шаўлёнасці/неадушаўлёнасці пры размеркаванні канчаткаў у В. скл., страта парнага ліку, наяўнасць канцавога *-y*/*-i* ў Н. скл. адз. л. прыметнікаў м. р. (*hodny*, *weliki*), пашырэнне канчатка *-yje*/*-ije* ў Н. і В. скл. мн. л., паслядоўнае афармленне форм вышэйшай ступені параўнання пры дапамозе суфіксаў *-š-*, *-ejš-* (*starszy*, *cudneyszaia*) і найвышэйшай – прыстаўкі *naj-* і прыслоўя *welmi* (*naystarszoho*, *welmi złaia*). Рэгіянальныя асаблівасці ілюструюць канчатак *-om* у М. скл. адз. л. прыметнікаў м. р. і н. р. (*w dobrom*, *u Trockom*), двухскладовы канчатак *-oju* ў Т. скл. адз. л. прыметнікаў ж. р. (*małoiu*).

Для сістэмы лічэбнікаў (раздзел 4) уласціва знікненне катэгорыі ліку і роду (за выключэннем *odyn*, *odna*, *odno*; *dwa–dwe*; *oba–obe*; *obadwa–obedwe*; *pautara–pautary*), скланенне парадкавых лічэбнікаў па ўзоры поўных прыметнікаў з асновай на цвёрды, наяўнасць дыялектнага канчатка *-ma* ў Т. скл. парнага ліку (*z dwema*).

Прыслоўі (раздзел 5) размеркаваны на адпрыметнікавыя (*hnewno*, *silno*), адзайменнікавыя (*odtole*, *tam*), адлічэбнікавыя (*obapoł*, *perwo*), адназоўнікавыя (*naperod*, *uwerch*), устаноўлены іх прадуктыўныя суфіксы (*-o*, *-e*, *-mi*, *-de*), вылучаны суфіксы *-š, -e, -ej, -še-j* і прыстаўка *na-* як сродкі ўтварэння іх вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання, наяўнасць архаічных лексем тыпу *pak*, *paki* і ўласцівых жывой мове *pokul*, *ni odkul*, *użo* абгрунтавана летапіснай традыцыяй і выкарыстаннем перапісчыкам розных па часе ўзнікнення крыніц.

Аналіз функцыянавання дзеяслоўнай сістэмы хронікі (раздзел 6) засведчыў спрашчэнне сістэмы прошлых часоў, мадыфікацыю ў формах імператыва (захаванне канцавога *i* пад націскам, яго страта ў ненаціскным становішчы ў 2-й ас. адз. л., з'яўленне часціцы *nechaj* у 3-й ас.), выкарыстанне часціцы *by* ў 2-й і 3-й ас. для афармлення ўмоўнага ладу, выражэнне будучага I складанага з дапамогай дзеяслова *byti*, утварэнне дзеепрыслоўяў з дапамогай суфіксаў *-učy*/*-ačy*, *-všy*/*-šy* (*beruczy*, *słyszaczy*; *bywszy*, *wbehszy*). Да ліку рэгіянальных рыс аднесены канчатак *-mo* ў 1-й ас. мн. л. загаднага і ўмоўнага ладу (*ratujmo*, *dalibychmo*), адсутнасць канцавога зычнага ў канчатку 3-й ас. адз. л. (*naczne*), інфінітыўны канчатак *-ty* (*mety*), суфікс *-ečy* ў дзеепрыслоўях незакончанага трывання цяперашняга часу (*baczeczy*).

Трэба адзначыць, што гэта глава кнігі дапоўнена табліцамі (с. 84, 86–92, 95, 97, 98, 100, 102 і інш.), у якіх прыведзена поўная парадыгма словазмянення назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, дзеясловаў.

У главе «Словаўтварэнне» пералічаны ўсе афіксы, выкарыстаныя пры ўтварэнні назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў. З аналізу вынікае, напрыклад, што суфікс *-nik* (*osocznik*) – дамінуючы словаўтваральны сродак у групе nomina agentis, *-stw-* – nomina abstracta (*mnożestwo*); суфіксы *-sk-*, *-ck-, -ow/-ew* пераважаюць ва ўтварэнні прыналежных прыметнікаў (*hospodarski*, *Kunosow*). «Засведчаны ў «Хроніцы» моўны матэрыял з гэтай галіны супадае са словаўтваральнымі схемамі мовы XVI–XVIII стст., а ў значнай меры і з тэн-

дэнцыямі ў сучаснай беларускай мове, як па падборы фармантаў, так і іх спалучальнасці са словаўтваральнымі асновамі, а таксама па агульных тэндэнцыях словаўтварэння паасобных класаў слоў» (с. 339).

Антрапонімы і тапонімы хронікі (глава «Анамастыка») размежаваны па паходжанні (славянскія і балцкія), структуры (простыя і састаўныя). Адзначана перавага ва ўжыванні мужчынскіх імён (жаночых зафіксавана 13), утварэнне памяншальных форм імён пры дапамозе -*ko*, -*ok*, -*ik*/-*yk*, -*szko*, -*uszko*, -*chno* (*Fedko*, *Petryk*), патронімаў – -*icz*, -*owicz*/-*ewicz* (*Putiatycz*, *Borysowicz*). Ва ўтварэнні тапонімаў дамінуюць суфіксы -*ьsk*, -*jь*, радзей прадстаўлены -*in*/-*yn*, -*ьn-*, -*ec* (*Brasławl*, *Kamenec*). Асваенне балцкіх па паходжанні ўласных назваў ілюструюць, напрыклад, замена літоўскага [o] доўгага на [a] (*Jamontu*), [ę] на [e] (*Kezgał*), рэалізацыя канцавых -*is, -as, -ai, -iškė* праз -*ej, -ij, -o, -i, -iszki* адпаведна (*Kestutey*, *Kestutiy; Kowno; Troki, Eykszyszki*), рэдукцыя афіксаў -*is, -as* (*Dowoin*, *Gidymin*; *Jurbork*).

Індэкс уяўляе сабой спіс усіх лексічных адзінак «Хронікі Быхаўца» з захаваннем іх графічнага-арфаграфічнага і марфалагічнага вобліку і рэпрэзентуе частату іх ужывання ў тэксце. Падобны індэкс з'яўляецца прыкладам частотнага слоўніка асобнага помніка старабеларускай пісьменнасці, а ў перспектыве можа быць выкарыстаны пры стварэнні электроннага корпусу тэкстаў старабеларускай мовы, пры падрыхтоўцы электроннай версіі картатэкі «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», а таксама ва ўдакладненні рэестра названага слоўніка.

Дадатак змяшчае тэкст хронікі з выдання Т. Нарбута (WN) і ажыццёўленую Л. Цітко яго кірылічную рэканструкцыю (RC), што з'яўляецца *спробай аднаўлення некалі страчанага старабеларускага арыгінала*. У каментарыях да RC (с. 349–352) гаворыцца пра выбар графем для перадачы гукаў: [i] перадаецца праз **и**, [y] – **ы**, [a] – **а**, [a] пасля мяккіх – **ꙗ**, **ѧ**, [o] – **о**, [u] – **ѹ** (у пачатку слова), у іншых выпадках – **ꙋ**; [j] – **и** (у канцы слова, перад зычным і паміж галоснымі), **ь** (пасля зычнага перад галосным), **ѥ** (пасля галоснага), адсутнасць у RC **ѣ, ъ, ь**, акрамя **ь** пасля мяккіх зычных, тлумачыцца неўпарадкаванасцю іх выкарыстання ў старабеларускай мове; мяккасць зычных перадаецца з дапамогай **ю**, **ѥ**, **и**, **ꙗ**, **ѧ** і інш. Напр.,

WN: A panowie Litowskije i Żomoyckije, wziali welikim kniaźem Trojdena, y panuiuczy welikomu kniaziu Troydenu, y kniaź weliki Dowmant pryszedszy z Pskowa wozmet horod Połtesk (13) – RC: **А пановѥ Литовскиѥ и Жомоицкиѥ, взѧли великим кнѧзем Троидена, и панꙋючы великомꙋ кнѧзю Троиденꙋ, и кнѧзь велики Довмант прышедшы з Пскова возмет город Полтеск** (13).

Прапанаваная ўніфікацыя графічных сродкаў у кірылічнай рэканструкцыі (па прычыне чаго яна падаецца занадта ідэальнай) наўрад ці мела месца ў страчаным старабеларускім тэксце. Сапраўды, аднастайнасць у выкарыстанні дублетных літар (напр., **ѹ–ꙋ–ү**; **ѡ–о**; **ꙗ–ѧ**) назіралася ў помніках

беларускай пісьменнасці*, аднак яна не была рэалізавана поўнасцю, паколькі працэс «удасканалення графікі на працягу ўсяго старажытнага перыяду праходзіў стыхійна, у галіне яе не было праведзена ніводнай узаконенай рэформы» (А. Булыка). Да таго ж і Л. Цітко звяртае ўвагу на неўсталяванасць графічных традыцый беларускай мовы ў час напісання хронікі (с. 49, 351).

У заключэнне адзначым, што акрэсленыя мэты даследавання Ліліяй Цітко дасягнуты поўнасцю:

моўная арганізацыя «Хронікі Быхаўца» апісана на графічным, арфаграфічным і марфалагічным узроўнях усебакова і вычарпальна, дэталёва прааналізавана словаўтварэнне і анамастыка тэксту (што, дарэчы, не было характэрным для папярэдніх падобных прац). Дзякуючы гэтаму павялічана колькасць помнікаў, створаных на тэрыторыі сярэдневяковай Беларусі, ахопленых лінгвістычным аналізам;

вылучаныя рэгіянальныя рысы (яны абагульнены на с. 340–341) «звязваюць даследуемы помнік з паўднёва-заходнім беларускім дыялектам» і з'яўляюцца яскравым доказам «тэзісу тых гісторыкаў, якія радзімай Летапісу лічаць Слуцкае княства» (с. 342).

Без сумнення, вынікі манаграфіі гарантуюць больш шырокае выкарыстанне матэрыялаў помніка ў будучых гісторыка-лінгвістычных даследаваннях, накіраваных на далейшае асятленне ўнутранай і знешняй гісторыі беларускай літаратурнай мовы.

Дадзенае выданне, у якім прадстаўлены тэксты хронікі і яе кваліфікаванае лінгвістычнае апісанне, будзе запатрабавана не толькі мовазнаўцамі-дыяхраністамі, але і прадстаўнікамі іншых гуманітарных дысцыплін, у першую чаргу гісторыкамі, літаратуразнаўцамі, краязнаўцамі. А для аматараў мінуўшчыны (маюцца на ўвазе асобы без спецыяльнай лінгвістычнай ці гістарычнай падрыхтоўкі) будзе цікавым і патрэбным тэкст «Хронікі Быхаўца», узноўлены сродкамі сучаснай беларускай графікі і дапоўнены каментарыямі.

*Н. В. Паляшчук (Мінск)*

---

* Напр., паводле Э. Ярмоленка, у «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага графема ѧ ўвогуле не ўжываецца, ꙗ – адзіны сродак для перадачы гука [а] пасля мяккіх зычных, у пачатку слова і пасля галосных у выпадку яго дадатковай ётацыі.

## AKINER SHIRIN. RELIGIOUS LANGUAGE OF A BELARUSIAN TATAR KITAB. A CULTURAL MONUMENT OF ISLAM IN EUROPE. – WIESBADEN: HARRASSOWITZ VERLAG, 2009. – VOL. XXVII. – 457 p.

Публікацыя ў мінулым годзе гэтай манаграфіі стала значнай падзеяй у кітабістыцы. Ужытае ў назве слова «кітаб» абазначае адну з катэгорый рукапісаў, створаных татарамі на беларускіх землях. Аднак прадметам даследавання Шырын Акінэр у гэтай працы з'яўляецца мова канкрэтнага рукапісу кітаба, які захоўваецца ў Брытанскай бібліятэцы пад шыфрам **OR-13,020**. Ён складаецца з 125 аркушаў 30×19 см. Рукапіс не мае калафона, але на падставе даследавання паперы аўтар датавала яго прыблізна 1831 г. (с. 81).

Калі не лічыць прадмовы, высноў і чатырох дадаткаў, то можна сказаць, што праца складаецца з трох раздзелаў: Гісторыя і рэлігія (с. 11–80); Кітаб Брытанскай бібліятэкі (с. 81–134); Рэлігійная лексіка (с. 135–335).

Раздзел «Гісторыя і рэлігія» – гэта нарыс гісторыі беларускіх татар, іх рэлігіі, а таксама характарыстыка іх рукапіснай спадчыны. У раздзеле «Кітаб Брытанскай бібліятэкі» прыводзяцца фізічнае апісанне даследаванага рукапісу, аналіз яго мовы (у якім аўтар надае асаблівую ўвагу словам усходняга паходжання) і змест.

Найвялікшы раздзел – «Рэлігійная лексіка» змяшчае раскласіфікаваную па семантычных палях рэлігійную лексіку кітаба (напр., Бог і Божыя атрыбуты, гэты і той свет, ісламскія законы і г. д.). Словы прыводзяцца ў лацінскай транслітарацыі. У кожным слоўнікавым артыкуле даецца пераклад на англійскую мову, спасылкі на слоўнікі беларускай мовы, паралелі з іншых славянскіх моў (пры неабходнасці) і адзін або некалькі прыкладаў ужывання лексемы ў даследаваным кітабе. Для арыенталізмаў прыводзяцца паралелі з асманска-турэцкай і сучаснай турэцкай моў.

Сярод дадаткаў перш за ўсё трэба згадаць «Цюркскія запазычанні ва ўсходнееўрапейскіх мовах» (с. 361–368) і «Транслітарацыя вытрымак з кітаба Брытанскага Музею» (с. 369–399)[2].

Аўтар паставіла перад сабой чатыры мэты: 1) прааналізаваць этымалагічныя характарыстыкі лексічнага фонду рукапісу, у першую чаргу тых лексем, якія служаць для перадачы або тлумачэння рэлігійных уяўленняў, вызначаючы як славянскую (беларускую, польскую), так і ўсходнюю (цюркскую, арабскую, персідскую) лексіку; 2) разгледзіць граматычную, фанетыч-

[2] Да кнігі таксама дададзены CD з транслітарацыяй беларускіх тэкстаў кітаба **OR-13,020**.

ную і сінтаксічную адаптацыю і інтэграцыю неславянскіх элементаў; 3) акрэсліць семантычную дыферэнцыяцыю ў выкарыстанні славянскіх і неславянскіх элементаў; 4) вызначыць прыроду і ступень сацыялінгвістычнага ўзаемадзеяння паміж славянскай і неславянскай спадчынай татар (с. 9).

Вырашаючы пастаўленыя задачы, аўтар прыходзіць да наступных высноў:

налічыўшы ў кітабе 1094 лексемы, якія маюць дачыненне да рэлігіі, яна канстатуе, што словы славянскага (г. зн. беларускага або польскага) паходжання[3], складаюць 67,7 %, а турэцкага[4] – 32,3 %; пры гэтым даследаванні паказалі, што асноўнай мовай рукапісу з'яўляецца беларуская, – гэта тычыцца як фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу, так і лексікі; але ёсць і моцны польскі ўплыў, асабліва ў лексіцы (с. 337);

на ступень адаптацыі лексем усходняга паходжання ў мове беларускіх татар указвае, напр., наяўнасць дэрыватаў, утвораных ад гэтых лексем з дапамогай славянскіх фармантаў (с. 345);

татары дакладна адрознівалі агульнарэлігійнае ад спецыфічна ісламскага, што адлюстравалася і ў лексіцы: славізмы выкарыстоўваліся для агульнарэлігійных уяўленняў, а лексемы ўсходняга паходжання для выключна ісламскіх рэалій (с. 348);

татары не стварылі асобнай мовы або дыялекту крэольскага ці піджын тыпу, а выкарыстоўвалі стандартныя беларускую і польскую мовы. На думку аўтара, рэлігійная мова беларускіх татар можа быць ахарактарызавана як «сацыялект», які развіўся як дадатак да стандартнай мовы, а не як альтэрнатыва: татары дадалі пэўную колькасць арыенталізмаў, у некаторых славянскіх лексемах адбыліся семантычныя зрухі; сустракаюцца і такія славянскія лексемы, якія не зафіксаваны ў іншых крыніцах, напр., *судзіцель* 'суддзя' (с. 188), *адпосьнікацца* 'спыніць пост' (с. 286). Такім чынам, беларуская мова падчас узнікнення гэтага рукапісу ўжо даўно не была новазасвоенай мовай, а сапраўднай матчынай мовай татар, якой яны карысталіся з лёгкасцю і ўпэўненасцю прыродных носьбітаў (с. 356–360).

Публікацыю гэтай манаграфіі можна па праве назваць важным этапам на шляху даследвання як лексічнага фонду рукапіснай спадчыны беларускіх татар наогул, так і арыенталізмаў у прыватнасці. У ключавым раздзеле – «Рэлігійная лексіка» аўтар рэцэнзаванай працы прапануе шэраг цікавых этымалогій некаторых слоў усходняга паходжання. Напр., назва пахавальнай малітвы عمر [umur / umre] звязваецца сваім паходжаннем з арабскім عمرة

[3] Уключаючы словы лацінскага і нямецкага паходжання, запазычаныя ў славянскія мовы.

[4] Уключаючы словы арабскага і персідскага паходжання, запазычаныя ў турэцкую мову. Акрамя таго, Ш. Акінэр прыходзіць да высновы, што пераважаная большасць цюркізмаў у мове беларускіх татараў мае менавіта асманска-турэцкае паходжанне, будучы такім чынам не рэшткамі мовы продкаў, а вынікам турэцкага ўплыву на татарскія абшчыны былога Вялікага Княства Літоўскага (с. 345).

[‘umra] «малае паломніцтва да Меккі ў любы час года», а семантычны зрух, на думку аўтара, можа быць патлумачаны ўплывам сугучнага беларускага дзеяслова *ўмерці* (с. 293). Не адвяргаючы наогул такой магчымасці, мы лічым неабходным дадаць, што ў вядомых нам татарскіх рукапісах назва гэтай малітвы пішацца з пачатковай літарай ا (аліф)[5], а не ع (айн) як у даследаваным Ш. Акінэр кітабе, што пашырае сферу пошуку магчымага тлумачэння гэтай лексемы.

Сцвярджаючы, як ужо было сказана вышэй, што татары для агульнарэлігійных уяўленняў выкарыстоўвалі славізмы, а для выключна ісламскіх рэалій лексемы ўсходняга паходжання, аўтар указвае на шэраг выключэнняў. Так, па яе словах, імёны анёлаў падаюцца звычайна ў іх ісламскай форме. Напр., *Габрыэль* / *Джэбраіл*, які адыгрывае важную ролю як у ісламе, так і ў хрысціянстве, ва ўсіх вядомых татарскіх тэкстах называецца толькі *Джэбраілам* і ніколі *Габрыэлем*. Тое самае яна гаворыць і пра *шатана* / *шайтана*, які, паводле яе слоў, амаль заўсёды называецца *шайтанам* (с. 350). Аднак у рукапісе канца XVIII ст., што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі пад шыфрам П16-18/Нр2 (Р97), арханёл названы *Габрыэлем* (арк. 31b:8, 9), а Сатана *шатанам* (арк. 9b:3).

Зразумела, мы не аспрэчваем наяўнасць выключэнняў з гэтага правіла. Наадварот, мы можам пашырыць спіс выключэнняў, нагадаўшы, напрыклад, пра выкарыстанне слова *капліца* для абазначэння ў перакладзе Карана такой спецыфічна ісламскай рэаліі як *міхраб*[6].

Што да саміх вераванняў татар, якія з’яўляюцца паводле свайго веравызнання мусульманамі-сунітамі, то аўтар рэцэнзаванай працы яшчэ ў прадмове гаворыць пра тое важнае месца, якое займае ў рукапісах беларускіх татар асоба Алі ібн Абу Таліба, што магло б сведчыць пра шыіцкі ўплыў, аднак, на яе думку, ні ў практыцы ні ў вераваннях няма нічога, што пацвярджала б такую магчымасць (с. 59). Да гэтага нам хацелася б дадаць, што частая згадка Алі – гэта далёка не адзінае верагоднае сведчанне шыіцкага ўплыву ў рукапісах беларускіх татар. Варта ўказаць, напр., на наяўнасць у некаторых хамаілах малітвы з цюркскай назвай *On iki imam* «Дванаццаць імамаў», шыіцкае паходжанне якой не можа выклікаць сумневу[7]. Сустракаецца гэта малітва і ў тэкстах *далавараў* – скруткаў

[5] Такое напісанне сустракаецца ў хамаілах П19–20/Нр15 /Р402/ (с. 30b) і П19–20/Нр17 / Р257/ (с. 146а) з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама ў хамаіле КП 9234 (с. 75b), што захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігі.

[6] Suter P. Alfurkan Tatarski. Der litauisch-tatarisch Koran-Tefsir. – Köln; Weimar; Wien: Böhlau Verlag, 2004. – P. 116.

[7] Гэтая малітва ёсць у хамаілах П19–20/Нр21 /Р256/ (с. 117b), П19–20/Нр17 /Р257/ (с. 72b) з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, хамаіле 11Н//22(026) (с. 32а) у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і ў хамаіле КП 9234 (с. 135а) у Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі.

з малітвамі, якія паводле мясцовых звычаяў клаліся ў магілу разам з памерлым.

Можа быць адзіным, з чым немагчыма пагадзіцца ў кнізе Ш. Акінэр, з'яўляецца класіфікацыя моў Усходняй Еўропы, згаданая ў 1-м дадатку: балгарская, македонская і сербска-харвацкая мовы, згодна прапанаванай класіфікацыі, належаць да славянскай групы, венгерская да ўральскай, а албанская і румынская да індаеўрапейскай (с. 361). Зразумела, што мовы славянскай групы, як і албанская з румынскай, належаць да індаеўрапейскай моўнай сям'і.

Выклікае пытанне і выкарыстаная ў працы транслітарацыя беларускіх тэкстаў. На наш погляд, якасная транслітарацыя павінна даваць магчымасць без перашкод рэканструяваць у выпадку неабходнасці тэкст у арыгінальнай графіцы. Тут жа, напр., літары ض і ظ прапануецца транслітараваць аднолькава – z (с. 89), а літары ا і ع не адлюстроўваюцца наогул. Відавочна прычынай таму з'яўляецца адсутнасць сярод даследчыкаў рукапісаў беларускіх татар агульнапрынятай сістэмы транслітарацыі.

На жаль, не абышлося без прыкрай памылкі ў прозвішчы аўтара адной са згаданых прац: Synovka замест Synkova (с. 60, 79, 423).

Тым не менш можна з упэўненасцю сказаць, што пасля выхаду ў свет гэтай грунтоўнай працы, яна па праве зойме сваё ганаровае месца ў шэрагу такіх фундаментальных прац, як работы А. Антановіча, Ч. Лапіча, П. Сутэра і іншых, і стане адной з настольных кніг даследчыкаў рукапіснай спадчыны татар былога Вялікага Княства Літоўскага.

*М. У. Тарэлка (Мінск)*

## КАНДРАЦЕНЯ І. У. НУЛЯВАЯ СУФІКСАЦЫЯ Ў СІСТЭМЕ БЕЛАРУСКАГА СЛОВАЎТВАРЭННЯ. – МІНСК: БЕЛАРУС. НАВУКА, 2009. – 207 с.

Праблема нулявой суфіксацыі знаходзіцца ў полі зроку лінгвістаў-славістаў ужо дастаткова працяглы час. У большасці выпадкаў дэрываталагічныя даследаванні былі накіраваны на вызначэнне статусу нулявой суфіксацыі сярод іншых спосабаў сінхроннага словаўтварэння, а таксама на выпрацоўку паняццяў «нулявая марфема», «нулявы афікс», «нулявы суфікс». І. У. Кандраценя, цалкам прыняўшы палажэнні аб тым, што «ў сінтагме нуль можа выражаць значымае» (с. 13) і нульсуфіксальны спосаб – разнавіднасць афіксальнага словаўтварэння ў беларускай, рускай і іншых славянскіх мовах (с. 16), фармулюе іншую мэту даследавання – «акрэсліць месца і ролю нульсуфіксальных назоўнікаў у слоўнікавым складзе сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (с. 5) – і гэтым самым дэкларуе функцыянальны падыход да заяўленай лінгвістычнай праблемы і адпаведнага моўнага матэрыялу. Фактычныя падставы такога падыходу да нульсуфіксальных утварэнняў больш чым відавочныя: у канцы XX ст. нулявая суфіксацыя як спосаб словаўтварэння выявіла павышэнне ступені прадуктыўнасці не толькі ў беларускай, але і ў іншых славянскіх мовах, на што звярнулі ўвагу даследчыкі і беларускай, і рускай, і польскай моў, частотнасць ужывання нульсуфіксальных лексем значна павялічылася як у вусным, так і ў пісьмовым беларускім маўленні, пры гэтым у семантыцы лексічных адзінак, утвораных паводле існуючых у беларускай мове словаўтваральных тыпаў, выявіліся істотныя зрухі.

Кніга І. У. Кандрацені мае стандартную для манаграфічнага навуковага выдання структуру: уводзіны, тры главы, заключэнне, спіс скарачэнняў, дадаткі, літаратура. У першай главе – «Нулявая суфіксацыя ў сістэме і тэксце» (с. 6–62) – выкладаецца канцэпцыя даследавання, дэманструюцца неадназначнасць лінгвістычных поглядаў на словаўтварэнне назоўнікаў тыпу *бег*, *сінь* і колькасныя разыходжанні ў вызначэнні тыпаў нульсуфіксальных назоўнікаў у граматычных апісаннях беларускай, рускай і ўкраінскай моў, асобна аналізуюцца погляды польскіх лінгвістаў на ўтварэнні тыпу *filolog*, *bieg*, *spowiedz* і пад., абгрунтоўваюцца актуальнасць, задачы і прадмет даследавання – аддзеяслоўныя і адпрыметнікавыя нульсуфіксальныя назоўнікі мужчынскага, жаночага, ніякага, агульнага роду і pluralia tantum (с. 28–30). Асобных станоўчых каментарыяў заслугоўваюць, на нашу думку, два параграфы з гэтай главы: «З гісторыі лексікаграфічнай кадыфікацыі нульсуфіксальных назоўнікаў» і «Функцыянаванне нульсуфіксальных наватвораў

у сучасным пісьмовым маўленні». У гэтых параграфах прадстаўлены новыя, выяўленыя на падставе лексікаграфічных крыніц звесткі аб зрухах у семантычнай структуры некаторых назоўнікаў, напр., *заход*, *перавод*, *прадуха* і інш., а таксама даецца разгорнутая інфармацыя аб ужыванні назоўнікаў тыпу *выстава*, *аповед* і інш. у тэкстах розных функцыянальных стыляў. Варта адзначыць, што на функцыянальную актыўнасць так званых нульсуфіксальных наватвораў у сучасным беларускім маўленні звярталі ўвагу і іншыя даследчыкі (П. Садоўскі, П. У. Сцяцко, В. І. Уласевіч), аднак І. У. Кандраценя прадстаўляе больш шырокую выбарку кантэкстаў, у якіх рэалізуюцца гэтыя словы, аналізуе ступень іх прэзентацыі ў лексікаграфічных крыніцах і выяўляе змяненні ў семантычнай структуры тых назоўнікаў, якія пэўны час знаходзіліся на перыферыі лексічнай сістэмы, але ў сучаснай беларускай літаратурнай мове перайшлі ў яе актыўны слоўнікавы склад.

Другая глава – «Матывацыйныя адносіны дзеяслова і нульсуфіксальнага назоўніка» (с. 63–133) – з’яўляецца асноўнай у манаграфіі І. У. Кандрацені. Гэта частка кнігі змяшчае вынікі даследавання семантычнай суаднесенасці матывавальных дзеяслоўных асноў і матываваных асноў нульсуфіксальных субстантываў. Такое даследаванне ў беларускай дэрываталогіі праводзіцца ўпершыню. Аўтар манаграфіі прааналізавала існуючыя погляды на адносіны матывацыі, а таксама метады выяўлення гэтых адносін (работы А. А. Земскай, В. М. Хахлачовай, З. М. Валацкой, К. Вашаковай, І. С. Улуханава, А. А. Лукашанца) і, прымяніўшы метад аналізу слоўнікавых дэфініцый, вызначыла пяць асноўных тыпаў семантычнай суаднесенасці матывавальных асноў дзеяслова і матываваных асноў нульсуфіксальных назоўнікаў (с. 78–83): 1) матываваная аснова засвойвае ўсе значэнні матывавальнай асновы, але адрозніваецца ад апошняй граматычным значэннем: *адвозіць* (мэблю) → *адвоз* (мэблі); 2) матываваная аснова мае большы аб’ём значэнняў, чым матывавальная: *выбіраць*, *выбраць* → *выбар* ‘1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *выбіраць – выбраць*. 2. Аб тым, хто выбраны, што выбрана. 3. Магчымасць выбіраць’; 3) матывавальная аснова мае большы аб’ём значэнняў, чым матываваная: *закідваць*, *закінуць* → *закід* ‘Дзеянне паводле знач. дзеясл. *закідваць*, *закінуць* (у 1, 2, 4 знач.)’; 4) матывавальная аснова мае большы аб’ём значэнняў, чым матываваная, але ў семантычнай структуры матываванай асновы развіваецца новае значэнне: *кроіць* → *крой* ‘1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *кроіць* (1–3 знач.). 2. *спец*. Фасон, пакрой’; 5) матывавальная аснова пераўтвараецца, матываваныя назоўнікі маюць не працэсуальнае, а прадметнае значэнне або сумяшчаюць названыя значэнні: *данесці*, *данасіць* → *данос* ‘тайнае паведамленне ўладам, начальству аб чыіх-н. недазволеных, процізаконных дзеяннях’. Істотнай колькасцю аддзеяслоўных нульсуфіксальных назоўнікаў з непрацэсуальным значэннем пацвярджаецца, на думку І. У. Кандрацені, тэндэнцыя адыходу імя ад дзеяслова ў граматычнай сістэме сучаснай беларускай мовы (с. 152).

У сувязі з тым, што ў абсалютнай большасці выпадкаў слоўнікавыя дэфініцыі матываваных назоўнікаў указваюць на такую словаўтваральную базу, як дзеясловы ў форме закончанага і незакончанага трывання, даследчыца фармулюе яшчэ адну задачу: «прасачыць, як суадносіцца катэгорыя трывання матывавальнага дзеяслова з лексічным значэннем матываванага назоўніка» (с. 84–85). І. У. Кандрацeня ўстанаўлівае дзевяць тыпаў суадносін паміж граматычным значэннем трывання матывавальнага дзеяслова і значэннем працэсуальнасці/непрацэсуальнасці матываванага назоўніка, якія можна прадставіць у схематычным выглядзе (с. 87–92; Дадатак 2)[8]: 1) $V_1 \rightarrow N_1$: *акаціцца* → *акот* ‘Дзеянне паводле знач. дзеясл. *акаціцца*’; 2) $V_1 \rightarrow N_2$: *абрэзаць* → *абрэз* ‘1. Вінтоўка. 2. Край, беражок’; 3) $V_2 \rightarrow N_1$: *атакаваць* → *атака* ‘імклівы напад на пазіцыі праціўніка’; 4) $V_2 \rightarrow N_2$: *латаць* → *лата* ‘кавалак тканіны, скуры і пад., якім залатана дзірка на адзенні, абутку і пад.’; 5) $V_1V_2 \rightarrow N_1$: *пускаць*, *пусціць* → *пуск* ‘дзеянне паводле знач. дзеясл. *пускаць – пусціць*’; 6) $V_1V_2 \rightarrow N_2$: *адстаяцца, адстойвацца* → *адстой* ‘часцінкі, якія выдзеліліся з вадкасці і аселі на дно’; 7) $V_1 \rightarrow N_1N_2$: *пасеяць* → *пасеў* ‘1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *пасеяць*. 2. Тое, што пасеяна’; 8) $V_2 \rightarrow N_1N_2$: *ахоўваць* → *ахова* ‘1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *ахоўваць*. 2. Атрад, група (людзей, караблёў і пад.), прызначаныя ахоўваць каго-, што-н.’; 9) $V_1V_2 \rightarrow N_1N_2$: *напасці*, *нападаць* → *напад* ‘1. Хуткае дзеянне, накіраванае на каго-, што-н. для захопу, грабяжу і пад. 2. Абвінавачванні, папрокі’. Пры гэтым выяўляецца, што найбольш прадуктыўныя ў сучаснай беларускай мове мадэлі 5, 6, 9: «каля 70% нульсуфіксальных аддзеяслоўных назоўнікаў можа матывавацца як асновамі закончанага трывання, так і асновамі незакончанага трывання» (с. 99–100). Спецыяльнае даследаванне назоўнікаў з працэсуальным значэннем, назоўнікаў з непрацэсуальным значэннем і назоўнікаў, што сумяшчаюць працэсуальнае і непрацэсуальнае значэнні, у аспекце іх семантычнай сувязі з матывавальнымі дзеясловамі прывяло аўтара манаграфіі да абгрунтаванага вываду: «семантыка нульсуфіксальных назоўнікаў істотна не залежыць ад таго, на які семантычны аб’ём зыходнага дзеяслова абапіраецца матываваны назоўнік… Нульсуфіксальныя дэрываты могуць суадносіцца адначасова як з матывавальнымі асновамі закончанага трывання, так і з матывавальнымі асновамі незакончанага трывання. Ад несуадносных паводле трывання матывавальных асноў утвараюцца толькі адзінкавыя нульсуфіксальныя назоўнікі» (с. 132).

Трэцяя глава – «Марфаналагічныя працэсы пры нульсуфіксальным утварэнні назоўнікаў» (с. 134–150) – прысвячаецца фармальным пераўтварэнням матывавальных дзеяслоўных асноў у складзе матываваных асноў

[8] У манаграфіі выкарыстоўваюцца наступныя ўмоўныя абазначэнні: $\mathbf{V_1}$ – дзеяслоў закончанага трывання, $\mathbf{V_2}$ – дзеяслоў незакончанага трывання, $\mathbf{N_1}$ – назоўнік з працэсуальным значэннем, $\mathbf{N_2}$ – назоўнік з непрацэсуальным значэннем, $\mathbf{N_1N_2}$ – назоўнік, які сумяшчае працэсуальнае і непрацэсуальнае значэнні, $\mathbf{V_1V_2}$ – дзеяслоў, які можа матываваць назоўнік асновамі словаформ як закончанага, так і незакончанага трывання.

нульсуфіксальных субстантываў. Даследчыца скрупулёзна апісвае лінейныя марфаналагічныя пераўтварэнні матывавальных асноў дзеяслова і альтэрнацыі галосных і зычных фанем, што адбываюцца ў матываваных асновах нульсуфіксальных назоўнікаў. Асаблівай увагі заслугоўваюць таблічнае прадстаўленне альтэрнацыйных радоў (с. 143–145), якімі маркіруецца нульсуфіксальнае аддзеяслоўнае словаўтварэнне ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, а таксама выяўленая І. У. Кандраценяй карэляцыя ***альтэрнацыйныя рады – граматычнае значэнне роду*** матываванага назоўніка, напр.: альтэрнацыйны рад **<к – ч>** рэалізуецца толькі ў словаўтваральных парах дзеяслоў → назоўнік мужчынскага роду: *пла**к**аць* → *пла**ч***, а альтэрнацыйны рад **<ж – з>** – толькі ў словаўтваральных парах дзеяслоў → назоўнік жаночага роду II скланення: *пагра**ж**аць* → *пагроза*. Такая інфармацыя надзвычай важная для функцыянальнай марфаналогіі, у якой якраз і даследуецца марфаналагічная маркіраванасць граматычных катэгорый і словаўтваральных тыпаў. Адзначым, што суадносіны паміж марфаналагічнымі і словаўтваральнымі працэсамі, асабліва ў сферы нульсуфіксальнай дэрывацыі, надзвычай складаныя [1] і не маюць адназначнага вырашэння ў сучаснай лінгвістыцы. У прыватнасці, даследчыкі-марфанолагі звяртаюць увагу на той факт, што менавіта нульсуфіксальныя субстантывы выяўляюць кардынальнае разыходжанне словаўтваральнай і марфаналагічнай вытворнасці, у сувязі з чым узнікаюць праблемы выбару напрамку чаргаванняў, зыходнага («глыбіннага») варыянта асновы, так званых адваротных чаргаванняў і інш. [2; 3]. У сферы нульсуфіксальнага аддзеяслоўнага словаўтварэння марфаналагічныя характарыстыкі вытворных асноў адыгрываюць выключна важную ролю як паказчыкі такой словаўтваральнай базы, марфаналагічныя пераўтварэнні якой у дэрывацыйным працэсе з'яўляюцца максімальна натуральнымі (г. зн. рэгулярнымі) і мінімальна складанымі [4]. Пры такім падыходзе да марфаналагічнай дэрывацыі натуральна, напр., разглядаць назоўнік *намаразь* як вытворны ад дзеяслова закончанага трывання *намарозіць* (а не *намарожваць*), а назоўнік *напеў* – як вытворны ад дзеяслова незакончанага трывання *напяваць* (а не *напець*). Больш за тое, у некаторых выпадках марфаналагічнае афармленне вытворнага назоўніка паказвае, што актыўным удзельнікам словаўтваральнага працэсу з'яўляецца аснова зусім не інфінітыва, а, напр., аснова цяперашняга або простага будучага часу, параўн.: *б**о**й* ← /***бй***-*у*/*ць*, *за**п**ой* ← *за*/***пй***-*у*/*ць* з натуральным чаргаваннем *ø* → *галосная* ў аснове вытворнага слова. Адзначым, што выяўленне фактаў разыходжання марфаналагічнай і матывацыйнай дэрывацыі нульсуфіксальных назоўнікаў стварае добрую платформу для семантычнага аналізу гэтых дэрыватаў, таму што дадзеныя факты і з'яўляюцца «сігналамі» зрухаў у семантычнай структуры нульсуфіксальных субстантываў.

Тэарэтычнае асэнсаванне змен, што праявіліся ў сістэме беларускай мовы ў апошнія дзесяцігоддзі – прыярытэтны напрамак развіцця сучаснай

беларускай лінгвістыкі. Перад беларускімі мовазнаўцамі пастаўлена сур'ёзная задача: даследаваць актыўныя працэсы, зрухі, тэндэнцыі на розных узроўнях моўнай сістэмы і адлюстраваць вынікі гэтых даследаванняў у серыі манаграфій [5]. Няма сумнення ў тым, што сярод такіх манаграфій належнае месца зойме і кніга І. У. Кандрацені «Нулявая суфіксацыя ў сістэме беларускага словаўтварэння».

*Н. М. Гардзей (Гродна)*

## Літаратура

1. Касевич, В. Б. Морфонология. – Л.: Изд-во Ленингр. ун-та, 1986. – С. 56–60.

2. Уорт, Д. Морфонология нулевой аффиксации в русском словообразовании // ВЯ. – 1972. – № 6. – С. 76–84.

3. Толстая, С. М. Морфонология в структуре славянских языков. – М.: Индрик, 1998. – С. 86–87.

4. Толстая, С. М. [Рецензия] // ВЯ. – 2009. – №3. – С. 139–145. – Рец. на кн.: Иткин, И. Б. Русская морфонология / И. Б. Иткин. – М.: Гнозис, 2007. – 271 с.

5. Лукашанец, А. А. Сучасная беларусістыка і акадэмічнае мовазнаўства // Беларуская мова ў культурнай і моўнай прасторы Славіі: Матэрыялы міжнар. навук. канф., Мінск, 24–25 лістап. 2009 г. / Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2009. – С. 9.

# ЗМЕСТ



## ЭТЫМАЛАГІЧНЫЯ НАТАТКІ



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## ХРОНІКА

**РЭЦЭНЗІІ**

# *АНАТАЦЫІ*

*УДК 821.161.3:39+821.161.3’373.6*

Антропаў М. П. **Этналінгвістычная атракцыя і яе варыятыўны патэнцыял** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье на примере восточнославянских названий радуги с корнями *рад-*, *род-* и *крад-* рассмотрены случаи народноэтимологических сближений, отличающихся достаточной вариантностью и поэтому не имеющих однозначных этимологических решений. Их подробный анализ позволяет прийти к выводу об особом статусе аттракции, связанной с реалиями традиционной народной культуры, – собственно этнолингвистическом.

Библиогр. – 32 назв.

*УДК 808.26-087(476)*

Астрэйка В. Д. **Славяна-балцкае лексічнае ўзаемадзеянне ў гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускай мовы** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье рассматривается ряд специфических для говоров северо-западной диалектной зоны белорусского языка лексических и лексико-семантических особенностей. Последние интерпретируются автором в качестве возможных результатов славяно-балтского языкового взаимодействия, имеющего в указанном регионе тысячелетнюю историю. Среди данных языковых черт преобладают инфильтрации и разные виды заимствований структурного типа. В составе регионального словаря выделяются также явления, которые невозможно трактовать только как следствие прямого воздействия со стороны балтских языковых систем, т. к. существует вероятность исконного их происхождения в белорусском диалектном языке. Поскольку аналогичные черты в балтских языках выступают в качестве отличительных особенностей, фактор ареальной смежности должен приниматься во внимание и в этом случае. В целом все северо-западные зональные языковые отличия возникают и/или существуют в достаточно сложных условиях, поэтому успешное их изучение возможно только при наличии панорамного взгляда на проблему и комплексного подхода к ее решению со стороны самого исследователя.

Библиогр. – 33 назв.

*УДК 811.161.3*

Кулеш Г. І. **Слоўнікі старабеларускай актавай мовы, выдадзеныя ў XIX ст.: бібліяграфічныя звесткі, практычнае і навуковае значэнне** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

Для толкования непонятных слов и выражений из изданных в XIX в. историко-юридических документов ВКЛ и Речи Посполитой составлялись и печатались алфавитные указатели и словари. Наиболее значительные из них – «Словарь древнего

актового языка Северо-Западного края и Царства Польского» Н. И. Горбачевского и «Справочный словарь юридических терминов древнего актового языка юго-западной России» И. П. Новицкого – с течением времени приобрели большее, чем им отводилось сначала, значение. В 1920-х годах они воспринимались как источник пополнения формирующейся в то время белорусской юридической лексики. В наше время названные словари помогают проследить изменения в составе этой лексики.

Библиогр. – 26 назв.

*УДК 811.161.3'367:378.091.3*

С а в і ц к а я І. У. **Парцэляваныя канструкцыі ў паэтычным тэксце: да праблемы функцыянальнага выкарыстання** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

Статья посвящена исследованию приема парцелляции в белорусских поэтических текстах. Рассматриваются наиболее распространенные виды парцеллированных предложений, описываются некоторые особенности их структуры. Основное внимание уделяется анализу функционирования таких конструкций, исследованию возможностей парцелляционного членения в композиционной и смысловой организации стихотворного текста.

Библиогр. – 4 назв.

*УДК 821.161.3.09-1=030.161.3=161.1+821.161.3(092)ТАНК*

А с т а п ч у к А. М. **Трансфармацыі вобразнага зместу вершаў Максіма Танка пры перакладзе на рускую мову** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье рассматриваются стихотворения Максима Танка, переведенные на русский язык со значительными трансформациями оригинального текста. Некоторые неизбежны и объяснимы требованиями ритма, рифмовки, расхождениями в лексической системе русского и белорусского языков. Однако в ряде случаев трансформации носят субъективный характер и не отражают индивидуальные особенности авторского текста, его образность, стилистическую окрашенность и эмоциональную насыщенность. Такие неоправданные модификации ведут к искажению образного и содержательного наполнения оригинала.

Библиогр. – 5 назв.

*УДК 811.161.3'42+821.161.3.09*

Р у с а к В. У. **Экспрэсіўнае функцыянаванне складаных сказаў у прозе Янкі Сіпакова** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье исследуются образно-изобразительные и экспрессивно-эстетические возможности сложных многокомпонентных предложений в произведениях Янки Сипакова. Анализ синтаксической организации сложных предложений показал, насколько широко автор в своих произведениях использует явление синтаксической однородности.

Библиогр. – 3 назв.

*УДК 811.161.3'373'366.542*

Ш ч а с н а я К. Д. **Праблема ўніфікацыі канчаткаў новых слоў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье поднимается вопрос о нормализации окончаний родительного падежа единственного числа в новых существительных мужского рода, появившихся в бе-

лорусском языке в последние 20 лет. Автор на основании анализа лексикографических источников и периодических изданий проводит классификацию новых слов по лексико-семантическим группам, в зависимости от чего предлагается унификация предложных окончаний.

Библиогр. – 13 назв.

*УДК 821.161.1-26’367.625+821.161.3-26’367.625*

В а н к е в і ч А. Г. **Супастаўляльная характарыстыка тыпаў адыменных дзеясловаў рускай і беларускай літаратурных моў** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье представлены результаты многоаспектного сопоставительного исследования русской и белорусской систем отыменного глагольного словообразования: рассматривается категориальная семантика мотивирующих имен, способы образования глаголов от именных частей речи, виды формально-семантических отношений в структуре «имя → глагол», уровни мотивации, типы семантики мотивированных глаголов, а также выявляются общие тенденции и закономерности развития словообразования обоих языков.

Библиогр. – 11 назв.

*УДК 821.161.3’28 + 821.161.1’28*

Г е р а с і м о в і ч В. В. **Адлюстраванне найменняў духоўных каштоўнасцей у беларускіх і рускіх гаворках** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье на материале диалектных словарей белорусского и русского языков представлен дефиниционный и семантический анализ лексических единиц, служащих для наименования понятий «вера», «надежда», «любовь». Полнота их отражения в диалектных лексикографических источниках указанных восточнославянских языков исследуется при помощи статистического метода.

Библиогр. – 34 назв.

*УДК 811.161.3’373.42+811.161.3’373.611*

К у г е й к а Т. П. **Асаблівасці даследавання аманіміі і полісеміі словаўтваральных фармантаў у мнагазначных вытворных назоўніках** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

Рассматривается омонимия и полисемия словообразовательных формантов в многозначных производных. Разграничиваются лексическая и словообразовательная омонимия и полисемия на основе способа мотивации производного значения. Словообразовательные омонимия и полисемия возможны в случае образования от однозначной основы или ЛСВ полисеманта словообразовательным способом. Все виды семантической мотивации значений относятся к лексической многозначности. Выделяются междусловные омонимия и полисемия, которая имеет место между рядами полисемантов с близкими по значению ЛСВ, и внутрисловные омонимия и полисемия, при которой дифференцируются значения ЛСВ одного многозначного слова.

Библиогр. – 12 назв.

*УДК 811.161.3'37*

Р а а г о П. А. **Дзеясловы з прадметнай семай 'жывёла' ў беларускай мове** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье на материале современного белорусского языка рассматриваются глаголы с предметной семой 'животное' (бестиальные глаголы), предлагается их возможная классификация и проводится краткое описание лексических единиц каждого класса с учетом их лексико-семантических и семантико-синтаксических свойств. Отдельное внимание уделено характеру отношений между бестиальными и персональными глаголами.

Библиогр. – 13 назв.

*УДК 811.161.3'276.6:004.738.5+811.161.3'42*

Б я л о в а К. А. **Моўныя асаблівасці беларускага інтэрнэт-дыскурсу** // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65.

В статье рассматриваются наиболее типичные и частотные особенности компьютерно опосредованной коммуникации на белорусском языке в рамках белорусского интернет-сектора, такие как алфавитные и графические варианты, грамматические и лексические маркеры, невербальные элементы. Языковым материалом исследования послужили электронные тексты наиболее коммуникативно значимых для белорусских пользователей жанров личностно-ориентированного интернет-дискурса: электронная почта, форум/конференция, социальные сообщества, живой журнал/блог, чат, гостевая книга, доски объявлений, спам-письма, списки рассылки, FAQ (часто задаваемые вопросы), баннер, каталог.

Библиогр. – 7 назв.

